Валер Каліноўскі

# ДЗЕЦІ ФРАНЦЫІ

ГІСТОРЫІ СЕМ'ЯЎ, ЯКІЯ ПАВЕРЫЛІ СТАЛІНУ

Valer Kalinoŭski

# ENFANTS DE FRANCE

HISTOIRES DE FAMILLES QUI ONT FAIT
CONFIANCE À STALINE

Мінск, «Кнігазбор», 2019

УДК [325.2+94](=161.3)(73)
ББК 66.3(4Беи)
К17

Прадмовы
Нікаля Вэрта, Андрэя Катлярчука

Рэцэнзент
Наталля Гардзіенка,
*кандыдат гістарычных навук*

Кніга выйшла пры спонсарскай падтрымцы
беларуска-французскай кампаніі ЗАТ «Dilis Cosmetic»
(гандлёвая марка DILIS PARFUM)
і ганаровага консула Францыі ў Берасці Леаніда Стаецкага.

**ISBN 978-985-7227-08-2**

© Каліноўскі Валер, 2019
© Вэрт Нікаля, прадмова, 2019
© Катлярчук Андрэй, прадмова, 2019
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2019

# ГЭТАЯ ГІСТОРЫЯ НЕВЯДОМАЯ І Ў ФРАНЦЫІ

*Прадмова французскага гісторыка*

Для мяне вялікі гонар напісаць прадмову да гэтай цудоўнай кнігі Валера Каліноўскага пра Дзяцей Францыі. Вялікі гонар і эмацыйнае ўзрушэньне. Сорак чатыры гады таму, у кастрычніку 1975 году, я прыехаў у Менск, дзе меўся правесьці два гады ў якасьці лектара французскай мовы ў Інстытуце замежных моваў. Там я сустрэў Сьцяпана Батуру, аднаго з герояў гэтай кнігі, а таксама Жанэт, чыё прозьвішча я, на жаль, забыўся, якая выконвала ў інстытуце функцыі сакратаркі*. Абое яны былі «рэпатрыянты» з Францыі, абое прыехалі ў Беларусь пасьля Другой усясьветнай вайны. Якой нечаканасьцю было для маладога выкладчыка сустрэць у Менску суайчыньнікаў з такім незвычайным лёсам! І як я шкадаваў, што не распытаўся ў іх падрабязьней пра іхную гісторыю… Але ў тыя часы, «часы застою», гэта было ня так лёгка…

І вось сёньня, праз сорак чатыры гады, я даведваюся ва ўсіх падрабязнасьцях пра гісторыю гэтых «рэпатрыянтаў». Гэтая гісторыя дзівосным чынам ажыла ў чатырнаццаці «сямейных гісторыях», сабраных і адноўленых з памяці герояў талентам Валера Каліноўскага і зьмешчаных у адпаведны гістарычны кантэкст у двух фінальных разьдзелах гэтай цудоўнай кнігі. Гэтая гісторыя ўсё яшчэ невядомая ў Францыі, нягледзячы на посьпех некалькі гадоў таму фільму «Ўсход-Захад» Рэжыса Варнье з удзелам вялікіх актораў Алега Меньшыкава, Сандрын Банэр і Катрын Дэнэў, які расказвае гісторыю акурат такіх савецкіх «рэпатрыянтаў», што вярнуліся ў Адэсу ў 1946 годзе. Рамантычная і драматычная гісторыя, надзвычайны сюжэт. Гісторыі, сабраныя Валерам Каліноўскім, менш «рамантычныя» і ў нейкім сэнсе таксама менш драматычныя. Але наколькі яны бліжэйшыя да рэальнасьці, той рэальнасьці, якую пражылі тысячы «рэпатрыянтаў» з Захаду, завабленыя абяцаньнямі «лепшага жыцьця» ў СССР, вялікім прэстыжам гэтай краіны на вяршыні яе славы пасьля таго, як яна вынесла галоўны цяжар Перамогі над нацызмам, гэтым абсалютным Злом.

Падборка — на маю думку, вельмі прадстаўнічая — чатырнаццаці лёсаў, апісаных у гэтай кнізе, дазваляе нам зразумець спачатку, чаму гэтыя заходнебеларускія сем'і вырашылі вярнуцца ў СССР. Яны эміґравалі зь міжваеннай Польшчы, адкуль шмат людзей выяжджала на Захад. У 1930-х гадах каля 700

* Пра Жанэт Жармэн чытайце на с. 121.

тысяч грамадзянаў Польшчы — у іх ліку ад 30 да 40 тысяч беларусаў — пакінулі сваю краіну, каб пашукаць «лепшага жыцьця» на Захадзе. Сярод краінаў, якія іх прынялі, была і Францыя, якой не ставала працоўных рук пасьля крывавай бойні Вялікай вайны. Так у Францыі пусьціла карані польская супольнасьць, пераважна на поўначы і на ўсходзе краіны, дзе шматлікія польскія імігранты працавалі на шахтах і на заводах. Сярод іх — беларуская меншасьць, якая захавала настальгію і любоў да сваёй краіны і яе культуры. І вось, калі пасьля «Вялікай айчыннай вайны» савецкія ўлады кінулі заклік да вяртаньня, некаторыя — вядома ж, нязначная меншасьць — вярнуліся, завабленыя сьпевам сырэнаў аб «сьветлай будучыні». Той, якую абяцалі ім савецкія ўлады, той, пра якую марылі столькі рабочых на Захадзе, што папаўнялі шэрагі камуністычных партыяў сваіх краінаў. Яны вярталіся ўжо не ў даваенную капіталістычную Польшчу, а ў сацыялістычны Савецкі Саюз, які толькі што «вызваліў» краіны Балтыі, заходнія Ўкраіну і Беларусь. У Савецкі Саюз, гэтую магутную, велізарную дзяржаву, якая займала адну шостую частку сухазем'я плянэты і дзе, як казалі, нараджалася новае Чалавецтва. Але вярнуліся яны — поўныя надзеі — у спустошаную, змардаваную, абяскроўленую, засяроджаную толькі на сабе краіну.

У адрозьненьне ад драматычнай і рамантычнай гісторыі, расказанай у фільме «Ўсход-Захад», большыня зь іх па прыезьдзе не былі арыштаваныя і пасланыя на выгнаньне або ў лягер. Не, рэальнасьць была больш празаічная. Яны крок за крокам пачыналі сваё жыцьцё зноў — ва ўмовах шэрасьці, галечы, абмежаваньня фундамэнтальных свабодаў, у тым ліку свабоды перамяшчэньня, свабоды выбару месца жыхарства. І разам з тым — ва ўмовах бясспрэчных магчымасьцяў сацыяльнага разьвіцьця, дзякуючы адукацыі, часта даволі высокага ўзроўню. Штодзённае жыцьцё звычайных савецкіх людзей у 1950–1960–1970–1980-х… Жыцьцё ў цяжкай працы і матэрыяльнай нястачы. Але жыцьцё сярод людзей, сярод сваіх людзей. Кожны «прайшоў свой шлях», большыня зь іх завялі сям'ю — савецкую сям'ю. Шлях пакутлівы, але годны. І ўвесь гэты час яны захоўвалі ў глыбіні сваёй душы «частачку Францыі» — асабліва прыгожую, бо гэта была частачка іхнага дзяцінства.



*Нікаля Вэрт (Nicolas Werth)*
*Прафэсар, навуковы дырэктар Інстытуту сучаснай гісторыі пры Нацыянальным цэнтры навуковых дасьледаваньняў, Парыж, Францыя*

# СПОВЕДЗІ ВЫМУШАНЫХ МАЎЧАЦЬ

## *Прадмова беларускага гісторыка*

Валер Каліноўскі напісаў важную кнігу, якую мусіць прачытаць кожны беларус. «Дзеці Францыі» — шчымлівае апавяданьне пра лёсы дзяцей і падлеткаў, якія воляю іхных беларускіх бацькоў вымушаныя былі вяртацца з роднай Францыі ў СССР. Але гэтая гісторыя таксама пра мужнасьць і моц беларускага характару, пра людзей, якія ў цяжкіх і незвычайных умовах здолелі пабудаваць свой дом.

Да 1939 году Заходняя Беларусь, адрозна ад БССР, была часткаю вольнага сьвету. Беларусы ў Польшчы глядзелі фільмы Галівуду, з канцэртамі да іх прыяжджалі зоркі замежнай эстрады. Усясьветны эканамічны крызіс і дыскрымінацыя беларусаў у польскай дзяржаве штурхалі да ад'езду за мяжу. Нехта эміграваў у ЗША, нехта ў Аргентыну, але былі і тыя, што абралі геаграфічна бліжэйшую Францыю. На французскіх шахтах і ў сельскай гаспадарцы бракавала працаўнікоў. У Францыі ў эмігрантаў нарадзіліся і выраслі дзеці.

Пасьля перамогі ў Другой усясьветнай вайне Масква разгарнула моцную прапагандысцкую кампанію дзеля вяртаньня грамадзян СССР і былой Расейскай імпэрыі. Ваеннапалонны Іван Твардоўскі, родны брат славутага пісьменьніка Аляксандра Твардоўскага, вырашыў вярнуцца на Смаленшчыну, калі прачытаў абвестку на расейскай мове ў швэдзкай газэце. Твардоўскі ўцёк зь фінскага палону й добра ўладкаваўся ў Швэцыі. Але тэкст абвесткі са словамі «Солдат, Родина простила тебя, возвращайся домой!» — не даваў спакою. У кнізе «Родина и чужбина» Іван Твардоўскі ўспамінае, што падарожжа дахаты, якое пачалося на шыкоўным караблі і купэ фінскага цягніка, раптоўна скончылася на станцыі Выбарг, дзе супрацоўнікі МГБ арыштавалі і моцна зьбілі вяртанца. Радзіма «аддзячыла» катаргай у ГУЛАГу. Твардоўскі выжыў толькі дзякуючы прафэсіі сталяра.

11-гадовая амэрыканка Мэймі Сэвандэр выехала разам з бацькамі-фінамі зь Нью-Ёрку ў СССР — будаваць савецкую Карэлію. У часы Вялікага тэрору бацьку арыштаваў і забіў НКВД. Маці моцна захварэла. 14-гадовая Мэймі засталася за старэйшую ў сям'і. Напісаная ёю кніга ўспамінаў «Яны забралі майго бацьку» — гісторыя мужнага змаганьня дзяўчынкі за жыцьцё ў чужой таталітарнай краіне. Дацэнт катэдры ангельскай мовы Петразаводзкага ўнівэрсытэту Мэймі Сэвандэр толькі пасьля распаду СССР здолела ўбачыць родную Амэрыку.

У кнізе Валера Каліноўскага 14 незвычайных гісторыяў дзяцей, што нарадзіліся і гадаваліся ў Францыі, дзяцей, лёс якіх вызначалі іхныя бацькі. Для большасьці дарога ў СССР была шляхам выпрабаваньняў, зь якога не было як сысьці. Аўтар зрабіў важную справу — пасьпеў запісаць успаміны пра людзей, якіх ужо няма з намі.

У 1931 годзе, паверыўшы савецкай прапагандзе, у СССР з Швэцыі вярнуліся 300 старашвэдаў, якія раней былі каляністамі ва Ўкраіне. Халодным кастрычніцкім вечарам 2004 году я запісаў доўгае інтэрвію з Аннай Парт'е, жыхаркай сяла Зьмеёўкі Херсонскай вобласьці. Гутарка ў глыбіні ўкраінскіх стэпаў ішла на швэдзкай мове — роднай для Анны. Галадамор, Вялікі тэрор, акупацыя, сталінская дэпартацыя — Божа, думаў я, які страшны лёс. Было адчуваньне, што Анна ўвесь час чакала менавіта мяне, каб выгаварыцца. Ніхто раней не задаваў ёй падобных пытаньняў. Кабета прыгадала самы змрочны момант свайго жыцьця:

«У 1937 годзе, калі мне было 14 гадоў, мы з мамай атрымалі дазвол на спатканьне з бацькам ў Херсонскай турме. Тату вынесьлі пад рукі, нібыта сьвятога духа, двое канваіраў НКВД. Яго катавалі. Усе пальцы былі перабітыя, зубы выбітыя, ён ледзь размаўляў. Ён казаў так: лепш расстрэл, чым 10 гадоў такіх пакутаў. Тры разы за ноч яны падымалі яго і катавалі, пакуль ён усё не падпісаў».

Звычайнага хлебароба з трыма клясамі адукацыі херсонскія чэкісты зрабілі «швэдзкім шпіёнам». НКВД хлусіў, кажучы, што бацька атрымаў «10 гадоў бяз права перапіскі» ў ГУЛАГу і калісьці вернецца дамоў. Насамрэч Матыяс Нурбэрг быў зьнішчаны без суду і адваката, чэкісты забілі яго стрэлам у патыліцу ў падвале турмы. Мне выпала доля паведаць Аньне гэтую жудасную вестку. Матыяс Нурбэрг быў цалкам рэабілітаваны. Але ніхто з забойцаў не панёс адказнасьці за гэтае злачынства. Дачка вырасла сіратой…

«Вымушаныя маўчаць» (Tvingade till tystnad) — так назвала швэдзкая журналістка Каа Энэбэрг (Kaa Eneberg) сваю кнігу пра лёсы швэдзкіх камуністаў, што паехалі разам зь дзецьмі будаваць камунізм у СССР. Адзінкі зь іх выжылі ў ГУЛАГу і вярнуліся пасьля сьмерці Сталіна на бацькаўшчыну. Але грамадзтва не цікавілася іхным лёсам, камуністычная партыя таксама ня раіла ачарняць «краіну сацыялізму». Вымушаныя маўчаць, яны дачакаліся таго, хто зацікавіўся іхным лёсам, толькі на схіле жыцьця. Кніга Каа Энэбэрг стала бэстсэлерам у Швэцыі. Упэўнены, што кнігу Валера Каліноўскага таксама чакае вялікі посьпех.



*Андрэй Катлярчук (Andrej Kotljarchuk)*
*Доктар гістарычных навук,*
*дацэнт Стакгольмскага ўнівэрсытэту*

# ПАСТАРЭЛЫЯ «ДЗЕЦІ ФРАНЦЫІ»

## *Уступ*

У рэзыдэнцыі амбасадара Францыі ў Беларусі Дзідзье Канэса (Didier Canesse) 7 ліпеня 2018 году сабраліся каля дзесяці чалавек, якія нарадзіліся ў Францыі ў 20–40-х гадах мінулага стагодзьдзя, некаторыя прыйшлі разам са сваімі дзецьмі. Сабраліся тыя, хто выжыў і каго ўдалося знайсьці французскім консулам у беларускіх гарадах і вёсках. Былі людзі з Маладэчна, Барысава, Менску, Горадзенскай вобласьці. Пазьней удалося знайсьці такія ж сем'і з Докшыц, Наваградку, Берасьця.



- *Дзеці Францыі на прыёме ў амбасадара Францыі ў Беларусі. Зьлева направа: Ігар Алешка, Вольга-Палет Алешка (Леў), Часлаў Сташко, амбасадар Дзідзье Канэс, супрацоўнік амбасады Юго Флявіе (Hugo Flavier), Алесь Салагуб, Ірына Дабрыцкая (Марковіч), Галіна Піляева, консул Карын Бардзье (Karine Bordier), Мікалай Салагуб. Менск. 7 ліпеня 2018 году.*



• *Амбасадар Францыі ў Беларусі Дзідзье Канэс і Яніна Грынцэвіч (Сташко) на прыёме для «дзяцей Францыі». Яніна, як і іншыя госьці, была вельмі радая, што пра іх успомніла радзіма. Яна хвалявалася перад сустрэчай у амбасадара, усю ноч ня спала, вытрывала 300 кілямэтраў дарогі ў Менск. 7 ліпеня 2018 году.*

Іх называюць беларускімі «дзецьмі Францыі», хоць у іх ужо даўно свае ўнукі і праўнукі. Гэта беларускія грамадзяне, народжаныя ў Францыі перад Другой усясьветнай вайной, падчас вайны або неўзабаве пасьля яе. У 1920–30-х гадах іхныя бацькі з Заходняй Беларусі, якая тады была часткаю Польшчы, паехалі ў Францыю на заробкі, пераважна на вугальныя шахты альбо як сельскагаспадарчыя работнікі.

Яны нарадзіліся і вучыліся ў Францыі, а пасьля Другой усясьветнай вайны іхныя бацькі выехалі з Францыі ў Савецкі Саюз. Бацькі паверылі сталінскай прапагандзе аб тым, што ў СССР ім будзе лепей, заможней жыць, што там яны будуць працаваць не на гаспадара-капіталіста, а на сябе, а іхныя дзеці атрымаюць вышэйшую адукацыю. Што такое рэальны Савецкі Саюз, бацькі ня ўяўлялі, яны нарадзіліся ў Расейскай імпэрыі, у Францыю выехалі зь міжваеннай Польшчы, ратуючыся ад беспрацоўя і безьзямельля, пра СССР яны ведалі толькі станоўчае з расказаў агітатараў на сходах Саюзу савецкіх патрыётаў Францыі, з савецкіх газэт, якія там некаторыя выпісвалі, або зь левай французскай польскамоўнай прэсы (напрыклад, тыднёвікі Robotnik Polski, Dziennik Ludowy), якая рэтрансьлявала пазыцыю Камінтэрну і Французскай камуністычнай партыі. Пра існаваньне беларускіх арганізацыяў і прэсы ў Францыі многія зь іх ня ведалі.

Прыехаўшы ў СССР, іхныя бацькі неяк адаптаваліся, хоць многія перажылі рэпрэсіі, ГУЛАГ, голад і зьнявагу. Усё ж, па-першае, пераезд быў іх асабістым рашэньнем і наракаць асабліва не было на каго, а па-другое, яны ведалі мовы і звычаі краіны, у якую прыехалі, хоць савецкія парадкі сталіся для іх сапраўдным шокам. А вось іхныя дзеці, народжаныя ў Францыі, перажылі экзыстэнцыйны сындром у чыстым выглядзе: яны ня ведалі славянскіх моваў, былі выхаваныя ў заходняй капіталістычнай краіне, іх французская школьная адукацыя ў СССР была непатрэбная. Яны трапілі ў сапраўды варожае асяродзьдзе і мусілі прыстасоўвацца да новых умоваў, абапіраючыся толькі на бацькоў.



У мяне была хіба адна з апошніх магчымасьцяў сустрэцца зь беларускімі «дзецьмі Францыі», запісаць іхныя сямейныя гісторыі, паглядзець іх французскія фатаздымкі й дакумэнты, нейкія важныя рэчы і сапраўдныя рэліквіі з радзімы, наведаць магілы іхных бацькоў, якія ў 1946–1949 гадах прынялі такое неабачлівае рашэньне пераехаць у сталінскі Савецкі Саюз.

Аб’яднаныя падобнымі лёсамі «дзеці Францыі» ды іхныя ўласныя дзеці і ўнукі цяпер падтрымліваюць кантакты між сабою, зьберагаюць свае сямейныя гісторыі і дакумэнты. Ахвотна яны імі падзяліліся і з аўтарам гэтай кнігі. Але я разумею, што іхныя гісторыі адлюстроўваюць лепшую частку таго, што адбылося з рээмігрантамі пасьля пераезду ў СССР. Проста таму, што мае героі выжылі — адрозна ад многіх іншых «вяртанцаў».

Свае гісторыі змаглі расказаць тыя, хто дажыў да гэтага часу, хто ня згінуў пасьля Францыі ў ГУЛАГу недзе ў Сібіры, ня быў застрэлены пры спробе нелегальна перасячы мяжу СССР і Польшчы, каб усё ж вярнуцца ў Францыю, хто ня скончыў жыцьцё самагубствам, не загінуў ад хваробаў, суму і злоўжываньня алькаголем. Пра такія трагічныя лёсы сваіх сяброў і знаёмых, таксама перасяленцаў з Францыі ў СССР, апавядалі мае героі.

А яны самі выжылі, бо яны і іхныя бацькі былі нешматслоўнымі, трывалі, прыстасоўваліся, не пярэчылі ўладам. Яны дагэтуль мала з кім дзяліліся сваёй французскай мінуўшчынай. Муж адной з такіх дачок Францыі сказаў мне, што толькі цяпер, пры рыхтаваньні гэтай кнігі, даведаўся праўдзівую гісторыю сваёй жонкі.

Адным зь першых прадстаўнікоў французскай дзяржавы, які зьвярнуў увагу на беларускіх «дзяцей Францыі», быў Стэфан Шмялеўскі (Stéphane Chmelevsky), які працаваў амбасадарам у Менску ў 2002–2006 гадах. Мае героі згадвалі, як Шмялеўскі запрашаў нараджэнцаў Францыі ў сваю рэзыдэнцыю, наладжваў агульныя сустрэчы, на якіх многія беларускія «дзеці Францыі» пасябравалі.



• *Стэфан Шмялеўскі, амбасадар Францыі ў Рэспубліцы Беларусі ў 2002–2006 гадах. Парыж. 2008 год.*

Гэта было ў пэўнай ступені невыпадкова, бо ягоны бацька Серафім Шмялеўскі (Хмялеўскі, 1904–1966), наро-

джаны ў Беластоку ў сям'і, якая мела сваяцкія сувязі зь пісьменьніцай Элізай Ажэшкай, таксама перад вайной эміграваў у Францыю. Там ён атрымаў адукацыю і францускае грамадзянства, працаваў інжынэрам, ажаніўся.

«Мае продкі нарадзіліся ў Беластоку, тады гэта была Расея, — апавёў мне Стэфан Шмялеўскі. — Дзядулева сям'я падчас рэвалюцыі была каля Харкава ва Ўкраіне. Адтуль яны зьехалі ў 1920 годзе, калі паўстала пагроза ад бальшавікоў. Праз Адэсу на расейскім параходзе пад ангельскай аховай накіраваліся ў Эгіпет. Там знаходзіліся ў лягеры для расейскіх эмігрантаў. А калі ім дазволілі вярнуцца ў Эўропу, спыніліся ў Баўгарыі, і ўжо адтуль перад вайной мой бацька паехаў у Францыю».

У Гаўры, на радзіме маці Рэмонд (1915–1985), у 1948 годзе нарадзіўся і Стэфан Шмялеўскі, які стаў кадравым дыпляматам. Ягоную працу ў Менску, прыязнасьць дагэтуль узгадваюць беларускія «дзеці Францыі».

«Я адразу зразумеў і адчуў, што гэтыя людзі былі ахвярамі, — сказаў Стэфан Шмялеўскі праз 12 гадоў пасьля ад'езду зь Менску, у 2018 годзе. — Для іх гэта было асабліва цяжка, бо яны жылі свабодна ў Францыі, але раптам з прычыны ідэалягічных поглядаў іхных сем'яў трапілі ў Савецкі Саюз, у самыя пачварныя ўмовы. Вядома, для мяне і маёй жонкі гэта было абуральна ўсьведамляць. Мы зьвярнулі на іх адмысловую ўвагу, стараліся высьветліць, пры якіх умовах яны змаглі б зноў стаць французамі. На жаль, гэта было вельмі складана. Умовы цягам гэтых гадоў мяняліся, і тады нікому не ўдалося вярнуць францускае грамадзянства.

Мне гэта было прыкра разумець, бо, можа, я абудзіў у іх нейкую надзею, і таму мы стараліся зрабіць так, каб яны адчувалі, што Францыя згадвае пра іх. Як прадстаўнік гэтай краіны я часта запрашаў іх на нацыянальныя сьвяты і да нас дамоў, мы адкрывалі для іх візы, каб яны маглі езьдзіць у Францыю».

Стэфан Шмялеўскі надалей кантактуе зь беларускімі «дзецьмі Францыі», лістуецца зь імі, былі і сустрэчы зь некаторымі зь іх у Парыжы, ужо пасьля вяртаньня амбасадара зь Менску.

За час пасьля завяршэньня дыпляматычнай місіі Шмялеўскага ў Менску прынамсі трое беларускіх «дзяцей Францыі» ці іхныя нашчадкі аднавілі францускае грамадзянства.

Некаторых зь «дзяцей Францыі» мне даволі доўга прыйшлося намаўляць апавесьці свае гісторыі. Яны спачатку ўсяляк адпінаціся, казалі, што нічога цікавага ня ведаюць і расказаць ня змогуць, што сустракацца ня варта. Толькі пазьней, калі я пераканаў іх і ўсё ж сустрэўся зь імі, увайшоў у давер, у канцы доўгай гутаркі я меў адказ на пытаньне, што ж іх турбавала. Яны пыталіся ў мяне, а ці не зашкодзіць інтэрвію іхным дзецям або ўнукам, ці не захочуць цяперашнія беларускія ўлады забараніць ім выезд за мяжу, зрабіць невыязнымі. Страх застаўся ад досьведу жыцьця ў СССР пад назіраньнем спэцслужбаў, пад ціскам і пастаяннай пагрозай рэпрэсіяў. Страх той застаўся, хоць цяпер, здавалася б, зусім іншая эпоха, і ўлады не рэпрэсуюць так, як гэта было ў часы Сталіна і Брэжнева. Прынамсі не забараняюць выяжджаць з краіны, хоць і цяпер некаторыя лідэры і актывісты беларускай апазыцыі пэрыядычна трапляюць пад забарону выезду за мяжу.



Меней за ўсё я хацеў бы, каб гэтыя запісаныя мною гісторыі «дзяцей Францыі» пасьля публікацыі неяк нашкодзілі ім ці іхным блізкім. Спадзяюся, яны будуць патрэбнымі і карыснымі іхным нашчадкам і ня толькі, пакінуць у памяці наступных пакаленьняў праўду пра складаныя лёсы гэтых сем'яў, такія падобныя і такія разнастайныя.

У сямейных архівах маіх герояў старанна зьберагаюцца дакумэнты, лісты і фатаграфіі. Іх шмат з францускага даваеннага пэрыяду іхнага жыцьця і вельмі мала з пасьляваеннага савецкага. Нават у гэтым бачны нейкі цывілізацыйны правал, у які яны трапілі. Некаторыя фотаздымкі і дакумэнты я выкарыстаў са згоды ўладальнікаў, каб праілюстраваць іхныя гісторыі.

«Дзеці Францыі» таксама зьберагаюць як рэліквіі прывезеныя з Францыі рэчы: мэблю, адзеньне, гадзіньнікі, кухонныя прылады, посуд, цацкі, ювэлірныя вырабы, сшыткі й кнігі — пераважна школьныя падручнікі. Гэта цяпер сямейныя каштоўнасьці, артэфакты, матэрыяльныя сьведчаньні пакінутай радзімы, якія перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне.

У вясковых беларускіх хатах ці ў гарадзкіх кватэрах-хрушчоўках «дзяцей Францыі» зьбераглася знакамітыя францускія ілюстраваныя энцыкляпэдыі выдавецтва Larousse, якімі школы ў Францыі ўзнагароджвалі найлепшых вучняў, захоўваюцца швальныя машынкі «Singer».

Такая машынка, а таксама француская адукацыя краўчыхі дапамаглі выжыць у часы пасьляваеннага голаду адной з маіх гераіняў **Яніне Сташко (Грынцэвіч)** з Горадзеншчыны. Яе бацьку пакаралі турмой за крытыку калгаснага ладу. Пасьля вызваленьня ён ужо не крытыкаваў… У 2019 годзе яна зьдзейсьніла мару жыцьця — наведала свой родны горад у Францыі.

**Ніна Іванова (Жанін Баран)** з Наваградку пасьля прыезду ў СССР назаўсёды кінула граць на скрыпцы, хоць сам інструмэнт доўга зьберагала. Ніна скардзілася, што ў маладосьці, калі зь вёскі вырвалася ў Менск і стала студэнткай, патэнцыйныя кавалеры адразу трацілі да яе інтарэс, калі даведваліся, што яна нарадзілася ў «капіталістычнай краіне», у Францыі.

**Алесь Салагуб** з Маладэчна любіць урачыста выходзіць у горад у плашчы, барэце і з бацькавым даваенным саквояжам, а бацькаў персьцень ён перадаў свайму сыну, які цяпер жыве ў Францыі. Алесь пасьля Францыі, як і ягоны бацька, працаваў шахтаром на Данбасе, потым пераехаў у Беларусь, дзе зьбярог свае французскія захапленьні — ровар і фатаграфію.

**Ліліян Пракаповіч (Моніт)** зь Берасьця страціла сваю французскую рэліквію ў Пінску, калі была малой і чакала з ГУЛАГу свайго бацьку Міхаіла Моніта. Хуліган на пінскай вуліцы сарваў зь яе рукі залаты ланцужок. Калі Ліліян дачакалася з ГУЛАГу бацьку, то тры дні хавалася ад яго — не магла прызнаць.

Шматдзетная сям'я «дзяцей Францыі» **Ждановічаў** з Барысава як найбольшы скарб зьберагала свае сшыткі зь вершамі і песьнямі на французскай мове. Іх было 11 дзяцей. Калі браты і сёстры пасьля цяжкай і пыльнай працы на запалкавай фабрыцы зьбіраліся разам, то размаўлялі і сьпявалі па-французску. Цяпер зьбірацца і сьпяваць няма каму.

**Алена Гараніна (Атрашкевіч)** з Докшыцаў як самае дарагое зьберагае апошні ліст з Францыі свайго брата Браніслава Атрашкевіча, які застаўся давучвацца ў Парыжы, калі бацькі з малодшымі дзецьмі падаліся ў СССР. Сям'я больш ніколі не злучылася, хоць надзея знайсьці нашчадкаў Браніслава ў Алены застаецца.

Жыхарка Менску Людміла Казлоўская, дачка народжанай у Францыі **Ганны Ганчарык**, зьберагае маміны валянцінкі, што дарыў ёй французскі кавалер, зь якім яна назаўжды разлучылася, пераехаўшы з бацькамі ў савецкі калгас.

**Вольга-Палет Алешка (Леў)** зь Менску зьберагае партрэт свайго дзядзькі Баніфаса, які загінуў у Другой усясьветнай вайне, ваюючы ў складзе французскага войска. Яшчэ адна яе рэліквія — мэдальён, які пасьля вызваленьня Францыі ў родным горадзе Мэц малой Палет падарыў амэрыканскі вайсковец польскага паходжаньня.

Былы выкладчык Менскага інстытуту замежных моваў **Сьцяпан Батура** дагэтуль карыстаецца мэбляй (шафа, буфэт, ложак, стол), якую зрабіў яму ў Францыі хросны бацька, выбітны сталяр. Мэбля гэтая не пасуе стандартнай менскай кватэры брэжнеўскага пэрыяду, дзе жыве Батура. Яна ўпрыгожвае сямейнае лецішча на Вячы пад Менскам. Сьцяпан Батура — адзін зь нямногіх «дзяцей Францыі», якому ўдалося атрымаць у СССР адукацыю і зрабіць кар'еру. Сярод іншых ён пераклаў на французскую мову кнігі Ўладзімера Караткевіча і Аляксандра Лукашэнкі.



**Алена Сарокіна (Крупа)** з Горадні зьберагае вялікі французскі архіў, у тым ліку выпісаныя на яе бацькоў пасьведчаньні сяброў Французскай камуністычнай партыі, Саюзу савецкіх патрыётаў, бацькавы польскі і французскі вайсковыя білеты, прафсаюзныя білеты, пасьведчаньні ўдзельніка французскага Супраціву ў часе вайны і паваеннай Арганізацыі дапамогі Польшчы. Яе старэйшая сястра ўжо дарослай паехала з Францыі ў СССР разам з бацькамі-камуністамі; яна была ўжо замужняй і цяжарнай, нарадзіла сына на савецкім караблі «Россия», які вёз рэпатрыянтаў з Марсэлю ў Адэсу. Пазьней, падчас пераезду ў вагоне-«цяплушцы», яе сын памёр.

**Генадзь Качан** зь Менску да сямейных рэліквіяў з Францыі залічвае вазу для садавіны, ручны млын для кавы і пярсьцёнак, а таксама грамату бацьку за ўдзел у французскім руху Супраціву падчас вайны.

**Яўгенія Чантарыцкая (Зэня Шэміс)** з Маладэчна зьберагае французскі капялюшык сваёй маці, млын для кавы, чарніліцу, капы на ложкі, свае школьныя падручнікі і французскую кнігу аб тым, як правільна весьці хатнюю гаспадарку і пабудаваць шчасьлівую сям'ю. Вялікія французскія капы ніколі не пасавалі стандатным савецкім ложкам, а сапраўднага сямейнага шчасьця ў СССР Яўгенія ня мела.

**Інэса Байрашава і Нэля Старцава**, дочкі Мікалая Лісоўскага, зьберaглі толькі нешматлікія фатаздымкі бацькі з Францыі. Сямейнай рэліквіяй у іх быў жалезны ложак, у сьпінках якога падчас пераезду ў СССР сям'я схавала залатыя манэты: яны пазьней ратавалі Лісоўскіх ад голаду. Мікалай Лісоўскі да сьмерці выкладаў французскую мову ў вясковай школе. Адзін раз улады СССР закінулі яго на месяц на спэцзаданьне ў Альжыр.

Бацькі **Поля Шылянка** з Бабруйску ніякіх рэчаў у СССР ня везьлі, толькі падарункі і фотаапарат, каб здымаць родныя мясьціны і сваякоў. Праз 5 гадоў пасьля сьмерці Сталіна бацька ўзяў на працы ў Францыі адпачынак і паехаў на радзіму ў госьці, хацеў паказаць дзеду ўнукаў. Адразу на савецкай мяжы адпачынак скончыўся: савецкія ўлады забралі іхныя французскія пашпарты і паслалі ўсю сям'ю ў калгас пад Бабруйскам.

Бацька Поля перад сьмерцю наказаў яму не забыць пра сваё францускае паходжаньне і вярнуцца ў Францыю. Поль аднавіў францускі пашпарт і вярнуўся ў Францыю ў 2005 годзе. Яму давялося перажыць яшчэ адну экзыстэнцыйную драму: пасьля пераезду ён меў шмат праблемаў, бо мовы, традыцыяў і парадкаў у Францыі ён ня ведаў. Паўгода начаваў то на вакзале, то ў тэлефоннай будцы, то ў чыгуначным вагоне, пакуль не знайшоў дзяржаўныя арганізацыі, якія дапамагаюць такім, як ён, працаўладкавацца і інтэгравацца ў францускае грамадзтва.

Цяпер Поль жыве з жонкай і ўнучкай у прыгарадзе Парыжу. Ён зьдзейсьніў мару бадай усіх беларускіх «дзяцей Францыі» аб вяртаньні на радзіму.

**Першую частку** кнігі складаюць сямейныя гісторыі гэтых людзей.

Падчас інтэрвію з героямі гэтай кнігі амаль ува ўсіх паўставала пытаньне, на якое яны ня мелі адказу: навошта сталінскаму рэжыму было патрэбна забраць іх у свой СССР, вырваць зь іншай культуры, паламаць лёсы. Я пастараўся знайсьці і даць у другой і трэцяй частках кнігі адказ на гэтае пытаньне, а таксама адказы на іншыя пытаньні: калі і чаму іхныя бацькі, а таксама два дзясяткі тысяч іншых беларусаў паехалі на заробкі ў Францыю, што яны там рабілі, як ставіліся да іх францускія ўлады, якія беларускія арганізацыі і газэты тады былі ў Францыі, што адбывалася зь імі падчас Другой усясьветнай вайны, чаму па вайне францускія ўлады дазволілі савецкім службам так маштабна вэрбаваць выхадняў з Польшчы і Расейскай імпэрыі.

**Другая частка** кнігі прысьвечаная агульнай гісторыі эміграцыі зь беларускіх земляў у Францыю, асабліва ў міжваенны і паваенны пэрыяд, часу, калі ў Францыі існавала легальная арганізацыя беларускіх работнікаў «Хаўрус», быў свой беларускі прафсаюз і свая прэса, а Парыж стаў чарговай неафіцыйнай сталіцай БНР.

**Трэцяя частка** прысьвечаная сталінскай рэпатрыяцыі з Францыі ў СССР, яе прычынам, умовам і наступствам. Другая і трэцяя часткі напісаныя на падставе архіўных матэрыялаў, навуковых публікацыяў, кніг, фільмаў, дакумэнтаў, інтэрвію, якія апошнім часам зьявіліся ў Францыі, Польшчы, Беларусі, Расеі.



* * *

Выбітная дасьледніца гісторыі іміграцыі ў Францыю з Сарбонскага ўнівэрсытэту ў Парыжы Жанін Панці (Janine Ponty, 1930–2017) у грунтоўнай кнізе «Невядомыя палякі. Гісторыя працоўных імігрантаў у Францыі ў міжваенны пэрыяд», якая вытрымала тры выданьні, глыбока дасьледавала і падрабязна апісала ўмовы пераезду, жыцьця і працы эмігрантаў зь міжваеннай Польшчы. У другой частцы сваёй кнігі я некалькі разоў спасылаюся і на гэтую працу.

У заключэньне сваёй кнігі Жанін Панці шчыра прызнала, што напісала выключна пра першае пакаленьне эмігрантаў:

«Дзеці, народжаныя ў Францыі, або тыя, якія прыбылі туды маленькімі, заставаліся на другім пляне, пад матэрыяльнай, але перш за ўсё маральнай апекай бацькоў. Яны выйдуць зь ценю на поўнае сьвятло, беручы ўдзел у францускім Супраціве. І гэта ўжо іншы сюжэт для іншае кнігі»*.

У нейкай ступені я пастараўся вывесьці зь ценю на сьвятло найбольш складаныя лёсы некаторых «дзяцей Францыі», другога пакаленьня эміграцыі, пра якую пісала дасьледніца з Сарбоны. Наколькі ў мяне гэта атрымалася, судзіць пільным чытачам.

*Валер Каліноўскі*
*Менск, кастрычнік 2019 году*

---

* Janine Ponty. Polonais méconnus. Histoire des travailleurs immigrés en France dans l'entre-deux-guerres, Publications de la Sorbonne, 1988 (et rééditions). P. 383.



• *Мапа гарадоў нараджэньня герояў кнігі*

1. Сям'я Грынцэвічаў зь мястэчка Лялен (Lallaing) у ваколіцах Лілю — у вёску Супраненты Астравецкага раёну.

2. Сям'я Монітаў з гораду Эрыманкур (Hérimoncourt), рэгіён Бургундыя-Франш-Кантэ (Bourgogne-Franche-Comté), — у Пінск.

3. Сям'я Атрашкевічаў з-пад гораду Шэн-Шэню (Chêne-Chenu, 80 кілямэтраў на паўднёвы захад ад Парыжу) — у вёску Сітцы Докшыцкага раёну, пазьней у Пархвенава.

4. Сям'я Ждановічаў зь Вілер-ан-Вэксэн (Villers-en-Vexin), Эр, Нармандыя (Eure, Normandy, 69 кілямэтраў ад Парыжу), — у Барысаў.

5. Сям'я Ганчарыкаў з гораду Руўруа (Rouvroy) у дэпартамэнце Па-дэ-Кале, рэгіён О-дэ-Франс (Pas-de-Calais, Hauts-de-France), — у вёску Нелюбы Валожынскага раёну.





• *Мапа гарадоў і вёсак, куды героі кнігі прыехалі*

6. Сям'я Львоў з Мэцу (Metz), Лятарынгія (Lorraine), — у Львоў, а потым у Менск.

7. Сям'я Бараноў з гораду Карвэн (Carvin) недалёка ад Лілю — у вёску Сакі Жабінкаўскага раёну.

8. Сям'я Батураў з Сэн-Жульен-ле-Віля (Saint-Julien-les-Villas), прадмесьця гораду Труа (Troyes), правінцыя Шампань (Champagne), — у Берасьце.

9. Сям'я Крупаў з камуны Цюкеньнё (Tucquegnieux) у дэпартамэнце Мэрт-э-Мазэль (Meurthe-et-Moselle) на паўночным усходзе Францыі — у Горадню.

10. Сям'я Качаноў з камуны Валер (Wallers), вугальны басэйн Нор і Па-дэ-Кале (Nord et Pas-de-Calais), — у вёску Верацеі Докшыцкага раёну.

11.Сям'я Шэміс з гораду Абуэ (Auboué) у Лятарынгіі (Lorraine) — у Маладэчна.

12. Сям'я Нікаля Лісоўскага з гораду Сэнт-Амур (Saint-Amour) каля Ліёну — у вёску Падсьвільле Глыбоцкага раёну.

13. Сям'я Салагубаў з гораду Алес (Alès) у Правансе (Provence) — у Данецк (тады Сталіна), потым у Маладэчна.

14.Сям'я Поля Шылянка з гораду Валянсьен (Valenciennes), рэгіён Па-дэ-Кале (Pas-de-Calais), — у вёску Баяры, потым у Гарохава Бабруйскага раёну.

# Частка першая
# БЕЛАРУСКІЯ ФРАНЦУЗЫ.
# ГІСТОРЫІ СЕМ'ЯЎ

## ГІСТОРЫЯ СЯМ'І ГРЫНЦЭВІЧАЎ, ЯКАЯ ХАЦЕЛА Ў ФРАНЦЫІ ЗАРАБІЦЬ НА ЗЯМЛЮ Ў БЕЛАРУСІ

Яніна Грынцэвіч (па мужу Сташко) нарадзілася ў 1930 годзе ў шахтарскім мястэчку Лялен (Lallaing) у ваколіцах Лілю ў сям'і Станіславы і Івана Грынцэвічаў. У Францыі яе звалі Жанін.



• *Сям'я Грынцэвічаў у Францыі: Ян, Станіслава і Яніна. 1941 год.*



• *Пасьведчаньне аб нараджэньні 23 траўня 1930 году ў шахтарскім пасёлку дзяўчынкі Яніны ў сям'і Яна Грынцэвіча і Станіславы Рамыкі. У францускіх дакумэнтах яе прозьвішча памылкова пісалі як Крынцэвіч.*



Цяпер яна жыве на хутары Кодзі Горадзенскага раёну, у самым кутку беларускай дзяржавы: 200 мэтраў ад яе хаты да мяжы зь Літвою, 4 кілямэтры — да Польшчы.

Сын Яніны Часлаў Сташко ў 1983 годзе выкупіў тут два надзелы. Ён нейкі час трымаў на хутары сьвіную фэрму, прадаваў экалягічна чыстае мяса, пабудаваў дом і лазьню, а ў 2018 годзе зрабіў тут сабе фатастудыю і майстэрню. Пасьля распаду СССР Часлаў пачаў бізнэс, меў кантракты зь Нямеччынай, добра зарабляў, пазьней захацеў пашырыць справу, уклаў немалыя сродкі ў Расеі і прагарэў. Цяпер Часлаў займаецца мастацкай фатаграфіяй і мясьціны для сваёй творчай сядзібы выбраў сапраўды маляўнічыя.

Хутар Кодзі абмінае рэчка Марыха, за якой ужо Літва. Беларускі і літоўскі памежныя слупы глядзяць адно на аднаго з розных берагоў, парослых лесам. Пасьля лазьні прыемна акунуцца ў хуткую рэчку, вада ў ёй чыстая і сьцюдзёная, але выходзіць на суседні літоўскі бераг забаронена. На хутары дзейнічаюць правілы памежнай зоны, часам прыяжджаюць беларускія памежнікі, правяраюць у незнаёмых пашпарты.

Часлаў жыве ў Горадні, але рэгулярна сюды прыяжджае. Стала тут жыве ягоная маці — пасьля сьмерці мужа пераехала сюды зь вёскі Супраненты Астравецкага раёну.



• *Яніна Грынцэвіч на хутары Кодзі. 2018 год.*



• *Яніна і любімыя сабакі.*

У Яніны сагнутая сьпіна, яна перанесла два пераломы шыйкі сьцягна, але ходзіць самастойна з кіёчкам і сама сябе абслугоўвае. Яшчэ часам шые на прывезенай з Францыі машынцы «Зінгер», корпаецца ў гародчыку, гуляе з двума сабакамі — чорным і рыжым. Першага неяк жартам назвалі Абамам, а другога Трампам*. Мянушкі прыжыліся.

Памяць у Яніны добрая, гісторыя ейнай сям'і запісаная зь ейных і яе сына Часлава словаў.

## Белы параход і «цяплушка»

Позьняй восеньню 1946 году 17-гадовая Яніна Грынцэвіч разам з бацькам Іванам і маці Станіславай на вялікім белым цеплаходзе «Россия» прыбылі з францускага Марсэлю ў савецкую Адэсу. Разам зь імі былі яшчэ каля тысячы рэпатрыянтаў з Францыі, якіх савецкія дыпляматы ўгаварылі вярнуцца на «гістарычную радзіму».

---

* Барак Абама — першы чарнаскуры прэзыдэнт ЗША, Дональд Трамп, ягоны наступнік, мае рыжыя валасы.



Зь песьнямі і музыкай плылі да Адэсы, а ўбачыўшы пасьляваенны савецкі горад, адразу прыціхлі. Занадта вялікі быў кантраст паміж прыгожым Марсэлем і разбуранымі вуліцамі савецкай Адэсы.

Усіх пасажыраў з Францыі ў адэскім марскім порце сустрэлі супрацоўнікі НКВД. Частку пасажыраў зь першай і другой клясы перасадзілі ў таварныя вагоны і павезьлі ў Сібір, успамінае Яніна.

«Мы дык ехалі як рабочыя трэцяй клясай, а першай і другой клясай на цеплаходзе плылі і тыя, хто пасьля рэвалюцыі паўцякаў за мяжу, хто вёз з сабой машыны, іншую маёмасьць, хто пакінуў у Францыі бізнэс, лекары, інжынэры, выкладчыкі. І іх адразу адправілі за краты, а маёмасьць усю забралі. І чаго яны вярталіся?» — дагэтуль дзівіцца Яніна Іванаўна.

У Грынцэвічаў адразу па выхадзе з карабля расьсеяліся ілюзіі наконт СССР — бацька ўбачыў у порце Адэсы рабочых, якія жабравалі, прасілі хлеба. Бацькі прынялі рашэньне ехаць не на працу ў данбаскую шахту, як плянавалі, а ў беларускую вёску да сваякоў — там, як яны спадзяваліся, прынамсі хлеб будзе. У Грынцэвічаў з сабой была толькі швальная машынка «Зінгер» ды нейкая сума грошай. Дакумэнты Грынцэвічаў супрацоўнікі НКВД вывучылі, сказалі, што «даўгоў» перад савецкай уладай у іх няма, і адпусьцілі. Францускія дакумэнты ў іх адабралі.

З Адэсы ў Беларусь сям'ю везьлі ў таварным вагоне, так званай «цяплушцы». Але ў ёй было халодна, печка-буржуйка не ратавала ад моцнага марозу, і абутая ў лёгкія туфлі Яніна абмарозіла ногі. У зямлянцы ў лягеры для рэпатрыянтаў пад Горадняй (былы шталяг для савецкіх ваеннапалонных у Ласосьне) яна яшчэ захварэла на шкарлятыну і трапіла ў інфэкцыйную лякарню.

Нязвыклая ежа, суровы клімат і перажытыя ўзрушэньні адбіліся на здароўі дзяўчыны, хвароба зацягнулася. Ад высокай тэмпэратуры, якая не хацела падаць, у Жанін пацямнеў срэбны нацельны крыжык. Як яна ачуняла, ведае адзін Бог.



CERTIFICAT DE BAPTÊME

• *Пасьведчаньне аб хросьце Яніны Грынцэвіч. 1930 год.*

## Як жылося ў Францыі

У 1920-х гадах, пасьля Першай усясьветнай вайны, многія грамадзяне міжваеннай Польшчы ехалі зарабляць на Захад, цяжка там працавалі, але зараблялі добра, забясьпечвалі сем'і і яшчэ адкладвалі валюту.

Іван і Станіслава Грынцэвічы выехалі ў Францыю ў 1929 годзе з Пастаўшчыны, іхная дачка Яніна нарадзілася ў 1930 годзе. У Заходняй Беларусі сям'я займалася сельскай гаспадаркай, але зямлі было мала, таму вырашылі ехаць за мяжу зарабіць грошай, каб дакупіць. У 1929 годзе якраз страйкавалі французскія шахтары, і праца для Івана Грынцэвіча знайшлася на вугальнай шахце на поўначы Францыі.

«Перш бацькі хацелі ехаць у ЗША. Але не прайшлі мэдычную камісію. Маму прапусьцілі, а бацьку — не, бо ён быў блізарукі. То вырашылі ехаць у Францыю», — расказвае Яніна сваю гісторыю. Яна гаворыць на прыгожай беларускай мове. У 1946 годзе яна яе ня ведала: калі прыехалі, то перапытвала ў маці кожнае слова.



• *Эмігранты зь міжваеннай Польшчы ў Францыі. Сьвяткаваньне першай камуніі (першага прычасьця ў касьцёле) Леакадзіі Дзержаноўскай (у белым чацьвертая зьлева), побач зьлева яе брат Мечыслаў і бацька Станіслаў. Справа стаіць сям'я Грынцэвічаў: Станіслава, Яніна і Ян. Дзьве эміґранцкія сям'і сябравалі, Станіслаў Дзержаноўскі быў хросным бацькам Яніны Грынцэвіч. 1939 год.*



У Францыі ад шахты бацька атрымаў у арэнду службовы дом — двухпавярховы, на чатыры жылыя пакоі. Іван зарабляў добра, маці магла не працаваць, была хатняй гаспадыняй. Дачка Яніна добра вучылася ў школе, хадзіла ў касьцёл. Там была нядзельная школа, у якой дзяцей пасяленцаў з Польшчы вучылі польскай мове.

Дзяцінства маленькай Жанін прайшло бесклапотна: яе сям'я ня мела раскошы, але жыла ў дастатку.

Раніцамі ім прыносіў сьвежы хлеб паляк-пекар, прывозіў малако і масла малочнік. Абавязкам Жанін было забраць прадукты і прынесьці на кухню. За пакупкі маці разьлічвалася раз на два тыдні: кожны прадавец меў кніжачку, дзе вёў рахункі кліентаў. Гародніну сям'я вырошчвала сваю, на градах каля дому.



• *Яніна Грынцэвіч перад першай камуніяй у касьцёле. 1941 год.*

«Мы чорнага хлеба там ня елі, толькі белы, — кажа Яніна Іванаўна. — Чорны хлеб я тут, у Беларусі, пакаштавала. Яго я першым часам наагул есьці не магла».

У Другую ўсясьветную вайну, калі ішоў фронт, сям'я эвакуавалася, нейкі час жылі ў фэрмэра, потым вярнуліся дамоў, гора надта не зазналі.

## Як вырашылі вярнуцца

Калі Іван Грынцэвіч жыў у Францыі, то падтрымліваў мясцовую камуністычную партыю, чытаў савецкую прэсу — газэты «Правда» і «Известия», кажа ягоны ўнук Часлаў. Такія, як Іван, хутчэй паверылі словам савецкіх вэрбавальнікаў пра «сацыялістычны рай» на радзіме, у дзяржаве нібыта роўных магчымасьцяў.

«Мне было 16 з паловай гадоў, калі вырашылі ехаць з Францыі. Я была за бацькоўскімі плячыма, асабліва нічым не пераймалася, — кажа Яніна Іванаўна. — Калі бацька сказаў на працы, што зьбіраецца ехаць у СССР, то ў адміністрацыі шахты яго спыталі: што табе тут не падабаецца? Можа, заробку прыбавіць? То скажы, мы прыбавім. Нашто табе туды лезьці?»

Іван адказваў кіраўнікам шахты: «Хочам на радзіму». Яго папярэдзілі: «Падумай добра, бо дарогі назад ня будзе».

«Больш, чым тата, вярнуцца хацела мама. Яна лічыла, што як даляры маем, то на радзіме купім сабе зямлі, бо за Польшчы хто шмат зямлі меў, той багаты быў», — кажа Яніна.

Грынцэвічы ўжо перад ад'ездам з Францыі ў порце Марсэль убачылі вялікі савецкі карабель са збожжам.

«Во якая магутная дзяржава, — сказаў тады Іван Грынцэвіч жонцы і дачцэ, — такую вайну перажыла, а здольная экспартаваць збожжа».

Гэтым часам у СССР ізноў быў страшэнны голад, людзі елі крапіву і лебяду.

Савецкія вэрбавальнікі пераконвалі адмовіцца ад францускага грамадзянства, а як людзі не пагаджаліся, то казалі, што калі ў СССР ім не спадабаецца, то змогуць вярнуцца назад у Францыю. Але вярнуцца не было як.

## Арышт за падрыў калгаснага ладу

Продкі Станіславы паходзілі зь вёскі Камаі Пастаўскага раёну, карані Івана былі ў вёсцы Супраненты Астравецкага раёну. Там жыла ягоная сястра, вырашылі ехаць да яе. Нейкі час «французы» пажылі ў доме сястры, потым пабудавалі сваю хату. Тры гады былі аднаасобнікамі, потым пайшлі ў калгас, трымалі прысядзібную гаспадарку.

«У калгас ніхто не хацеў, але прымусілі. Мелі сваё збожжа, то хлеб быў у нас. Жылі цяжка, як усе па вайне», — кажа Яніна.

Станіслава засталася на хатняй гаспадарцы, Іван рабіў паляводам, жывёлаводам — куды пашлюць. Адпрацаваў у калгасе ўсю рэшту жыцьця. З адным выняткам.

На калгасным сходзе Іван сказаў у прысутнасьці парторга і супрацоўніка НКВД, што яны глупства гавораць, замест таго каб працаваць. За «падрыў калектывізацыі і калгаснага ладу» яго пакаралі адным годам зьняволеньня, зь якога ён адбыў 10 месяцаў у Куйбышаве.

Далей Іван трымаў язык за зубамі — зразумеў, што тут ня Францыя, дзе шахтары мелі прафсаюзы і маглі страйкаваць.

Па прыезьдзе ў Беларусь Яніна моцна хварэла, зьмена клімату і харчаваньня нэгатыўна адбілася на яе здароўі. Зробленыя ў Францыі грошы пайшлі не на куплю зямлі, а на выжываньне сям'і пасьля пераезду і лячэньне дачкі. Дый зямля ў СССР не прадавалася.



«Бацька спрабаваў выехаць з СССР хоць бы ў Польшчу, нават камусьці ў Вільні даў даляраў, каб памаглі эміграваць, але не атрымалася», — успамінае Яніна Сташко.

Яніна ў СССР вучыцца не змагла, бо яе францускага школьнага атэстату не прызналі. Яна добра ведала францускую і польскую мовы, беларускай і расейскай не валодала.

«Дзеці дражнілі мяне, бо я ня ўмела гаварыць па-беларуску. У Францыі мы былі рускімі, у Беларусі — французамі», — успамінае Яніна.

Да яе бацькоў пасьля прыезду з Францыі штомесяц прыяжджаў міліцыянт, кантраляваў іх, даваў падпісваць нейкія дакумэнты. На яе два лісты да сяброў у Францыі адказаў не прыйшло.

«Мы сядзелі як мыш пад венікам. Лістоў болей не пісалі, баяліся», — кажа Яніна.

Пасьля вяртаньня з турмы Іван Грынцэвіч далей працаваў у калгасе і аднойчы зарабіў за год усяго 50 кіляграмаў жыта. Ад голаду сям'ю выратавала прывезеная з Францыі швальная машынка «Зінгер». Паводле францускіх часопісаў моды 1940-х гадоў Яніна шыла беларускам сукенкі да 1970-х. Шыла нават начамі — было шмат замоваў.

«Я нядрэнна шыла», — з гонарам кажа Яніна і дэманструе накоўдранік, які толькі што сама пашыла, больш складаныя рэчы цяпер ёй цяжка рабіць.

У беларускай вёсцы Яніна Грынцэвіч выйшла замуж за Міхаіла Сташко, які працаваў у калгасе электрыкам, нарадзіла дзяцей Часлава і Ганну. Сын Часлаў падчас тэрміновай службы быў у савецкім флёце, але паколькі маці паходзіла з Францыі, то ў далёкія марскія паходы яго не пусьцілі, тры гады ён правёў на вартавым караблі ў Паўночным моры. Часлаў закончыў юрыдычны факультэт Гарадзенскага ўнівэрстэту, Ганна — эканамічны тэхнікум, доўгі час працавала бухгальтарам у Бераставіцкім раёне.



• *Шлюбны здымак Яніны Грынцэвіч і Міхаіла Сташко. 1956 год.*

Яніна працавала швачкай у быткамбінаце, паштальёнкай, марыла вырвацца зь вёскі. Пасьля вясельля захаце-

ла з мужам паехаць жыць у Вільню — за 60 кілямэтраў ад дому. Але пашпартоў яны ня мелі і прапісацца ў горадзе не маглі. Аднак у Вільні бывала.



• *Яніна Сташко. 2018 год.*

«Аднаго разу маці сустрэла ў Вільні францускую дэлегацыю, пачула знаёмую мову, зразумела, як кепска перакладае савецкі гід, хацела падысьці памагчы. Ёй так захацелася пачуць весткі з радзімы, пагутарыць з французамі. Але стрымала сябе, пабаялася. Каб ня трапіць, як бацька, у турму за доўгі язык», — кажа Часлаў Сташко.

Здарылася такая сустрэча з французамі толькі адзін раз за ўсё яе жыцьцё ў СССР.

У хаце Яніны захоўваюцца здымкі з Францыі, кнігі і часопісы, выдадзеныя перад іхным пераездам. Гэта ўсё, што засталося ад мінулага ў Францыі, сувязь зь якой абарвалася, здаецца, назаўжды.

## Французская пэнсія

Але адна нітачка сувязі з Францыяй усё ж аднавілася — ужо пасьля таго, як у 1969 годзе маці Яніны Станіслава памерла. У 1973 годзе французская дзяржава адшукала Івана Грынцэвіча ў Беларусі. У лісьце яму патлумачылі, што паколькі ён працаваў у Францыі шмат гадоў, то паводле французскага працоўнага заканадаўства яму належыць пэнсія.

«У лісьце было напісана: калі ты жывы, Іване, то адгукніся, і мы будзем выплочваць табе пэнсію, — кажа Часлаў Сташко. — Але тут дзеда запрасілі ў райвыканкам і, спасылаючыся на КГБ, рэкамэндавалі адказаць, што ён і так добра жыве і таму адмаўляецца ад французскай пэнсіі.

Дзед мой быў ня надта пісьменны, і тут ужо я пачаў дзейнічаць — сказаў яму, каб безь мяне ніякіх дакумэнтаў не падпісваў. Ён так і зрабіў, нічога не падпісаў і ўрэшце атрымаў французскую пэнсію».

Пэнсію з Францыі ў СССР маглі пералічваць на валютны рахунак, пераводзіць у савецкія рублі або выдаваць у чэках «Внешпосылторга», спэцыяльнай савецкай замежнагандлёвай сеткі з крамамі, дзе рэдкія ў той час уладальнікі замежнай валюты маглі купляць дэфіцытныя імпартныя тавары. Даляры ці франкі на руках трымаць было забаронена, толькі на рахунках, за абарачэньне замежнай валюты крымінальны кодэкс БССР у рэдакцыі 1960 году прадугледжваў зьняволеньне і нават сьмяротнае пакараньне.

Іван Грынцэвіч вырашыў браць французскую пэнсію ў чэках. Ягоная пэнсія складала каля 100 даляраў у месяц. Добрыя грошы на той час. Савецкай пэнсіі Івану налічылі 12 рублёў.

Дзякуючы французскай пэнсіі Іван Грынцэвіч часам хадзіў у вясковую краму купіць вінаграднага віна, якое яму падабалася яшчэ з часоў жыцьця ў Францыі, а ўнукам купляў падарункі. Чаславу, які захапляўся спортам, набываў добрыя спартовыя гарнітуры. Хацеў купіць яму машыну, нават пачаў адкладаць у банку грошы, але не пасьпеў — памёр у 1980-м. Пасьля Іванаву пэнсію з Францыі яшчэ атрымлівала ягоная другая жонка.

## Мара пра Парыж

Калі амбасадар Францыі ў Менску Дзідзье Канэс (Didier Canesse) прапанаваў Яніне арганізаваць паездку на радзіму, яна без ваганьняў пагадзілася, хоць ужо немаладая і ходзіць з кіёчкам. Гаварыць пра вяртаньне на радзіму ўжо запозна, кажа сын Яніны Часлаў. Аднаўленьня справядлівасьці цяпер ніхто ўжо не патрабуе. Ні матэрыяльна, ні маральна ніхто яе не адновіць.

Яніна беражэ і часам цяпер чытае французскую энцыкляпедыю, якую калісьці прывезла з сабой, можа маліцца па-француску і разумее гэтую мову, але сама гаварыць ужо амаль ня можа.

«Забылася, бо я 70 гадоў не размаўляла на гэтай мове. Ні разу ня мела магчымасьці з кімсьці пагаварыць. Але яшчэ памятаю песьні, французскі гімн «Марсэльезу», — кажа Яніна. — Я, вядома, магла б у Францыі дамагчыся большага, чым тут. Тут жа я лічылася непісьменнай. Вяртацца, вядома, ужо позна, але я хацела б зьезьдзіць на радзіму, знайсьці наш дом. Можа быць, паглядзець Парыж. Я ў Парыжы так і не была», — прызнаецца Яніна Сташко.

Дзеці Яніны не пачуваюцца французамі, мову яны ня вывучылі, у Францыю не зьбіраюцца.

«У Беларусі мне падабаецца, для мяне гэта радзіма, мяняць яе зь нейкіх эканамічных ці іншых прычын не хачу. Будзем спадзявацца, што ка-



• *Яніна гартае францускі фотаальбом у прысутнасьці францускай дыпляматкі Карын Бардзье. 2018 год.*

лісьці беларусы будуць жыць ня горш за французаў. Можа, мы дажывём да гэтага часу, а можа, не», — кажа сын Яніны Часлаў.

### Сустрэча з радзімай праз 72 гады

У красавіку 2019 года Яніна Сташко разам з сынам Чаславам рэалізавала мару свайго жыцьця — наведала Францыю і родны горад Лялен (Lallaing) у ваколіцах Лілю. Амбасада Францыі ў Менску дапамагла зь візамі, мікрааўтобус арганізавала здымачная група рэжысэра Ўладзімера Бокуна. Нягледзячы на паважны ўзрост і праблемы са здароўем, 4000 кілямэтраў дарогі Яніна вытрымала станоўка. У родным горадзе сын Часлаў вазіў Яніну на інвалідным вазку: хадзіць самастойна ёй было цяжка. Француская мова пакрысе вярталася да яе праз 72 гады пасьля ад'езду.

Жанін пабачыла свой родны дом, пабывала ў школе імя Жанны д'Арк, дзе вучылася, наведала велікодную імшу ў касьцёле, дзе яе хрысьцілі, мэрыю, краязнаўчы музэй, пагутарыла з журналістамі зь Лілю, з газэты «La Voix du Nord». У музэі Жанін паказалі дакумэнты аб прыезьдзе ў Францыю яе бацькоў, у мэрыі ўрачыста віталі і ўручылі памятны мэдаль





• *Яніну Сташко сустракаюць вучні яе былой школы ў Францыі. 2019 год.*



• *У касьцёле ў Францыі, дзе Яніну хрысьцілі. Яніна ўсё жыцьцё моліцца па-француску.*



• *Яніна ля сьцен роднага дома.*

з назвай гораду Лялен і яе прозьвішчам. А ў францускай краме Жанін прыдзірліва выбірала сабе туфлі і парфуму.

Жанін заплакала, калі ў яе гонар вучні ейнае школы зладзілі канцэрт, а таксама калі ля парогу касьцёла яе з сынам сустрэў сьвятар і выступіў з прамовай перад парафіянамі пра яе складаны лёс.

«Пасьля публікацыі ў газэтах людзі на вуліцах гораду нас пазнавалі, віталіся і шчыра віншавалі з тым, што мама прыехала на радзіму. Наш побыт у Францыі доўжыўся каля тыдня. Мама была вельмі шчасьлівая», — расказаў па вяртаньні Часлаў Сташко.

На наведваньне Парыжу часу не хапіла, ды і затораў на дарогах баяліся. Затое Жанін рэалізавала іншую сваю мару — пабывала на марскім узьбярэжжы Францыі.

Беларускі рэжысэр Уладзімер Бокун пра жыцьцё Яніны Сташко і яе доўгачаканы прыезд на радзіму зьняў дакумэнтальны фільм «Жанін». На прэм’еру ў Менск Яніна Сташко прыехала з хутару Кодзі разам з сынам Чаславам. Яна была ў цэнтры ўвагі публікі, дыпляматаў і журналістаў, у гутарках апавядала пра сваю радасьць ад сустрэчы з радзімай, пра свой аптымістычны погляд на жыцьцё, які захавала нягледзячы на ўсе цяжкасьці, якія выпалі на яе долю. Былі на ўрачыстасьці і іншыя «дзеці Францыі», героі гэтай кнігі.



# ГІСТОРЫЯ СЯМ’І МОНІТАЎ. ЯК БАЦЬКА ЎЦЯКАЎ З СССР У ФРАНЦЫЮ, А ТРАПІЎ У ГУЛАГ



• *Сям’я Монітаў у Францыі: Рэнэ, Яніна, Міхаіл, Ліліян, Эстрэлія. 1947 год.*

Ліліян Пракаповіч (паводле французкай мэтрыкі Ліліян-Жан Моніт) нарадзілася ў горадзе Эрыманкур (Hérimoncourt), рэгіён Бургундыя — Франш-Кантэ, у 1946 годзе. Яна расла са зводнымі братам Рэнэ 1934 году і сястрой Эстрэліяй 1935 году нараджэньня. Яе бацька Міхаіл Моніт (1905–1980) быў заможным рамесьнікам, меў у Францыі майстэрню і двухпавярховы дом.

У Міхаіла Моніта былі таксама два жылыя двухпавярховыя дамы ў Польшчы, якія пасьля вайны ён страціў.

У 1947 годзе пад уплывам савецкіх агітатараў сям'я Монітаў пераехала ў СССР і ўжо не змагла вярнуцца.

Ліліян пакінула Францыю ў паўтарагадовым узросьце. Яна скончыла сярэднюю школу ў Пінску, факультэт мовы і літаратуры Берасьцейскага пэдагагічнага інстытуту, выйшла замуж за журналіста і літаратара Міколу Пра-


DEPARTEMENT
DOUBS
MAIRIE
de
HÉRIMONCOURT

BULLETIN
DE NAISSANCE

Le Maire,

• *Пасьведчаньне аб нараджэньні Ліліян-Жан Моніт. 21 жніўня 1946 году.*



• *Ліліян Пракаповіч (Моніт). 2018 год.*



• *Ліліян-Жан Моніт у Францыі. 1947 год.*



каповіча, 37 гадоў адпрацавала настаўніцай і выхавальніцай пачатковых клясаў. Выгадавалі з мужам двух сыноў — Віталя і Ільлю.

Цяпер Ліліян з мужам жыве ў Берасьці, але любіць прыехаць у Пінск, дзе на вузкіх вулачках прайшло яе дзяцінства, дзе на старых каталіцкіх могілках пахаваная яе маці, а на новых камунальных — бацька.

У двары двухпавярховага дому на вуліцы Горкага ў Пінску, дзе пасялілася сям'я Монітаў пасьля прыезду з Францыі і дзе чакала з ГУЛАГу бацьку, дзе прайшлі найцяжэйшыя моманты яе жыцьця, Ліліян расказвае, як усё было і што запомнілася.

«У маёй памяці пачатак 50-х гадоў у Пінску застаўся непрыемным эпізодам: я выбегла пагуляць на вуліцу, а нейкі мінак, ласкава загаварыўшы са мной, зьняў зь дзіцячай ручкі залаты ланцужок — апошні напамін пра Францыю. Гэта было тады, калі мы, маці і трое дзяцей, амаль на шэсьць пасьляваенных галодных гадоў засталіся бяз бацькі», — Ліліян паказвае гэтае месца недалёка ад цэнтру гораду.

Ліліян усё жыцьцё марыць наведаць радзіму, Францыю, хоць бы турысткаю. І бацькі — Міхаіл і Яніна, і сама яна пра сямейную драму раней нікому не расказвалі, баючыся спачатку рэпрэсіяў, потым іншых непрыемнасьцяў ад уладаў.

## Дзіця вялікага каханьня

Бацька Ліліян, Міхаіл Усьцінавіч Моніт, нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Куцавічы на Ашмяншчыне. У 1927 годзе прайшоў курс падафіцэрскай школы, два гады адслужыў у польскім войску. А пасьля заканчэньня кравецкіх курсаў, за якія ягоны бацька заплаціў мех жыта, эміграваў у Францыю. Тады акурат французы вэрбавалі грамадзян Польшчы ехаць да іх на працу. Перш Міхаілу давялося 2 гады папрацаваць у шахтах Эльзасу, пакуль не займеў сэртыфікат краўца.

Спачатку працаваў у прыватных майстроў, а калі ў 1946 годзе нарадзілася Ліліян, у бацькі ўжо быў у Эрыманкуры свой двухпавярховы дамок з майстэрняй на першым паверсе.

Маці Ліліян Яніна Міцкевіч (1910–1957) паходзіла зь вёскі Зарага (?) на Берасьцейшчыне.



• *Міхаіл Моніт у Францыі. 1930-я гады.*



• *Яніна Моніт (Міцкевіч). 1930-я гады.*



• *Маміна французская брошка засталася Ліліян у спадчыну. 2019 год.*



• *Рэнэ і Эстрэлія Моніты. 1946 год.*

І Міхаіл, і Яніна мелі ў Францыі свае сем'і, але калі сустрэліся, то так моцна пакахалі адзін аднаго, што разьвяліся са сваімі папярэднімі сужэнцамі і пабраліся шлюбам у 1945 годзе.

Сястра Эстрэлія (у сям'і яе называлі Астра) была бацькавай дачкой ад першага шлюбу. Яна ў маленстве вельмі любіла свайго тату, і калі суд у Францыі, скасоўваючы шлюб, пастанавіў, каб Эстрэлія засталася з маці, то яна ўчыніла скандал, і судзьдзя вырашыў яе пакінуць з бацькам.

Брат Рэнэ (у Беларусі яго называлі Рэно) быў сынам маці ад першага шлюбу. Ліліян стала агульнай дачкой Міхаіла і Яніны, самай любімай, за што ёй зайздросьцілі старэйшыя дзеці.

Маці Эстрэліі была полькай, яна па вайне таксама пераехала з Францыі на сваю радзіму, у Кракаў. Эстрэлія пазьней паехала жыць да яе, у Польшчу. Кантакты зь ёю ў Ліліян былі страчаныя пасьля сьмерці бацькі ў 1980-м.

Бацька Рэно Антон Кахановіч таксама па вайне пераехаў з Францыі ў СССР, на родную Ашмяншчыну. Туды ж з часам паехаў і Рэно. Пасьля сьмерці маці Ліліян толькі адзін раз бачыла Рэно зь ягонаю сям'ёю.

## Непапраўная памылка

«Я пабыла грамадзянкай Францыі ўсяго крыху больш за год, але ўвесь час, пакуль жывы быў бацька, жыла ў нашай сям'і і Францыя: у бацькавых сьветлых і настальгічна-балючых згадках, у нешматлікіх фатаздымках. І я ў сваіх дзявочых мроях спрабавала ўявіць, як бы склаўся мой лёс, калі б сям'я засталася ў Францыі… Для саміх жа бацькоў ажно да самага іх сыходу (маці па-





• *Міхаіл Моніт (сядзіць) зь сябрамі ў Францыі. 1930-я гады.*




• *Білет сябра Саюзу савецкіх патрыётаў на імя маці Ліліян — Яніны Міцкевіч (Кахановіч). 1947 год.*

мерла ад цяжкай хваробы, калі я была дзяўчынкай-падлеткам, бацька — пасьля трэцяга інфаркту ў 1980-м) рэпатрыяцыя 1947 году ўспрымалася як самая драматычная і, на жаль, непапраўная памылка», — згадвае Ліліян.

Калі Міхаіла Моніта ў Францыі агітавалі ехаць у СССР, ён пытаўся: «А ці буду я жыць у Савецкім Саюзе хоць напалову так, як жыву тут?» Яму адказалі савецкія дыпляматы: «Што вы, Усьцінавіч, яшчэ лепш!»

І бацька паверыў. Яму вельмі хацелася паехаць на Ашмяншчыну, дзе жылі родныя людзі, зь якімі ня бачыўся амаль дваццаць гадоў. Сябры ў Францыі казалі Моніту: ня верце ім, гэта ўсё прапаганда. Але ён ігнараваў такія папярэджаньні, яго цягнула на радзіму, была сапраўдная настальгія. І была вельмі пасьпяховая праца савецкіх дыпляматаў у Францыі, якія на ўсе лады расьпісвалі заможнае жыцьцё людзей у першай сацыялістычнай краіне.

Маці Ліліян Яніна Міхайлаўна нават мела аформлены на дзьвюх мовах, расейскай і французскай, сяброўскі білет Саюзу савецкіх патрыётаў*, у які яна ўступіла ў 1946-м, у год нараджэньня Ліліян, незадоўга да выезду з Францыі.

* Падрабязьней пра гэтую арганізацыю ў разьдзелах «СССР заклікае эмігрантаў «вяртацца» і «Саюз савецкіх патрыётаў».



• *Сям'я Монітаў перад ад'ездам з Францыі. 1947 год.*

Маці таксама хацела пераехаць у савецкую Беларусь: тут, на Берасьцейшчыне, была яе радзіма. Такім чынам, рашэньне пра пераезд у СССР было для бацькоў агульным. Дзяцей не пыталіся.



БССР

• *Ліст аддзелу перасяленьня і рэпатрыяцыі ўраду БССР Міхаілу Моніту з адмовай у дазволе выехаць за мяжу. 1947 год.*

## Ліліян у вагоне вучылася хадзіць

У Савецкі Саюз сям'я выправілася цягніком улетку 1947 году. Ехалі марудна і доўга: бацька казаў, што менавіта ў вагоне Ліліян навучылася хадзіць. Куды ён трапіў, бацька зразумеў ужо на вакзале ў Пінску, калі ўбачыў, як кепска апранутыя жанчыны мятуць пэрон.



Міхаіл Моніт прывёз з Францыі сваё кравецкае абсталяваньне і вельмі шмат сувояў усялякіх тканін. Матэрыял закупілі за грошы ад продажу дому ў Францыі.

«У нас на сталe яны ляжалі гарой, гэтыя тканіны, розных колераў. Усё сканфіскавалі, забралі чыста», — згадвае Ліліян.

Паўгода Міхаіл Моніт быў у Пінску краўцом-саматужнікам. І ўвесь час шукаў магчымасьцяў вырвацца назад у Францыю.

У сямейным архіве Ліліян захаваўся ліст аддзелу перасяленьня і рэпатрыяцыі Савету міністраў БССР:

«На Ваше письмо сообщаем, что выдать пропуск на выезд за границу для встречи с родными мы не можем, так как этими вопросами занимается милиция».

Міліцыя таксама дазволу не давала.

## Уцёкі праз мяжу, суд і ГУЛАГ

Заставаліся ўцёкі — так пастанавілі сабе Міхаіл Моніт і ягоны сябра Васіль Таўпека, яшчэ адзін такі рэпатрыянт, які з Францыі перавёз у Пінск жонку і пяцёх дзяцей. Моніт і Таўпека вырашылі нелегальна зьбегчы назад ў Францыю, а потым выпісаць сем'і.



• *Міхаіл Моніт у ГУЛАГу ва ўласнаручна пашытай футраной шапцы. Пачатак 1950-х гадоў.*

Авантура зь пераходам савецка-польскай мяжы 27 кастрычніка 1948 году скончылася арыштам. Сьледзтва ішло да лета 1949-га. Са сьлязьмі на вачах бацька згадваў, як яго каталі, выбіваючы зь яго прызнаньне, быццам ён быў «французскім шпіёнам». А ён, ужо амаль непрытомны, паўтараў адно і тое ж: «Я хацеў пабачыцца з раднёй…»

1 чэрвеня 1949 году Міхаіл Моніт быў асуджаны «по Делу МГБ СССР по ст. ст. 22-63-1 и 72-а УК БССР к лишению свободы на 10 лет». Саслалі яго ў марозную Варкуту.

Бацька, як вынікае зь яго скупых аповедаў дачцэ, выжыў у ГУЛАГу толькі дзякуючы сваёй прафэсіі: шыў ватоўкі, шапкі, рукавіцы. Даймалі яго і жонкі лягерных начальнікаў: пашыць ім адзеньне лепш за бацьку ня мог ніхто з тамтэйшых майстроў.

Міхаіл Моніт быў вельмі добрым майстрам, таму яго шанавалі нават у лягеры ў Варкуце. Там была майстэрня, у якой шылі 15 зьняволеных, а ён імі кіраваў.

У Варкуце ён прабыў 6 гадоў з 10, на якія быў засуджаны савецкім судом.

## Як выжывала сям'я бяз бацькі

Яніна Міхайлаўна і трое дзяцей зь цяжкасьцю выжывалі ў Пінску. Яны былі вельмі беднымі. Маці як жонку палітычнага вязьня нікуды ня бралі на працу. У іхнай аднапакаёвай кватэры ў Пінску, падзеленай напалову шафаю, разам зь імі жылі яшчэ трое кватарантаў.

У хлеўчуку пры доме маці трымала козачку. Неяк каза зімой нарадзіла казьлянятка. У сямейных плянах было прадаць яго, каб купіць абутак для Рэно, які ўжо вучыўся ў музычнай вучэльні, але ня мог наведваць заняткі бяз ботаў і вымушаны быў сядзець дома. Аднае начы казьлянятка замерзла, і гэта стала сямейнай трагедыяй. Выручыў дырэктар вучэльні — на свае грошы купіў Рэно чаравікі.



• *Ліліян Моніт у Пінску ў навагоднім строі. 1953 год.*



• *Фота сям'і Монітаў безь зьняволенага бацькі. Такі здымак Міхаілу Моніту паслалі ў ГУЛАГ. 1952 год.*



Маці начамі, хаваючыся ад падатковых інспэктараў, абшывала мясцовых модніц, пераважна афіцэрскіх жонак. Швальную машынку Монітаў не сканфіскавалі, і яна ратавала. Калі сям'я засталася бяз бацькі, машынка трашчала дзень і ноч. Яніна таксама, як і бацька, закончыла кравецкія курсы ў Францыі. Часам маці брала Ліліян з сабой на прымеркі.

«Мне запомнілася кватэра палкоўнічыхі. На падлозе тры місачкі для ката: адна зь яечным бялком, другая — з жаўтком, трэцяя — зь нейкім мясам. А на стале — ваза зь вішнямі. Гэтыя вішні ў мяне дасюль перад вачыма».

А яшчэ запомніліся Ліліян зь яе галоднага дзяцінства даўжэзныя чэргі па хлеб зь пяці гадзін раніцы, якія дзеці выстойвалі на зьмену з маці.

«Аднойчы, выстаяўшы чаргу і атрымаўшы бохан хлеба, я шчасьлівая панесла яго дамоў, а мама чамусьці плакала. І я не разумела тады, чаму».

Калі Ліліян была маленькая, а бацька быў у ГУЛАГу, суседзі не дазвалялі ёй сябраваць зь іхнымі дзецьмі, зачынялі весьніцы і казалі ёй: ідзі дахаты. Гэта запомнілася назаўсёды. Калі Ліліян была ў школе, то ўжо не адчувала нейкай дыскрымінацыі, была як усе.

Неяк да суседзяў Монітаў прыехаў мужчына з ГУЛАГу, згадвае Ліліян:

«Мяне падманулі, сказалі, што гэта мой бацька. Я кінулася на шыю гэтаму чалавеку, а ён кажа: «Пацярпі, дзетка, твой бацька таксама прыйдзе. Я ня твой бацька». А потым, калі прыехаў наш бацька, то я схавалася і дні тры не падыходзіла да яго, крычала, плакала, не прызнавала яго».



СССР
МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ

I-АХ

СПРАВКА №0006119

Монит

• *Даведка аб вызваленьні Міхаіла Моніта з ГУЛАГу. 1954 год.*



• *Сям’я Монітаў пасьля вяртаньня бацькі з ГУЛАГу. 1957 год.*

Дадому бацька вярнуўся ў 1954-м — пасьля сьмерці Сталіна. А ў 59-м быў рэабілітаваны «за отсутствием состава преступления».

Пасьля вызваленьня зь лягеру за Міхаілам Монітам далей сачылі, распытвалі пра пляны, погляды, ці не зьбіраецца зноў прарывацца ў Францыю, як ставіцца да савецкай улады. Але ён нічога не казаў, навучаны горкім досьведам.

Бацька да апошніх дзён ня змог даравацца савецкім уладам таго падману, які пачаўся яшчэ з Францыі, ня верыў савецкім газэтам і казаў толькі:

«Прапаганда!»

«Памятаю, мой муж Мікола аднойчы прывёз яму часопісную публікацыю аповесьці Салжаніцына „Адзін дзень Івана Дзянісавіча‟. Бацька даволі рэзка адмовіўся яе чытаць: „Я табе мог бы такога панарасказваць!..‟ Але так і не расказаў: баяўся ўжо, напэўна, не за сябе — за нас», — згадвае Ліліян Пракаповіч.

## Зэк — ударнік камуністычнай працы

Бацька настальгаваў па Францыі ўсё астатняе жыцьцё. Распавядаў дзецям, як там прыгожа, як добра і весела там жывуць людзі.

Ён меў пачуцьцё прафэсійнай годнасьці, сфармаванае яшчэ ў эміграцыі: працы ён аддаваўся напоўніцу, кажа Ліліян. Так былы «зэк» стаў ударнікам камуністычнай працы, меў значок выдатніка службы быту і шмат замоўцаў сярод абазнаных у модзе пінчукоў.

Маці Ліліян захварэла на рак і памёрла праз тры гады пасьля вяртаньня бацькі, у 1957 годзе. Ліліян тады было 11 гадоў. Бацька пабраўся зь іншай жанчынай, якая стала для Ліліян мачыхай.





ВОЕННЫЙ ТРИБУНАЛ
БЕЛОРУССКОГО
ВОЕННОГО ОКРУГА

СПРАВКА

• *Даведка аб рэабілітацыі Міхаіла Моніта вайсковым трыбуналам. 1959 год.*





• *Міхаіл Моніт — ударнік камуністычнай працы. 1963 год.*

Бацька перанёс тры інфаркты: катаваньні і ГУЛАГ адбіліся на здароўі. Ён памёр у 1980 годзе.

Калі Ліліян вучылася ў Берасьцейскім пэдагагічным інстытуце, яе выклікалі ў КГБ.

«Нейкі мужчына ў цывільным пытаў, ці помню я, што ў нас у хаце казалі пра Францыю. Мне быў адзін год, я казала. Што я магу помніць ці ведаць? А ён на мяне як крыкнуў — «тут пытаньні задаю я!» — і адправіў мяне. Я думала, што мяне выключаць з інстытуту. Але абышлося».

У школе, дзе працавала Ліліян, да 1996 году калегі ня ведалі, што яна нарадзілася ў Францыі.

«Я ніколі нікому не казала. Мяне звалі Лілія Міхайлаўна, пра Ліліян згадкі не было. Толькі ў пашпарце, і то Леляна — так трансфармавалі маё імя савецкія пашпартысткі».

## Францыя як мара

Ліліян зь дзявочых гадоў марыла трапіць у горад, дзе нарадзілася, — Эрыманкур, а таксама пабачыць Парыж, які быў у яе ўяўленьнях казачна-загадкавым.

Але пакуль жыў бацька, атрымаць візу было нерэальна. Неяк нават яе мужа-журналіста Міколу Пракаповіча ня выпусьцілі ў Францыю з турыстычнай пуцёўкай. А пасьля распаду СССР на такую паездку не было грошай, заробкі і пэнсіі былі вельмі малыя. У 2018 годзе яе пэнсія складала 350 рублёў (175 даляраў).



• *Сям’я Монітаў зь сябрамі. 1975 год.*

Ажыцьцявіў яе мару і наведаў Францыю, у тым ліку яе родны горад Эрыманкур, старэйшы сын Віталь. У 2016 годзе ён пабываў у Францыі на міжнародным музычным фэсьце ў горадзе Бэльфор (Belfort). Тады ж зьезьдзіў у блізкі адтуль Эрыманкур, на радзіму мамы. Спрабаваў адшукаць там сярод даваенных дамкоў дзедаў двухпавярховік, сфатаграфаваў цэлую вуліцу старых дамоў, адзін зь якіх мог быць дзедавым. Гэта маленькі, утульны, ціхі горад, кажа Віталь.

«Усё жыцьцё — і пры бацьках, і калі іх ня стала — мяне не пакідае адно пытаньне: навошта патрэбна было тагачаснаму савецкаму кіраўніцтву зваблiваць беларусаў-эмігрантаў казкамі пра заможнае жыцьцё ў разбуранай вайной краіне? — пытаецца Ліліян. — У імя чаго праводзілася гэтая крывадушная палітыка — пазбавіць людзей усяго, што змаглі яны набыць цяжкай працай? Клясавая нянавісьць да тых, каму, насуперак усім камуністычным тэорыям, жывецца лепей і вальней, чым



за жалезнай заслонай? Але ж ці можна зразумець нармальнай чалавечай лёгікай жахлівыя рэпрэсіі 1930-х, пабудову мітычнага камунізму ў напаўгалодных і напаўапранутых 1960-х? Як і ўпартае жаданьне сёньняшняга кіраўніцтва Беларусі захаваць рэшткі таго ўяўна-бясхмарнага жыцьця, якога насамрэч ніколі і не было».



• *Сям’я Пракаповічаў: Ліліян, Віталь, Ільля і Мікола. 1983 год.*



• *Ліліян у двары дому, дзе вырасла. Пінск. 2018 год.*

# ГІСТОРЫЯ СЯМ'І АТРАШКЕВІЧАЎ. 64 ГАДЫ ПОШУКУ БРАТА, ЯКІ НЕ ЗАХАЦЕЎ ЕХАЦЬ У СССР



• *Сям'я Атрашкевічаў у Францыі: Браніслаў, Станіслаў, Алена, Францішка, Часлава. 1943 год.*



У 1947 годзе сям'я Атрашкевічаў, беларускіх эмігрантаў у Францыі, падзялілася: старэйшы сын Браніслаў застаўся давучвацца ў інстытуце ў Парыжы, а бацька Станіслаў Атрашкевіч з маці Аленай і малымі дочкамі Чаславай і Францішкай паехалі ў СССР, паслухаўшы савецкіх агітатараў.



• *Партрэт Станіслава і Алены Атрашкевічаў. Францыя. 1946 год.*

Бацькі думалі, што пасьля заканчэньня ВНУ ў Парыжы і сын прыедзе да іх у СССР. Але разлука аказалася назаўсёды. Спачатку бацькі і сын перапісваліся, але і гэтая нітачка абарвалася ў 1954 годзе, калі прыйшоў апошні ліст з Францыі.

Гісторыя жыцьця сям'і Станіслава Атрашкевіча (1897–1980) у Францыі і ў СССР, гісторыя пошуку ягонага сына Браніслава (1923 году нараджэньня) падаецца са словаў малодшай дачкі Алены Гаранінай, якая нарадзілася ўжо ў Савецкім Саюзе ў 1950 годзе.



• *Бронак Атрашкевіч у Францыі. 1946 год.*

Алена Гараніна жыве ў раённым цэнтры Докшыцах Віцебскай вобласьці, у вялікім доме з сылікатнай цэглы, збудаваным на бацькаву французскую пэнсію. Вокны ў доме вялікія, пакоі сьветлыя і прасторныя. Вакол дому шмат кветак і пладовых дрэваў. Непадалёк ад Докшыц, у мястэчку Пархвенаве (Параф'янаве) Алена зьберагла хатку, у якой яе сям'я жыла пасьля пераезду з Францыі. Нядаўна дамок быў нанова абшаляваны. Вакол яго сад, яблыні і сьлівы, а таксама кветкі. Хатка вельмі маленькая, усяго адзін пакой і куханька, пазьней да яе прыбудавалі вэранду.

«Да ложку бацькоў збоку на ноч падвязвалі крэслы, і я на іх спала ў дзяцінстве і маладосьці, — згадвае Алена. — Калі я пайшла на працу, то першай маёй пакупкай была канапа, і на ёй мы ўжо спалі з мамкай. Няма слоў, як цяжка мы жылі. Каб не галадаць, трымалі парася і карову; маме нічога не плацілі, жылі мы на татаў заробак».



• *Алена Гараніна ля хаткі ў Пархвенаве. 2018 год.*



• *Алена Гараніна. 2018 год.*

Печкі ў гэтай хатцы першым часам не было, у маразы абагравалі яе гарачым вугольлем у жалезным вядры, расказвае Алена Гараніна:

«У пакоі вісела вядро з жарам, каб было цяпло. Ні ў кога такога не было: у столі вісеў крук, ад яго ішоў дрот, на якім вісела гэтае вядро. Як мы не ўчадзелі, я не магу патлумачыць».

Кантраст з французскім жыццём Атрашкевічаў проста прыгнятаў.

## Эміграцыя з Польшчы ў Францыю

У 1929 годзе Станіслаў Атрашкевіч, ратуючыся ад безьзямельля, пакінуў родныя мясьціны каля Шаркаўшчыны, якія былі ў складзе міжваеннай Польшчы, і паехаў на заробкі ў Францыю. 5 гадоў ён адпрацаваў на вугальных шахтах групы Бруэ (Bruay, дэпартамэнт Па-дэ-Кале). Аднойчы на шахце яго прыціснула горнай пародай, пасьля чаго ён пачаў кульгаць.

Станіслаў спачатку паехаў на заробкі адзін, хоць быў ужо жанаты, меў ад першай жонкі Марыі дваіх дзяцей — сына Браніслава 1923 году і дачку Чаславу 1928 году нараджэньня. Сям'ю сваю ён забраў у Францыю ў 1932 годзе. Пазьней жонка Марыя трагічна загінула. Пахаваўшы яе, Станіслаў у 1934 годзе перавёз дзяцей да цешчы ў цяперашні Шаркаўшчынскі раён, а сам паехаў у Латвію, дзе нейкі час працаваў у земляўласьніка. У Латвіі Станіслаў пазнаёміўся з новай жонкай Аленай Юндзель (1915–2004).

«Мама была сіратой, яна маладзейшая за бацьку на 18 гадоў. У 1937 годзе яны пажаніліся. І неўзабаве бацька зноў паехаў у Фран-





• *Франя, Станіслаў і Алена Атрашкевічы. Францыя. 1946 год.*



CAISSE NATIONALE D'EPARGNE

LIVRET NATIONAL

• *Ашчадная кніга Станіслава Атрашкевіча з Францыі.*



• *Станіслаў Атрашкевіч з жонкай Аленай і жонкай гаспадара фэрмы ў Францыі, дзе яны працавалі. 1938 год.*



PIERRE MINARD

• *У архіве Атрашкевічаў захаваўся ліст ад уладальніка фэрмы П'ера Мінара (Pierre Minard) пра тое, што для іх падрыхтаваны дом з садам, а да прыезду прынясуць усю патрэбную мэблю і кухонныя прылады.*

цыю, забраў жонку і дзяцей, Чэсю з Бронікам», — кажа малодшая дачка Атрашкевічаў Алена.

У новы прыезд у Францыю Станіслаў ужо не рабіў на шахце — пайшоў сельскагаспадарчым рабочым да фэрмэра пад горадам Шэн-Шэню (Chêne-Chenu, 80 кілямэтраў на паўднёвы захад ад Парыжу). Там жа працавалі ягоная жонка Алена і сын Браніслаў.

Захавалася даведка ад Марыса Пі, земляўласьніка з камуны Трамблелё-Віконт (Tremblay-le-Vicomte), пра заробак Станіслава Атрашкевіча цягам 1940–1947 гадоў — 6800 франкаў на месяц.

Бацька ня быў камуністам, кажа Алена, гаспадар цаніў яго як работніка. Ён быў таварыскі і ў добрых адносінах зь іншымі рабочымі-французамі. Сябравалі, жылі дружна. Але бацьку было няёмка, калі французы страйкавалі — ён як эмігрант на гэта не наважваўся: больш залежаў ад гаспадара, чым карэнныя французы.

Сям'я там жыла ў доме, які даваў у арэнду гаспадар, у ім было ўсё, што трэба для жыцьця.

У архіве Атрашкевічаў захаваўся ліст ад уладальніка фэрмы П'ера Мінара (Pierre Minard) — пра тое, што для іх падрыхтаваны дом з садам, а да прыезду прынясуць усю патрэбную мэблю і кухонныя прылады.

Сям'я Атрашкевічаў у Францыі трымала сваю прысядзібную гаспадарку, жылі ў дастатку. У 1942 годзе ў Станіслава і Алены нарадзілася дачка Францішка. Вайну сям'я перажыла бяз стратаў, разлука і страты чакалі пасьля вайны.

## Пераезд у СССР

У 1947 годзе пад уплывам агітацыі савецкіх дыпляматаў сям'я Атрашкевічаў вырашыла пераехаць у СССР. Бацькі забралі з сабою дачок Францішку і Чаславу, старэйшы сын Браніслаў застаўся давучвацца ў інстытуце ў Парыжы.

«Была такая прапаганда, што і бацька паверыў, што на роднай зямельцы надта ж ужо добра, — згадвае Алена Атрашкевіч. — Пераезд бацька ўспамінаў як кашмар. Да мяжы давезьлі іх у добрых вагонах, а пасьля перасадзілі ў цялячыя. З Францыі яны нічога не прывезьлі, толькі адзеньне. Апрануцца ў іх было ўва што, а болей нічога».

Пазьней бацька казаў родным, што каб ведаў, як сустрэне яго СССР, то ніколі не вярнуўся б. Шкадаваў вельмі.

Былыя грамадзяне Францыі Атрашкевічы адразу прыехалі да матчынай радні ў вёску Сітцы Докшыцкага раёну, потым купілі хату ў Целяшах, пазьней у Пархвенаве купілі маленькі дамок жылой плошчай 24 квадратныя мэтры, які стаіць дасюль. Я звонку памераў хатку: налічыў 6 сваіх вялікіх крокаў у даўжыню і 4 — у шырыню.



Алена нарадзілася ў 1950 годзе, ужо па прыезьдзе бацькоў з Францыі, у Сітцах Докшыцкага раёну. Францускага жыцьця яна не засьпела, затое добра запамятала савецкае.

«Дужа бедна мы жылі, пакуль я не пайшла працаваць, — кажа Алена. — Цяпер прыгадваю гэта як кашмар. Мы жылі на тое, што заробіць тата. У маці быў поліартрыт, мела пакручаныя рукі, то не магла рабіць. А рабіў мой бацька ў леспрамгасе, у Пархвенаве лес грузілі. Перад пэнсіяй некалькі гадоў працаваў на гуртова-гандлёвай базе рабочым, ужо на пэнсіі вартаваў скаціну на фэрме. Пачынаеш успамінаць — і плакаць хочацца. Ня ведаю, як выкручвалася маці. З тых часоў не магу глядзець на кіслую капусту, помню ўвесь час гэты суп з кіслай капусты».

Калі бацька атрымаў працу ў леспрамгасе, прыйшоў дахаты і сказаў жонцы: «Да ўсяго я, матка, прывыкну, але так лаяцца, як тут, я не змагу». Але прывык і нават сам часам лаяўся, знаходзіў у гэтым нейкую разрадку, згадвае Алена.

## Сямейныя страты

Па вяртаньні ў галодны СССР сям'я пахавала дачку Францішку, якую прывезьлі з Францыі. Яна ня вынесла беларускага марозу, прастудзілася і памерла ад мэнінгіту ў 7 гадоў.

А старэйшы сын Браніслаў застаўся ў Францыі.

Станіслаў Атрашкевіч, едучы з Францыі ў СССР, спадзяваўся, што Браніслаў, скончыўшы інстытут, далучыцца да сям'і, будзе працаваць у Беларусі. Алена кажа: перш сапраўды плянавалася, што Браніслаў вернецца, яго нібыта нават чакалі ў Менску на нейкім месцы працы. Але ён перапісваўся з татам, і той, пабачыўшы рэальнае жыцьцё ў Савецкім Саюзе, адраіў сыну ехаць.

«Браніслаў характарам быў добры і шчыры чалавек і чым мог стараўся дапамагчы бацькам. Але тата ж пісаў, як папраўдзе тут жывецца, у які рай яны трапілі», — кажа Алена Гараніна.

У сям'і захавалася частка ліставаньня бацькі і сына Атрашкевічаў, цёплыя віншаваньні з днямі народзінаў і сьвятамі на паштоўках зь відамі Парыжу, адрасаваныя бацькам у Докшыцкі раён. У іх адчуваецца цеплыня сямейных стасункаў і сум, што немагчыма ўбачыцца, а таксама кволы спадзеў, што раптам некалі гэта стане магчымым.

Алена кажа, што брат чым мог дапамагаў сям'і ў Беларусі, праз журналістаў-міжнароднікаў перадаваў родным падарункі.



• *Браніслаў Атрашкевіч, які застаўся ў Францыі і якога дагэтуль шукаюць і чакаюць у Беларусі. Францыя. 1943 год.*

## Апошні ліст Браніслава

Як найважнейшую рэліквію ў сям'і берагуць апошні ліст Браніслава з Францыі, датаваны 29 чэрвеня 1954 году.

«Дарагі Бацька і ўсе родныя! Як вы пажываеце? Ужо даўно, даўно не было ад Вас лістоў. Ці здаровыя Вы ўсе? Ці няма якой патрэбы, каб я быў у сіле дапамагчы?», — пытаецца Браніслаў.

Пра сябе Браніслаў піша, што ажаніўся і неўзабаве стане бацькам. Жонку звалі Аленай, паходзіла яна з Днепрапятроўскай (цяпер Січаслаўская) вобласьці Ўкраіны. Зь ліста вядома таксама, што Браніслаў пасьля інстытуту быў электратэхнікам, працаваў у канструктарскім бюро ў Парыжы, спадзяваўся на падвышэньне заробку ад сваёй фірмы.



• *Апошні ліст Браніслава бацькам з Францыі ў Беларусь. 1954 год*

«Жывем на новай кватэры, але ўлазінаў яшчэ ня ладзілі… Агулам кажучы, мы жывем сярэдне, у патрэбных рэчах мы сабе не адмаўляем. Працуем удвох з заробкам вышэй за сярэдні. Падчас вакацыяў, у жніўні, маем магчымасьць павандраваць за мяжой. Сёлета напэўна зможам паехаць у Ангельшчыну на два тыдні або ў Швайцарыю, дакладна яшчэ ня ведаем. Зімою былі ў Нямеччыне, спадзяваліся пабачыць шмат сьнегу, але акрамя холаду нічога там не знайшлі», — піша Браніслаў Атрашкевіч у апошнім лісьце, які атрымалі ягоныя бацькі ў Беларусі.



## Чаканьне і пошукі



• *Ліст Станіслава Атрашкевіча з СССР у Францыю, вернуты адрасату.*

Пасьля 1954 году сына Браніслава шукаў бацька Станіслаў Атрашкевіч, з 1967 году да пошукаў брата далучылася малодшая сястра Алена.

«Тата ўсё жыцьцё чакаў яго, да апошняй хвіліны. Калі б вы толькі пабачылі двух старых, якія ўважліва ўглядаюцца ў тэлевізар: вось на экране падобны да Броніка, а можа, гэта ён? Мама ў кожным хоць крыху падобным бачыць яго. Мы, дзякуй Богу, жывём у дастатку, у сваім доме, на сваёй радзіме, а можа, яму ў гэтую хвіліну цяжка? А можа, яго ўжо няма ў жывых? Дзе яго магіла ці курган, каб на калені стаць перад ім і жменю нашай зямелькі пакласьці? А калі жывы ён, то каб ведаў, што помняць пра яго ўсё жыцьцё і чакаюць», — так пісала Алена Гараніна ў розныя дзяржаўныя ўстановы СССР свае просьбы дапамагчы ў пошуку брата. Чарнавік аднаго з такіх лістоў застаўся ў хатнім архіве.



• *Адказ з Чырвонага Крыжа. 1971 год.*

У 1971 годзе з Масквы, з выканкаму Таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца ў мястэчка Пархвенава прыйшоў адказ:

«На Вашу просьбу намі ажыцьцяўляўся пошук Вашага сына ў Францыі. Вельмі шкадуем, пошук скончыўся беспасьпяхова. Паводле паведамленьня Французскага Чырвонага Крыжа, месца жыхарства і лёс Браніслава Атрашкевіча выявіць не ўдалося».

## Машына і дом за францускую пэнсію



• *Алена Атрашкевіч (Гараніна), Дзьмітры і Іван Гараніны. Докшыцы. 1980 год.*

Сям'я стала больш заможнай, калі бацька ў 1978 годзе атрымаў францускую пэнсію. Усе дакумэнты ў бацькі захаваліся, то дамагчыся яе не было складана.

«Дзякуючы гэтай пэнсіі мы трохі пажылі. Тата атрымліваў яе толькі два гады. Аднак прымусіў нас купіць машыну, бо ён так пра яе марыў усё жыцьцё. Потым мы купілі яму шыкоўны касьцюм, туфлі, кашулі і іншых рэчаў. А як паправіцца здароўе, плянавалі паехаць разам на машыне да ягоных сясьцёр у Мёры і пляменьнікаў у Шаркаўшчыну. Але пляны не збыліся. 1 ліпеня 1980 году таты ня стала. Пасьля частку пэнсіі за ім атрымлівала мая мама да яе сьмерці ў 2004 годзе», — апавядае Алена Гараніна.

У 1987 годзе Алена за бацькаву францускую пэнсію купіла дом у Докшыцах, дзе і цяпер жыве з мужам Іванам. Дзедавы грошы дапамаглі ўжо ў 2000-х гадах купіць у Менску кватэры ўнукам Дзьмітрыю і Ганьне.



• *Часлава Атрашкевіч*

На грошы з францускай пэнсіі паставілі і помнікі на магілах бацькі, маці, іх рана памерлай дачкі Франціўшкі. Яны пахаваныя на пархвенаўскіх могілках, ад якіх ідзе роўная дарога на прыгожы і вялікі касьцёл Панны Марыі, пабудаваны ў 1908 годзе ў нэабарочным стылі, галоўную мясцовую славутасьць.

Старэйшая дачка Атрашкевічаў Часлава мела сярэднюю францускую адукацыю. Прыехала ў СССР ужо дарослай, праз год зь вёскі паехала ў Ленінград (цяпер Санкт-Пецярбург), пасварыўшыся са сваім кавалерам. Бацька быў незадаволены, што яна нават не памагла пасадзіць бульбу, так сьпяшалася. У цягніку яе абакралі. Яна страціла дакумэнты і запас вопраткі, але даехала ў Ленінград, знайшла там працу афіцыянткай. Адтуль неўзабаве завэрбавалася ў Ашгабат, сталіцу Туркмэністану, там выйшла замуж за вэтэрана вайны Васіля Качагарава.



Пазьней яны пераехалі жыць у Віньніцкую вобласьць Украіны, дзе ў іх нарадзіліся двое дзяцей. Часлава і Васіль прыяжджалі да родных у Беларусі, часам дапамагалі ім. Часлава большую частку жыцьця працавала санітаркай і загадчыцай гаспадаркі ў лякарні. Любіла сьпяваць. Усё жыцьцё вяла дзёньнік на францускай мове. Памерла ў 1999 годзе. Яе сын Аляксандар жыве ў Хмяльніцкай вобласьці, працуе інжынэрам на АЭС. Дачка Тацяна ў Кіеве, яна была інжынэрам на заводзе, потым мэнэджарам у прыватным бізнэсе, цяпер на пэнсіі. Тацяна прапаноўвала сваёй цётцы Алене Гаранінай наведаць разам Францыю, але пакуль не атрымалася.

## Надзея не памірае

Станіслаў Атрашкевіч часта апавядаў Алене, які Бронак быў добры, адкрыты, мог падзяліцца ўсім.

«Я ўвесь час хацела быць падобнай на брата. Самая вялікая ўзнагарода была для мяне, калі тата казаў: «Ну, Бронак цябе пахваліў бы». Паміраючы, тата ў свой апошні дзень у гэтым жыцьці сказаў: «Эх, сынок, сынок, ня ведаеш, як цяжка бацьку сыходзіць, цябе не пабачыўшы».

Алена Гараніна кажа, што яна і цяпер шукае брата Броніслава ці ягоных нашчадкаў — і мае спадзеў, што публікацыі пра яго хоць крыху дапамогуць у пошуку:

«Шукаю праз знаёмых у Польшчы, праз Чырвоны Крыж. Я была знаёмая з раённым начальнікам дзяржаўнай бясьпекі, зьвярнулася да яго, то яны мне сказалі, што ў Францыі брата ўжо няма.

Я пісала ў Чырвоны Крыж у Маскву, а ў 1990-м, як быў гэты Кручкоў кіраўніком КГБ, то ў КГБ СССР пісала. Адказу ніякага. Двойчы пісала на перадачу расейскага тэлебачаньня «Жди меня», і таксама няма адказу. Можа, і сапраўды ён быў вярнуўся сюды і сьлядоў ягоных няма? Нашы службы неяк сказалі мне, што быццам ён выехаў у Лацінскую Амэрыку і сьляды яго згубіліся. Але я ў гэта ня веру. У мяне прадчуваньне, што ведаюць пра яго вышэйшыя органы, але гэта закрытая тэма».

Пасьля распаду СССР і падзеньня «жалезнай заслоны», якая аддзяляла беларусаў ад краін Захаду, Алена Гараніна папрасіла дапамагчы ў пошуку свайго брата аднаго зь лідэраў беларускай дыяспары ў Францыі, выдаўца беларускамоўнага часопісу «Моладзь» (Парыж) Міхася Наўмовіча:

«Вы амаль раўналеткі, а беларусы заўсёды дружылі. Можа, вы ведалі адзін пра аднаго? Вы газэту выпускалі беларускаю моваю, а ён ня

мог быць убаку. Калі вы давалі інтэрвію «Беларускай маладзёжнай», вы ўпамянулі пра сябра, які вяртаўся на радзіму, а яго тут ужо забралі. Гэта ня наш Бронак? І такія зьвесткі да нас паступалі, зразумела, што пад вялікім сакрэтам, што вёз ён бібліятэку, што забралі яго ў Днепрапятроўску*», — напісала Алена ў лісьце ў Парыж да Наўмовіча, але адказу не дачакалася.

Міхась Наўмовіч (1922–2004) — дзяяч беларускай эміграцыі, раней выдавец часопісу «Моладзь», старшыня Беларускага згуртаваньня ў Францыі «Хаўрус» і сябра Рады БНР. Падрабязьней пра яго і часопіс «Моладзь» чытайце ў разьдзеле «Беларускі нацыяналіст з Сарбоны» ў другой частцы гэтай кнігі.

Алена веры ня траціць, працягвае свой пошук і мае спадзеў атрымаць калі-небудзь вестачку ад брата ці ягоных нашчадкаў.

«На сёньня яму 95 гадоў, калі ён жывы. Я штовечар за яго малюся. Калі жывы — хай Бог дасьць яму сілы і здароўя, а калі не — хай яму будзе Царства Нябеснае. Вядома, у яго ўжо дзеці такія, як я. Але сьлядоў ніякіх няма».



• *Бронак з жонкай.*

У 2018 годзе інфармацыю і просьбу дапамагчы беларускім сваякам Браніслава Атрашкевіча ў пошуку яго і ягоных нашчадкаў прынялі ў французскім консуляце ў Менску, у агенцтве France Presse (Парыж), а таксама ў Службе бясьпекі Ўкраіны, бо былі пагалоскі, што Браніслаў мог паехаць на радзіму жонкі ў цяперашнюю Січаслаўскую вобласьць Украіны. Пазытыўных навін ад іх пакуль не было.

Ад французскага жыцьця сям'і Атрашкевічаў у Алены Гаранінай засталіся лісты і паштоўкі ад Браніслава, дакумэнты, фатаграфіі, а таксама некаторыя матуліны рэчы, якія яна беражэ як найвялікшы скарб: хустку і бэжавы ваўняны касьцюм, спадніцу і пінжак, пашытыя па перадваеннай французскай модзе.

* Цяпер горад Дніпро.



## ГІСТОРЫЯ СЯМ'І ЖДАНОВІЧАЎ. ЯК САВЕЦКАЯ ЎЛАДА ПАДМАНУЛА ФРАНЦУСКАГА КАМУНІСТА

Пераехаўшы ў 1947 годзе ў СССР з жонкай і дзесяцьцю дзецьмі, апантаны францускі камуніст Віктар Ждановіч асеў у Барысаве, дзе амаль уся ягоная сям'я цяжка працавала на фанэрна-запалкавай фабрыцы.

Дзеці ня вывучыліся, савецкая ўлада не залічыла іхнае вучобы ў францускіх школах. Па прыезьдзе старэйшых накіравалі працаваць на запалкавую фабрыку, малодшых — у пачатковую школу. Дзеці часта хварэлі, уладкаваліся ў жыцьці кепска. Многія зь іх цягам жыцьця мелі праблемы са здароўем, заўчасна памерлі.

Падмануты савецкай уладай Віктар Ждановіч у камуністычную партыю Савецкага Саюзу так і не ўступіў.

Гісторыя сям'і Віктара Ждановіча (1898–1982), які ў 1947 годзе з жонкай Матрунай (1908–1968) і дзесяцьцю дзецьмі рэпатрыяваўся ў СССР, грунтуецца на інтэрвію зь ягонай дачкой Аленай Маразевіч, якая жыве ў Барысаве, а таксама на ўспамінах іншай дачкі Ружы Марковіч (1932–2018), якія запісала яе дачка Ірына Марковіч.



• *Сям'я Ждановічаў (без дваіх дзяцей): ніжні шэраг — Міхаіл, Ружа, бацька Віктар, Ніна, маці Матруна, Ёсіф, Віктар; верхі шэраг — Алена, Георгі, Марыя, Уладзімер. На здымак ня трапілі Іван і Мікалай. Барысаў, 1954 год.*

## Вялікая сям’я Ждановічаў



• *Віктар Ждановіч у Францыі. 1930 год.*

У Віктара і Матруны Ждановічаў было 11 дзяцей — 7 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі: Іван (1928 году нараджэньня), Марыя (1931), Ружа (1932), Віктар (1933), Коля (1934), Лёля (1935), Жора (1936), Валодзя (1941), Міша (1945), Юзік (1946), Ніна (1951). Яшчэ пяцёра іхных дзетак памерлі немаўлятамі.

Іван нарадзіўся ў Заходняй Беларусі пад польскай уладай, Ніна — у Барысаве ў БССР, астатнія дзеці — у розных гарадках і камунах Францыі, дзе тады жыла іхная сям’я, часта мяняючы месцы працы.

З 11 дзяцей Віктара і Матруны Ждановічаў цяпер жывуць толькі двое: Алена 1935 году нараджэньня і Ніна — 1951 году.

Ружа Марковіч, на чые ўспаміны, занатаваныя дачкой, я абапіраўся ў напісаньні гэтага разьдзелу, нарадзілася ў 1932 годзе ў камуне Вэі-ля-Патэры (Veuilly-la-Poterie), рэгіён О-дэ-Франс (Hauts-de-France), дэпартамэнт Эн (Aisne).

Алена Маразевіч, якая ў лістападзе 2018 году ў Барысаве дала мне інтэрвію, нарадзілася ў 1935 годзе ў горадзе Эшубулен (Échouboulains), рэгіён Іль-дэ-Франс (Île-de-France), 45 км да Парыжу, дэпартамэнт Сэна і Марна (Seine-et-Marne).

У Францыі Алену Ждановіч звалі «Лёля Здановік» — так французы чыталі іх беларускае прозьвішча.

«З 4-х да 6-ці гадоў я была ў шпіталі. Не магла стаць на ногі, поўзала па падлозе, а потым мяне некалькі разоў праапэравалі — і я пайшла. Калі б тут лячылі, то ня ведаю, ці хадзіла б», — кажа Алена Маразевіч.

Ад нараджэньня ў Лёлі былі скрыўленыя косьці ног, 2 гады яна была ў гіпсе, перанесла апэрацыі ў Францыі і Ангельшчыне. Яна лятала ў Ангельшчыну самалётам, там ёй зрабілі самыя складаныя апэрацыі, адтуль яна ўжо прыехала з «нармальнымі нагамі». Усё лячэньне было бясплатным.

Ружа Марковіч памерла ў 2018 годзе, за месяц да таго, як французскі амбасадар у Менску Дзідзье Канэс сабраў у сваёй рэзыдэнцыі такіх, як яна, беларускіх «дзяцей Францыі». Але незадоўга перад сьмерцю яна надыктавала дачцэ Ірыне ўспаміны. У яе драўляным доме ў прыватным сэктары Барысава я гутарыў з Аленай Маразевіч і Ірынай Марковіч, вывучаў іхны сямейны архіў, здымкі і дакумэнты.



Пасьля сьмерці Ружы Марковіч яе дочкі Галіна і Ірына па чарзе прыяжджаюць у Барысаў зь Менску, каб глядзець за домам. Тут усё ў ідэальным парадку, здаецца, што гаспадыня дому Ружа Марковіч толькі ненадоўга выйшла.

Мяне не пакідае думка: кім маглі б стаць гэтыя 11 дзяцей Ждановічаў, які быў бы іхны лёс, калі б бацькі не паверылі савецкай прапагандзе і засталіся ў Францыі? Фэрмэры, акторы, інжынэры, настаўнікі, музыкі? Я ўпэўнены, што яны былі таленавітымі людзьмі, толькі ў чужым для іх асяродзьдзі, ва ўмовах сталінскага рэжыму, ня ведаючы моваў народаў СССР, парадкаў, ня маючы тут знаёмых і сяброў, яны не змаглі раскрыцца, патрацілі жыцьцё на выраб запалак і фанэры на барысаўскай фабрыцы.

## Бачыў Леніна

Галава гэтай вялікай сям’і Віктар Ждановіч паходзіў зь вёскі Слабада Докшыцкага раёну Віцебскай вобласьці.

Падчас Першай усясьветнай вайны ён служыў у расейскім войску. Нейкі час жыў у Петраградзе, браў удзел у рэвалюцыйных падзеях 1917 году, бачыў лідэра бальшавікоў Уладзіміра Леніна і ўступіў у яго партыю. Напачатку 1920-х ён паехаў да бацькі ў Заходнюю Беларусь, але тады ўжо ўсталявалася польска-савецкая мяжа, назад у Савецкую Расею вярнуцца ня змог.

У 1926 годзе ў вёсцы Тумілавічы Докшыцкага раёну Віктар Ждановіч ажаніўся з Матрунай Дайлідовіч.

У 1928 годзе ў Тумілавічы з Францыі прыехалі вэрбавальнікі набіраць людзей на вугальныя шахты, бо французскія шахтары страйкавалі.

«Віктар Ждановіч, страціўшы надзею вярнуцца ў Ленінград з прычыны закрытай мяжы і не жадаючы «жыць пад палякамі», вырашыў паспытаць шчасьця за мяжой», — кажа ягоная ўнучка Ірына Марковіч.

У 1929 годзе Віктар Ждановіч паехаў у Францыю спачатку адзін, праз год да яго прыехала жонка Матруна з паўтарагадовым сынам Іванам. Ён паўтарыў шлях амаль мільёна грамадзян Польшчы, якія ў міжваенны час шукалі працу ў Францыі.

## Умовы жыцця ў Францыі

Пасялілася сям'я спачатку ў Лятарынгіі, у камуне Юсіньні-Годбранж (Hussigny-Godbrange), праз два гады пераехалі на новае месца ў Вэі-ля-Патэры (Veuilly-la-Poterie) за 80 км ад Парыжу, потым памянялі яшчэ 6 адрасоў у розных дэпартамэнтах Францыі. Ехалі туды, дзе прапаноўвалі працу і лепшыя ўмовы.

У Францыі Ждановічы пражылі 18 гадоў. Тут у іх нарадзіліся тры дачкі і шэсьць сыноў. Жылі на розных кватэрах, якія давалі працадаўцы ў часовае карыстаньне. У апошнія гады, жывучы на найманай кватэры, займалі тры вялікія пакоі, мелі кухню і ванны пакой — вада грэлася на адмысловай пліце, а туалет быў на вуліцы.

Матруна ў Францыі не працавала, гадавала дзяцей, атрымліваючы на іх дапамогу ад дзяржавы. Віктар тры гады быў шахтаром, пазьней рабіў у фэрмэраў, даглядаў коней, птушак. Калі жылі ў сельскай мясцовасьці, то і самі трымалі свойскую жывёлу, мелі агарод, харчаваліся добра.

Працаваў Віктар Ждановіч з 8 да 18 гадзіны з двухгадзінным перапынкам на абед.

«Бацькавага заробку хапала на ежу, на дзіцячыя дапамогі маці купляла нам вопратку ў краме. Галава сям'і асабіста займаўся добраўпарадкаваньнем дому: майстраваў табурэткі, сталы, ложкі, паліцы. У сям'і было два ровары», — згадвала Ружа Ждановіч.

Дзеці Ждановічаў школьнага ўзросту — Іван, Марыя, Ружа, Віктар, Коля, Лёля — хадзілі ў бясплатныя камунальныя школы, добра вучыліся, асвоілі францускую мову. Старэйшыя дзеці пазаканчвалі ў Францыі па 7 клясаў. За добрую вучобу атрымлівалі ад школ падарункі. Апекаваўся шматдзетнай сям'ёй і касьцёл, сьвятары запрашалі дзетак на абеды. Алена Маразевіч згадвае, што любіла ў такіх выпадках сама раздаваць ежу па талерках сёстрам і братам, якія сядзелі за адным сталом. Дзеці жылі дружна, не сварыліся. Асаблівай патрэбы ў сябрах у іх не было, ды і цяжка было іх завесьці, бо сям'я не сядзела на адным месцы.


République Française

Certificat d'études primaires

Liberté Égalité

Fraternité

• *Атэстат аб заканчэньні пачатковай школы ў Францыі на імя Ружы-Казіміры Ждановіч. 1946 год.*

Алена Маразевіч згадвае, што перад ад'ездам з Францыі сям'я мела двухпавярховы дом, у адным пакоі ў ім жылі хлопцы, у іншым — дзяўчаты.



«Наш пакой быў на другім паверсе, я памятаю, як адчыняла ў ім акно і ела вішні», — кажа Алена. Тата працаваў тады ў фэрмэра, дапамагаў ва ўсіх сельскіх справах, старэйшая сястра Марыя даглядала фэрмэрскіх курэй.

Паводле ўспамінаў Ружы Ждановіч адноўлены расклад дня, якога трымалася ў Францыі іхная шматдзетная сям'я.

7-я гадзіна — пад'ём, сьняданак (какава, кава з малаком, бутэрброды з сырам, свойскай вяндлінай).

8–12-я — школа ў дзяцей, праца ў бацькі.

12–14-я — абед (каша з курыным ці трусіным мясам; кампот з булачкамі — маці пякла і булкі, і тарты, рабіла жэле; на дэсэрт дзеці елі дыні, бананы, вінаград і іншую садавіну).

Пасьля абеду — адпачынак, затым дапамога бацькам па хаце, па гаспадарцы, на гародзе: старэйшыя дочкі глядзелі малодшых дзяцей, хлопчыкі даглядалі трусоў.

16-я — падвячорак (як правіла, шакаладная выпечка).

17–20-я — рыхтаваньне да школы, хатняя праца.

20-я — вячэра (суп, часта малочны, зь белым хлебам).

Спаць клаліся пасьля 21-й гадзіны.

## Што абяцалі савецкія агітатары

У Францыі Віктар і Матруна Ждановічы ўступілі ў камуністычную партыю.

«Начамі, як дзеці заснуць, бацькі хадзілі на зборкі, чыталі газэты, сьпявалі рэвалюцыйныя песьні», — згадвала Ружа Ждановіч.

Паводле яе, у 1939 годзе Віктар Ждановіч паўгода сядзеў у францускай турме за сваю камуністычную дзейнасьць, у доме праводзіліператрус, забралі партыйныя білеты.


Carte d'adhérent

Parti Communiste Français

1946

• *Партыйны білет Віктара Ждановіча з факсымільным подпісам сакратара камуністычнай партыі Францыі Марыса Тарэза. 1946 год.*

Падчас Другой усясьветнай вайны сям'я схавалася ад нацыстаў у правінцыі Ардэны, узяўшы толькі самае неабходнае.

У 1946 годзе ў мясцовасьць Вілер-ан-Вэксэн (Villers-en-Vexin),

дзе жылі Ждановічы, з савецкай амбасады ў Парыжы прыехалі агітатары. Яны намаўлялі мігрантаў пераехаць у СССР, пераконваючы, што людзі ў савецкай дзяржаве жывуць лепш, чым у Францыі:

«Казалі, што перамаглі ворага, краіна аднаўленая, нават балоты асушаныя», — згадвала Ружа Ждановіч. Гэтак жа пісалі ў савецкай прэсе, а камуніст Ждановіч чытаў газэту «Известия».

Агітатары паабяцалі сям'і Ждановічаў асобную кватэру ў Ленінградзе і працяг вучобы для дзяцей у ВНУ.

Віктар Пятровіч паверыў. Але заўпарцілася ягоная жонка Матруна, якая незадоўга перад тым нарадзіла сына Юзіка. Агітатары часова адступілі, хоць дакумэнты на Ждановічаў усё ж склалі.

Вярнуліся яны ў 1947 годзе з ужо аформленай дамовай, сталі правяраць, ці гатовая сям'я ехаць і ў якім складзе.

«Бацька быў апантаны, ён пагражаў у выпадку адмовы «засячы» ўсю сям'ю, і напалоханая маці дала згоду», — успамінала іхная дачка Ружа.

Віктар падпісаў адмову ад францускага грамадзянства, і вялікая сям'я накіравалася ў СССР: бацька Віктар, маці Матруна, дзеці Іван, Марыя, Ружа, Віктар, Мікалай, Алена, Георгі, Уладзімер, Міхаіл, Ёсіф.

## Рэпатрыяцыя ў таварным вагоне




• *Бацька з дочкамі: Ружа, Віктар, Ніна, Алена і Марыя Ждановічы. Барысаў. 1953 год.*

У ліпені 1947 году сям'я Ждановічаў з Парыжу выправілася ў дарогу. Да Нямеччыны ехалі францускім пасажырскім цягніком. У савецкай зоне акупацыі Нямеччыны прабылі 15 дзён — у спэцыяльнай зоне для рэпатрыянтаў пад аховай савецкіх салдатаў.

Затым усіх рэпатрыянтаў пасадзілі ў таварны цягнік і праз Нямеччыну павезьлі ў Польшчу. Ехалі два тыдні: ноччу сталі, днём ехалі, зь вялікімі прыпынкамі.

Кармілі ў дарозе чорным хлебам і груцай. Ад кепскага харчаваньня малыя Міша і Юзік захварэлі, ледзь не паўміралі: пачалася мытуха, доўга трымалася высокая тэмпэратура.



Дзеці пакутавалі ад глейкага чорнага хлеба: у Францыі яны бачылі толькі белы. Па дарозе Ждановічы мянялі ў палякаў на станцыях адзеньне і прамысловыя тавары на белы хлеб і іншую ежу. Усё, што было новага, каштоўнага, сышло на гэты абмен.

Віктар перад паездкай сказаў Матруне, што нічога зь ежы браць ня трэба, усё дадуць — так яму абяцалі.

«Калі яны прыехалі ў СССР, то бабуля Матруна ваўком выла і сварылася на мужа. Мая мама Ружа казала, што зразумела ўсё, калі з францускага пасажырскага цягніка перасадзілі ў «таварняк». Малодшыя дзеці адразу пачалі хварэць, маці магла ім даць толькі страшны чорны хлеб і ячную кашу», — кажа Ірына Марковіч.

Вагон з мэбляй, посудам, адзеньнем і бялізнай Ждановічаў падчас пераезду адчапілі і разрабавалі, сям'я пазбавілася большасьці з нажытага ў Францыі. Што мелі пры сабе, абмянялі на ежу. У Барысаў прыехалі безь нічога, фактычна ў галечы.

## Вошы і каўтун у СССР

Кватэру ў абяцаным агітатарамі Ленінградзе савецкія ўлады не далі. Ждановічам сказалі, што гэты горад разбураны, сяліцца там няма дзе, камунальныя кватэры перапоўненыя. У Менску ім таксама не знайшлося месца. Павезьлі ў Барысаў, дзе не хапала рабочай сілы.

У Барысаве спачатку жылі ў гасьцініцы, у вялікім пакоі, дзе было пастаўлена 9 ложкаў. Ад цеснаты і бруду напалі вошы, у Матруны зьявіўся каўтун. Ужо праз тыдзень Віктар Пятровіч і чацьвёра яго старэйшых дзяцей — дзевятнаццацігадовы Іван, шаснаццацігадовая Марыя, пятнаццацігадовая Ружа і чатырнаццацігадовы Віктар — пачалі працаваць на запалкавай фабрыцы. Іншыя дзеці, падрастаючы, таксама папаўнялі шэрагі таго калектыву.



• *Дом у Барысаве, у якім была першая кватэра Ждановічаў. 2018 год.*

Рабілі па 8 гадзін, у тры зьмены, уключаючы суботу, у розных цэхах. Праца была



• *Матруна Ждановіч. Барысаў. 1960 год.*

цяжкая, пыльная і шумная, шкодная для здароўя. Бацька працаваў там жа, на запалкавай фабрыцы, будаўніком, пажарнікам і вартаўніком.

Празь месяц сям'і далі двухпакаёвую кватэру з кухняй у так званым «трумэнаўскім» доме ў Новабарысаве, на праспэкце Рэвалюцыі, 20.

13 чалавек начавалі ў гэтых двух пакоях, спалі пазьменна: пакуль нехта працаваў на заводзе, іншы мог адпачыць. А ў 1951 годзе Ждановічы атрымалі ад фабрыкі новую кватэру на праспэкце Рэвалюцыі, дом 10.

Тут былі 2 вялікія пакоі, кухня, ванны пакой, туалет. Быў яшчэ трэці пакой, але ў ім пасялілі іншую сям'ю з малым дзіцём.

Ежы было мала і яна была кепская, бацьку з прычыны язвы хірургі выразалі дзьве трэці страўніка. Хварэлі і дзеці. Заробленых на фабрыцы грошай на харчы не хапала, Матруна была ў роспачы, ня ведала, чым накарміць дзяцей.

Дапамогу ад дзяржавы яна атрымлівала вельмі малую і толькі на малодшую дачку Ніну, якая нарадзілася ўжо ў СССР.

Матруна часта дакарала мужа за ягонае рашэньне прыехаць у СССР. «А чаму ты тут не выступаеш за праўду?» — горка пыталася яна. Віктар у адказ толькі маўчаў, апусьціўшы галаву.

У камуністычную партыю Савецкага Саюзу ён не ўступіў.

## Лёс Лёлі і Ружы

Алена Ждановіч памятае сапраўдную галадоўлю ў сям'і ў 1947 годзе, згадвае, што жыць па прыезьдзе было вельмі цяжка. У Барысаве ў 12 гадоў яна пайшла ў першую клясу савецкай школы, калі яе аднаклясьнікам было па 7 гадоў. Яна, як і іншыя дзеці Ждановічаў, спачатку зусім ня ўмела гаварыць па-беларуску і па-расейску:

«Мне кажуць нешта, а я адказаць не магу, махаю рукою, — кажа Алена Віктараўна. — Неяк мяне паслалі ў краму па «маркоўку», я гэтае



слова сказала, як умела, а мне далі махорку. Прынесла дамоў, а мама дзівіцца, пытае бацьку:

«Ты навошта яе махорку прасіў купіць? Ты ж ня курыш, здаецца».

У Алены дагэтуль захаваўся моцны францускі акцэнт, лічыць яна і цяпер толькі па-француску: «Un, deux, trois» і загінае пальцы.

«Закончыла я тут толькі 4 клясы, у пятую не перайшла, бо па беларускай мове мела адны двойкі. Настаўніца беларускай мовы нават на паўгода ўзяла мяне жыць да сябе дамоў, я ёй дапамагала па гаспадарцы, а яна рыхтавала мяне да экзамэну, але з гэтага нічога не атрымалася», — кажа Алена.

Алена Ждановіч пайшла працаваць у 16 гадоў: спачатку ў інтэрнаце фанэрна-запалкавай фабрыкі грэла «тытан» з гарачай вадой, потым перабірала драўляныя лыжачкі для марозіва. Але гэта было нядоўга: неўзабаве пачала цяжка працаваць на тартаку фанэрна-запалкавай фабрыкі, дзе расьпілоўвала на станку бярвёны, складвала дошкі. У цэху перапрацоўкі дошак яна неяк атрымала траўму — рукаў зацягнула ў неізаляваны мэханізм, параніла руку. Начальнік тады крычаў на яе тату:

«Француз, глядзі, твая дачка наўмысна паранілася!»



• *Алена Ждановіч (Маразевіч) з партрэтам сясьцёр Марыі і Ружы, зробленым у Беларусі. Барысаў. 2018 год.*



• *Вясельны здымак Ружы Ждановіч і Генадзя Марковіча. Барысаў. 1956 год.*

Але тады нікога не судзілі за парушэньне правілаў бясьпекі.

Алена атрымала сваю двухпакаёвую кватэру пасьля таго, як адпрацавала на фабрыцы 13 гадоў. Да таго жыльлё здымала.

Перад пэнсіяй Алена працавала ў цэху ДСП, пражыўляла драўнінна-стружкавыя пліты адмысловым алеем. На запалкавай фабрыцы агулам адпрацавала 38 гадоў і 3 месяцы, пайшла на пэнсію ў 55 гадоў. Яе муж Міхаіл Маразевіч памёр, маючы 52 гады. Яны з мужам выгадавалі дзьвюх дачок — Людмілу і Галіну.

Людзі дагэтуль завуць Алену француржанкай, як і яе бацькоў, сясьцёр і братоў. Сама ж яна сябе лічыць беларускай. Цяпер яна добра разумее беларускую мову, а гаворыць на беларуска-расейскай трасянцы з моцным французскім акцэнтам, а часам і з французскімі словамі.

Старэйшай Аленінай сястры Ружы Ждановіч па прыезьдзе ў СССР прапаноўвалі паступаць у Інстытут замежных моваў, але трэба было ехаць у Менск, за нешта там жыць, а дапамагчы не было каму.

Пасьля 7 клясаў французскай школы Ружа больш не вучылася. З 15 гадоў яна пайшла працаваць на запалкавую фабрыку. Амаль усё працоўнае жыцьцё працавала ў каробачным цэху, вырабляла пушкі для запалак. Перад пэнсіяй стала мачальніцай, мачала гэтыя запалкі ў серу. Ружа мела працоўны стаж 32 гады. Да пэнсійнага ўзросту на працы не дабыла, бо мела на скуры экзэму ад серы і хварэла на артроз ног. 10 гадоў, да сьмерці, Ружа кепска хадзіла: ногі ня слухаліся праз хваробы, выкліканыя стаячай працай.



• *Ружа Марковіч.*

З мужам Генадзем Марковічам Ружа выгадавала чатырох дзяцей: Ірыну, Галіну, Алену і Ўладзімера. Жылі яны ў драўляным доме Генадзевых бацькоў, перавезеным зь вёскі ў прыватны сэктар старой часткі Барысава ў 1925 годзе.

Памерла Ружа Віктараўна ў веку 86 гадоў.



## Савецкі погляд на сям'ю з Францыі

У 1957 годзе да сям'і Ждановічаў зь Менску ў Барысаў прыехалі карэспандэнты часопіса для жанчын «Работніца і сялянка». Гэты часопіс выходзіць з 1924 году на беларускай мове, у 1995 годзе быў пераназваны ў «Алесю». У савецкі час ён быў вельмі папулярным за кошт матэрыялаў на «жаночыя тэмы» і розных выкраяў шыць адзеньне.

Па выніках паездкі журналісты напісалі ад імя маці-гераіні Матруны Ждановіч артыкул пад назвай «Нам шчасьце дала радзіма», які выйшаў у нумары да 40-годзьдзя камуністычнай кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 году.

У савецкай прэсе журналісты часта пісалі ад імя рабочых і калгасьнікаў, часам непісьменных, артыкулы і водгукі на партыйныя рашэньні і юбілеі, ствараючы ілюзію ўсенароднай падтрымкі кіроўнай камуністычнай партыі.

«У гэтай публікацыі не было і 10 працэнтаў праўды», — кажа пра артыкул у «Работніцы і сялянцы» ўнучка Матруны Ждановіч Ірына Марковіч. Яна сама трапіла ў тую публікацыю немаўлём — на фатаграфіі зь сястрой Галінай. Подпіс пад іхным фота ў канцы артыкула: «А гэта любімыя ўнучкі Матруны Несьцераўны блізьняты Галя і Іра».

На іншым фота Матруна Несьцераўна і Віктар Пятровіч Ждановічы зь дзецьмі Міхаілам, Мікалаем, Ёсіфам, Мар'яй і Нінай сядзяць за сталом у пакоі зь фікусам. Сабраць усіх дзяцей менскім журналістам так і не ўдалося, частка была на працы на фанэрна-запалкавай фабрыцы. Былі яшчэ фота з расьпілоўнага цэху, дзе бачна, як Алена Ждановіч працуе зь бярвёнамі на тартаку: яна ў цёмнай хустцы, трымае ў руках вагар станка і слухае наказы сваёй напарніцы Каці Саматыгі. На іншых фота за працай паказаныя каробачніца Ружа і наладчык Ягор Ждановічы.

Прайшло 10 гадоў, як сям'я Ждановічаў пераехала ў СССР з Францыі, і Матруна ў напісаным за яе артыкуле нібыта сама піша савецкімі прапагандысцкімі штампамі тых часоў:

«У радасныя дні 40-годзьдзя Вялікага Кастрычніка споўнілася дзесяць год, як наша мнагадзетная сям'я пасьля доўгіх гадоў нявольніцкага бадзяньня па чужыне назаўсёды вярнулася на Радзіму. У Барысаў мы прыехалі восеньню 1947 году і адразу адчулі гарачыя клопаты маці-Радзімы. Аб беспрацоўі, якое неадступным ценем крочыла за намі, як і за іншымі працоўнымі Францыі, засталіся толькі цяжкія ўспаміны. Ужо праз два дні пасьля нашага прыезду гарадзкі Савет дэпутатаў працоўных паклапаціўся аб тым, каб працу прадаставілі ўсім дарослым членам

нашай сям'і. Зараз на фанэрна-запалкавым камбінаце працуе шасьцёра маіх дзяцей, муж, а таксама дзьве нявесткі.

Дырэкцыя, партыйная і прафсаюзная арганізацыі камбінату паклапаціліся стварыць усе ўмовы, неабходныя для жыцьця і працы нашай мнагадзетнай сям'і. Дочкі Мар'я і Роза працуюць на каробкаклейных машынах. Лілія — цыркулярніца пляначнага цэху, сын Віктар — электрамантэр, Георгі — наладчык аўтаматнага цэху, Іван — зьбівальнік скрынак з гатовай прадукцыяй. Мой муж Віктар Пятровіч працуе байцом у проціпажарнай ахове. Хоць яму 59 гадоў, ён адчувае сябе яшчэ здаровым і бадзёрым. Сын Мікалай працуе сьлесарам у гаржылкіраўніцтве. Жывем мы ў поўным дастатку, культурна».

У артыкуле згадваюцца і малодшыя дзеці: Міша, які ходзіць у 6 клясу школы, пяціклясьнік Юзік, Валодзя, які вучыцца на сьлесара ў рамеснай вучэльні, і малодшая дачка Ніна, якой толькі 6 гадоў, яна нарадзілася ўжо ў СССР і «рыхтуецца да школы».

«Усе дзеці добра апранутыя і абутыя, у гэтым нам памагае дзяржава. Толькі аднаразовай дапамогі і пэнсіі мы атрымалі больш за 20 тысяч рублёў», — піша маці-гераіня.


Нам шчасце дала Радзіма

• *Артыкул у часопісе «Работніца і сялянка» за 1957 год пра сям'ю Ждановічаў.*



Матруна Ждановіч таксама паведамляе, што кіраўніцтва камбінату вылучыла для сям'і трохпакаёвую кватэру ў Барысаве ў доме на праспэкце Рэвалюцыі і дапамагае палівам.

«Радуючыся свайму жыцьцю ў сацыялістычнай краіне, міжвольна ўспамінаем наша горкае і бяспраўнае жыцьцё ў Францыі і ў былой панскай Польшчы… У Францыю мы выехалі ў 1929 годзе і адпакутавалі там 18 гадоў. У краіне хвалёнай заходняй дэмакратыі нас напаткаў цяжкі лёс. Спачатку муж працаваў на рудніках каля Люксэмбургу. Гэта была сапраўдная катарга. Часта здараліся няшчасныя выпадкі. Калі скончыўся кантракт, муж перайшоў на шахты іншага капіталіста. Але хрэн за рэдзьку не саладзейшы. Папрацаваў ён тут грузчыкам вугалю два тыдні, захварэў і яго разьлічылі. Наша мнагадзетная сям'я галадала… Нас не пакідала думка вярнуцца на Радзіму. Зь вялікімі цяжкасьцямі мужу ўдалося пешшу дабрацца да Парыжу і зайсьці ў савецкае консульства».

Артыкул завяршаецца падзякамі савецкай уладзе і абяцаньнямі самаадданай працы. Гэта ўнікальная ілюстрацыя таго, як груба хлусіла савецкая ўлада і як яна выкарыстала добраахвотных перасяленцаў з Францыі для антызаходняй і пракамуністычнай ідэалягічнай кампаніі. Магчыма, для гэтага іх і выманьвалі з Францыі.

## Як склалася жыцьцё барысаўскіх французаў

Галава сям'і **Віктар Ждановіч** перанёс дзьве апэрацыі на страўніку, хварэў на артроз ног, пасьля выхаду на пэнсію гадаваў унукаў, пра Францыю згадваць не любіў. Памёр у 84 гады.

**Матруна Ждановіч** указам прэзыдыюму Вярхоўнага савету СССР атрымала званьне «Маці-гераіня», нідзе не працавала, была занятая дзецьмі і гаспадаркай. Каб пракарміць сям'ю, пачала прадаваць самагон. Сама хварэла на цыроз пячонкі, памерла ў веку 58 гадоў.

Найстарэйшы сын **Іван** зьбіваў скрыні на запалкавай фабрыцы, хварэў на поліяміеліт, перанёс некалькі апэрацыяў, застаўся без нагі. Памёр у 57 гадоў.



• *Іван Ждановіч. Барысаў. 1955 год.*



• *Ружа, Георгі і Марыя Ждановічы. Барысаў. 1955 год.*

Старэйшая дачка **Марыя** працавала на запалкавай фабрыцы ў каробачным цэху, кватэру на сваю сям'ю атрымала перад самай пэнсіяй. Памерла ў 80 гадоў.

Дачка **Ружа** працавала на той жа фабрыцы каробачніцай і мачальніцай. Мела 4 дзяцей і шмат ўнукаў, памерла ў 86 гадоў.

Сын Віктар Ждановіч адзіны з усіх атрымаў вышэйшую адукацыю — скончыў Політэхнічны інстытут у Менску, паступіў туды з трэцяй спробы, ніяк ня мог напісаць на здавальняючую адзнаку дыктоўку па расейскай мове. Быў інжынэрам, памёр ад раку лёгкіх у 73 гады.

Сын **Мікалай** у Барысаве 4 гады хадзіў у школу, пазьней працаваў на запалкавай фабрыцы. Памёр у 43 гады ад сардэчнай недастатковасьці.

Дачка **Алена** атрымала пачатковую адукацыю, працавала ў расьпілвачным цэху запалкавай фабрыкі. Мае 84 гады (нарадзілася 26 красавіка 1935), дапамагае гадаваць унукаў і праўнукаў.

Сын **Георгі** пасьля сямігодкі працаваў сьлесарам на той жа фабрыцы, хварэў на цыроз пячонкі, вылекаваўся ад алькагалізму, дажыў да 67 гадоў.

Сын **Уладзімер** паехаў вучыцца ў Менск, быў рамонтнікам, пасьля 1993 году вестак ад яго няма.

Сын **Міхаіл** працаваў рознарабочым, пабываў у турме, двойчы разьвёўся, піў, памёр у 47 гадоў ад сардэчнага прыступу.

Сын **Ёсіф** працаваў мулярам і мачальнікам на запалкавай фабрыцы, таксама піў і памёр у 47 гадоў.

Малодшая дачка **Ніна**, якая нарадзілася ўжо ў СССР у 1951 годзе, лячылася ад алькагалізму, яе дачку Сьвятлану нейкі час выхоўвала сястра





• *Будынак аб'яднаньня «Барысаўдрэў», былая запалкавая фабрыка. Цяпер тут запалак амаль не вырабляюць. 2018 год.*

Ружа. Сьвятлана загінула пры нявысьветленых абставінах. Ніна працавала на запалкавай фабрыцы і даяркай у калгасе. Жыве ў вёсцы ў Віцебскай вобласьці, трымае гаспадарку.

Як апавядала Ірына Марковіч, у Барысаў па вайне прыехалі каля дзясятка францускіх сем'яў, ня ўсе яны былі шматдзетнымі, але ўсе не ўладкаваліся, жылі блага. У суседстве са Ждановічамі пасялілася бязьдзетная пара сталейшага веку, дык праз год яны памерлі.

Гады адукацыі ў Францыі дзецям Ждановічаў у СССР не залічылі, у Барысаве вучыцца пайшлі толькі малодшыя дзеці і ў большасьці змаглі скончыць толькі пачатковую школу.

Калі дзеці Ждановічаў зьбіраліся разам, яны гутарылі і сьпявалі па-француску, сумавалі па радзіме, на якой больш так і не пабывалі. Толькі некаторыя іхныя дзеці і ўнукі змаглі атрымаць вышэйшую адукацыю і рэалізаваць сябе па-за межамі шкоднай вытворчасьці на запалкавай фабрыцы.

Ружа Марковіч са сваімі дзецьмі гаварыла па-француску, аддала іх у Барысаве у школу з францускай мовай як замежнай. Яе дачка Галіна Піляева цікавілася гісторыяй француска-савецкага авіяпалка «Нармандыя-Нёман», што дзейнічаў у часе Другой усясьветнай вайны, перапісвалася зь яго францускімі лётнікамі, была старшынёй клюбу «Нармандыя-Нёман». Яна закончыла Інстытут замежных моваў і 30 гадоў



• *Ірына Марковіч з патрэтам маці Ружы Ждановіч. Барысаў, 2018 год.*

выкладала школьнікам французскую мову. У 1993 годзе Галіна наведала Францыю — Страсбург.

Адна з праўнучак Матруны і Віктара, дачка Галіны Надзея таксама скончыла факультэт французскай мовы, некалькі разоў пабывала ў Францыі, у тым ліку ў мясьцінах, дзе жылі яе бабуля Ружа, прадзед і прабаба.

У красавіку 2019 году дачка Ружы Марковіч Ірына зьдзейсьніла мару жыцьця — разам з пляменьніцай Надзеяй наведала Парыж, пабачыла ягоныя славутасцьці, у тым ліку Люўр, Эйфэлеву вежу, сабор Парыскай Маці Божай; гэта было ўжо пасьля страшнага пажару, які зьнішчыў сьпічак знакамітага храму.

«Я разьвітаюся з горадам маёй мары, месцам юнацтва маёй дарагой маці. Але Парыж, цяпер ужо мой Парыж, застанецца ў сэрцы назаўсёды», — напісала Ірына Марковіч у канцы свайго апавяданьня «Парыж. Фатаздымкі на памяць» пра паездку ў Францыю.

Цётцы Алене Ірына прывезла сувэнір — хустку зь відамі Парыжу.

## Песьні французскага дзяцінства

У вялікім драўляным доме ў прыватным сэктары Барысава, дзе жыла сям’я Ружы Марковіч, зьберагլося некалькі старанна сьпісаных сшыткаў зь вершамі і песьнямі на французскай мове. Зь іх сьпявалі дзеці Ждановічаў, калі зьбіраліся разам пасьля працы. Цяпер амаль ніхто зь вялікай сям’і ня памятае, як іх сьпяваць. Толькі Алена Маразевіч на





маю просьбу прапяяць што-небудзь зь яе дзяцінства змагла прыгадаць па некалькі строфаў песень пра Чырвонага Каптурка, пра маленькага коціка і пра селяніна, які распрагае валоў ды йдзе ў дом, дзе зваблива пахне яблычны пірог, прыгатаваны жонкай. Гэтыя песьні, вывучаныя ў Францыі, яна, Ружа Марковіч і іншыя сёстры сьпявалі над калыскамі сваіх дзяцей і ўнукаў.

Алена Маразевіч праз 70 гадоў пасьля ад’езду з Францыі памятае папулярную песьню пра даверлівую дзяўчынку і хлусьлівага драпежнага ваўка «Le Petit Chaperon Rouge» на словы Францоаз Жыру і музыку Люі Гастэ (Françoise Giroud, Louis Gasté). Песьню запісала ў 1946 годзе прыгожая сьпявачка Лізэт Жамбэль (Lisette Jambel, 1924–1976). Дзеці Ждановічаў яе напэўна ня бачылі, тэлевізараў тады не было, але маглі чуць з радыё:

*Le petit chaperon rouge*
*Trottinait dans les grands bois*
*Quand soudain une ombre bouge,*
*C’est un loup, un gros loup à l’œil sournois*
*Qui se dit en voyant la gamine,*
*J’ai besoin de vitamines*
*Je vais faire un bon petit repas froid.*
*Tire, tire la chevillette,*
*Tire et la bobinette cherra…**

Песьня, як і казка пра Чырвонага Каптурка Шарля Пэро (Charles Perrault, 1628–1703), завяршаецца добра, але так не заўсёды бывае ў жыцьці.

---

* Маленькая дзяўчынка Чырвоны Каптурок
Тупала сабе па вялікім лесе,
Як раптам цень хітнуўся,
Гэта воўк, ваўчына з хіжым вокам,
І кажа ён сабе, пабачыўшы дзяўчо:
Мне трэба вітамінаў,
Зраблю сабе добры перакус.
Пацягні, пацягні за затычку,
Пацягні, і клямка ўпадзе…

# ГІСТОРЫЯ СЯМ'І ГАНЧАРЫКАЎ. ЯК КУПІЛІ СВАЮ ЗЯМЛЮ, А ТРАПІЛІ Ў КАЛГАС



• *Танец гуртка дзяцей эмігрантаў з Польшчы. Ганна Ганчарык — другая зьлева. Надпісы на фуражках па-польску: «Marynarka» — марскі флёт. Францыя. 1946 год.*



• *Ганна Ганчарык капае бульбу. Беларусь, Валожынскі раён, вёска Нелюбы. 2001 год.*

Паміж гэтымі дзьвюма фатаграфіямі каля 55 гадоў. На першым здымку Аня Ганчарык у складзе танцавальнага гуртка польскай моладзі ў горадзе Руўруа у Францыі, ёй каля 15 гадоў.

Фатограф ухапіў яе ў яркі момант танцу, яна адзетая ў «матроску», прыгожая, жвавая, разагрэтая скокамі, вочы гараць ад радасьці. За яе плячыма пачатковая французская школа з добрымі адзнакамі. Яна плянавала вучыцца далей, марыла стаць краўчыхай. На Дзень закаханых атрымлівала ад свайго кавалера валянцінкі з фатаграфіямі.

На другім здымку Ганна Ёсіфаўна Ганчарык на полі ў Валожынскім раёне, ёй 70 гадоў, гэта стомленая старая жанчына, пальцы пакручаныя артрытам ад ручнога даеньня кароў і начнога шыцьця для дзяцей калгаснага начальства. Не такой яна бачыла ў юнацтве сваю будучыню — каб усё жыцьцё змагацца за выжываньне, даказваць сваю вартасьць. Бацькі не спыталі яе думкі, калі вырашылі ў 1947 годзе пераехаць з Францыі ў СССР.

Ганна Ганчарык нарадзілася ў 1931 годзе ў камуне Руўруа (Rouvroy) у дэпартамэнце Па-дэ-Кале (Pas-de-Calais), рэгіён О-дэ-Франс (Hauts-de-France). Памерла ў 2016 годзе ў вёсцы Нелюбы Валожынскага раёну.





• *Маленькая Ганна Ганчарык пасьля хрэсьбін на руках у мамы. Францыя. 1931 год.*


ROUVROY

BULLETIN DE NAISSANCE

ARRAS

• *Пасьведаньне аб нараджэньні Ганны Ганчарык 7 красавіка 1931 году.*

Пра лёс Ганны Ганчарык мне расказвае яе дачка Людміла Казлоўская. Мы сядзім у яе стандартнай савецкай кватэры ў жылым масіве Серабранцы на ўскраіне Менску.

Людміла Фёдараўна вырашыла расказаць пра сваю маму пасьля аднаго прыкрага выпадку незадоўга да мамінай сьмерці. Ганна Ганчарык увогуле старалася нікому не гаварыць пра сваё французскае дзяцінства, нават дачцэ, але ў канцы жыцьця расказала ў лякарні незнаёмым жанчынам, а тыя высьмеялі яе.

«Калі ў мамы быў інсульт, яна ляжала ў Валожынскім раённым шпіталі. Я неяк заходжу да яе ў палату, а там бачу такое ўзбуджэньне. У палаце тры жанчыны і мая мама, якая ўжо рухацца не магла. Яна расказала гэтым жанчынам пра сваё жыцьцё — і ніхто ёй не паверыў, вырашылі, што старая ад хваробы звар’яцела. Тады яна папрасіла мяне пацьвердзіць, што ўсё, што яна сказала, — праўда. Я патлумачыла жанчынам, што яна сапраўды нарадзілася і вырасла ў Францыі. І тады мама супакоілася. Я не пайшла б у французскую амбасаду, калі б ня гэты выпадак. Яна ў апошнія дні жыцьця яшчэ хацела нешта расказаць, але не пасьпела», — кажа Людміла Казлоўская.

Гісторыю сям’і французаў Ганчарыкаў мы зь Людмілай Фёдараўнай аднаўляем па каліву: яе маці, дзядуля і бабуля ў савецкі час хавалі сваё французскае мінулае, на яго ў сям’і было сапраўднае табу. Па-першае, баяліся непрыемнасьцяў з боку ўладаў, рэпрэсіяў, ад якіх пацярпелі іншыя перасяленцы з Францыі, а па-другое, разумелі, што нічога ўжо ня вернеш.

## Забаронены куфар

Людміла Казлоўская памятае зь дзяцінства, як ў бабулінай хаце ў вёсцы Нелюбы на гарышчы стаяў драўляны куфар, акаваны жалезам. Бабуля Агата Сьцяпанаўна напрамілы бог забараняла ёй лазіць на гарышча і адчыняць гэты куфар. Аднойчы, калі бабулі не было ў хаце, Людміла



ўсё ж залезла на гарышча і адчыніла вечка куфра.



• *У архіве Ганчарыкаў засталіся дзясяткі паштовак, валянцінак, іконак з Францыі.*

«Там было шмат выкраяў маёй бабулі, таксама я знайшла вельмі шмат сямейных фатаграфіяў, польскі буквар. Тады акурат нікога дома не было, ніхто б не даведаўся, калі б я не дастала гэты буквар. Я разумела, што гэта чужая мова. Я яго выцягнула, бо мне хацелася самой у ім разабрацца. Потым шукала далей, натрапіла на фатаграфіі, паштоўкі. Там было шмат здымкаў. Былі фатаграфіі людзей, якіх я зусім ня ведала, а на іншых я бачыла сваіх родных», — згадвае Людміла Фёдараўна сваю прыгоду праз 60 гадоў.

Тады бабуля ўбачыла буквар, моцна насварылася і ўсё забрала, сказала, што гэта чужое і чапаць яго нельга, забараніла падымацца на гарышча і набліжацца да куфра.

Пасьля сьмерці бабулі куфар перайшоў да мамы, якая пазьней казала, што нічога такога ў яе няма, што дачка нібыта ўсё прыдумала.

Цяпер сямейныя фатаграфіі, дакумэнты і паштоўкі перайшлі да Людмілы Фёдараўны. Сярод іх два пасьведчаньні мамы Ганны Ганчарык з Францыі: аб нараджэньні і аб заканчэньні пачатковай школы. Людміла Фёдараўна ня ведае французскай мовы, яна пайшла ў амбасаду Францыі, там ёй пераклалі і правільна назвалі месца, дзе нарадзілася мама: горад Руўруа, Па-дэ-Кале.

Дзе цяпер гэты калісьці забаронены куфар, Людміла Фёдараўна ня ведае, недзе зьнік за прамінулы час. Зь ім разам зьнікла шмат французскіх сямейных здымкаў.

## Француз і Французіха



• *Ёсіф і Агата Ганчарыкі. Францыя. 1931 год.*

Бабуля і дзядуля імкнуліся «аберагчы» ўнучку Людмілу ад французскай гісторыі іхнае сям'і, але цалкам схаваць не маглі. Хоць бы таму, што дзеда ў вёсцы называлі Французам, а бабулю — Французіхай.

«Француз» Ёсіф Ганчарык (1900–1963) паходзіў зь вёскі Нелюбы на Валожыншчыне. У яго не было імя па бацьку, бо бацька ягоны быў невядомы. У Польшчы і Францыі гэта яму не замінала, бо там у дакумэнтах няма графы «імя па бацьку». Пытаньні ўзьнікалі ўжо ў СССР. Быў ён зь вельмі беднай сям'і.

«Французіха» Агата Сьцяпанаўна Ганчарык (1906–1981) з гэтых жа Нелюбаў. У 1929 годзе яны пабраліся шлюбам і пераехалі ў Францыю, дзед уладкаваўся на вугальную шахту ў дэпартамэнце Па-дэ-Кале, дзе было шмат выхадцаў зь міжваеннай Польшчы. У 1931 годзе ў іх нарадзілася адзіная дачка Ганна.



• *Маці Агата Ганчарык была актывісткай Арганізацыі польскіх жанчын у Руўруа. Трэцяя справа ў першым шэрагу. 1940-я гады.*



Праца шахтара была вельмі цяжкая, але добра аплачвалася. Бабуля ў Францыі ніколі не працавала, займалася домам і падсобнай гаспадаркай, вышывала, рабіла пярыны. Яе таксама цікавіла грамадзкая дзейнасьць, яна брала ўдзел у жаночай арганізацыі польскай эміграцыі, захаваліся здымкі з імпрэзаў, дзе яна ўдзельнічала. Ганна ўваходзіла ў Францыі ў польскую моладзевую арганізацыю.



• *Ганна Ганчарык у Францыі. 1938 год.*

Пасьля прыезду ў сям'і імкнуліся не гаварыць пра Францыю, не вярэдзіць душу ўспамінамі, але часам строгая бабуля Агата не вытрымлівала сама, кажа яе ўнучка Людміла:

«Бабуля неяк казала: як жа мы добра жылі ў Францыі! Расказвала пра экзатычную садавіну, гародніну, якіх мы зусім ня ведалі. Яна іх называла па-польску. А мы з стрыечнай сястрой яе распытвалі, а як гэта выглядае, а які смак».

## Свая зямля

Падчас жыцьця ў Францыі найважнейшае для сям'і Ганчарыкаў было ашчаджаць і адкладваць заробленыя ў Францыі грошы, расказвае Людміла Фёдараўна.

«Яны марылі прыехаць на радзіму і купіць зямлю. У той час працавітыя людзі, якія мелі зямлю, тут добра жылі, — кажа Людміла Фёдараўна. — І неяк у канцы трыццатых гадоў мая бабуля з малой дачкой прыехала з Францыі на радзіму і купіла тут зямлю. Гэты ўчастак яна аддала ў карыстаньне сваёй сястры. Муж той сястры быў як на тыя часы даволі забясьпечаным чалавекам, і гэтая зямля яму лішняй не была».

Потым на гэтым жа ўчастку Ганчарыкі паставілі сваю першую ў Беларусі хату, але купленую за заробленыя ў Францыі грошы зямлю саветы забралі ў калгас.

«У 1990-я гады, калі ўсе пачалі марыць, як вярнуць што ў каго было, мама адмаўлялася казаць, дзе была іхная зямля. Яна далей баялася, хоць ужо можна было пра гэта гаварыць».



• *У 1945 годзе Ганна Ганчарык закончыла школу ў Францыі.*

У часе Другой усясьветнай вайны, калі ў Францыі пачаліся баі і бамбаваньні, Агата з дачкой пайшлі са свайго гораду разам зь іншымі ўцекачамі. Ганьне тады надзелі на сьпіну падушачку, а сьпераду — торбу з харчамі. Бацька ж заставаўся на шахце. Потым Агата з дачкой вярнуліся дамоў, вайна для іх прайшла лёгка.

## Дачку не спыталі

Па вайне Ёсіф і Агата трапілі пад уплыў французскіх камуністаў і агітатараў за рэпатрыяцыю з Саюзу савецкіх патрыётаў. Ёсіф быў прыхільнікам Французскай камуністычнай партыі, як і некаторыя іншыя выхадцы зь міжваеннай Польшчы.

Савецкія дыпляматы паабяцалі Ганчарыкам, што яны атрымаюць у СССР працу, жыльлё, наагул добрыя ўмовы для жыцьця. Ёсіф пагадзіўся, Агата не была супраць, а дачку Ганну і не пыталі.

У 1947 годзе сям'я Ганчарыкаў адправілася з Францыі ў СССР, плылі пасажырскім караблём у Адэсу. Чамусьці ў сям'і запомнілася, што гэта быў белы параход. Пакуль плылі, усе былі радасныя і шчасьлівыя, што едуць дадому. Калі ж карабель прыплыў і рэпатрыянты сышлі зь яго, то былі шакаваныя ўбачаным на беразе: проста ў марскім порце Адэсы







• *Віншавальная паштоўка на імя «мадэмуазэль Ганна Ганчарык». Падпісаная Манікам, «сябрам, які думае пра вас». Францыя. Сярэдзіна 1940-х гадоў.*



абарваныя і брудныя дзеці на сьметніку шукалі сабе ежы. Тады да вяртанцаў дайшло, куды яны трапілі. Савецкія ўлады адразу забралі ў іх пашпарты і больш не вярнулі.

З Адэсы Ганчарыкі трапілі на Данбас, у горад Енакіева, дзед пачаў працаваць на вугальнай шахце. Разам з Ганчарыкамі ў Енакіева прыбылі з Францыі сем іншых сем'яў. Ім далі сьціплае жыльлё і хлебныя карткі.

На Данбасе «французам» жыць было цяжка, кажа Людміла Фёдараўна. У Ганны скралі паліто і харчовыя карткі: мясцовыя бачылі, што яны мелі іншую, несавецкую вопратку, таму і кралі.

16-гадовая Ганна Ганчарык атрымала ў Енакіеве першае працоўнае месца — яе ўзялі на мясцовую швальную фабрыку. У сям'і захавалася яе працоўная кніжка, дзе ўсяго два запісы: праз пяць месяцаў пасьля ўладкаваньня на працу яна была звольненая «ў сувязі зь пераездам на новае месца жыхарства».



• *Працоўная кніжка Ганны Ганчарык, дзе пазначана першае працоўнае месца ў СССР — Енакіеўская швальна-абутковая фабрыка. Украіна, Данецкая вобласьць. 1947 год.*

Ёсіф неўзабаве моцна захварэў і папрасіў савецкія ўлады адпусьціць яго зь сям'ёй на радзіму — у Беларусь.

«Дзядуля захварэў, калі яны былі на Данбасе, можа гэта і падштурхнула іх паехаць у вёску; думаю, ён ад перажываньняў захварэў. Ён і бабуля абодва разумелі, што, прыехаўшы ў СССР, яны зрабілі няправільна, але назад ужо ня вернеш. Пераехаць ім было няпроста, за імі быў асаблівы нагляд, але паколькі ў іх у Беларусі былі сваякі, то іх туды адпусьцілі», — кажа Людміла Фёдараўна.

## У беларускім калгасе

Сям'я Ганчарыкаў прыехала ў вёску Нéлюбы Валожынскага раёну, а праз нейкі час з Данбасу прыехала машына зь іхнымі французскімі рэчамі. Рэчы не было куды раскладваць, то заладавалі да суседзяў у

гумно. Вольнай хаты для іх не было, пасяліліся ў суседзяў у алейні — месцы, дзе білі сланечнікавы алей. Там была земляная падлога, па ёй яшчэ ў канцы 1950-х хадзіла малая Людміла.

Потым Ганчарыкі купілі ў суседняй вёсцы хату на знос. Уся радня дапамагала ім пабудавацца. Хата была невялікая, усяго адзін пакой, сенцы і варыўня, у якой зьберагалі бульбу. Зямля на той момант яшчэ не была калгаснай, калгасы прыйшлі сюды даволі позна, у 1950–51 гадах.

Ёсіф прыехаў у родную вёску хворы, спрацаваны, яму было цяжка дыхаць, і ён у калгас ужо не пайшоў. А Агата пайшла, зарабляла працадні. Ёсіф часта сядзеў пад хатай, мог хіба даць трусам травы.

«Яго зламала цяжкая праца і тое, што зь ім здарылася пасьля пераезду. Камуністычная партыя ўжо яго ня вабіла», — кажа Людміла Фёдараўна. Ёй было 12 гадоў, калі дзядуля памёр.

На працадні бабуля і маці атрымлівалі мала, таму жылі коштам сваёй прысядзібнай гаспадаркі: у бабулі заставалася каля 50 сотак зямлі, столькі ж было пазьней і ў мамы.

Ганна Ганчарык па прыезьдзе ў СССР далей вучыцца не змагла, бо ня ведала ні беларускай, ні расейскай мовы, і пайшла працаваць. Яе бацькі самі былі неадукаваныя і нічога не зрабілі, каб яна змагла вучыцца.

Ганна да канца жыцьця так і не навучылася пісаць па-расейску і па-беларуску, але чытаць магла. Гаварыла яна па-беларуску з моцным французскім акцэнтам, але ня ўсе словы ёй удавалася правільна вымавіць. Напрыклад, чамусьці яна не магла правільна сказаць слова «сонца», вымаўляла блізка да польскай, але з французскім пранонсам «слоньца».

У Францыі Ганна Ганчарык закончыла пачатковую школу і паступіла ў кравецкі каледж. Закончыла толькі адзін год, навучылася асноўным апэрацыям — як шыць, як абкідаць краі адзеньня, давучыцца на краўчыху не пасьпела — бацькі забралі яе ў СССР. Але год вучобы ў Францыі даў Ганьне Ганчарык кавалак хлеба ў самыя змрочныя часы ў Савецкім Саюзе — яна ўмела шыць і гэтым зарабляла, кроіць навучылася сама. Бо за цяжкую працу ў калгасе амаль не плацілі — запісвалі палачкі-працадні.

«Я б ня вытрымала ўсяго таго, што вытрымала мама, — кажа Людміла Фёдараўна. — Яна шыла людзям, а хадзілі падатковыя інспэктары, правяралі. Тады коўдрамі вокны завешвалі, і яна ў поцемках сядзела і шыла пры газьніцы. Уся вёска да яе хадзіла і суседнія. Прыходзілі ў тым ліку калгасныя начальнікі, у каго дочкі былі, то ў першую чаргу трэба



было шыць для іх. А самой сабе пашыць не было часу. Да апошніх дзён жыцьця маці шыла».

У вёсцы на французаў адны глядзелі са спачуваньнем, іншыя зларадічалі, а нехта хацеў і насаліць.

## Французскі вэлюм

У сямейным архіве захавалася фота зь першай камуніі Ганны Ганчарык у Францыі ў 1941-м. Ёй тады якраз споўнілася дзесяць гадоў. На гэтым фота Ганна мае прыгожы вэлюм, у якім яна першы раз пайшла да споведзі ў касьцёл.



• *Ганна Ганчарык у вэлюме пасьля першай камуніі ў касьцёле. Францыя. 1941 год.*

У вёсцы Нелюбы амаль усе мясцовыя дзяўчаты выходзілі ў гэтым вэлюме замуж. Столькі людзей у ім гулялі вясельлі, што ўрэшце растрапалі гэты вэлюм.

Сама Ганна замуж выйшла ў 1950 годзе, маючы 19 гадоў, у гэтым самым вэлюме. Яе муж меў такое ж прозьвішча — Ганчарык Фёдар Іванавіч (1924–1987). Калі французскіх здымкаў ў сямейным архіве было шмат, то савецкіх вельмі мала.

Фёдар Іванавіч быў удзельнікам партызанскага руху ў Беларусі, потым служыў у войску ў будаўнічым батальёне, быў на лесапавале. Адзіная іхная дачка Людміла нарадзілася ў 1951 годзе.

«Жылі мы ў вёсцы вельмі цяжка, — кажа Людміла Фёдараўна.— Адна з маіх бабуляў распавядала, што мне хлеб у анучцы давалі замест дунды, каб не крычала. Малака не было. Пачыналі ж усё з нуля, трэба было і сабе ўзараць і пасеяць, і пайсьці ў калгас. І будавацца. Не галадалі, бо мелі сваю гаспадарку, але не было далікатэсаў, мяса было не заўсёды, але была бульба і хлеб свой пяклі».

Сувязі з Францыяй не было, лісты адтуль не прыходзілі. Мама разумела, што ў Францыю ёй ніяк не вярнуцца.

«Плакалі, шкадавалі, — кажа з болем Людміла Фёдараўна. — Акрамя цяжкай працы, у мамы тут больш нічога і не было. На маміны рукі было страшна глядзець: пакручаныя артрытам пальцы, бо яна была даяркай,



• *Шлюбны здымак Фёдара і Ганны Ганчарыкаў. Беларусь, Валожынскі раён. 1950 год.*

а ў той час кароў даілі ўручную. Доўга даіла кароў і шыла з гэтым артрытам. Для чаго было вяртаць з Францыі гэтых людзей? Каму яны былі тут патрэбныя? Каму была патрэбная ўся гэтая жорсткасьць?»

З маміных рэчаў засталася старая швальная машынка, купленая яшчэ на Данбасе, францускі буфэт і абраз. Яны ў доме ў Нелюбах, дзе да сьмерці жыла Ганна Ганчарык. Але там ужо іншыя гаспадары: дом гэты прадалі.



• *Ганна Ганчарык. 2012 год.*

Людміла Ганчарык атрымала няпоўную сярэднюю адукацыю ў вёсцы Доры Валожынскага раёну, 9-ю і 10-ю клясы закончыла ў Маладэчне, дзе жыла ў сваякоў. Потым зь вялікай цяжкасьцю зрабіла сабе пашпарт, бо ў СССР да 1974 году калгасьнікам ды іхным дзецям не давалі пашпартоў. А бяз пашпарту немагчыма было ўладкавацца на вучобу ці працу ў горадзе.

Людміла з пашпартам пераехала ў Менск, працавала кранаўшчыцай на заводзе аўтаматычных лініяў, завочна закончыла Інстытут народнай гаспадаркі, рабіла бухгальтаркай у дзяржаўных арганізацыях і прыватных фірмах. У 2013 годзе пакінула працу, у канцы 2018 году атрымлівала 300 рублёў (150 даляраў) пэнсіі.



• *Хата Ганчарыкаў у вёсцы Нелюбы Валожынскага раёну. 2005 год.*

У Людмілы і яе мужа Віктара Францавіча ёсьць дачка Ірына, якая нарадзілася ў 1970-м, і сын Раман 1974 году нараджэньня.

Ірына жыве ў Даніі, працуе эканамістам, у яе двое дзяцей. Раман — інжынэр, працуе ў Менску ў прыватнай фірме, мае дачку.



## ГІСТОРЫЯ ВОЛЬГІ-ПАЛЕТ ЛЕЎ, АД ЯКОЙ АДВЯРНУЛІСЯ ФРАНЦУСКІЯ СВАЯКІ

Вольга-Палет Леў (у замужжы Алешка) нарадзілася і вырасла ў старажытным і вельмі прыгожым францускім горадзе Мэц (Metz), сталіцы Лятарынгіі.

«Тата хацеў, каб я была Вольга, а мама хацела, каб я была Палет (Paulette). Мяне так і назвалі двайным іменем Вольга-Палет», — кажа пра сябе жыхарка Менску, былая настаўніца францускай мовы Вольга Іванаўна Алешка. Яна нарадзілася і да 14 гадоў расла ў Францыі, сярэднюю адукацыю атрымала ў савецкім Львове, а інстытут, сям'ю і працу знайшла ў Беларусі. Праўда, у Францыі яе больш звалі Палет, у СССР і незалежнай Беларусі — Вольгай. Ёй ніяк не дасі яе 80 гадоў, яна фізычна актыўная, гаваркая, часта ўсьміхаецца, жартуе. Мае любімага мужа, сына і дачку, унукаў, шмат сяброў, у тым ліку сярод беларускіх «дзяцей Францыі».

Яе маці была француженкай, а бацька — палякам з Заходняй Украіны, яны мелі добры дом, працу і наагул прыстойнае жыцьцё ў Францыі. Іхную сям'ю зачапіла Другая ўсясьветная вайна, іх сваякі ваявалі, а самі



• *Вольга-Палет, Баніфас, Марыя-Тэрэзія Леў. Францыя, Мэц. 1942 год.*



• *Вольга-Палет Алешка (Леў). Менск. 2018 год.*

яны ўцякалі ад нямецкіх акупантаў Францыі. Па вайне сям'я выехала на радзіму бацькі ў савецкі на той час горад Львоў, бо бацька спадзяваўся, што там ягоным дзецям будзе лягчэй атрымаць вышэйшую адукацыю. Вышэйшую адукацыю дзеці атрымалі, таксама як і навуку жыцьця ў таталітарным і несправядлівым Савецкім Саюзе.

Вольга-Палет пасьля вечаровай школы ў Львове з мужам-беларусам пераехала ў Менск, тут і засталася. Жыве на прэстыжнай вуліцы Пуліхава, мае добрага мужа і дзяцей. Дзякуючы маме яна зьберагла добрыя веды французскай мовы, працавала выкладчыцай французскай мовы ў менскай школе № 79, і вучні яе любілі.



• *Дзядзька Баніфас. Францыя. 1944 год.*

Цяпер на пэнсіі. Свой аповед пачынае ня з мамы і таты, а зь любімага дзядзькі Баніфаса, брата яе мамы, які ў часе вайны ваяваў у складзе францускай арміі, загінуў за 9 дзён да перамогі і вызваленьня Францыі. У яе захаваліся даваенныя здымкі Баніфаса і здымкі ў вайсковай форме, ён пайшоў на фронт з роднага Мэцу ў веку 26 гадоў. У гонар дзядзькі Баніфаса былі названыя яе брат і сын.

## Нас там лічылі палякамі, а тут — французамі

Маці Вольгі-Палет звалі Сафі Сандзі (Sophie Sandy, 1918–2003), апрача Баніфаса, у яе быў брат Алекс, у часе вайны ён таксама ваяваў зь нямецкімі акупантамі, быў у партызанах макі (*maquis)*.



Бацька Ян Леў (Jean Lew, 1910–1992) быў палякам са Львова, доўга езьдзіў па Эўропе, пакуль не спыніўся ў францускім Мэцы. Ягоны бацька Якаў Леў, дзядуля Вольгі, служыў у аўстрыйскай арміі, ваяваў у Першую усясьветную вайну.



• *Маці Сафі Леў. Францыя. 1943 год.*



• *Тата Ян Леў. 1950 год.*

У Мэцы ў Жана і Сафі нарадзіліся чацьвёра дзяцей: Марыя-Тэрэзія (1934), Баніфас (1935) і Вольга-Палет (1938). Жак (1940) памёр падчас вайны ад запаленьня лёгкіх.

«Бацька яшчэ халастым і вельмі маладым зьехаў у Францыю са сваім стрыечным братам Сафатам, — распавядае Вольга-Палет. — Тады не было такіх межаў, як пазьней, Польшча ж была ў Эўропе. Бацька вандраваў, быў у Італіі, у Нямеччыне, але не затрымаўся там. Ён быў добрым сталяром, спэцыялістам у мэблі, і яму было лёгка ўладкавацца на працу. Але першая яго праца была ў цырку, ён там гіры падымаў. Быў вельмі здольны да вывучэньня моваў. Ведаў польскую, італьянскую, нямецкую, францускую. Паезьдзіў ён па Эўропе, а асеў у Мэцы».



• *Маці Сафі Леў. Францыя, Мэц. 1943 год.*

Ян (Жан) Леў і ў Мэцы працаваў мэбельнікам. Кватэру зьняў у доме

сям'і Сандзі. Угледзеў дачку гаспадыні Сафі, закахаўся ў яе, яна адказала ўзаемнасьцю, і яны ажаніліся.

«Жылі мы добра. Калі мы хадзілі ў касьцёл, у нас абавязкова былі пальчаткі. Сумачка беленькая, тады ў модзе былі такія крэпдэшынавыя сумачкі. Мы ўсе былі такія беленькія, прыбраныя, як ішлі ў касьцёл. Брат быў міністрантам у ксяндза. Ён падымаўся на катэдру з ксяндзом, адчыняў куфэрак і адтуль вымаў віно для прычасьця. У яго была адмысловая форма, яе выдавалі толькі хлопчыкам, якія служаць міністрантамі. Успаміны выдатныя, прыгожыя», — згадвае Вольга Алешка, якую ў Францыі звалі Палет Леў. Добрыя згадкі ў яе і пра школу:

«Пачынаўся ўрок у нас, уваходзіла настаўніца, мы ўсе ўставалі. Над дошкай вісеў крыж з расьпяцьцем. Ніякі Сталін, ніякі Ленін — крыж вісеў. І мы разам з настаўніцай прамаўлялі ранішнюю малітву. Мама нас прыхарошвала. Была ў нас уласная краўчыха-італьянка, яна нас абшывала. Яна вельмі прыгожа шыла. У той час былі ў модзе каляровыя японскія парасоны. Ад сонца. У сястры быў блакітны, а ў мяне ружовы… Калі я ўспамінаю гэта, хочацца сказаць: якога … бацька нас павёз у СССР», — Вольга не прагаварыла гэты сказ цалкам, зрабіла паўзу замест кепскага слова.

## Ваенныя нягоды

У часе вайны Жан Леў у войска не пайшоў, ён меў польскае грамадзянства, падчас акупацыі надалей працаваў у Мэцы, гадаваў дзяцей. Ад немцаў трэба было хавацца, згадвае Вольга Алешка. Неяк у нядзелю, калі ўся сям'я сабралася ў сталовым пакоі, акупанты самі прыйшлі ў іхны дом.

«Адчыняюцца дзьверы, уваходзіць нямецкі салдат, у яго наперавес аўтамат, мама ў сьлёзы, я плачу, спалохалася. Мама мая добра валодала панямецкай мовай, яна нарадзілася ў Нямеччыне. Яна загаварыла зь ім панямецку. Той загадаў сыходзіць з дому, нічога з сабой ня браць, ключы пакінуць у дзьвярах і выходзіць на двор. А ў двары стаяць ужо машыны. Грузавікі».

Рыхтаваўся вываз цывільнага насельніцтва Мэцу. Тата сказаў дзецям узяцца за рукі і ісьці за ім гужам. Яны выйшлі на вуліцу і рэзка завярнулі ў падвал суседняга дому, дзе была абсталяваная пральня. Пасядзелі там да позьняга вечара і рушылі за горад. Дайшлі да першай вёскі, а там іх злавілі немцы з сабакамі, сабралі ў калёну такіх самых няўдалых уцекачоў і павялі кудысьці ў прадмесьце.



«І я ніколі не забуду, як мяне тузанула за руку нейкая бабуля, я ўсё жыцьцё на яе малюся. Ідзем, там плот, брамка вялікая, жанчына адчыніла вароты і ўвапхнула нас… Ёй трэба было нас схаваць — яна ўзяла матрац і зацягнула яго на другі паверх, там мы сядзелі. Але таты не было».

Калі прайшла калёна людзей пад вартай, маці Сафі і дзеці ўжо бяз страху дабраліся да нявесты матчынага брата Алекса, які быў у партызанах.

Там іх і знайшоў тата, які неяк ноччу дабраўся — з параненымі нагамі і рукамі. Яго зь іншымі цывільнымі мужчынамі немцы забралі капаць супрацьтанкавыя траншэі, але ён уцёк.

## Сяброўства з амэрыканскім салдатам

«Мы былі шчасьлівыя, калі ў горад увайшлі амэрыканцы», — Вольга-Палет расказвае пра вызваленьне Францыі ды ейнай сям'і.

«Таты няма, мы адны і ня ведаем, дзе ён. І раптам позьнім вечарам на лесьвіцы нешта рыпае. А гэта тата. Ён кажа сядзець ціха, бо немцы яшчэ ў горадзе. Пачалася страляніна, мы спусьціліся ў склеп, там вада цячэ з разбуранага водаправоду. На скрыні нас пасадзілі. А тата кажа іншым мужчынам: ну чаго мы, як баязьліўцы, тут хаваемся. Трэба выйсьці паглядзець, што робіцца, мы тут доўга ня зможам так сядзець. А праз вуліцу ад нас у арку едуць фашысцкія матацыклы. Яны гудзяць вельмі моцна, іх там поўна. Трое мужчын разам з татам выйшлі са склепу. Тата бачыць, што і з таго боку нехта выглядае. І ён выглядае. І ня ведаюць, хто насупраць, баяцца ж людзі. Нарэшце хтосьці наважыўся першым наблізіцца, махнуць рукой, падысьці. З другога боку былі сямёра ці васьмёра амэрыканскіх выведнікаў. І тата ім сказаў, што за паваротам нямецкія матацыклісты. Выведка пайшла далей, а нам сказалі сядзець ціха. Яны атакавалі, назаўтра яны ўжо вызвалілі горад. Гэта была радасьць і шчасьце для ўсіх».

А той амэрыканскі салдат, які пагутарыў з татам, быў народжаным у Амэрыцы палякам, яго звалі Альфрэд Сольсак.

«Ён карміў нас, прыносіў хлеб. Такі вялікі і высокі амэрыканскі хлеб, як паска, я яго запомніла».

З гэтым 20-гадовым палякам-танкістам з амэрыканскага войска сям'я Жана Льва пасябравала, асабліва яму спадабалася 6-гадовая Палет. Ён папрасіў у яе маці Сафі дазволу схадзіць зь дзяўчынкай у катэдральны сабор Мэцу імя Сьвятога Эцьена. Гэта велічны помнік готыкі XIII стагодзьдзя, з найбольшым у сьвеце вітражом, выглядае, як сабор



• *Мэдальён з выявай сьвятой Тэрэзы, падораны па вайне амэрыканскім вайскоўцам Альфрэдам Сольсакам.*

Парыскай Маці Божай, на які ён вельмі падобны.

Маці пагадзілася, прыгожа апранула Палет, прычасала ёй кудзеркі і аддала Альфрэду, каб яны разам пайшлі ў касьцёл.

«Альфрэд ішоў у храм памаліцца з удзячнасьцю Богу за тое, што застаўся жывым. Ён стаў на калені ў позе «Мысьляра» скульптара Радэна, а потым паклікаў мяне. Я падышла да яго. Ён зьняў са сваёй шыі мэдальён і сказаў: «Гэта сьвятая Тэрэза, гэта наша сямейная рэліквія. Калі я ішоў на фронт, мне мама надзела яго і сказала: «Дай Божа, каб гэты абярэг цябе выратаваў». Вайна скончылася, і я жывы». І Альфрэд падарыў мне гэты мэдальён, сказаў, што ён і мне шчасьце прынясе».

Пакуль Альфрэд быў у Мэцы, сяброўства гэтае працягвалася, ён усяляк дапамагаў сям'і Львоў. Апавядае Вольга-Палет:

«Штодня мы падыходзілі да вялікага плота, і праз гэты плот ён перадаваў нам ежу, у тым ліку вялікія боханы амэрыканскага вайсковага хлеба, іх я запомніла назаўсёды».

Калі Вольга-Палет стала дарослай, ужо пераехаўшы ў Беларусь, а таксама падчас сваёй паездкі ў Францыю яна шукала Альфрэда, каб яму аддзячыць. Зьвярнулася ў Чырвоны Крыж. Але там спыталі: а хто ён вам? Яна адказала: «Салдат, які выратаваў нас падчас вайны». У Чырвоным Крыжы ёй сказалі, што шукаюць толькі сваякоў.



• *Альфрэд Сольсак з жонкай Мар'янай, ЗША, 1986 год.*

У пачатку 2000-х гадоў францускі амбасадар у Менску Стэфан Шмялеўскі з жонкай Мірэй дапамаглі Вользе-Палет зьвязацца з амэрыканскай амбасадай. Празь нейкі час прыехаў да яе супрацоўнік амбасады і перадаў вялікі канвэрт.



«Я села, рукі трасуцца, хвалююся. Паводле маіх уяўленьняў ён мусіў быць яшчэ жывым… Я адкрываю канвэрт і чытаю ліст, які напісала ягоная дачка Сандра. Яна напісала, што я спазьнілася на 11 гадоў, Альфрэд памёр ў канцы 1980-х гадоў. Потым я зьвязалася праз тэлефон з удавой Альфрэда, гутарылі зь ёю па-польску. Яна ў мяне пытаецца: а дзе пані нарадзілася, а колькі вам гадоў… Потым да мяне дайшло, што яна магла падумаць, нібыта я пазашлюбная дачка Альфрэда. Яна яшчэ спытала, а дзе быў у часе вайны мой бацька. Я адказала, што бацька з намі быў. І яна супакоілася і выслала мне сваю фатаграфію з Альфрэдам», — распавядае Вольга-Палет, трымаючы ў руках той самы мэдальён: на адным баку сьвятая Тэрэза, на другім — анёлкі. Мэдальён крыху пацёрты, аправа і ланцужок замененыя сучасным ювэлірам.

Сям'я Сольсака прыслала ў Менск і партрэт, які малая Палет падарыла Альфрэду пасьля вайны.

«Гэта фатаграфія, якую ён ніколі не даставаў з кішэні, насіў ля сэрца, бо палюбіў мяне, як роднае дзіця, — кажа Вольга-Палет.— Потым у яго самога былі дзеці, і адна зь яго дачок Сандра пісала мне лісты… Думаю, гэты мэдальён і мне ў жыцьці дапамог. Я яго цалую, я зь ім размаўляю. Я думаю, што дапамог».

Вольга-Палет часам ходзіць маліцца да абраза сьвятой Тэрэзы ў катэдральным касьцёле Менску. Тэрэзай яна назвала сваю дачку.

«Я сказала сваёй дачцэ: Тэрэзачка, ты носіш гэтае імя, ты ведаеш нашага выратавальніка, і гэты мэдальён табе дастанецца», — распавяла Вольга-Палет.

## Вялікі падман. Пераезд Львоў у Львоў

Пасьля вайны ў кватэру Львоў у Мэцы пачалі прыходзіць нейкія мужчыны, якія гаварылі ці то на польскай мове, ці на ўкраінскай, ці расейскай, — дзеці і жонка іх зусім не разумелі, толькі бацька. Бацька хадзіў на іхныя сходы. Вольга-Палет кажа, што ў яе таты была мэта, каб дзеці атрымалі вышэйшую адукацыю, а тыя мужчыны пераконвалі, што ў СССР гэта атрымаецца лепей, чым у Францыі.

Доўга хадзілі тыя мужчыны, агітавалі ехаць у СССР. Іншыя, да каго яны прыходзілі, ужо пазьяжджалі з Францыі, але маці Палет усё адказвала бацьку на такую прапанову словам «не». Бабуля ўвогуле плакала, галасіла, не адпускала.

«Гэта была гэтая агітацыя, нахабная агітацыя. Нядобрыя гэта былі людзі, мякка кажучы. Хлусілі. Бо добра, калі адно дзіця, сам не зьясі —



• *Бацька Ян Леў. Францыя, Мэц. 1945 год.*

яму аддасі. А нас трое. Мама супраціўлялася да апошняга. Толькі калі бацька сказаў, што пакіне яе зь дзецьмі, а сам паедзе, толькі тады яна пагадзілася. Аднак пагадзілася паехаць паглядзець, а ня жыць, — згадвае тое фатальнае рашэньне сям'і Вольга-Палет. — І яны абяцалі: вы вернецеся назад, калі там будзе кепска. Таму мы ехалі толькі паглядзець. Мы ня бралі з сабой большасьць сваіх рэчаў, ня бралі ні мэблі, ні посуду. Засталася ў француcкай кватэры ўся наша маёмасьць».

Пераехала сям'я Львоў у жніўні 1952 году, якраз першыя яблыкі пасьпелі. Да Страсбургу ехалі пасажырскім цягнікам разам з бабуляй, якая і ў дарозе іх умаўляла адумацца і застацца ў Францыі. Не атрымалася. У Львоў прыехалі ў таварным вагоне, разьдзеленым на 4 сэкцыі для 4 сем'яў.

«Скончылася ж тым, што на савецкай мяжы ў нас забралі францускія пашпарты, нібыта каб зрабіць савецкія дакумэнты. Забралі таксама нашы грошы, бо іх трэба было памяняць, бо тут гэта ня грошы, а паперкі. І пашпартоў яны не вярнулі, і грошай у савецкай валюце не аддалі. Гэта быў вялікі падман», — апавядае Вольга-Палет.

У Львове вялікая сям'я з Францыі не магла знайсьці прытулку, ніхто не здаваў ім кватэру. Назад у Францыю іх таксама не адпускалі.

У бацькі ў вёсцы Беразец (Березець) за 50 кілямэтраў ад Львова быў дом стрыечнага брата. На той момант савецкая ўлада выслала яго ў Сібір. На месцы заставаліся двое братавых дзяцей. І ў ягонай дачкі французы змаглі разьмясьціцца.

«Там быў адзін пакой, у калідоры стаялі жорны — і ўсё, — апісвае Вольга-Палет новыя жыльлёвыя ўмовы сям'і. — Там стаялі дзьве лаўкі, на гэтыя лаўкі кламліся дошкі, а зьверху матрацы з саломы. Мы на іх укладваліся і спалі ўсе 5 душ покатам. У нас не было нічога, мы ж



думалі, што вернемся. На гарышчы былі вязанкі кукурузы, мы бралі качаны, церабілі і малолі зерне на жорнах. З атрыманых крупаў варылі кашу-мамалыгу бяз солі».

Вольга-Палет расказвае, што неяк неўзабаве па прыезьдзе сядзела на лаве пры школе, а тады яна нічога не разумела па-польску, па-ўкраінску ці па-расейску.

«Каля мяне села жанчына, якая прыбірала ў школе. А там сабака зрабіў сваю «вялікую справу». І прыбіральшчыца сказала слова на літару «г». Я паўтарыла. І гэта было маё першае слова па-ўкраінску. Пабегла сказала маці і брату зь сястрой, яны паўтарылі гэтае слова. Бацька быў ня рады, патлумачыў, што гэта значыць. Што ж, мы зразумелі, куды трапілі».

## Тры бурачкі з калгаснага поля

У СССР турмой каралі за тры каласкі, узятыя галоднымі сялянамі з калгаснага поля. Француженка Сафі ледзьве не пацярпела за некалькі бурачкоў.

Калі сям'я жыла ў вёсцы Беразец, тата знайшоў сталярскую працу ў Львове, а маці прымусілі ісьці працаваць у калгас. І неяк паслалі палоць буракі.

«Мама ніколі ў жыцьці ня бачыла буракоў на агародзе, але рабіла тое, што і іншыя жанчыны. Вырывала кепскія бурачкі, зьвялыя, іх трэба было выкідваць. Але тое, што трэба выкідваць, яна сабрала сабе ў фартушок. Гэта заўважылі, паклікалі яе ў кантору, насварыліся. Мама плакала, яна не разумела, чаго ад яе хочуць. Калі прыехаў тата, то сустрэўся зь нейкім начальнікам, яго звалі Данііл, ён быў піцерскі таварыш. І той сказаў: хутчэй забірай сваю сям'ю ў горад, бо твая жонка крала гэтыя бурачкі і гэта можа кепска скончыцца».

Тата вывез сям'ю ў Львоў, неяк улагодзіў тую сытуацыю. У яго было правіла, якому ён і дзяцей навучыў: маўчаць, не абурацца, не гаварыць лішняга. Зьнялі два пакоі ў прыватным доме ў перадмесьці Львова — Рудным.

Калі жылі ў вёсцы Беразец, сваякі падарылі сям'і французаў карову. Але яны былі гараджане і зусім ня ведалі, як да яе падступіцца:

«Брат трымаў карову за рогі, я за хвост, каб у вядро не махала, а мама сядала на ўслон і спрабавала даіць. Але нічога ў яе не атрымлівалася. Тату давялося прадаць карову. Калгасьнікаў з нас не атрымалася. Пераехалі ў Львоў», — кажа Вольга-Палет.

«Тата казаў, што ён у Францыі быў палякам, а тут француз, — кажа Вольга-Палет пра свайго бацьку. — Ён быў прыстойным чалавекам, які ўсё жыцьцё працаваў. На шчасьце, у турму яго не пасадзілі, бо маўчаў. А ў адных нашых знаёмых, сяброў Марыі-Тэрэзіі, мама была ўкраінка, а бацька — француз. Ён, вядома, усё хадзіў абураўся, і яго дзеці засталіся бяз таты. Іхнага бацьку забралі, і больш ніколі яны яго ня ўбачылі. Мы ведалі шмат людзей, якія абураліся, і нічога яны не дамагліся, акрамя таго, што іх пасадзілі».

## Сястра не даравала бацьку



• *Марыя-Тэрэзія Леў. Львоў. Пачатак 1960-х гадоў.*

Вольга-Палет дагэтуль у дэталях памятае, як маці трапіла на дарозе ў брудную каляіну ў сваіх новенькіх замшавых туфлях. Туфлік там і застаўся, потым яго дасталі і памылі, але ранейшага выгляду ён ужо ня меў. А яе сястра Марыя-Тэрэзія ня мела цёплай вопраткі на зіму, хадзіла ў плашчыку і захварэла на плеўрыт.

Марыя-Тэрэзія ніколі не прабачыла бацьку пераезд у СССР. Яна лічыла, што бацька паламаў яе лёс: у Францыі ў яе застаўся кавалер, зь якім яна разлучылася. А ў Львове шчасьлівага сямейнага жыцьця яна ня мела. Вольга-Палет даравала тату, яна яго моцна любіла, была «татавай дачкой». Яна верыла сама і пераконвала сястру, што тата хацеў сваёй сям'і дабра.

«Бацьку было вельмі цяжка ўсьведамляць сваю памылку. Напэўна, ён спрабаваў вярнуцца, але я ня ведаю. Па прыезьдзе ў СССР плакалі мы ўсе разам. І тата плакаў. Потым ён пазнаёміўся з чалавекам, які гэтак жа прыехаў зь Нямеччыны, якому гэтаксама было цяжка. І тата сказаў, што знайшоўся ў яго сябар — такі ж «разумны», як ён».

Жан Леў працаваў у Львове сталяром, рабіў мэблю. А вось жыльля ім не давалі, хоць перад ад'ездам прадстаўнікі савецкіх уладаў абяцалі гэта ў першую чаргу. І тады Жан напісаў жонцы-францужанцы на паперцы, што трэба казаць, і накіраваў да ўладаў прасіць жыльлё.

Сафі хадзіла з гэтай паперкай амаль кожны дзень па розных кабінэтах, казала: «Вось чытайце» — і давала паперку… І ўрэшце дамаглася свайго. Ім далі кватэру ў прыгарадзе Львова: два пакоі і кухня. Цяпер у гэтай кватэры жыве яе праўнук Эрні.





• *Баніфас Леў. Львоў. Пачатак 1960-х гадоў.*

Бацькі былі вельмі прыгожыя, згадвае Вольга-Палет, а тата быў яшчэ мускулісты — ён адмыслова не трэнаваўся, быў ад фізычнай працы такі падцягнуты. Тата насіў на францускі манэр барэт, завязваў на шыі прыгожы вішнёвы шалік, які зьвязала жонка, заўжды насіў партфэль. За такі выгляд яго заўважала і шмат разоў спыняла львоўская міліцыя, правярала, што ў яго ў партфэлі. Жан Леў абураўся ўжо дома, у міліцыі ён маўчаў.

Некалькі разоў падчас нашых гутарак Вольга-Палет заплакала. У тым ліку калі згадвала тату і маму:

«Я ўспамінаю такі тандэм — гэта як бы два ровары разам. Тата з мамай як сядуць на гэты тандэм у выходныя — і катацца паехалі. Я іх бачу ў Францыі, як яны на гэтым тандэме… Гэты двайны ровар застаўся ў Францыі. У Львоў мы ўзялі спартовы ровар дзядзькі Баніфаса… І вось калі было зусім дрэнна, мы прадалі гэты ровар. Мужчына купіў яго, сеў і паехаў, а мы стаім з мамай і галосім. Але трэба было есьці. Хлеб тады быў такі, як цэгла. Чорны, мокры. Паясі, то разбаліцца жывот. Тата качаецца па падлозе, крычыць, а няма чым пагасіць гэты боль, лекаў не было. Ніколі гэтага не забуду».

## Як родная мова стала прафэсіяй

У Францыі Вольга-Палет закончыла 8 клясаў, у савецкім Львове яе ўзялі ў 4-ю клясу вечаровай школы і спачатку ня ведалі, як зь ёю там абыходзіцца. Матэматыку яна ведала добра, а ўкраінскую мову не разумела. Але мову і яна, і брат зь сястрой засвоілі хутка.

«Я ўвесь час чытала па-ўкраінску. Расейскую я ўжо потым вывучыла. Дагэтуль добра размаўляю па-ўкраінску. Мае бацькі слухалі польскае радыё, там музыка была добрая, то адтуль мы навучыліся размаўляць па-польску. Некаторыя словы па-польску чулі ад таты. Тата заўсёды гаварыў у сям'і па-француску — і ў Мэцы, і ў Львове таксама. Мама забараняла дома гаварыць на іншай мове, апрача францускай, баялася, што дзеці забудуць родную мову. Дзякуючы ёй мы не забылі францускую мову. У мяне ў Беларусі шмат знаёмых, якія таксама прыехалі з Францыі, але веданьня мовы не захавалі», — апавядае Вольга-Палет.

У Львове паралельна з вучобай у 15 гадоў яна пайшла працаваць: вязала на машынцы пальчаткі, пазьней уладкавалася на шклозавод.

Сястра Марыя-Тэрэзія і брат Баніфас паступалі ў Львоўскі ўнівэрсытэт на факультэт замежных моваў. Ім абяцалі палёгку, маўляў, возьмуць без экзамэнаў, бо пасьля францускіх школ ім цяжка было прайсьці экзамэны. Яны выдатна валодалі францускаю і былі амаль гатовыя настаўнікі гэтай мовы, патрэбныя былі толькі дыплёмы.

Але пазьней Марыя-Тэрэзія прыйшла і, плачучы, расказала, што дваіх узяць ня могуць, а толькі аднаго. А парада была такая: калі вы не аддасьцё гэтае месца свайму брату, то яго забяруць у войска, і потым яму будзе позна паступаць.

«Сястра мая дзеля брата са сьлязьмі на вачах аддала гэтае месца. Яна была мацнейшая за яго, лепей гаварыла па-француску. І такім чынам брат пайшоў вучыцца, а яна — працаваць на нейкі завод. Але на наступны год такую ж палёгку зрабілі і ёй, яна таксама вывучылася на выкладчыка францускай мовы. Абодва яны працавалі ў дзявятай спэцыялізаванай школе Львова з паглыбленым вывучэньнем францускае мовы».

Аналягічную адукацыю атрымала і Вольга-Палет, але ўжо ў Беларусі, і таксама стала настаўніцай у такой жа спэцыялізаванай школе ў Менску. Праўда, у Менску яна ніякай палёгкі пры паступленьні ў Інстытут замежных моваў ня мела. Яе выкладчыкамі былі іншыя «дзеці Францыі», у тым ліку герой гэтай кнігі Сьцяпан Батура.

Такім чынам дзеці Жана Льва выканалі мару свайго бацькі, зь якой ён ехаў у СССР, — атрымалі вышэйшую адукацыю, а дзякуючы маме зьберагі веды францускае мовы. Іхная родная мова стала ім і прафэсіяй.

## Новыя выпрабаваньні ў Беларусі

У 1958 годзе, калі ёй было 20, Вольга-Палет выйшла замуж за беларуса Валянціна Жабруна, які вучыўся ў Львове ў політэхнічным інстытуце. Ён атрымаў дыплём геадэзіста і паехаў паводле разьмеркаваньня ў Менск, а разам зь ім і маладая жонка. Ім мусілі даць нейкую жылую плошчу, прынамсі пакой у інтэрнаце, але не далі нічога. Зьняць куток таксама не было за што. Валянціна накіравалі ў камандзіроўку ў Петрыкаў, а ягоная жонка засталася ў Менску фактычна на вуліцы. Што рабіць у чужым горадзе ў такой сытуацыі, ні Валянцін, ні ягоная маладая жонка ня ведалі.

Вольга-Палет заставалася начаваць у будынку дзяржаўнай арганізацыі «Белпрампраект», дзе працаваў Валянцін.



«І я паўгода на першым паверсе пад лесьвіцай у гэтым «Белпрампраекце» і пражыла. Унізе ў гэтай нішы была нейкая лаўка і шафа са старымі кніжкамі. І я на дзень згортвала сваю коўдру, клала ў шафу, а на ноч яе разгортвала і клалася спаць. І гуляла па горадзе, мне не было дзе прысесьці. Фактычна нідзе я не жыла паўгода».

Увесь «Прампраект» ведаў, як яна жыла.

Вольга-Палет была камсамолкай. «Усе ўступалі і я ўступіла», — кажа яна. Калі ж яна трапіла ў складанае жыцьцёвае становішча, то спадзявалася на іхную падтрымку, бо лічыла, што моладзевая арганізацыя мусіць дапамагаць сваім сябрам.

«Я ўспамінаю, што я камсамолка, і думаю: а пайду я ў райкам камсамолу, — распавядае яна. — Знайшла, расказваю, што прыехала за мужам па разьмеркаваньні і нам няма дзе жыць. А яны пачалі мне нешта казаць пра чаргу і што нічым дапамагчы ня могуць. Я кажу: дык я ж камсамолка, трэба дапамагчы мне. А яны на мяне толькі накрычалі… Як я выйшла адтуль, дастала свой камсамольскі білет, парвала яго на часткі і ў сьметніцу кінула. Капец з маім камсамолам».

Вольга-Палет ужо зьбіралася ехаць назад у Львоў, калі загадчыца лябараторыі Людміла Іванаўна Юркова сказала:

«Ня едзьце толькі дадому. Сядзіце тут».

«І я гуляю па праспэкце ад паштамту туды і сюды. І сяджу… А яна мяне палюбіла, як мама, у яе два сыны мае равесьнікі, узяла мяне лябаранткай. І казала: сядзіце, трывайце. На вуліцы Берасьцянскай у Менску будаваўся іх ведамасны дом. «Вам павінны даць, кажа, чакайце, трывайце». Цярплю, чакаю. І ўрэшце далі нам пакой у трохпакаёвай кватэры».

Вольгу-Палет з мужам падсялілі да сям'і іншага геадэзіста, якая мела траіх дзяцей, і ягоная жонка абразілася, што ёй ня тры пакоі далі, а толькі два. Яна ўсяляк крыўдзіла непажаданую суседку, а то і біла яе, так што Вользе-Палет давялося нават зьвяртацца ў міліцыю.

У 20 год Вольга-Палет паступіла на францускае аддзяленьне Інстытуту замежных моваў у Менску, вучылася на вечаровым аддзяленьні, а заканчвала ўжо завочна, бо ў 22 гады нарадзіла сына Артура-Баніфаса.

З Валянцінам шлюб быў нядоўгім, кажа Вольга-Палет, бо ён выпіваў і «прыкладваў рукі».

Пасьля разводу зь першым мужам было знаёмства зь менскім студэнтам Ігарам Алешкам, рамантычнае каханьне і шчасьлівы шлюб. Яе сын ад першага шлюбу Артур-Баніфас узяў сабе прозьвішча другога



• *Ігар і Вольга Алешкі, Алесь Салагуб, Менск, 2019 год*

мужа — Алешка. У Ігара і Вольгі-Палет ў 1967 годзе нарадзілася дачка Тэрэза.

## Да сваякоў у Францыю

У 1978 годзе Вольга-Палет і яе сын Баніфас атрымалі запрашэньне ад цёткі Жэнэўевы наведаць родныя мясьціны ў Францыі.

Калі Вольга-Палет пайшла ў АВІР (аддзел віз і рэгістрацыяў, які ў савецкі час даваў дазволы на выезд за мяжу) начальнік накрычаў на яе, што яна не назвала ў анкеце ўсіх францускіх сваякоў.

«Я сказала, што ня ведаю, колькі цяпер у мяне сваякоў, бо там я была дзіцем, а цяпер у мяне самой дзеці дарослыя… Як ён крычаў, пачырванеў і стукаў кулаком па стале… У выніку сказаў: „Я зраблю вам выключэньне, але не пушчу вашага сына. Няма патрэбы яму глядзець, як жывуць капіталісты“. І не пусьціў. Я выйшла, села на тралейбус і паехала ня ў той бок. Я так ніколі ня плакала. Ніколі», — згадвае Вольга-Палет.

У якасьці падарункаў родным у Францыю, якіх ня бачыла 26 гадоў, яна павезла самавар і шапку-аблавуху. Дзядуля Фэлікс моцна рагатаў, калі яе надзеў.

«Сядзім мы неяк на абедзе, а дзед мяне штурхае пад сталом. І я разумею, што павінна пагляддзець, чаго ён мяне штурхае. А ён падсоўвае мне грошы, 100 франкаў, але каб ніхто ня бачыў. Я іх заціснула ў кулачок. Уяўляеце, дзядуля баяўся пры дзецях мне грошы падарыць… Добры быў дзядуля Фэлікс».

Наступным разам Вольга-Палет прыехала ў Францыю пасьля сьмерці дзядулі на запрашэньне жонкі дзядзькі Алекса. Тая радасна яе сустрэла і павезла ў той самы сямейны дом. Але кузэн не адчыніў дзьверы.

Былі такія ж праблемы, калі францускія сваякі не пускалі ў хату, і ў сястры Марыі-Тэрэзіі, і ў іхнай маці Сафі, калі тая прыяжджала ў Францыю ў справе атрыманьня пэнсіі за бацьку.

Цяпер цётка Жэнэўева памерла, а маладое пакаленьне асабліва ня хоча мець стасункаў са сваякамі зь Беларусі і Ўкраіны. Сувязі з Францыяй абарваліся.





• *Вольга-Палет Алешка — выкладчыца францускай мовы ў менскай школе № 79 на занятках у 10 клясе. 1992 год.*

## Дзеці — беларусы

«Я не магу сказаць, што мае дзеці сябе лічаць французамі. Не, — кажа Вольга-Палет. — Яны кажуць: гэта наша мама француженка, а мы — не. Яны карані пусьцілі тут, яны тут нарадзіліся. Яны беларусы. Боня наш жыве ў Маскве, працуе мэнэджарам у камэрцыйнай фірме, мае траіх дзяцей. Любіць ганяць ровар, у трэнажэрную залу хадзіць. У палітыку ня лезе. А Тэрэза пасьля інстытуту была настаўніцай расейскай мовы і літаратуры, цяпер працуе ў бібліятэцы. Я задаволеная, як склалася жыцьцё маіх дзяцей».

У 2017 годзе Вользе-Палет неяк патэлефанавалі яе іншыя дзеці — былыя вучні.

«Вольга Іванаўна, мы вас чакаем у кавярні ў парку Горкага. Я прыходжу — чалавек 20 сабралася маіх вучняў. Дарослыя, ужо жанатыя, зь дзецьмі. Я была ў іх кляснай кіраўніцай, перад пэнсіяй год перапрацавала, бо мае дзеці заканчвалі 10 клясу. Я вельмі іх люблю, і яны мяне не забываюць».

# ГІСТОРЫЯ ЖАНІН БАРАН, ЯКОЙ БАЯЛІСЯ БЕЛАРУСКІЯ КАВАЛЕРЫ



• *Сям'я Баран у Францыі: зьверху хросны бацька Жанін прозьвішчам Белы, бацька Лаўрэнці, унізе: Жанін, маці Вольга і Пятро. 1935 год.*



Ніна Лаўрэнцеўна Іванова (у дзяцінстве паводле французскіх дакумэнтаў яна была Жанін Баран, а бацькі звалі Яняй або Янінай) жыве ў Навагрудку ў стандартнай двухпакаёвай кватэры-хрушчоўцы са спартанскай савецкай абстаноўкай. Кватэра яе чыстая і дагледжаная.

Гаспадыня адзетая строга і па-дзелавому, яна і раней не імкнулася ўпрыгожваць сабе касмэтыкай і модным адзеньнем, а сваю кватэру — рознымі цацкамі. У пакоі толькі кнігі і фота дзяцей. Ёсьць некалькі французскіх кніг, прывезеных з радзімы. Аповед яе кароткі і дакладны, гаворыць яна з выразным французскім акцэнтам. У мінулым гаспадыня — выкладчыца хіміі ў каледжы, інжынэр на прадпрыемстве.

Ніна Іванова ня раз думала, што магла б мець іншае жыцьцё. Не галадаць, закончыць адукацыю ў Францыі, мець любімую працу і каханага чалавека побач. Адзін з найярчэйшых успамінаў юнацтва: 15-гадовая Жанін Баран паступіла пасьля школы ў гімназію, дырэктарка гімназіі ўзяла яе за руку, вывела перад усімі вучнямі і кажа: «Паглядзіце, вось гэтая дзяўчынка здала экзамэны лепш за ўсіх». Жанін тады перапаўняла радасьць…

Усе ўспаміны з Францыі ў яе радасныя. Але нядоўга ёй давялося хадзіць у тую гімназію. Раптоўна, праз два тыдні, бацькі павезьлі яе ў СССР, не спытаўшы, ці хоча дачка пакідаць радзіму, вучобу, заняткі спортам і скрыпкай, сваіх сяброўак дзеля жыцьця ў невядомай краіне. Пераехаўшы з Францыі ў СССР, прыйшлося забыцца на пэрспэктывы, якія адкрываліся перад таленавітай дзяўчынкай.

«У Савецкім Саюзе людзі галадалі, і мы галадалі. І мы ўвесь час думалі, што маглі б мець іншы лёс. Недзе ў Францыі ён бы зусім іначай



• *Ніна Іванова (Баран). Наваградак. 2018 год.*



• *Копія пасьведчаньня аб нараджэньні Жанін Баран.*



• *Жанін Баран у школе — першая зьлева ў верхнім шэрагу. Францыя. 1938 год.*

склаўся», — шчыра кажа Ніна Лаўрэнцеўна на 87-м годзе свайго жыцьця.

## Зь безьзямельных сялян — у шахтары

Бацька Жанін Лаўрэнці Нічыпаравіч Баран (1895–1975) быў непісьменным круглым сіратою зь вёскі Сакі Жабінкаўскага раёну Берасьцейскай вобласьці. Маці, таксама непісьменную сялянку Вольгу Стому (1900–1991), ён сустрэў падчас тэрміновай службы ў польскім войску ў вёсцы Мікалаеўшчыне цяперашняга Стаўпецкага раёну, на радзіме Якуба Коласа.

Пасьля службы бацька пайшоў прымаком у сям'ю Стомаў, жылі ў Мікалаеўшчыне. Зямлі было мала, таму бацька знайшоў іншую працу — уручную часаў шпалы ў лесе. Быў ён вельмі дужы, кажа Ніна Лаўрэнцеўна. Праца ягоная была цяжкая і беспэрспэктыўная, таму бацька ў 1930 годзе завэрбаваўся на шахты ў Францыю. У сям'і ўжо быў маленькі сын Пятро 1928 году нараджэньня. У 1931 годзе бацька забраў у Францыю і сям'ю, а неўзабаве па прыезьдзе, 7 красавіка 1932 году, нарадзілася Жанін. У 1936 годзе нарадзіўся яшчэ адзін сын Жан.



Як і многія працоўныя мігранты з Заходняй Беларусі, бацькі плянавалі зарабіць грошай, вярнуцца на радзіму і купіць кавалак зямлі.

У Францыі бацька ўладкаваўся на шахту ў горадзе Карвэн (Carvin), 20 кілямэтраў ад Лілю, дэпартамэнт Па-дэ-Кале. Кампанія Oignies добра плаціла за працу, дала сям'і кватэру ў доме. Іх доўгі дом складаўся з цэлага шэрагу аднолькавых шахтарскіх жылых будынкаў пад адным дахам, гэта была цэлая вуліца кшталту таўнгаўзу. Кожная кватэра мела два выхады — на вуліцу і ва ўласны двор, быў яшчэ агарод, на якім вырошчвалі бульбу, моркву ды іншае. Кватэра іхная была стандартная для шахтарскіх гарадкоў: пакой і кухня на першым паверсе, а на другім — дзьве спальні. Туалет быў на вуліцы, ванны не было. Цяпер гэтай кампаніі няма, вугаль у тых мясьцінах выбраны. Няма і дому, у якім жыла сям'я з Заходняй Беларусі.

У Францыі сям'я харчавалася добра, розная экзатычная садавіна там каштавала танна, і ў Беларусі Жанін часта прыгадвала, як маці прыносіла дахаты цэлыя зьвязкі бананаў — іх завозілі з францускіх калёніяў. Але іншых выгодаў не мелі. У хаце ўсё было вельмі сьціпла, мэбля самая простая — маці ашчаджала кожны франк на зямлю, якую марылі набыць. Маці нават ня ставіла ялінку на Каляды, падарункаў на дні нарадзінаў і на сьвяты для дзяцей не куплялі — эканомілі. З дарагіх рэчаў у сям'і былі толькі ровар ды скрыпка Жанін, якую яна прывезла ў Беларусь, але ня здолела захаваць — пакінула ў вёсцы ў бацькоўскай хаце, а там яе чамусьці спаліў пляменьнік.

Вайну перажылі адносна лёгка. Аднойчы ў самым пачатку нацысты хацелі забраць бацьку ў Нямеччыну, быццам бы за тое, што страйкаваў. Але суседка полька Лукашэўская, якая добра ведала нямецкую мову, адгаварыла — сказала, што бацька сёньня ў другую зьмену і таму пойдзе на працу. А ад тых, каго забралі, сем'і ня мелі ніякіх зьвестак, толькі жонкі потым атрымалі попел у маленькіх мэталічных пушках, — згадвае Ніна Лаўрэнцеўна, яна сама гэта бачыла і чула, як лямантавалі ўдовы. Усю вайну яе бацька рабіў на шахце. Перад вызваленьнем іх горад бамбілі амэрыканцы, але ніхто не пацярпеў. Назаўтра немцы зьехалі — вось і ўся вайна.

Лаўрэнці Баран за 17 гадоў жыцьця ў Францыі так і не навучыўся размаўляць па-француску і калі зьвяртаўся некуды ў справах, то браў з сабой Жанін як перакладніцу з польскай мовы. Апошні час у Францыі бацька не працаваў, атрымліваў пэнсію — у яго была хворая пячонка.

## Спадзевы на лепшы лёс для дзяцей

Хвароба Лаўрэнція Барана не была зьвязаная зь цяжкай шахтарскай працай, але ён моцна не хацеў, каб яго сыны таксама былі шахтарамі. Старэйшы сын Пятро, які нарадзіўся яшчэ ў Беларусі, тады ўжо пачынаў працаваць на шахце. А найменшы Жан, які нарадзіўся ў Францыі, не паказваў ніякіх здольнасьцяў да навукі ў школе. Гэта і падштурхнула ў 1946 годзе бацьку да спадзеву, што ў СССР у сыноў будзе доля лепшая, чым у яго тут. Пагатоў значная сума грошай на зямлю была ўжо сабраная. Бывалі ў сям'і і агітатары — савецкія афіцэры, якія нешта распавядалі бацьку.

«Пасьля вайны прыяжджала вельмі шмат вайсковых, і яны агітавалі. Расказвалі, як добра ў СССР, проста рай на зямлі. Падманвалі самым сапраўдным чынам», — згадвае Ніна Лаўрэнцеўна той час у Францыі праз 70 гадоў.

Але знаходзіліся і іншыя, асабліва адзін знаёмы француз, які быў у СССР у палоне, і яны адгаворвалі ехаць. Выехала адна знаёмая сям'я беларусаў Скарабагатых зь Мікалаеўшчыны, у якой бацька працаваў на суседняй шахце. Лаўрэнці не ўваходзіў ні ў камуністычную партыю, ні ў нейкія прасавецкія грамадзкія арганізацыі, таму можна сказаць, што прыняў ён рашэньне вярнуцца на радзіму самастойна, амаль без уплыву прапаганды.

## Цеплаход імя Молатава

Савецкі цеплаход «Вячеслав Молотов» выйшаў з Гаўру 25 верасьня 1946 году, ён вёз у СССР 650 чалавек. Людзі радаваліся, што едуць на радзіму, любаваліся прыгожым Міжземным морам.

Жанін на цеплаходзе пасябравала зь беларускім хлопцам Казімерам, якога па прыезьдзе ў марскі порт Адэсы больш ня ўбачыла. У Адэсе было першае моцнае расчараваньне — францускія дакумэнты адразу адабраў НКВД, а грошы, на якія сям'я плянавала купіць зямлю, абмянялі на суму ў савецкіх рублях, якой хапіла толькі на два боханы хлеба.

«Гэта было жахліва. Бацькі хацелі набыць зямлю, а нейкая савецкая ўстанова так несправядліва абмяняла францускія грошы на савецкія. Бацькі былі проста ў жаху», — згадвае Ніна Лаўрэнцеўна.

З савецкай рэчаіснасьцю сям'я з Францыі сутыкнулася вельмі хутка.

«Мая маці казала: «Калі я ня ўбачу чалавека ў лапцях, я паверу, што тут жывуць добра». Але ёй прыйшлося ня толькі ўбачыць чалавека ў лапцях. Мы ўбачылі, як замерзлых мёртвых людзей у лапцях здымаюць



з дахаў таварных вагонаў. І маці ўсё зразумела. Можа, і бацька зразумеў, але маўчаў, няма рады — было ясна, што дарогі назад ужо няма», — расказвае Ніна Лаўрэнцеўна.

## Апынуліся на самым дне

Сям'ю Баран, пратрымаўшы ў Адэсе на тэрыторыі вайсковай часткі, адправілі ў Горадню. У дарозе, калі ехалі ў таварным вагоне да Горадні, елі чорны хлеб, пасыпаны цукрам, запівалі вадой. Ад гэтага хлеба ў Жанін была страшэнная пякотка, бо ў Францыі прывыклі да белага хлеба.

З Горадні адправілі ў Зэльву, дзе бацька мог бы застацца працаваць на дрэваапрацоўчым заводзе. Але там яму не спадабалася, ён вырашыў ехаць у родную вёску Сакі. Там была цагельня, куды бацьку ўзялі на працу, там жа далі невялікую аднапакаёвую мураванку.

У Саках сям'я напоўніцу зьведала голад і нястачу пасьляваеннай беларускай вёскі. Адзіную рэліквію, якую прывезьлі з Францыі, прыйшлося прадаць.

«Бацькі ўзялі з сабой вялікі прыгожы гадзіньнік з боем. Ён граў кожныя 15 хвілін, паўгадзіны, 45 хвілін і гадзіну. Грошай не было, а трэ-



• *Бацькі Ніны Баран Лаўрэнці і Вольга з унукам Віктарам. Вёска Сакі Жабінкаўскага раёну. 1970-я гады.*

ба было нешта есьці, і таму яго прадалі. Сам старшыня Жабінкаўскага райвыканкаму купіў у нас гэты гадзіньнік», — успамінае Ніна Лаўрэнцеўна.

«У нас было вельмі мала чаго есьці, — уздыхае Ніна Лаўрэнцеўна. — Мая маці, ад'язджаючы ў Францыю, прадала карову, кабана і купіла царскіх залатых манэт. У Францыі яна паказвала мне гэтыя манэты і казала, што тут мне на ўсё хопіць — і на завушніцы, і на пярсьцёнак, калі я вырасту. Прыехалі мы сюды, і гэтыя залатыя манэты нам дапамаглі выжыць. Бралі мы гэтыя манэты, у Саках мы не маглі іх прадаць, то езьдзілі ў Мікалаеўшчыну, там за Нёманам была польская вёска, жылі багацейшыя людзі, і за гэтыя манэты мы куплялі ў іх жыта. Потым мы з бацькам зь Мікалаеўшчыны несьлі на сабе мяхі збожжа, у мяне быў меншы, у яго большы. Ішлі пехатою да Стоўпцаў, а там сядалі на цягнік. З гэтага жыта мама варыла такую цёмную кашу, і калі трапляла ў ёй табе скварачка, то гэта было за шчасьце! Бо што бацька зарабляў на цагельні — гэта быў мізэр», — прыгадвае Ніна Лаўрэнцеўна.

Каб неяк пратрымацца, бацька ўзяў у банку 10 тысяч рублёў крэдыту і за 9 тысяч рублёў купілі карову. Гэта здарылася ў 1947 годзе, якраз перад грашовай рэформай у СССР, калі зьберажэньні былі дэнамінаваныя ў 10 разоў. Вяртаць давялося тыя самыя 10 тысяч, але ўжо новымі грашыма. Гэта быў жудасны падман. Каб вярнуць крэдыт, самі пілі толькі кіслае малако, сьмятану і масла Ніна насіла прадаваць у Жабінку, а пазьней вазіла ў Берасьце. Маці з бацькам трывалі ўсё гэта і трымалі язык за зубамі — нават паміж сабой не абмяркоўвалі, навошта яны вярнуліся. А бацькава пячонка нечакана вылечылася, як думае Ніна, ад голаду — надта ж сям'я галадала.

## Вучоба за 6 кілямэтраў

Жанін не скарылася абставінам і заявіла бацькам, што хоча ісьці ў школу. Бліжэйшая сярэдняя школа была ў Жабінцы, хадзіць трэба было пешшу 6 кілямэтраў. Але ў яе было вялікае жаданьне вучыцца.

«Яніна, можа, ня пойдзеш усё-такі ў школу, можа, ты перадумаеш?» — пытаўся бацька, калі яны ішлі запісвацца туды.

«Не, буду хадзіць», — адказала Жанін і запісалася адразу ў сёмую клясу. Гэта быў адчайны крок — яна скончыла ў Францыі толькі чатыры клясы, ня ведала ні расейскай, ні беларускай мовы, і спачатку на ўроках увогуле нічога не разумела. Але дзяўчына мела добрую памяць і хутка навучылася размаўляць, чытаць і пісаць на расейскай мове, а



на ўроках беларускай мовы да яе ставіліся паблажліва. Першы год Жанін карысталася шпаргалкамі і падказкамі аднаклясьнікаў, атрымлівала тройкі, а потым вучылася ўсё лепш і лепш — і школу скончыла амаль на выдатна.

«Аднойчы настаўніца выклікала мяне да дошкі ў 10-й клясе, дала заданьне напісаць сказ і разабраць. Я напісала без памылак, а разабраць ня здолела — марфалёгію праходзяць у 5–6 клясах, а я ж пайшла адразу ў сёмую», — успамінае яна. Але з дакладнымі навукамі праблем ня мела.

## Бяз пашпарту

У 1951 годзе пасьля школы выявілася іншая праблема — трэба паступаць вучыцца, а ніякага дакумэнту Ніне не далі. Бяз пашпарту нельга было выехаць з калгасу і падаць дакумэнты ва ўнівэрсытэт. Пашпартоў вяскоўцам савецкая ўлада не давала да 1974 году, вясковыя людзі былі фактычна прыгоннымі.

З дакумэнтаў Жанін мела толькі францускае пасьведчаньне аб нараджэньні, выпіску, зробленую ў мэрыі роднага гораду.

«Я напісала ў Маскву, каб мне пераклалі гэтае пасьведчаньне. Мне адказалі: перакласьці можам, але гэта зойме паўгода, вам лепей устаць на асьведчаньне ў сваім ЗАГСе. Прыходжу ў Жабінцы ў ЗАГС — мне адмовілі, параілі ехаць у Берасьце. Але і ў Берасьці адмовілі, бо няма савецкага пасьведчаньня аб нараджэньні. І вось прыходжу я зноў у ЗАГС у Жабінцы. Ужо трэба ехаць здаваць экзамэны, а ў мяне нічога няма. І я сказала ў пашпартным стале: «Я нікуды адсюль не сыду, пакуль вы не дасьце мне хоць якую паперку, каб я магла паехаць у Менск здаваць экзамэны». Стала каля акенца і стаю. І пашпартыст выдаў мне часовае пасьведчаньне на 4 месяцы, зь ім я і паехала паступаць», — расказвае Ніна Лаўрэнцеўна.

Куды паступаць, асаблівага выбару яна не мела. Патрабавалася знайсьці інстытут і факультэт з найвышэйшай стыпэндыяй, бо бацькі дапамагаць не маглі. Выбрала хімфак Політэхнічнага інстытуту, спэцыяльнасьць «сылікатная прамысловасьць». Адзінаю перавагаю выбранай спэцыяльнасьці была стыпэндыя 390 рублёў, нават калі сэсія здадзеная з тройкамі.

Падчас паступленьня нечакана спатрэбілася — адзіны раз у жыцьці — француская мова. На экзамэне з матэматыкі Жанін атрымала тройку — трапіўся «прынцыповы» выкладчык, які лічыў, што ў палі-

тэхнічным інстытуце дзяўчатам няма чаго рабіць. Потым Жанін здала на чацьвёркі фізыку і хімію, заставалася замежная мова.

«І я падумала: навошта я буду здаваць нямецкую, якую вучыла ў школе. Вядома ж, не. Або пан або прапаў. Буду здаваць францускую мову», — прыгадвае яна. Катэдры францускай мовы ў Політэхнічным не было, і на экзамэн запрасілі выкладчыцу Інстытуту замеж-



• *Студэнткі Політэхнічнага інстытуту: зьнізу Надзея Попель, Ніна Баран, Раіса Дзянісава, зьверху Валя Карпекіна і Лідзія Лазун. Менск. 1955 год.*




• *Ніна Баран сярод выпускнікоў Менскага політэхнічнага інстытуту. 1956 год.*



ных моваў, загадчыцу катэдры. Яна паслухала, як Жанін перакладае тэкст, і сказала па-француску:

«Навошта вы сюды паступаеце? Вам тут няма чаго рабіць. Ідзіце да нас».

Жанін адказала, што ня ведае добра беларускай мовы і ня здасьць яе, але тая паабяцала ёй, што ня трэба будзе нічога здаваць. Аднак Жанін не пагадзілася — ў Інстытуце замежных моваў ня ўсім давалі інтэрнат і стыпэндыя была на 100 рублёў меншая, а бацькі папярэдзілі, што дапамагаць ёй ня змогуць.

На чацьвёртым курсе сям'і спатрэбілася дапамога самой Жанін. Яна здолела адкласьці дзьве стыпэндыі і перадала бацькам 500 рублёў — дапамагла ім набыць хату за 2,5 тысячы рублёў. Так і пражылі ў ёй Лаўрэнці і Вольга, потым жыў брат Пятро, які працаваў трактарыстам на МТС (машынна-трактарнай станцыі), а цяпер там жыве ягоны сын. Маці Жанін у СССР пэнсіі ня мела, бо нідзе не працавала, а бацьку залічылі толькі ягоны савецкі стаж — 16 гадоў працы на цагельні і на МТС.

## Складаны асабісты лёс

Пасьля Політэхнічнага інстытуту Ніна, як запісалі Жанін у СССР (бацькі яе па-ранейшаму звалі Яня), атрымала разьмеркаваньне на гуту шкла ў Бярозаўку Лідзкага раёну. Адпрацаваўшы там 2 гады і 2 месяцы, у 1957 годзе Ніна Баран выйшла замуж за Анатоля Іванова, які быў старэйшы за яе на сем гадоў і паходзіў з Наваельні каля Навагрудку. Муж скончыў той жа Політэхнічны інстытут і працаваў выкладчыкам у вучылішчы мэханізацыі. Асаблівых пачуцьцяў, як прызналася Ніна Лаўрэнцеўна, да будучага мужа не было:



• *Дзеці Ніны і Анатоля Івановых Антаніна і Сяргей. 1980-я гады.*

«Гэта быў адзіны чалавек, які пагадзіўся са мной ажаніцца. Вы тых часоў ня памятаеце і ня ведаеце. У інстытуце я сябравала з хлопцамі. Але ўсе хлопцы, як толькі даведваліся, што я прыехала з Францыі, адыходзілі. Бо я ж была «непажаданым элемэнтам», і ў КГБ, вядома, стаяла на ўліку. Ужо тады яны былі кар'ерыстамі, баяліся. А Анатоль не пабаяўся і ажаніўся», — кажа Ніна Лаўрэнцеўна.

У шлюбе ў іх нарадзіліся двое дзяцей, сын Сяргей і дачка Антаніна, але сямейнае жыцьцё яе не было надта шчасьлівым. Анатоль памёр ад раку ў 1991 годзе, у веку 66 гадоў.

Старэйшы Нінін брат Пятро ў СССР да пэнсіі працаваў трактарыстам, жыў у Саках, меў жонку Ларысу і сына Анатоля.

Малодшы брат Іван працаваў электразварнікам, жыў у Берасьці, быў жанаты, але дзяцей ня меў.

Дзеля сям'і Ніне давялося пакінуць інжынэрскую працу і перайсьці ў кафлярню ў Навагрудку, дзе яна працавала тэхнолягам 8 гадоў. Пазьней пайшла ў гандлёва-эканамічны тэхнікум выкладаць хімію. Гэты тэхнікум цяпер называецца каледжам, ён якраз насупраць дому Ніны Лаўрэнцеўны. Ніколі, прызнаецца спадарыня Ніна, не хацела быць пэдагогам, але адпрацавала выкладчыцай 28 гадоў.



• *Ніна Іванова (Баран) з мужам Анатолем. Навагарадак. 1970-я гады.*

Калі насталі больш лібэральныя часы, Ніна захацела напісаць ліст у Францыю, але муж забараніў ёй шукаць у Францыі сяброўак, хоць з адной зь іх, палькай Манікай Дудай, яна блізка сябравала. Так і не аднавілася ў яе сувязь з Францыяй, а ёй хацелася б, вядома, пабываць там і паглядзець на родныя мясьціны.

У сьнежні 2018 году Ніна Лаўрэнцеўна Баран атрымала віншаваньне з Калядамі і Новым годам ад амбасадара Францыі ў Беларусі Дзідзье Канэса і ўсяго калектыву амбасады. Гэта здарылася ўпершыню ў яе жыцьці. Цёплыя словы на яе адрас былі напісаныя па-француску, на афіцыйным блянку з гербам Францыі. Ніна Лаўрэнцеўна была сапраўды шчасьлівая, што радзіма згадала пра яе. У тым лісьце яе зноў назвалі Жанін.



# ГІСТОРЫЯ СЬЦЯПАНА БАТУРЫ, ПЕРАКЛАДНІКА ТВОРАЎ КАРАТКЕВІЧА І ЛУКАШЭНКІ



• *Сям'я Батураў у Францыі ля свайго дому: Лізавета, Жорж, Сьцяпан і Максім. 1934 год.*



• *Сьвятлана і Сьцяпан Батуры. Менск. 2018 год.*

90-гадовы поўны цёзка нашага караля Сьцяпана Батуры — мабыць, адзіны з маіх герояў, хто не крыўдуе на рашэньне бацькоў пераехаць з Францыі ў СССР. Гісторыя сям'і Сьцяпана Максімавіча Батуры выглядае як выключэньне сярод аповедаў беларускіх «дзяцей Францыі».

Па прыезьдзе ў СССР сям'і Батураў далі кватэру ў Берасьці, бацька меў добрую працу, дзеці атрымалі вышэйшую адукацыю і рэалізавалі сябе. Ад асаблівага ціску з боку ўладаў не цярпелі. Сам Сьцяпан Батура змог стаць паважаным выкладчыкам Менскага інстытуту замежных моваў, дацэнтам, аўтарам падручніка і перакладнікам на французскую мову беларускіх кніг, сярод іх «Зямля пад белымі крыламі» Ўладзімера Караткевіча і «Рэспубліка Беларусь. Дарога ў будучыню» Аляксандра Лукашэнкі.

Сьцяпан Батура шчасьлівы і ў сямейным жыцьці: ён мае цудоўную жонку Сьвятлану Піліпаўну, таксама былую выкладчыцу Інстытуту замежных моваў, уладальніцу французскага ордэну «Акадэмічныя пальмы». Разам яны выгадавалі сына Максіма і цешацца з посьпехаў унука Антона.

Дзякуючы Сьцяпану Максімавічу і Сьвятлане Піліпаўне мне ўдалося скласьці сьпіс «дзяцей Францыі» — выкладчыкаў французскай мовы ў Менскім інстытуце замежных моваў — цяперашнім Лінгвістычным унівэрсытэце. Французскі факультэт гэтага інстытуту дзякуючы народжаным у Францыі выкладчыкам меў асаблівую атмасфэру і шарм, студэнты вельмі любілі іх, у тым ліку сямейную пару Батураў.

Сьцяпан і Сьвятлана Батура расказалі мне сямейную гісторыю ў сваёй стандартнай менскай кватэры ў пабудаваным у позьнія савецкія часы ў Менску панэльным доме на вуліцы Кастуся Каліноўскага. Яны таксама паказалі ўласнаручна збудаваную дагледжаную дачу ў маляўнічай мясьціне за горадам, каля вадасховішча Вяча.

На дачы зьберагаецца галоўны французскі артэфакт Батураў — шыкоўны набор мэблі (ложак, шафа, сталы, буфэт, крэслы), зробленыя з натуральнага дрэва хросным бацькам Сьцяпана Батуры Дзям'янам Краўчуком, таксама эмігрантам з Заходняй Беларусі. Гэтая камфортная



французская мэбля разам зь сям'ёю правандравала тысячы кілямэтраў, яна служыць ужо 80 гадоў і будзе служыць яшчэ столькі ж. Адзіны яе «недахоп» — яна не пасуе да стандартных савецкіх кватэраў.

## Як Батуры з Палесься паехалі ў Францыю

Сьцяпан Батура нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Селяховічы Камянецкага раёну Берасьцейскай вобласьці. Тады гэта было Палескае ваяводзтва Польшчы. Ягоны бацька Максім Аляксеевіч Батура (1903–1986) і маці Лізавета Кліменцеўна Ляўчук (1908–1993) паходзілі з гэтай жа вёскі і пабраліся супраць волі сваіх бацькоў. Бацькі Максіма не хацелі нявесткі зь беднай сям'і, а бацькі Лізаветы не хацелі зь зяцем дзяліцца зямлёю, бо яе і так было мала.



• *Бацька Максім Батура ў Францыі. 1944 год.*

Але ў пары яшчэ да шлюбу нарадзіўся сын Сьцяпан, і яны наважыліся разам вырашыць усе праблемы ў Францыі, дзе тады былі патрэбныя шахтары і працаўнікі на фэрмах. Ім прыйшоў выклік на працу ў правінцыю Шампань, горад Труа (Troyes). Пасяліліся яны ў прадмесьці Сэн-Жульен-ле-Віля (Saint-Julien-les-Villas). Там жа ўзялі фармальны шлюб.

Спачатку паводле кантракту яны мусілі год адпрацаваць у французскіх фэрмэраў.

«Мая маці была прывычная да сельскай працы і пайшла там адразу палоць бульбу. Калі яны працавалі ў полі, то мая мама казала гаспадыні: вось гэта мой радок, а гэта — *ваш*. Мама ўмела працаваць, а гаспадары-французы — ня вельмі. То яна ішла наперадзе, а потым пераходзіла на іншы радок і казала гаспадыні, што суседні — ваш. І калі вечарам яны прыйшлі дадому і гаспадар спытаўся, як гэтая працаўніца, то гаспадыня адказала, што яна добра працуе, вельмі добра, але чамусьці ўвесь час яе «каровай» называе», — апавядае Сьцяпан Батура пра першыя крокі да знаёмства сваёй сям'і з французскай рэчаіснасьцю і мовай.

«Ваш» па-французску значыць карова («une vache»), а назваць каровай жанчыну было абразай і тады, і цяпер, і ў Францыі, і ў Беларусі.



• *Сьцяпан Батура з бацькамі Максімам і Лізаветай. 1929 год.*

Пазьней Сьцяпанава маці ўладкавалася на працу ў Труа на кандытарскую фабрыку, а тата — на тартак. У Францыі ў іх нарадзіўся яшчэ адзін сын Жорж (1932–2008). Бацька пабудаваў у Сэн-Жульен невялікі цагляны дом, яму дапамагаў у гэтым зямляк Дзям’ян Краўчук. Маці захаплялася самадзейнасьцю, хадзіла ва ўкраінскі хор: эмігрантаў у іхным гарадку было нямала.

Жыцьцё сям’і ў Францыі Сьцяпан Батура згадвае цёпла.

«Мае бацькі ў Францыі наведвалі праваслаўную царкву, яна была ў Труа, у яе хадзілі шмат украінцаў. Там было шмат людзей з Украіны, а былі і рэшткі «белай арміі», якія таксама з Украіны, з Крыму праз Канстантынопаль эміградвалі ў Францыю. Расейскіх эмігрантаў у Труа было мала: яны збольшага належалі да інтэлігенцыі і жылі вакол Парыжу. А там былі простыя людзі, якія ўдзельнічалі ў руху супраць савецкай улады. Маці хадзіла ва ўкраінскі хор і танцавальны гурток, пляла там вянкі. Мама была актыўная, модная. Бацька працаваў на тартаку, быў таксама лесарубам, зразаў платаны. Уздоўж дарог платаны настолькі былі разрасьліся, што іх трэба было сьсякаць. Праца была небясьпечнай, таму бацька на гэтым зарабляў добрыя грошы».

## Першая рэпатрыяцыя — у Польшчу

У Францыі бацька вельмі сумаваў па радзіме, ды і дзядуля ў лістах яго ўжо клікаў назад. У 1937 годзе сям’я Батураў вярнулася на Палесьсе. У той час бывала, што французскія ўлады гвалтам высылалі польскіх эмігрантаў, цэлымі цягнікамі, але Сьцяпан Максімавіч ня памятае, каб гэта была нейкая рэпрэсія з боку дзяржавы. Бацька сам вырашыў вярнуцца, прадаў свой французскі дом і прыехаў зь сям’ёю ў Селяховічы.

Калі прыехалі і пабачылі ўмовы жыцьця ў вёсцы, то бацька зразумеў, што зрабіў памылку. Ён хутка змог вярнуцца назад у Францыю. А





• *Украінскі драматычны гурток у Францыі з удзелам Лізаветы Батуры (у цэнтры са стужкамі). 1930-я гады.*

ягоная жонка з двума сынамі яшчэ год пражылі ў Польшчы, у дзедавай хаце ў роднай вёсцы. Сьцяпан год хадзіў у польскую школу, выклікаў у вясковых хлопцаў зайздрасьць сваім роварам і напалохаў ксяндза маскай чорта. Праз год маці і дзеці зьядналіся з бацькам у Францыі, дзе той пабудаваў ужо другі дом, большы за першы, на тры пакоі і кухню. Клімат у Шампані мяккі, уцяпляцца, як на Палесьсі, ня трэба было, але печка была.

Сьцяпан у Францыі далей вучыўся ў школе, хадзіў на плаваньне ў басэйн, захапляўся амаль усімі даступнымі відамі спорту: лыжамі, роварам, матакросам, веславаньнем на байдарцы — плаваў у складзе «васьмёркі» на рацэ Сэне. Любімым у Сьцяпана Батуры быў роварны спорт, які лічыцца нацыянальным у Францыі, пазьней ён удзельнічаў у шматдзённых роварных гонках і ў Беларусі.

Падчас вайны сям’я Батураў асабліва клопату ня мела, разбурэньняў у іхным горадзе не было. Бацькі надалей працавалі на кандытарскай фабрыцы і тартаку, атрымлівалі харчаваньне на карткі. Толькі калі немцы наступалі, сям’я падалася ва ўцякацтва, але пасьпелі адысьці ад



• *Школьны сшытак Сьцяпана Батуры. 1938 год.*

гораду кілямэтраў 15 і пабачылі немцаў. Тыя іх прагналі дахаты. Другое сутыкненьне адбылося, калі немцы ўжо адступалі і былі вельмі злыя. Маці тады вызірнула ў акно — і нехта зь іх стрэліў, прабіў акно, маці моцна напалохалася, адпаўзала ў пакой на каленьках. Кулю гэтую ў сям'і зьберагалі. Потым у горад увайшлі амэрыканскія войскі і пачало аднаўляцца мірнае жыцьцё.

## Другая рэпатрыяцыя — у СССР

З 1947 году ў Труа пачалі наведвацца савецкія агітатары, прапаноўвалі «вяртацца на радзіму», Сьцяпан Батура нават запомніў прозьвішчы: Драздоўская і Сарокін. Яны казалі, што ў СССР усё добра, вайна скончаная і жыцьцё ў краіне аднаўляецца, абяцалі, што рэпатрыянты там будуць паўнавартаснымі грамадзянамі. Гэты Сарокін паходзіў зь Менску, згадвае Сьцяпан Батура, пазьней ён выкладаў марксізм-ленінізм у Інстытуце замежных моваў.

Некаторыя паслухаліся гэтых агітатараў, якія езьдзілі па ўсёй Францыі. Паддаўся на іхную прапаганду і Максім Батура, які меў настальгію; жонка Лізавета была супраць, але ў сям'і слухаліся бацьку.



«У СССР маці слухала радыё, увесь час чакала, калі зноў пачнецца вайна, каб вярнуцца ў Францыю. Яна проста марыла аб гэтым, шкадавала свой дом у Францыі. Так што гэты пераезд даўся ёй нялёгка, але потым яна звыклася», — згадвае Сьцяпан Максімавіч.

У Камэрцыйным інстытуце, дзе ўжо вучыўся Сьцяпан, яго самога адгаворвалі, абяцалі, што ён атрымае грамадзянства, а пасьля вайсковай службы стане паўнапраўным французам. Сьцяпан мог бы застацца давучвацца, але захацеў быць зь сям'ёю і паслухаўся бацьку.

У СССР выехалі цягніком, у адным вагоне ехалі 2 сям'і. Батуры ўзялі ўсе свае рэчы, мэблю і нават сабачку Бобі, якога хавалі ад памежнікаў па ўсім маршруце. Але ў Берасьці сабачка загаўкаў, а калі яго заўважылі салдаты, то Бобі выскачыў, пераплыў раку і чакаў сваіх ужо пасьля пераходу мяжы. Так у Берасьці зьявіўся сабачка, якому каманды давалі на францускай мове.




• *Выпускная кляса падрыхтоўчых курсаў у Камэрцыйную школу. Батура трэці справа ў верхнім шэрагу. Францыя. 1945 год.*



• *Жорж і Сьцяпан Батуры з бацькамі ў Берасьці. Сьцяпан пасьля роварнай гонкі. 1954 год.*

Калі савецкія агітатары пыталіся ў Максіма Батуры, куды б ён хацеў паехаць у СССР, то ён згадаў, што быў калісьці ў Растове-на-Доне і горад яму спадабаўся.

Паехалі ў Растоў, але па дарозе спыніліся ў шахтарскім пасёлку Нью-Ёрк Данецкай вобласьці. Гэты горад ва ўкраінскай частцы Данбасу заснавалі пратэстанты-мэнаніты і далі яму такую назву, але ў 1951 годзе, пасьля пачатку «халоднай вайны», яго перайменавалі ў Ноўгарадзкае, а ў 2016 годзе ў Вярхоўную Раду Ўкраіны пададзена прапанова вярнуць гораду ранейшую «амэрыканскую» назву.

Бацька тымчасам адзін паехаў у Растоў-на-Доне, пабачыў, як там усё разбурана, і вярнуўся ў данецкі Нью-Ёрк.

## Вучоба ў Францыі і Беларусі

У Францыі Сьцяпан пасьпеў закончыць сярэднюю школу і паступіць у Труа ў Камэрцыйны інстытут (Les Écoles de commerce à Troyes). Правучыўся там адзін год, калі бацькі вырашылі паехаць у СССР. Брат Жорж у Францыі толькі пасьпеў закончыць школу, яму было 16 гадоў. Сьцяпану ўжо было 20 гадоў, ён быў самастойны.

«Для мяне пераезд быў як прыгода. Мне было цікава», — так праз 70 гадоў тлумачыць Сьцяпан Максімавіч сваё адчуваньне ад рэпатрыяцыі ў СССР.

Сьцяпан і Жорж разам зь іншымі дзецьмі рэпатрыянтаў у гэтым данецкім Нью-Ёрку цягам году вучылі расейскую мову. Там ім выдалі пасьведчаньні аб заканчэньні школы-сямігодкі, зь якімі можна было далей вучыцца. Праз год сям'я вярнулася на Палесьсе.

У Берасьці Батураў сустрэлі добра, далі кватэру ў двухпавярховым доме на 8 сем'яў у самым цэнтры гораду, на вуліцы Савецкай. Бацька пайшоў працаваць у будаўнічы трэст, быў добрым паркетнікам, клаў



паркет, сярод іншага, у абкаме камуністычнай партыі. Маці пайшла на дывановы камбінат.

Сьцяпан у Берасьці ў 1948 годзе паступіў у пэдагагічную вучэльню, закончыў яе ў 1952 годзе з адзнакай, атрымаў дыплём настаўніка пачатковых клясаў. Далей паступіў у Менскі дзяржаўны пэдагагічны інстытут замежных моваў, вучыўся там у 1952–1956 гадах, таксама закончыў з адзнакай.

«Да мяне ўсюды добра ставіліся, асабліва першы рэктар, які вельмі любіў спартсмэнаў. А я захапляўся спортам і быў яшчэ і ў драматычным гуртку, і ў танцавальным. Мне ў інстытуце ўсё падабалася», — кажа Сьцяпан.

Калі студэнтаў прымалі ў камсамол, то спыталі і Сьцяпана, ці хоча ён.



• *Сьцяпан Батура ў танцы з аднагрупніцай Лукічовай. 1950 год.*



• *Сьцяпан Батура (передапошні справа) у складзе роварнай каманды Менскага інстытуту замежных моваў. 1954 год.*

«Асабліва мне не хацелася, акрамя таго, лідэрам камсамолу не падабаўся мой выгляд: я меў вусікі і насіў на пальцы пярсьцёнак. А ад савецкіх камсамольцаў патрабавалася большая аскетычнасьць. І калі не ўзялі, то я не крыўдаваў», — тлумачыць Сьцяпан Максімавіч свае адносіны з моладзевай камуністычнай арганізацыяй савецкіх часоў. У камсамол запісвалі амаль пагалоўна, толькі зь яго шэрагаў можна было трапіць у камуністычную партыю. Бяз гэтага ў СССР было цяжка разьлічваць на кар'еру.

Тым ня меней па заканчэньні інстытуту Батуру даверылі адказную місію — у 1957 годзе яго накіравалі папрацаваць перакладнікам на VI сусьветным фэстывалі моладзі і студэнтаў у Маскве. Тады ў савецкай сталіцы ў пачатку хрушчоўскай «адлігі» сабраліся 34 тысячы чалавек з 131 краіны сьвету, пераважна людзі камуністычных ці іншых левых поглядаў. Масквічы бадай упершыню пасьля рэвалюцыі 1917 году змаглі вольна гутарыць з іншаземцамі, і ніхто іх за гэта не караў.



• *Сьцяпан Батура. 1955 год.*



• *Сьцяпан Батура — выкладчык школы-інтэрнату. 1959 год.*

Тымчасам брат Сьцяпана Георгі Батура ў Берасьці закончыў 10 клясаў і паехаў вучыцца ў будаўнічы інстытут у Кіеў. Калі закончыў, прыехаў на Берасьцейшчыну, будаваў Жабінкаўскі цукровы завод у якасьці галоўнага інжынэра. Потым вярнуўся ў Кіеў у той жа інстытут, абараніў дысэртацыю, стаў там прафэсарам. Меў сына Аляксандра і дачку Лізавету.



## «Дзеці Францыі» ў Менскім інстытуце замежных моваў

Сьцяпана Батуру з Інстытуту замежных моваў разьмеркавалі ў Бялыніцкі раён выкладаць у школе нямецкую мову. Але нечакана знайшлося іншае месца працы — у мястэчку Ждановічах пад Менскам для дзяцей зь неўладкаваных сем'яў арганізавалі інтэрнат, дырэктар якога паклікаў Сьцяпана да сябе ў калектыў. Там Батура працаваў выхавальнікам да 1962 году. Ён згадвае, што аддаваў дзецям каманды па-француску, і гэта ім вельмі падабалася. Былыя выхаванцы яшчэ доўга яго пазнавалі і дзякавалі, калі сустракалі ў грамадзкіх месцах.



• *Сьцяпан Батура — выпускнік пэдагагічнай вучэльні. 1951 год.*

На пачатку 1960-х гадоў, калі ў Афрыцы пачала распадацца каляніяльная сыстэма, узьнікла шмат новых дзяржаваў, у якіх размаўляюць па-француску, і ў СССР вырасла патрэба ў спэцыялістах, якія ведаюць гэтую мову. У Менскім інстытуце замежных моваў на францускім факультэце замест дзьвюх групаў зрабілі сем. Адпаведна вырасла патрэба і ў выкладчыках, пра Сьцяпана Батуру ўспомнілі і запрасілі ў штат.

Падчас працы ў Ждановічах Батура зацікавіўся навукай, спрабаваў паступіць у асьпірантуру Маскоўскага інстытуту замежных моваў імя францускага камуніста Марыса Тарэза. Іспыты здаў добра, лепей за канкурэнтаў, але яго не ўзялі.

«Калі я пайшоў скардзіцца, мне адказалі: Сьцяпан Максімавіч, вы ж ведаеце, зь якой краіны прыехалі. Але дарога ў навуку ляжыць ня толькі праз асьпірантуру, можна быць і спаборнікам».

У навуку Сьцяпан пайшоў гэтым другім шляхам, у 1967 годзе пачаў пісаць дысэртацыю, у 1970 годзе абараніўся, стаў кандыдатам філялягічных навук і дацэнтам. У пачатку 1990-х мог спадзявацца на званьне прафэсара, але пайшоў з інстытуту ў камэрцыйныя структуры.

Разам са Сьцяпанам Батурам у Менскім інстытуце замежных моваў працаваў цэлы шэраг народжаных у Францыі выкладчыкаў, якія прыехалі на радзіму сваіх бацькоў у сталінскія часы ў рамках так званай рэпатрыяцыі.

Сьцяпан Максімавіч і ягоная жонка Сьвятлана Піліпаўна дапамаглі мне скласьці сьпіс некаторых зь «дзяцей Францыі», якія працавалі ў «іньязе».

«У нас такіх была палова факультэту», — кажа Сьвятлана Піліпаўна.

**Мішэль Захаркевіч** (1933–2017), дацэнт катэдры лексыкалёгіі. Ягоны бацька да пераезду ў СССР працаваў на шахтах каля гораду Лілю ў Францыі, а ў Менску — на МАЗе.

**Ніна Чарненка** (1936–2018), старшы выкладчык катэдры лексыкалёгіі, нарадзілася каля Парыжу, закончыла Інстытут замежных моваў у Маскве. Яе бацька былы белагвардзейскі афіцэр, украінец, які вярнуўся з жонкай-францужанкай у Херсон па савецкай амністыі. У Менск Ніну разьмеркавалі пасьля інстытуту ў 1965 годзе.

**Альберт Касьцюк** (1936–2006), старшы выкладчык катэдры мэтодыкі выкладаньня, нарадзіўся ля Страсбургу, пераехаў у СССР і вучыўся ў Менску ў тым жа інстытуце, дзе потым і выкладаў.

**Віктар Качан** (1934–1970), выкладчык аддзяленьня францускай мовы, памёр у 36 гадоў. Моцна сумаваў па Францыі.



• *«Дзеці Францыі» — выкладчыкі Менскага інстытуту замежных моваў Мішэль Захаркевіч, Ніна Чарненка, Сьцяпан Батура. 1970-я гады.*



**Жанэт Жармэн,** 1926 году нараджэньня, працавала лябаранткай на факультэце францускай мовы, друкавала на машынцы, зьехала ў Францыю ў пачатку 1990-х гадоў. Яе муж Мішэль памёр у дзень, калі прыйшлі дакумэнты на выезд. У выніку Жанэт паехала ў Францыю з дачкой Дамінікай, двума ўнукамі, а сын Мішэль застаўся ў Беларусі. Пасьля крэмацыі памерлага мужа забрала попел у Францыю.

Апрача іх, зь «дзяцей Францыі» былі Марыя Гушчэўская, якая працавала ў лінгафонным кабінэце, Якаў Валявач і Якаў Давідовіч, якія выкладалі на перакладніцкім факультэце.

Як згадваюць былыя студэнты, менавіта дзякуючы выкладчыкам-нараджэнцам Францыі, якія дасканала валодалі францускай мовай і мелі добрыя манеры, на іхным факультэце была не зусім савецкая атмасфэра, вельмі добразычлівая і нават галянтная.

Зь іншых «дзяцей Францыі» Сьцяпан Батура памятае яшчэ некалькі чалавек, лёсы якіх скончыліся трагічна: адзін у 1948 годзе хацеў нелегальна перайсьці мяжу СССР і вярнуцца ў Францыю, але яго застрэлілі памежнікі, другі павесіўся ад тугі, а некаторыя сьпіліся.

## Зрабіў жонку невыязной

У Інстытуце замежных моваў Сьцяпан Батура знайшоў сабе жонку Сьвятлану Піліпаўну, зь якой ён жыве ўжо больш за 55 гадоў. Сьвятлана нарадзілася ў 1939 годзе ў Смаленску, вучылася ў Менскім інстытуце замежных моваў і нейкі час была студэнткай Сьцяпана Батуры.

«Уяўляеце, на трэцім курсе ён пачаў у нас працаваць, я прыйшла на першыя заняткі, паглядзела на яго, ён мне не спадабаўся і я больш не хадзіла на яго лекцыі. Я была старастай, журнал пад паху і пайшла. А ў канцы сэмэстру трэба ж залік здаваць, застаюцца адны заняткі. Што ж рабіць, трэба ісьці… Зайшла я ў аўдыторыю, спазьнілася. А ён мне гаворыць па-француску: „Вы тут першы раз“. Адказала з абурэньнем: „Не, другі!“».

Пасьля выпуску Сьвятлану накіравалі на год працаваць у Малі, а калі вярнулася — таксама запрасілі выкладаць у родны інстытут. Потым была ў іх яшчэ адна сустрэча, проста крыху пагаварылі, а пазьней неяк селі побач на канцэрце францускай музыкі ў Доме афіцэраў.

У траўні 1963 году Сьцяпан і Сьвятлана пажаніліся. Вясельля не было, расьпісаліся ў ЗАГСе на плошчы Якуба Коласа, селі на матаролер і паехалі жыць на кватэру, якую Батура здымаў у прыватным сэктары ля Балотнай станцыі. Меней чым праз год ім як сям'і рэпатрыянта Менскі



• *Сьвятлана і Сьцяпан Батуры на матаролеры. Менск. 1965 год.*

гарвыканкам вылучыў двухпакаёвую кватэру на вуліцы Хмяльніцкага, побач з кінатэатрам «Зорка», цяпер тут кіно «Кастрычнік».

«Мяне сяброўкі адгаворвалі: ты звар'яцела, казалі, у яго сто баб ужо было, а я сказала, што я буду 101-й і апошняй. Так і сталася. А дэкан сказаў: мы ж цябе хочам у Францыю паслаць на год пасьля Малі, не выходзь за яго, бо тады ня пусьцім. У Парыж на год, адказала я, а замуж я зьбіраюся на ўсё жыцьцё. І, вядома, мяне не пусьцілі ў Парыж. Я адразу ж стала невыязная, як і ён», — апавядае пра мінулае Сьвятлапа Піліпаўна. Сьцяпан Максімавіч усьміхаецца і падтрымлівае яе аповед.

## Паездка ў Францыю, пярэпалах у Менску

Невыязнымі з СССР была абсалютная большасьць людзей: краіна была за «жалезнай заслонай», за мяжу, асабліва ж у краіны Захаду маглі выяжджаць адзінкі, якіх пільна правяралі парткамы і КДБ. Вось і Сьцяпан і Сьвятлана Батуры (апошняя пасьля 1963 году) былі невыязнымі, — існаваў такі негалосны тэрмін для ненадзейных савецкіх грамадзян, пераважна сярод інтэлігенцыі, выкладчыкаў, літаратараў, дзеячоў мастацтва. А сяляне ў той час і ўнутраных пашпартоў ня мелі, каб па СССР езьдзіць.

Але здарылася ў жыцьці Сьцяпана Батуры адно выключэньне. У яго быў знаёмы чыноўнік ў Міністэрстве адукацыі БССР, яны вучыліся разам у інстытуце.

«І я яму кажу: як бы мне зьезьдзіць у Францыю? Калі б у цябе была ступень, усё было б прасьцей, адказвае ён. Як толькі абаронісься — паедзеш».



І сапраўды, у 1972 годзе, неўзабаве пасьля абароны кандыдацкай дысэртацыі, Сьцяпана Батуру як маладога навукоўца накіравалі ў горад Экс-ан-Праванс (Aix-en-Provence), у лябараторыю вядомага французскага вучонага-фанэтыста прафэсара Жоржа Фора (Georges Faure).

«Мы дагэтуль дзівімся, як гэта яго выпусьцілі. Тады мы былі вельмі радыя, што ён пабачыць родную краіну», — кажа Сьвятлана Піліпаўна.

2 месяцы Сьцяпан Батура чытаў у Францыі лекцыі, нават зарабіў там грошай і было за што зьезьдзіць у родны горад Труа. Ён спытаў дазволу ў амбасадзе СССР і паехаў, бо вельмі хацелася наведаць знаёмыя мясьціны, сустрэцца зь сябрамі дзяцінства.

«Я прыехаў у Труа, прыйшоў да знаёмых, яны таксама беларусы-эмігранты, якія калісьці выкупілі наш дом, і жартам сказаў жанчыне: «Прадайце дом, я добра заплачу». Яна адказала, што дом не прадаецца. А тут выйшаў гаспадар і закрычаў: „Гэта ж Сьцяпан, сын Максіма“. Пазналі мяне», — апавядае Батура.

Сустрэўся ён зь сябрамі і знаёмымі. Там яшчэ шмат засталося беларусаў-эмігрантаў, і яны не шкадавалі, што не паехалі ў СССР. Былі вельмі радыя пабачыць Сьцяпана і казалі яму: «А мы думалі, што ты ў Сібіры, што мо цябе і на сьвеце няма». Многіх рэпатрыянтаў сапраўды савецкія ўлады паслалі ў Сібір.

З савецкай амбасады не паведамілі ў Менск, што Батура затрымаецца ў Францыі яшчэ на 2 тыдні, а дома яго ўжо чакалі. Стаўся сапраўдны пярэпалах. Сьвятлану Піліпаўну выклікалі ў дэканат, баяліся, што яе муж застаўся ў Францыі, стаў «невяртанцам» — так называлі савецкіх грамадзян, якія прасілі прытулку і заставаліся на Захадзе.

«А я і сама ня ведаю, тады ж нельга было падтрымліваць зносіны на адлегласьці. Лісты ён пісаў, але ў мяне і думкі не было, што ён там можа застацца. У нас ужо сын быў вялікі… Вядома, ён мог застацца на Захадзе, тады заставаліся. Але ён вярнуўся».

Гэты інцыдэнт улады запомнілі і да канца СССР Сьцяпана Батуру і ягоную жонку з краіны больш ня выпусьцілі, нават размоваў такіх не было, каб кудысьці паехаць за мяжу.

У Францыі ён зноў пабываў, калі ўжо СССР ня стала, — у 1993 і 1996 гадах.

У 1980-я гады Сьцяпан ліставаўся са школьнымі сябрамі з Францыі, нават прымаў дома аднаго зь іх — Рыгора, які таксама паходзіў зь беларускіх эмігрантаў у Труа.

На працы ж яму казалі, што перапісвацца з Францыяй «непажадана». Але ніякіх рэпрэсіяў не было.



• *На імпрэзе ў Менскім інстытуце замежных моваў. Сьцяпан Батура ў ролі вынаходніка фатаграфіі Люі Жака Дагера. Справа пісьменьнік Янка Брыль. Пачатак 1970-х гадоў.*

Была яшчэ адна сувязь з Францыяй: бацькі да сьмерці атрымлівалі страхавую частку сваёй пэнсіі, зробленай там, а гэта ў некалькі разоў больш, чым былі іхныя савецкія пэнсіі. Грошы прыходзілі раз на тры месяцы, іх пераводзілі ў чэкі «Внешпосылторга», зь якімі хадзілі ў спэцыяльную краму «Ивушка». Гэтыя чэкі даставаліся і Сьцяпану са Сьвятланай. За чэкі куплялі якасныя адзеньне і абутак, што важна было для выкладчыкаў.

Пасьля дзяржаўнага Інстытуту замежных моваў у 1992 годзе Сьцяпан Максімавіч выкладаў у прыватным ВНУ — Эканоміка-лінгвістычным унівэрсытэце, пазьней быў перакладнікам у рэклямным агенцтве, няблага там зарабляў, а закончыў працоўную дзейнасьць у веку 85 гадоў.

## Перакладнік зь беларускай на францускую

Усё жыцьцё Сьцяпан Батура займаўся перакладамі з францускай і на францускую мову. Па-францыску ў яго выйшла 12 кніжак. Разам з жонкай напісалі дапаможнік з францускай мовы для студэнтаў факультэту мастацтваў, які выдаў Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт. Зрабіў ён шмат перакладаў дзіцячай, вучэбнай і мастацкай літаратуры на францускую. Том беларускіх народных казак у ягоным перакладзе на францускую мову ўсё яшчэ чакае выдаўца.

Асабліва ганарыцца Сьцяпан Батура сваім перакладам на францускую кнігі Ўладзімера Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі» («La terre sous les ailes blanches»), ён мае ў сваёй бібліятэцы падпісаны аўтарам асобнік.

Караткевіч яму напісаў:






• *Аўтограф Ўладзімера Караткевіча.*

«Дарагому перакладчыку Сьцяпану Максімавічу Батуру на знак моцнага Саюза. 25 сьнежня 1981 (каталіцкія — а значыць і францускія — Каляды)».

Кніга Караткевіча пра Беларусь на францускай мове выйшла ў менскім выдавецтве «Юнацтва».

У 1996 годзе Сьцяпану Батуру давялося перакласьці на францускую мову і кнігу нядаўна абранага прэзыдэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, калі той рыхтаваўся да першага і апошняга свайго візыту ў Францыю. Кніга называецца «Рэспубліка Беларусь. Дарога ў будучыню», выдадзеная ў Нямеччыне на добрай паперы і якасным друкам, з каляровым партрэтам Лукашэнкі на вокладцы. У кнізе інтэрвію з Аляксандрам Лукашэнкам Патрыка Бруно (Patrick Brunot) і тэксты выступаў на розных сходах у Менску, Маскве і Нью-Ёрку.

«Нашыя мэты ў цэлым такія самыя, як прынцыпы, на якіх стаіць вашая дзяржава: Свабода, Роўнасьць, Справядлівасьць, Багацьце, — пісаў Лукашэнка ў прадмове, зьвяртаючыся да францускіх чытачоў. — Мы ведаем, якое грамадзтва хочам будаваць: дэмакратычнае грамадзтва з рынкавай сацыяльна арыентаванай эканомікай. Мы добра разумеем,

• *Кнігі, напісаныя або перакладзеныя Сьцяпанам Батурам.*

што вяртаньне ў мінулае немагчымае. Вось чаму мы будуем сувэрэнную дзяржаву, якая ўлічвае сучасныя рэаліі»*.

У анатацыі да кнігі на апошняй старонцы вокладкі гаварылася пра асноўную мэту пераўтварэньняў у Беларусі:

«Стварэньне рынкавай эканомікі і дэмакратычных інстытуцыяў, якія б гарантавалі правы чалавека і свабоды індывідуўма».

Кніга гэтая цяпер вельмі рэдкая, яе нельга замовіць нават у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

## Стаўленьне да савецкай улады

Кім вы сябе адчуваеце, да якой нацыянальнасьці сябе адносіце, — спытаў я ў канцы адной з нашых размоваў 90-гадовага Сьцяпана Батуру.

«Адчуваю сябе ўсім. Дакладнага адказу ня маю. Родная мова тая, на якой пачынаеш размаўляць, у маім выпадку — француская», — адказаў Сьцяпан Максімавіч.

* Loukachenko A. République de Bélarus. Le Chemin de l'avenir. P. 3.



«Да савецкай улады я ставіўся станоўча, — Сьцяпан Батура далей кажа, што праблемы з уладамі, якія былі, моцна не паўплывалі на ягоны лёс.— Савецкая ўлада мне ўсё дала. Чаго крыўдаваць. У чымсьці падманулі, але ў Берасьці да нас добра паставіліся, такая разруха, а далі добрую кватэру. Адукацыю і працу я атрымаў, сябе рэалізаваў».

«Лёс склаўся нармальна, крыўдаваць няма на што, — пацьвярджае словы мужа Сьвятлана Піліпаўна.— Да багацьця мы не імкнуліся, нас болей цікавілі кнігі. Адну шафу нашых кніг мы ўжо аддалі ў дзіцячую бібліятэку».

Пад старасьць Сьцяпан Батура болей пачаў гаварыць пафранцуску, сьведчыць жонка:

«Ён жа сфармаваўся ў Францыі, у 20 гадоў зьехаў адтуль. Таму і адносіны да жыцьця, прывычкі ў яго несавецкія».

Але сваю «францускасьць» Сьцяпан Батура не перадаў наступным пакаленьням. Сын ягоны Максім францускую мову вывучыць ня здолеў, а ўнук Антон вывучаў у Сахараўскім унівэрсытэце францускую як другую замежную мову, але добра на ёй не гаворыць.

• *Сьцяпан Батура. Менск. 2018 год.*

• *Сьвятлана і Сьцяпан Батуры з унукам Антонам. 2000-я*

# ГІСТОРЫЯ СЯМ'І КРУПАЎ, ЯКАЯ СТРАЦІЛА ДЗІЦЯ ПАДЧАС ПЕРАЕЗДУ З ФРАНЦЫІ



• *Сям'я Крупаў у Францыі: Алена на руках у маці, побач сёстры Яніна і Вікторыя, бацька, браты Ёсіф і Аляксандар. 1937 год.*



З Аленай Крупой мы сустрэліся ў Горадні, у кватэры яе ўнука Ігара Сарокіна, намесьніка старшыні камітэту сельскай гаспадаркі Горадзенскага абласнога выканкаму. Кватэра яму дасталася ад бацькоў, якія рана памерлі. Памяшканьне сьціплае, на першым паверсе савецкага дзевяціпавярховіку, але пасьля дбайнага рамонту.

Сама Алена Аляксандраўна жыве адна ў невялікай кватэры, 23 квадратныя мэтры жылой плошчы, якая дасталася ад яе бацькоў. А да ўнука запрасіла, бо цяпер у яго зьберагаецца багаты сямейны архіў — дакумэнты і фатаздымкі з Францыі. Алена Аляксандраўна ўжо зусім нічога ня бачыць, яна з памяці расказвае, хто на якім здымку. Зроку ў яе няма, а памяць сьветлая. Некалькі гадзін яна расказвала пра Францыю, пра пераезд, пра ўмовы жыцьця ў СССР, пра бацькоў, братоў і сясьцёр. І ні на што асабліва ня скардзілася.

Алена Крупа нарадзілася 2 студзеня 1936 году ў камуне Цюкеньнё (Tucquegnieux) у дэпартамэнце Мэрт-э-Мазэль (Meurthe-et-Moselle) на паўночным усходзе Францыі ў сям'і шахтара Аляксандра Крупы і хатняй гаспадыні Мар'яны Каменяж. Дакумэнт аб яе нараджэньні пад нумарам 1 за 1936 год падпісаў мэр гораду Эдуар Данэ (Edouard Donné), кавалер ордэну Ганаровага легіёну і Ваеннага крыжа.



• *Пасьведчаньне аб нараджэньні Алены Крупы.*



• *Алена Крупа. Горадня. 2018 год.*

## Беларуска-польская сям’я



• *Аляксандар Крупа. 1940-я гады.*



• *Польская вайсковая кніжка Аляксандра Крупы.*



• *Мар’яна Крупа. 1935 год.*

Бацька Алены **Аляксандар Крупа** (1899–1970) — беларус, паходзіў зь вёскі Панямонцы Лідзкага раёну.

У ягонай польскай «вайсковай кніжцы» запісана: родная мова беларуская, веравызнаньне — праваслаўнае, паўнепісьменны, апрача роднай ведае польскую і расейскую мовы, паводле цывільнай спэцыяльнасьці — сельскі працаўнік.

У 1921 годзе, калі яго ўзялі на службу, меў рост 160 сантымэтраў і вагу 52 кіляграмы — каб крыху меней, то ў войска і не ўзялі б. Служыў шарагоўцам у пяхоце, у баявых дзеяньнях удзелу ня браў, у шпіталях ня быў, у канцы 1923 году быў пераведзены ў рэзэрву. У 1924 годзе выпісаўся зь Лідзкага павету Наваградзкага ваяводзтва і прапісаўся ў Гродзіскім павеце Познанскага ваяводзтва, на радзіме жонкі.

Маці Алены Крупы **Мар’яна Каменяж** (Marjanna Kamieniarz, 1898–1991) паходзіла з





• *Старэйшыя дзеці Ёсіф, Аляксандар, Вікторыя.*



• *Малодшыя дзеці Георгі, Яніна, Алена.*

гораду Гродзіска (Grodzisk) цяпер Велькапольскага, а раней Познанскага ваяводзтва Польшчы, была каталічкай, прафэсіі ня мела. Яе бацька з двума братамі былі шахтарамі ў Нямеччыне. Мар’яна там выгадавалася і ведала нямецкую мову.

Аляксандар і Мар’яна ўзялі шлюб у 1924 годзе ў вёсцы Курава Гродзіскага павету. Мелі шасьцёра дзяцей: Вікторыю (1924 году нараджэньня), Ёсіфа (1926), Аляксандра (1927), Яніну (1930), Алену (1936), Георгія (1940). Двое старэйшых нарадзіліся ў Польшчы, чацьвёра малодшых — ужо ў Францыі, куды сям’я пераехала ў 1926 годзе.

Прычына пераезду ў Францыю банальная на той час — у Польшчы ў бацькоў не было працы ці іншых даходаў, за якія можна было б жыць і гадаваць дзяцей. Зямлі не хапала ні беларускай частцы сваякоў Крупаў пад Лідай, ні польскай — пад Познанем.

Апрача таго, нейкія прэтэнзіі да Аляксандра Крупы меў земляўласьнік у Познанскім ваяводзтве, Алена кажа, што бацька тады сарваў пару чужых каласкоў, а гаспадар напісаў заяву ў паліцыю. Гэта Крупу падштурхнула хутчэй запісвацца ў вэрбавальнікаў, якія прыехалі ў Познань, на францускія шахты.

## Жыцьцё ў Францыі

Захаваўся здымак абеду ў кватэры Крупаў у Францыі ў 1935 годзе: за сталом разам з Аляксандрам і Мар’янай сядзіць іхны сябар, на стале пірог, бутэлька віна і тры поўныя шклянкі. Мужчыны ў гарнітурах і гальштуках, маці ў прыгожай сукні і з кулёнам, дзеці ў кашульках. На каленях у бацькі сядзіць дачушка Яніна, побач з маці — сын Алесь. На сьцяне шлюбны партрэт Крупаў, шмат здымкаў дзяцей, сваякоў, каляндар, выразка з польскай газэты. Правы кут здымку абарваны, бо фатаграфія пабывала ў дзіцячых руках. У Аляксандра Крупы маленькія

вусікі, якія ён насіў усё жыцьцё; яны падобныя да гітлераўскіх, пазьней у СССР да Крупы часам празь іх чаплялася міліцыя.

У Францыі сям'я памяняла тры адрасы. Адзін раз прыйшлося літаральна ўцякаць. Крупы падтрымлівалі Французскую камуністычную партыю, бацька ўдзельнічаў у пратэстах і страйках, а польскіх грамадзян за палітычную актыўнасьць французскія ўлады дэпартоўвалі. Маці зь перакананьня была яшчэ большая камуністка, чым тата, кажа Алена Аляксандраўна. У 1935 годзе Крупаў папярэдзілі аб пагрозе дэпартацыі, яны хутка сабралі рэчы і на машыне пераехалі ў Цюкеньнё, дзе і нарадзілася Алена.

Алена Крупа запамятала, як выглядала апошняя іхная французская кватэра ў Цюкеньнё.

«Мы жылі ў вялікім доме на 4 кватэры. Дзьве кватэры былі з адной вуліцы і дзьве — з другой. Спачатку заходзілі ў невялікую вэранду, а потым кухня і сталоўня, побач была вялікая бацькоўская спальня і дзьверы ў склеп. Склеп быў добры, нас забясьпечвалі вугалем, дык яго там трымалі. А на другім паверсе было два пакоі: у адным жылі хлопчыкі, а ў другім дзяўчаткі. Каля дому быў свой агарод, маці нешта высаджвала. Цацкі і лялькі ў нас былі, але ня надта шмат, бо дзяцей жа нас таксама было многа».

Бацька працаваў на шахце, заробак меў добры. Гэтулькі ж, колькі бацькаў заробак, маці атрымлівала грашовай дапамогі ад дзяржавы на шасьцёра дзяцей. Грошай хапала, каб бацька мог пасылаць грашовыя перакзы сваім маці і брату, у якога ў Панямонцах згарэла гумно, а маці пасылала грошы сваім бацькам у Познанскае ваяводзтва.

Вучоба і мэдыцына ў Францыі былі бясплатныя. Фэльчары прыходзілі да іх дахаты, у тым ліку прымалі роды.

Усе дзеці былі хрышчаныя ў касьцёле: маці мела камуністычныя перакананьні, то сама ў касьцёл не хадзіла, але дзецям не забараняла.

«У Францыі мы заўсёды адзначалі Каляды, Новы год, Вялікдзень. На Новы год ялінка была заўсёды. На Вялікдзень дзеці бегалі на гарод, капалі ямкі, упрыгожвалі іх, фарбавалі яйкі. А тата з мамай ужо ноччу нам у гэтыя ямкі і шакалядак пакладуць, і яек рознакаляровых», — згадвае Алена.

## Польскі легіён, партызаны макі́ і Супраціў

За месяц да пачатку баявых дзеньняў у Францыі ў сям'і Крупаў нарадзіўся малодшы сын Георгі.




• *Жорж і Алена ў эвакуацыі ў Марсэлі. 1942 год.*

«І тут нас пачалі бамбіць, — згадвае Алена Аляксандраўна. — Мама выправіла старэйшых у школу, я была дома, брат маленькі ў калысцы, якую мама паставіла пад акном. А сама маці занялася хатнімі справамі, варыла абед. Ад бамбаваньня разьбіла ўсе вокны, і шкло паляцела на майго беднага брацікa».

Бацька ў траўні 1940-га запісаўся ў Войска Польскае, якое стваралася пад французскім камандаваньнем*. Але ў баявых дзеяньнях удзелу ня ўзяў, паехаў зь сям'ёй у эвакуацыю ў вялікі горад-порт Марсэль на поўдні Францыі.

Пазьней падчас аварыі на шахце ён страціў палец, атрымліваў пэнсію 260 франкаў, але працягваў працаваць. У 1943-м сям'я вярнулася на поўнач Францыі, у камуну Цюкеньнё.

Ад траўня 1943 году Аляксандар Крупа з жонкай Мар'янай, а таксама дачка Вікторыя прымалі ўдзел у французскім руху Супраціву, бацька меў падпольную мянушку Леон, жонка і дачка былі без псэўданімаў. Па вайне ім выпісалі пасьведчаньні ўдзельнікаў Супраціву. Фактычна яны былі падпольнікамі: у баях удзелу ня бралі, выконвалі розныя заданьні.

А старэйшы сын Ёсіф ў 1943 годзе (яму было тады 17 гадоў) зь сябрамі пайшоў у французскія партызаны макі́. Да яго хацеў далучыцца і на год маладзейшы брат Аляксандар, але старэйшы брат яму забараніў гэта рабіць.

«Мой брат Ёсіф быў у макі́, ён ваяваў, яны на немцаў нападалі. Ён апавядаў, як аднойчы яны ад немцаў у нейкім возеры хаваліся: бралі трубкі з чароту, залазілі глыбей і такім чынам там дыхалі. А калі немцы прайшлі, то яны потым маглі ім у сьпіны страляць. Ёсіф пазьней пайшоў у польскія аддзелы французскага войска, з гэтай арміяй да Нямеччыны дайшоў. Абураўся, што расейскія салдаты былі вельмі злыя: зойдуць у дом — немцаў няма, а яны падушкі распорваюць, посуд б'юць. Казалі:

* Падрабязьней пра гэтую армію чытайце на с. 254.

«Куркулі-фашысты». Пры чым тут пярына, абураўся мой брат, пры чым падушка? Потым брат пераехаў у Польшчу, пайшоў у Польскую народную армію, служыў у міліцыі».

Бацькі ж падчас вайны зьбіралі інфармацыю, дапамагалі падпольлю. Маці разумела нямецкую мову, то падслухоўвала і выпытвала немцаў, распаўсюджвала ўлёткі, дапамагала ўцякацаь тым, хто быў у небясьпецы. Нейкі час у іхнай кватэры знаходзіўся паранены партызан Васіль, савецкі афіцэр, які ўцёк з палону. Бацька падкормліваў і палонных, якія працавалі зь ім на шахтах. Алена зь сяброўкамі таемна насілі ежу савецкім палонным, што ўцяклі і хаваліся ад нацыстаў у кінутых дамах; яны былі ў чорнай уніформе, можа, маракі, мяркуе Алена Аляксандраўна.

«Маці, бывала, абкруціць сястру Вікторыю нейкімі газэтамі, улёткамі, пасадзіць на ровар, і тая едзе ў суседняе мястэчка. Гэта былі праклямацыі супраць немцаў. Сястра Яніна пазьней казала пра гэта: ня дай бог хто спыніў бы, расстралялі б за мілую душу, а потым яшчэ і ўсю сям'ю».

Алена Аляксандраўна згадвае, як у 1944-м немцы пачалі на стадыёне іхнага гарадка капаць роў.

«Гэта яны ўжо склалі сьпіс, чые дзеці ў партызанах, і зьбіраліся з кожнай сям'і, дзе хоць адзін чалавек быў у партызанах, трох старэйшых расстраляць. З нашай сям'і яны б расстралялі бацьку, маці і маю старэйшую сястру, ёй ужо ішоў тады дваццаты год. Але, на наша шчасьце, пачалося наступленьне амэрыканцаў, а немцы ад амэрыканцаў драпалі хутка, ня так, як ад рускіх, і таму нас вызвалялі ўжо амэрыканцы», — апавядае спадарыня Алена пра шчасьлівы зыход вайны, у часе якой у іхнай сям'і ніхто не загінуў.

У 1946 годзе польскі кансулят у Страсбургу ацаніў матэрыяльныя страты сям'і Крупаў ад вайны і нямецкай акупацыі ў памеры 6650 франкаў — у асноўным за кошт страчанай мэблі і прадметаў ужытку, згубленых падчас эвакуацыі. Гэтыя грошы сям'я пазьней атрымала.

## СССР кліча да сябе

Пасьля вайны ў Францыі Аляксандар і Мар'яна Крупа былі надзвычай палітычна актыўнымі. Аднавілі ўдзел у Французскай камуністычнай партыі, якую яе лідэр Марыс Тарэз (Maurice Thorez, 1900–1964) называў «партыяй расстраляных». Па вайне яна мела значную электаральную падтрымку*.

* Падрабязьней пра французскіх камуністаў у той пэрыяд чытайце ў разьдзеле «Паваенны посьпех камуністаў у Францыі».



Крупа далучыўся да Ўсеагульнай канфэдэрацыі працы — французскіх прафсаюзаў, Зьвязу палякаў — былых удзельнікаў руху Супраціву ў Францыі, Польскай арганізацыі дапамогі Айчыне.


CARTE D'ADHÉRENT

LE PARTI COMMUNISTE FRANÇAIS

LE PARTI DES FUSILLÉS

VEUT ÊTRE ET SERA

LE GRAND PARTI de la RENAISSANCE FRANÇAISE

• *Білет ФКП на імя Аляксандра Крупы, 1945.*

У красавіку 1945 году Аляксандар Крупа ўступіў у арганізацыю Саюз савецкіх патрыётаў, якім фактычна кіравала савецкая амбасада ў Парыжы і які меў філіі па ўсёй Францыі.

Ад усіх гэтых арганізацыяў у сямейным архіве захаваліся сяброўскія білеты на імёны Аляксадра і Мар'яны Крупаў з уклеенымі ў іх маркамі месячных складак — 5 або 10 франкаў.

Сям'я Крупаў хадзіла на розныя імпрэзы Саюзу савецкіх патрыётаў. У 1945 годзе яны былі на адзначэньні 28-х угодкаў бальшавіцкай кастрычніцкай рэвалюцыі ў нейкім французскім горадзе непадалёк ад іх камуны. Захаваўся групавы здымак: дарослыя і дзеці стаяць пад чырвонай зоркай, савецкім гербам, партрэтамі Сталіна і Леніна, на сьцяне лёзунгі з услаўленьнем СССР і «савецкага народу-пераможцы».



• *Білет Зьвязу палякаў — былых удзельнікаў руху Супраціву ў Францыі на імя Мар'яны Крупы.*


UNION DES PATRIOTES SOVIÉTIQUES

СОЮЗ СОВЕТСКИХ ПАТРИОТОВ

ЧЛЕНСКИЙ БИЛЕТ

• *Білет Саюзу савецкіх патрыётаў на імя Аляксандра Крупы, 1945.*



• *Сьвяткаваньне 28-х угодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі. Францыя. 1945.*

Калі ня ведаць, цяжка здагадацца, што здымак зроблены ў Францыі; несавецкае паходжаньне фота выдае прыгожае адзеньне, прычоскі, ахайны і спакойны выгляд людзей — у СССР у гэты час звычайныя людзі так не выглядалі. І зусім неўзабаве многія зь людзей на здымку пераканаліся ў гэтым, калі паддаліся на заклікі савецкіх дыпляматаў і пераехалі ў Савецкі Саюз на стала.

На пераезьдзе ў СССР настойваў не галава сям'і Аляксандар Крупа, а ягоная жонка Мар'яна. Пазьней яна згадвала прозьвішча нейкага савецкага прадстаўніка Емяльянава, які яе асабіста моцна агітаваў і пераканаў. «Вось дык падмануў Емяльянаў», — казала маці Алены Крупы.

Яна памятае, як бацька ў Францыі садзіў яе, васьмігадовую, на калені і



• *Аляксандар і Алена Крупы ды іхны сябра Падаляк на сьвяткаваньні 28-х угодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі. Францыя. Лістапад 1945 г. Праз год усе выехалі ў СССР.*



чытаў газэту «Советский патриот», якая выдавалася гэтай арганізацыяй у Францыі. Тады яна ўпершыню пабачыла літары расейскай азбукі.

Бацька яе па вайне перажыў асабістую трагедыю, калі прачытаў у лісьце ад брата, што іхную маці Юстыну Крупу ў Панямонцах ў 1944 годзе да сьмерці забілі нейкія бандыты, брат казаў, што гэта былі «зялёныя». Алена тады ўпершыню пабачыла, як бацька плача.

Бацькі ахвотна паддаліся на ўгаворы савецкіх эмісараў. Ім можна было выехаць і ў Польшчу, дзе жылі сваякі па матчынай лініі, але вырашылі ехаць менавіта ў СССР, дзе жыў бацькаў брат.

## Сьмерць падчас пераезду ў СССР

У канцы 1946 году сям'я Крупаў зноў паехала ў Марсэль, дзе ўжо бывала падчас эвакуацыі ў вайну. Старэйшыя дзеці, за выняткам Ёсіфа, які з польскім войскам ужо быў у Польшчы, гулялі знаёмымі вуліцамі. Алена, якой было 10 гадоў, больш была з бацькамі. Каля месяца яны жылі ў школе, якую на час вайны перарабілі ў шпіталь, чакалі цеплахода.

Цеплаход «Россия» прыбыў у Марсэль з Адэсы. Пачалі пасадку людзей: хто быў першы — трапіў у каюты, апошнім давялося начаваць у труме — сподзе карабля. Крупам дастаўся трум, начавалі на нарах, пярыны і падушкі мелі свае.

Разам зь сям'ёю выправілася і старэйшая сястра Вікторыя, якая ўжо была замужам, яе муж Яраслаў Тхір паходзіў з Заходняй Украіны. У іх раней памерла ў Францыі дачушка, а цяпер Вікторыя была зноў цяжарная.

«Сястра Яніна яе адгаворвала ехаць з намі: аб чым ты думаеш, казала. Але Вікторыя вельмі любіла маму, — кажа Алена Аляксандраўна, — таму і паехала з намі».

Калі цеплаход падплываў да берагоў Турэччыны, Вікторыя нарадзіла хлопчыка; на караблі быў мэдычны пункт і свае лекары, роды прайшлі добра. Дзіцятка назвалі Канстанцінам.

Па прыезьдзе ў Адэсу Вікторыю зь немаўлём узялі ў радзільны дом, абсьледавалі і адпусьцілі.

Далей дарогі сям'і разыходзіліся, Вікторыя зь Яраславам і нованароджаным Канстанці-



• *Вікторыя Крупа. 1940-я гады.*

нам паехалі ў Львоў. Пасадзілі іх у цягнік, у якім было вельмі халадна, адзеньне ў рэпатрыянтаў было французскае, зусім не пасавала для сьнежаньскіх маразоў ва Ўкраіне. Ежа ў дарозе таксама была кепская і непрывычная. Калі даехалі да Львова, там доўга чакалі іншага цягніка. Пакуль чакалі, хлопчык ціха памёр на руках у мамы — ці то ад голаду, ці то ад холаду, ці ад якой хваробы, ніхто ня ведае. Цела забрала міліцыя, бацькі так і не даведаліся, дзе яго пахавалі. Канстанцін пажыў усяго два тыдні.

Алена Аляксандраўна перакананая, што калі б Вікторыя паехала з усёй сям'ёй у Беларусь, то хлопчык мог бы выжыць. У іхнай «цяплушцы» было цёпла, былі пярыны, дый маці магла б дапамагчы выратаваць унука.

## Лягер для рэпатрыянтаў у былым «шталягу»

Бацька ў СССР зьбіраўся ехаць на Данбас ці Кузбас — надалей працаваць шахтаром, кажа Алена Аляксандраўна:

«Але там на параходзе ён неяк з капітанам разгаварыўся і капітан сказаў: калі хочаце, каб вашыя дзеці выжылі, едзьце да сябе на радзіму. Тут ужо бацька з мамай ня стаў нават раіцца, а сказаў: „Едзем у Беларусь". Ён паверыў гэтаму капітану, за што вялікі яму дзякуй».

Алена кажа, што многія беларусы з Францыі, якія паехалі на Данбас, потым адтуль уцякалі.

Цягнік зь сям'ёй Крупаў з Адэсы прыбыў проста ў лягер для рэпатрыянтаў, які савецкая ўлада зрабіла ў былым лягеры для савецкіх палонных, так званым шталягу, ля мястэчка Ласосна пад Горадняй. Месца жудаснае, там загінулі 14 тысяч савецкіх ваеннапалонных. Цяпер там зрабілі мэмарыял. Пасьля вызваленьня вязьняў лягеру там заставаліся зямлянкі, у якіх трымалі палонных. Крупы пераначавалі ў адной зь іх.

На наступны дзень прыбылі машыны з розных гарадоў Беларусі, каб развозіць рэпатрыянтаў. У менскай машыне Крупы не пасьпелі заняць месца, сказалі чакаць да заўтра.

«Але пазьней прыбыла машына з Горадзенскага кафлянага заводу, ягоны дырэктар асабіста прыехаў і запрасіў адну сям'ю на працу. Мае бацькі вырашылі паехаць зь ім — хай абы-куды паселяць, чым хоць яшчэ на адну ноч заставацца ў гэтай зямлянцы», — згадвае Алена Крупа.

У Горадні сям'ю на 8 месяцаў пасялілі ў падвал.





• *Алена Крупа ў школе № 8 Горадні (у трэцім шэрагу ў цэнтры). 1948.*

«Ну нічога, там прынамсі цёпла было. А з калгасу ў Станіславове побач з Горадняй нас забясьпечылі бульбай, морквай і капустай», — кажа Алена Аляксандраўна. На 8 месяцаў бацька выправіў яе пажыць у родную вёску Панямонцы, да брата.

У новай краіне Крупам было няўтульна і несвабодна.

«Мама лічыла, што яе падманулі: ёй жа казалі, што ў СССР час даезду да працы будзе лічыцца працоўным, што заробак вялікі, што ў сталоўцы добра кормяць… А там поліўка толькі. Дзе ж мы добра жылі, калі тата атрымліваў 54 рублі пэнсіі, пражыві на дваіх з мамай і нас двое дзяцей яшчэ заставалася».

Былыя французскія камуністы Аляксандар і Мар'яна Крупа ў савецкую камуністычную партыю не ўступілі.

«Мама лічыла, што ў СССР няправільныя камуністы, што завабілі іхную сям'ю, што яны грабуць толькі, думаюць пра сябе, а не пра людзей», — тлумачыць спадарыня Алена.

## Сылікоз — хвароба шахтароў

У Горадні бацька, сын Аляксандар і дзьве дачкі Крупаў Вікторыя і Яніна пайшлі працаваць у кафлярню. Праца там пыльная, брудная.

«Мая сястра Вікторыя насіла гэтыя кафлі на дошцы ў гарачую печ, ставіла іх, каб высыхалі, а потым трэба вымаць іх адтуль, калі яны ўжо прасохнуць, гэта было цяжка, вядома».

Бацька ў Францыі быў шахтаром, таксама пылу надыхаўся. У Горадні ў яго выявілі хваробу лёгкіх, але лекары спачатку не змаглі разабрацца з дыягназам.

«Яго лячылі ад тубэркулёзу спачатку, а потым сказалі, што ў яго ў адным лёгкім сухоты, а ў іншым — рак. А выявілася, што гэта быў сылікоз. Тут жа ня ведалі раней такой хваробы шахтароў».

Ужо пасьля сьмерці Аляксандра Крупы здарыўся дзіўны выпадак, апавядае ягоная дачка Алена:

«Мой сын Саша адзін час працаваў на тэлефоннай станцыі, і неяк яго паслалі ў морг. Там на другім паверсе былі кабінэты розныя, у адным кабінэце трэба было мяняць абстаноўку і пераносіць тэлефон у іншае месца. І вось туды паслалі майго Сашу. Ідзе ён па калідоры і бачыць, што там шафа стаіць і ў ёй у розных рошчынах людзкія органы. Сярод іх — лёгкія дзеда, які хварэў на сылікоз, падпісана ягонае прозьвішча. Ён сказаў тады лекару, што дзеда свайго сустрэў. Доктар прапанаваў яму разам памянуць дзеда сьпіртам».

## Лёсы французаў Крупаў у СССР

Рэпатрыянтаў з Францыі ў Горадні было каля 20 сем’яў, прыехалі яшчэ і тыя, хто перш выехаў на Данбас, кажа Алена Аляксандраўна. Іхных дзяцей мясцовыя дражнілі: «Прыехалі французы — паелі ўсе арбузы». Крупы сябравалі зь іншымі сем’ямі, якія мелі такуж ж долю. Цяпер у спадарыні Алены засталіся яшчэ дзьве сяброўкі, народжаныя ў Францыі, астатнія паўміралі. Як і амаль уся французская сям’я Крупаў.

Бацька **Аляксандар Крупа** працаваў у Горадні на кафляным заводзе. У 1954 годзе пайшоў на пэнсію. Спачатку сям’я жыла ў падвале, потым атрымалі двухпакаёвую кватэру на 9 чалавек — у адрамантаваным нямецкімі палоннымі доме. У 1957 годзе бацькі зацікавіліся магчымасьцю эміграваць у Польшчу, нават паехалі туды паглядзець, але не спадабалася, бо бацька пабачыў там міліцыянтаў з дручкамі, ды і другі раз зрывацца зь месца ён ужо не захацеў. Хварэў на сылікоз, ад якога



памёр у 1970 годзе. Пахаваны на каталіцкіх могілках Горадні, жонка там трымала месца і для сябе.

Маці **Мар’яна Крупа** па прыезьдзе ў СССР спачатку не працавала, потым уладкавалася санітаркай на станцыю пераліваньня крыві. Калі памерла, пахаваць ля магілы мужа яе не дазволілі. Пахаваная на агульных гарадзкіх могілках, побач зь ёю ляжаць сыны Аляксандар і Георгі.

Найстарэйшая дачка **Вікторыя** пасьля пераезду ў СССР пабыла ва Ўкраіне адзін год, у 1948-м маці яе забрала да сябе ў Горадню. Пасьля сьмерці немаўляці па дарозе з Францыі Вікторыя мела яшчэ пяцёра дзяцей: двух хлопцаў і трох дзяўчатак. Сваю кватэру атрымала толькі ў 1970 годзе, жылой плошчай 42 квадратныя мэтры на 7 чалавек. Памерла ў 2014 годзе.

Сын **Ёсіф** ваяваў, па вайне застаўся ў Польшчы, служыў у войску, працаваў міліцыянтам і шахтаром. Да бацькоў упершыню прыехаў у 1954 годзе ў форме польскай міліцыі. Атрымліваў добрую пэнсію, у тым ліку з Францыі, памёр у 2001 годзе. Адзіны ягоны сын жыве ў Нямеччыне.

Сын **Аляксандар** у СССР ніякай адукацыі не атрымаў, працаваў на кафляным заводзе, камбінаце будаўнічых матэрыялаў, быў жанаты і меў дзьвюх дачок, якія эмігравалі ў Італію, памёр у 2002 годзе.

Дачка **Яніна** ў веку 17 гадоў пайшла працаваць у тую самую кафлярню, у СССР не вучылася. Працавала яшчэ на абутковай фабрыцы, на гарбарным заводзе. Спачатку па прыезьдзе пісала лісты сяброўкам у Францыю, за што яе бацьку выклікалі ў КГБ, патрабавалі, каб спыніла гэта рабіць. Мела пяцёра дзяцей, у 1960-м першай з усіх дзяцей Крупаў дамаглася асобнай кватэры — пайшла ў абкам партыі і сказала: дайце мне кватэру або адпускайце зь дзецьмі назад у Францыю. У 1980–90-я гады яшчэ марыла вярнуцца ў Францыю, агітавала і сястру Алену, але нічога не атрымалася. Памерла ў 2018 годзе.

Дачка **Алена** адзіная жывая з шасьцёх дзяцей. Прыехала ў СССР у 10 гадоў, пасьля 4 клясаў французкай школы ў Горадні зноў пайшла ў першую, бо ня ведала беларускай і расейскай моваў. У 1960 годзе паступіла ў Менскі інстытут замежных моваў, пасьля заканчэньня 5 гадоў выкладала французскую мову ў слонімскай школе № 7. У 1970-м вярнулася да бацькоў у Горадню. Ёй прапаноўвалі працу перакладніцы ў горадзенскай міліцыі, але не ўзялі, бо не была ў камуністычнай партыі. Уладкавалася выхавальніцай у дзіцячы садок. У 1954 годзе выйшла замуж, але хутка разьвялася. Мела аднаго сына Аляксандра. Больш замуж ня выйшла.

Малодшы сын **Георгі** закончыў філязофскі факультэт БДУ, але працаваў сьлесарам, бо рабочым у савецкі час больш плацілі. Меў дваіх дзяцей. Памёр у 1992 годзе.

### Пра нацыянальную сьвядомасьць

Алена Аляксандраўна казала, што пачувалася ў Беларусі «белай варонай». Адказваючы на пытаньне пра нацыянальную самасьвядомасьць — «Кім вы сябе больш адчуваеце?» — яна прыгадала словы брата:

«Мой брат Аляксандар казаў так: я беларускі паляк афранцужаны. І я такая ж была: ні там і ні там, я нібы натрое падзеленая. Я нібы і полька, нібы і беларуска. Але больш я пачуваюся беларускай. Вельмі люблю бацькаву вёску над Нёмнам, такая прыгожая вялікая вёска Панямонцы, я там 8 месяцаў жыла, калі мы ў Беларусь прыехалі, і пазьней там бывала. Там пахаваныя мае бабуля і дзядуля, дзядзька зь цёткай. Гэтая вёска для мяне як малая радзіма».

Раней, кажа Алена Аляксандраўна, калі браты і сёстры сустракаліся разам, то гаварылі па-француску, тры сястры, пакуль усе былі жывыя, увогуле штонядзелю зьбіраліся і сьпявалі французкія песьні. Цяпер ужо па-француску няма з кім пагаварыць, Алена Аляксандраўна засталася адна.



• *Тры сястры: Алена, Вікторыя, Яніна, 2010 год.*



## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСА АЛЯКСАНДРА КАЧАНА, УДЗЕЛЬНІКА ФРАНЦУСКАГА СУПРАЦІВУ




«ДЫПЛЁМ

присуджаны Нацыянальным вайсковым камітэтам Францускіх вольных стралкоў і партызанаў спадару Аляксандру Качану, які дапамагаў і спрыяў нам зь небясьпекай для свайго жыцьця і маёмасьці падчас вайны за нацыянальнае вызваленьне, на знак прызнаньня ад вольнай Айчыны.

*Парыж, 15 верасьня 1945 году,*

*Прэзыдэнт Нацыянальнага вайсковага камітэту Францускіх вольных стралкоў і партызанаў Шарль Тыён, дэпутат ад дэпартамэнту Сэны».*

Дыплём на імя беларуса Аляксандра Качана падпісаны стваральнікам і галоўным камандзерам руху Францускіх вольных стралкоў і партызанаў, міністрам узбраеньняў ва ўрадзе Шарля дэ Голя, дэпутатам францускага парлямэнту Шарлем Тыёнам (1897–1993). Падпольная арганізацыя Вольных стралкоў і партызанаў была створаная ў 1942 годзе Францускай камуністычнай партыяй, яна прымала ў свае шэрагі ня толькі камуністаў, але ўсіх французаў і іншаземцаў. Яе заданьнем было ладзіць сабатаж на заводах і чыгунцы, караць калябарантаў, забіваць нямецкіх салдатаў. Вольныя стралкі падчас Другой усясьветнай вайны дзейнічалі ў каардынацыі зь іншымі партызанскімі рухамі Францыі. У арганізацыю ўваходзілі 100 тысяч чалавек.

Адзін зь іх — беларус Аляксандар Качан. Ягоны дыплём са спакліччам «Францыя — перадусім!» зьберагаецца ў Менску ў кватэры яго сына Генадзя Качана, які і распавёў гісторыю эміграцыі сваёй сям’і ў Францыю, працы на вугальных шахтах, удзелу бацькі ў Супраціве нямецкай акупацыі, а таксама пераезду ў СССР пад уплывам савецкіх агітатараў.

Аляксандар Качан быў францускім камуністам, па вайне сьвядома паехаў на радзіму, якая знаходзілася пад уладай камуністаў, каб дапамагаць разбуранай краіне, жыў у СССР бедна, на сваё рашэньне ніколі



• *Зьлева Аляксандар, Анры, Леакадзія Качаны, Аркадзь Качан зь сяброўкай, крайні справа — Леон-Франсуа. Францыя. 1945 год.*



• *Генадзь Качан. Менск. 2018 год.*

не наракаў. З Францыі ягоная жонка Леакадзія ў канцы жыцьця атрымлівала заслужаную мужам пэнсію.

## Як вэрбавалі на шахты ў Францыю

Аляксандар Паўлавіч Качан (1906–1961) нарадзіўся ў вёсцы Верацеі Докшыцкага раёну ў сялянскай сям'і. Ягоная жонка Леакадзія Зянкевіч (1912–1992) паходзіла з дробнай шляхты. Сям'я Паўла Качана ў міжваенны час жыла на хутары, працавала ад відна дацямна, але зарабіць на годнае жыцьцё не магла — зямлі было замала. Сям'я Базыля Зянкевіча, бацькі Леакадзіі, таксама была беднай, жыла ў самой вёсцы Верацеі, пасьля вайны выехала ў Польшчу, на атрыманыя ад пераможанай Нямеччыны землі, у Кашалін, бо яны баяліся рэпрэсіяў ад савецкай улады. Іхная хата яшчэ стаіць закінутая ў Верацеях, у вёсцы цяпер засталіся некалькі старых жыхароў, а ад передваеннага хутара Качаноў застаўся толькі камень у чыстым полі.

У 1929 годзе Аляксандар Качан пачуў, што ў вёску Княгінін, што паміж Маладэчнам і Крулеўшчынай, прыехала камісія з Францыі і набірае ахвочых на працу ў шахты. У камісіі былі старшыня, лекар і юрыст. Правяралі дакумэнты і здароўе — ці прыдатныя да цяжкай фізычнай працы.



«Бацька расказваў, што ўсе маладыя хлопцы з навакольных вёсак пайшлі туды ўладкоўвацца. Чэргі былі велізарныя, бо сем'і тады былі вялікія, па 8-10 дзяцей, а зямлі бракавала. Бацька пачуў і таксама пайшоў», — апавядае Генадзь Качан.



• *Шахта ў Арэнбэргу — адна з шахтаў, дзе працаваў Аляксандар Качан. Францыя. 2000-я гады.*

Народу ў чарзе было вельмі шмат, так што Аляксандар Качан ня быў упэўнены, што яму ўдасца трапіць да камісіі. Але ён знайшоў наперадзе чаргі знаёмага хлопца, зь якім калісьці на сьвяце выпілі кварту гарэлкі (0,7 літра). Гэта тады лічылася шмат. І гэты хлопец паставіў Качана перад сабою ў чарзе. У выніку Качан прайшоў камісію, падпісаў кантракт, а ягоны знаёмец ня здолеў — не ўзялі з прычыны стану здароўя.

У лістападзе 1929 году Аляксандар Качан разам з цэлай кампаніяй землякоў, якім пашчасьціла прайсьці конкурс рэкрутацыйнай камісіі, паехаў у Францыю, уладкаваўся на шахту ў камуне Валер (Wallers), вугальны басэйн Нор і Па-дэ-Кале (Nord et Pas-de-Calais), ля самай мяжы з Бэльгіяй. Зарэгістраваўся таксама ў польскім консуляце ў Лілі. Праз год Аляксандар, зарабіўшы грошай, паехаў на радзіму ў адпачынак, яму хацелася родных пабачыць, падарункі ім прывезьці дый самому пагуляць.

У вёсцы Верацеі Аляксандар Качан пазнаёміўся зь Леакадзіяй Зянкевіч, якой толькі што споўнілася 18 гадоў. Яны спадабаліся адно аднаму, і Аляксандар прапанаваў ёй выйсьці за яго



• *Шлюбны здымак Аляксандра Качана і Леакадзіі Зянкевіч. Францыя. 1931 год.*

замуж і прыехаць у Францыю. Расказаў, як ехаць, і паслаў грошай на дарогу.

«Мама была непісьменная, ня ведала замежных моваў, але ў сьнежні 1930 году самастойна прыехала ў Францыю цягніком праз Польшчу, Нямеччыну і Бэльгію. Пажаніліся яны з татам у 1931 годзе», — кажа Генадзь.

## Узорны побыт у Францыі

Маладая сям'я Качаноў год здымала кватэру ў камуне Валер, а потым ад шахты атрымала палову катэджу з агародам у шахтарскім пасёлку Арэнбэрг: кухня і сталоўня на першым паверсе і дзьве спальні — на другім.

У 1932 годзе ў іх нарадзіўся і быў ахрышчаны ў касьцёле Арэнбэргу іхны першынец Леон-Франсуа. У 1943-м у Качаноў нарадзіўся яшчэ адзін сын Гэндрык, у Францыі яго называлі Анры, а ў СССР пераназавуць у Генадзя.

Маці не працавала, бо бацька гэтага не хацеў. Яна гадавала дзяцей, корпалася на гародчыку, карміла трусоў і гусей, распавядае Генадзь Аляксандравіч:

«Бацька на шахце зарабляў дастаткова для годнага жыцьця. У іх ужо тады былі пральная машына, ровары, дзіцячы вазок для сына. Да прыходу бацькі з працы мусіў стаяць абед на стале і папрасаваная белая кашуля. Бацька пераапранууўся, паеў — і пайшлі гуляць. Ён любіў більярд, а маці танцавала. Бацькі часта хадзілі ў кіно і на танцы ў суседні пасёлак, няньку для сына наймалі, а самі йшлі».

У Францыі сям'я ня ведала, што такое марожанае мяса, толькі сьвежае, бралі яго ў мясцовай краме ў залік будучага заробку. Бацькі любілі таксама піва, якое гандляры скрынямі развозілі па катэджах, як і розную садавіну, апэльсіны, вінаград. Нармальна жылі ў Францыі, прызнае Генадзь Качан, гэты быў зусім іншы ўзровень жыцьця ў параўнаньні з СССР.

З першых уражаньняў дзяцінства яму запомніўся эпізод, як ён праваліўся ў расколіну за тэрыконам. Яму тады было 3 гады, ён моцна плакаў, шукалі яго ўсім пасёлкам. Дзякаваць Богу, расколіна была неглыбокай, каля мэтру, і яго хутка знайшлі.






• *Жаночая суполка ў Арэнбэргу, у якой брала ўдзел Леакадзія Качан. Францыя. 1930-я гады.*

## Распаўсюднік газэты «Юманітэ»

Аляксандар Качан, як і многія іншыя ў асяродзьдзі працоўных эмігрантаў з Польшчы, спачуваў францускім камуністам. Ён пагадзіўся нават распаўсюджваць іхны друкаваны орган — газэту «Юманітэ» (L'Humanité) сярод шахтароў.

«Бацька не казаў, чаму ён далучыўся да камуністаў, бо агулам у Францыі яму з мамай падабалася жыць. Але ён быў такі чалавек, які хацеў справядлівасьці, магчыма, паверыў у іхныя ідэі, хацеў, каб быў парадак і каб да рабочых лепей ставіліся», — кажа Генадзь Аляксандравіч.



• *Леакадзія і Аляксандар Качаны з сынам Леонам-Франсуа. Францыя. 1935 год.*



• *Першая камунія ў камуне Валер. Сьвята ў суседзяў, сярод гасьцей — сям'я Качаноў. Францыя. 1945 год.*

Удзельнічаў Аляксандар Качан і ў страйках. У архіве ў ягонага сына захаваліся фота камуністычных мітынгаў ля прахадной бацькавае шахты ў Арэнбэргу — каля сотні чалавек стаяць з транспарантамі, улёткамі, з чырвоным сьцягам, духавы аркестар грае, верагодна, камуністычны гімн «Інтэрнацыянал», напісаны акурат у Францыі.

За палітычную актыўнасьць іншаземцаў маглі выслаць з Францыі, але Качана не дэпартавалі, адміністрацыя шахты ў 1934 годзе пакарала яго іначай.

«Яго паслалі ў настолькі вузкі забой, што вугаль там можна было здабываць толькі на каленях ці лежачы на баку. І там здарыўся завал. Але бацьку пашчасьціла: над ім упаў камень і, як дах, прыкрыў яго ад далейшага падзеньня пароды. Пасьля гэтага здарэньня яго пасылалі толькі ў «нармальныя» забоі… Бацька таксама казаў, што французскія адбойныя малаткі былі цяжкімі, а потым прыйшлі нямецкія — лёгкія і зручныя», — распавядае Генадзь Качан.





• *Страйк на шахце, у якім браў удзел Аляксандар Качан. Францыя. 1930-я гады.*

## Удзельнік руху Супраціву

Калі пачыналася нямецкая акупацыя, людзі з Арэнбэргу ўцячы не пасьпелі, немцы іх спынілі і вярнулі дамоў. Шахтары, хто ня быў змабілізаваны ў войска, вярнуліся да працы.

Аляксандар Качан далучыўся да руху Супраціву, той яго часткі, якую арганізавалі французскія камуністы. У партызаны макі ён не пайшоў, тыя ваявалі ў гарах, а ў іхных шахтарскіх агляменрацыях умоваў для партызанкі не было. Качан далучыўся да падпольля, быў сувязным і захоўваў скрыню зброі, якую выкарыстоўвалі на заданьнях.

Генадзь Качан расказвае, што скрыню са зброяй бацька закапаў пад клеткамі з трусамі. Вядома, ён рызыкаваў, неяк нацысты праводзілі ў іх дома ператрус, але зброю не знайшлі.

Качан быў у «пяцёрцы» такіх актывістаў: дзеля канспірацыі ён ведаў



• *Даведка Аляксандру Качану аб удзеле ў руху Супраціву падчас нямецкай акупацыі ад Французскай камуністычнай партыі. 1945 год.*

толькі чатырох сваіх паплечнікаў, а таксама аднаго чалавека зь іншай пяцёркі.

«Бацька расказваў, што былі заданьні арганізоўваць сабатаж загадаў акупантаў, або калі які француз-паліцыянт паводзіць сябе дрэнна, то кіраўнікі даюць загад «пяцёрцы» яго зьнішчыць. Яны сядуць на ровары, паедуць да яго, знойдуць, застрэляць і вернуцца. Усё нібыта як звычайна, яны зноў на працу пайшлі. Дапамагалі таксама хавацца палонным, якія ўцякалі зь лягераў. Але бацьку як сувязному падпольля гэта рабіць забаранялася. Маці, вядома, хвалявалася: каб толькі нас не расстралялі, казала», — згадвае Генадзь Качан.

Ягоны бацька мала распавядаў пазьней пра сваю падпольную дзейнасьць, быў сьціплым чалавекам, памёр рана. Але ў сямейным архіве Качаноў захаваліся дакумэнты.

Па вайне, 6 траўня 1945 году палітычны прадстаўнік Францускай камуністычнай партыі Шарль Брак (Charles Bracq) выдаў Аляксандру Качану даведку пра тое, што той быў адказным за падпольную групу польскіх грамадзян, ад якой асабіста Брак атрымліваў дапамогу. А 27 ліпеня 1945 году кіраўнік групы Вольных стралкоў і партызанаў Жан Дэволь (Jean Dewaule) напісаў Качану ад імя Камітэту вызваленьня даведку аб тым, што той удзельнічаў у Супраціве падчас акупацыі.



• *Даведка Аляксандру Качану аб удзеле ў руху Супраціву падчас нямецкай акупацыі ад Камітэту вызваленьня. 1945 год.*

У канцы 1945 году Аляксандра Качана запрасілі ў горад Валянсьен (Valenciennes) на вялікі сход актывістаў рабочага руху з удзелам міністраў пераходнага ўраду Францыі камуністаў Марыса Тарэза і Марсэля Поля (Marcel Paul, 1900–1982), а таксама лідэраў францускіх прафсаюзаў.

Качан быў запрошаны на ганаровую трыбуну, дзе сустрэўся зь міністрамі, там яму асабіста паціснуў руку і падзякаваў за дзейнасьць у Супраціве лідэр францускіх камуністаў Марыс Тарэз.

«Аднойчы бацька расказаў пра гэты выпадак: «Такі чалавек мне дзякаваў за ўдзел у Супраціве», — кажа Генадзь Качан.

У Арэнбэргу і ваколіцах беларускіх арганізацыяў не было, то Аляксандар Качан хадзіў ва ўкраінскую суполку, быў актыўным і там, украінцы звалі яго «Олэксам».





FEDERATION DES MINEURS
SYNDICAT DES MINEURS D'ANZIN

Invitation

• *Запрашэньне на сустрэчу прафсаюзу шахтароў з удзелам Марыса Тарэза, на якой пабываў Аляксандар Качан. Францыя. 1945 год.*



• *Алекса Качан — дэлегат зьезду ўкраінскай арганізацыі ў Францыі. 1946 год.*

Яго нават абралі кіраўніком філіі Ўкраінскага народнага фронту ў Арэнбэргу і дэлегатам на 2-і зьезд гэтай арганізацыі ў Парыжы ў 1946 годзе.




• *Алекса Качан — удзельнік украінскай суполкі ў Арэнбэргу. Францыя. 1938 год.*

## Добраахвотны пераезд у СССР

Аляксандар Качан сумаваў па радзіме і быў камуністам, таму ён лёгка паддаўся на заклікі савецкіх уладаў ехаць у СССР: яму абяцалі дапамагчы з жыльлём і ўсім неабходным. Пра голад у Савецкім Саюзе ён ня ведаў.

«А ён жа такі ідэйны камуніст быў, трэба дапамагчы радзіме, кажуць, то ён і паехаў зь сям'ёю», — кажа Генадзь.

Некаторых перамешчаных асобаў і былых палонных савецкіх салдатаў з Францыі і Нямеччыны вярталі ў СССР пад прымусам, а сям'я Качаноў паехала добраахвотна. Здарылася гэта ў 1947 годзе. Да Марсэлю ехалі цягніком, там давялося чакаць савецкага цеплахода «Россия» ў Адэсу.

«Пакуль чакалі, памятаю, хадзілі ў заапарк і я булкай карміў слана, бачыў таксама кракадзіла, — згадвае праз 70 гадоў Генадзь Качан. — Мне тады чатыры гады было, а я дагэтуль памятаю. Калі плылі на параходзе, то я неяк згубіўся і плакаў, пакуль мяне не знайшлі, а маму тады адолела марская хвароба».

З Адэсы бацька паехаў у Менск — паглядзець, ці можна там уладкавацца. Але ў разбуранай беларускай сталіцы Качанам не было дзе спыніцца, таму паехалі ў родную вёску Верацеі, пайшлі жыць у хату дзеда Базыля, які зь сям'ёй па вайне выехаў у Польшчу, уцёк ад савецкай улады.



• *Анры Качан. Францыя. 1944 год.*

Маці ж ехала асобна і трапіла ў лягер рэпатрыянтаў пад Горадняй, там моцна захварэла. Калі ачуняла, яе таксама забралі ў Верацеі.

«Маці потым моцна лаяла бацьку: куды ты мяне прывёз, казала. Яна ж есьці не магла, у вёсцы быў адзін чорны хлеб, і ў яе ад такой ежы балеў страўнік. Яна хварэла і сварылася на бацьку. А бацька маўчаў. Ён не казаў нічога, не прызнаваў сваёй памылкі. Ніхто ня чуў, каб ён калі шкадаваў. Ён разумеў, што ў краіне пасьля вайны разруха», — апавядае Генадзь.

Сям'і Качаноў як рэпатрыянтам прадалі па льготнай цане жылы дом у суседняй Крулеўшчыне — тры пакоі і кухня. Бацька ўладкаваўся грузчыкам у сельпо, потым працаваў





• *Сустрэча сям'і Качаноў з сваякамі з Польшчы. Крулеўшчына, Беларусь. 1958 год.*

у вагонным дэпо, рамантаваў вагоны. Маці не працавала, жылі бедна, калі б не свая бульба, карова і сьвіньня, — галадалі б.

## Французскага камуніста ў КПСС не ўзялі

Бацька неяк і ў СССР хацеў уступіць у камуністычную партыю (адзіны сярод герояў кнігі), але яго не ўзялі, нават не адказалі на зварот, баяліся, што ён шпіён. Але ўлады і не чапалі яго.

Старэйшы сын Качаноў Леон-Франсуа сустракаўся з такімі самымі дзецьмі рэпатрыянтаў з Францыі, у ваколіцах такіх было 5-6 хлапцоў, гутарыў зь імі па-французску. А малодшы сын Анры хутка стаў Генадзем і загаварыў толькі па-беларуску.

У Францыі бацька не хварэў, а ў вагонным дэпо станцыі Крулеўшчына ўвесь час працаваў на вуліцы і застуджваўся. Неяк паклалі яго ў шпіталь і рэнтгенам выявілі, што ў яго чорныя лёгкія. Лекары спачатку думалі, што гэта сухоты, лячылі ад іх, а гэта была хвароба шахтароў — сылікоз. Ад яе Аляксандар Качан і памёр у веку 56 гадоў.


СВЕДЕНИЯ О РАБОТЕ

• *Працоўная кніжка Аляксандра Качана ў БССР.*


CARCOM

• *Рахунак з французскага пэнсійнага фонду на імя Леакадзіі Качан. 1982 год.*



• *Леон-Франсуа (Леанід) Качан. Крулеўшчына, Беларусь. 1950 год.*

Ягоная ўдава Леакадзія Качан атрымлівала савецкую пэнсію па страце карміцеля — 28 рублёў. Калі ў сям’і даведаліся, што ў суседняй вёсцы Порплішча адна жанчына атрымлівае пэнсію з Францыі за свайго мужа, то распыталі яе, што трэба зрабіць, каб дамагчыся такой пэнсіі. Паслалі запыт у францускую пэнсійную страхавую кампанію.

У Францыі за бацьку прызначылі пэнсію, маці атрымлівала яе з 1979 году да самай сьмерці ў 1992 годзе. Дзяліла на ўсю сям’ю. У 1987 годзе, паводле дакумэнтаў, ёй у квартал пералічвалі каля 700 франкаў.

Старэйшы сын Качаноў Леон-Франсуа (у СССР яго назвалі Леанідам) яшчэ ў Францыі вывучыўся музыцы, добра граў на скрыпцы і акардэоне. Уладкаваўся акампаніятарам у Полацкі



дом культуры, дзе працаваў усё жыцьцё. Мае жонку Людмілу і дваіх дзяцей: сына Леаніда, дачку Натальлю.

Малодшы сын Генадзь закончыў Політэхнічны інстытут ў Менску, стаў інжынэрам у дакладнай мэханіцы. Мае жонку Валянціну і дваіх дзяцей: сына Дзьмітрыя і дачку Паліну.

Ад Францыі ў сям’і засталося некалькі рэчаў: посуд, ваза, млынок для кавы, пярсьцёнак, але галоўная рэліквія — бацькава грамата за ўдзел у францускім Супраціве.



• *Валянціна, Дзьмітры і Генадзь Качаны. Менск. 1970 год.*

# ГІСТОРЫЯ ЗЭНІ ШЭМІС, ЯКАЯ БАЧЫЛА ШАРЛЯ ДЭ ГОЛЯ



• *Рэнэ і Зэня Шэмісы. Францыя. 1936 год.*



• *Яўгенія Шэміс (Чантарыцкая). Маладэчна. 2018 год.*

У 90-гадовай Яўгеніі Чантарыцкай (у дзявоцтве Зэні Шэміс, Zenia Szemis) захаваўся моцны французскі пранонс і цудоўная памяць. Са сваёй кватэры яна ўжо гады тры не выходзіць, бо ногі слабыя. Яна таксама слаба чуе і кепска бачыць. Але дзьве гадзіны размоваў пра Францыю, пра дзяцінства і маладыя гады яе так натхнілі, што нават дачка Жанна зьдзіўлялася, як добра яе маці разумела пытаньні і зьмястоўна адказвала.

Час ад часу на рукі да Яўгеніі Янаўны прасілася праўнучка Паліна.

Спадарыня Яўгенія жыве ў Маладэчне недалёка ад іншага героя гэтай кнігі Алеся Салагуба, у стандартнай савецкай трохпакаёвай кватэры на вуліцы Францішка Скарыны, разам з мужам Іванам, дачкой Жаннай, унучкай Ганнай і праўнучкай Палінай.

Уся кватэра ўпрыгожаная бялюткімі сурвэткамі, вязанымі з дапамогай кручка рукамі Яўгеніі Янаўны; вязаць яе навучылі ў французскай школе, і гэтае захапленьне ў яе захавалася на ўсё жыцьцё. Самаробных сурвэтак, абрусаў, наўлечак з рознымі ўзорамі ў яе сабралася цэлая скрыня, яна не шкадуе іх на падарункі сябрам і знаёмым. На сьценах — вышываныя ёю карціны.

У яе кватэры таксама захоўваюцца кнігі з Францыі, беражліва абгорнутыя, але добра-такі патрапаныя. Ёсьць нямала бацькавых і маміных





• *Ян Шэміс. Францыя. 1930-я гады.*



• *Францускія рэчы Яна Шэміса, якія засталіся ў ягонай дачкі: пропуск у шахту, працоўны мэдаль, запінкі для кашулі, футарал для гадзіньніка.*

асабістых рэчаў: капялюшык, запінкі, чарніліца, млынок для кавы, чатыры вялікія яркія капы на ложкі. Усім гэтым амаль немагчыма было карыстацца ў СССР. Кавы ў СССР проста не было як купіць у вольным продажы, хіба што ячменную, а францускія капы былі завялікія для стандартных савецкіх ложкаў.

Для Яўгеніі самая каштоўная з францускіх рэчаў бацькі Яна Шэміса (1894–1958) — ягоны пропуск на жалезарудную шахту, які захаваўся ў выдатным стане, хоць зараз ідзі зь ім на прахадную. На ім захоўваецца найважнейшая інфармацыя пра жыцьцё бацькі: Ян Шэміс нарадзіўся ў 1894 годзе, у Францыю прыехаў 6 лістапада 1926-га, працаваў грузчыкам у шахце, жыў у гарадку Абуэ (Auboué) у Лятарынгіі.

Замест подпісу ўладальніка — тры крыжыкі, значыць, Ян Шэміс быў непісьменны. Гэты ўкладзены ў мэтал і плястык дакумэнт трэба было насіць на матузку на шыі, а пры звальненьні здаць у адміністрацыю шахты, але Шэміс гэтага не зрабіў.

У 1926 годзе ў Вільні Ян Шэміс падпісаў трыма крыжыкамі кантракт з францускай кампаніяй «Société générale d'immigration», якая набірала на працу іншаземцаў. Яго бралі працаваць featureнарабочым жалезаруднай шахты, у кантракце пазначана: «Праца бяз розьніцы ўдзень і ўначы», 6 дзён на тыдзень па 8 гадзін.



• Шлюбны здымак Яна Шэміса і Ганны Міцкевіч. Францыя. 1928 год.



• Бацька Ян Шэміс. 1927 год.



• Маці Ганна Міцкевіч. 1928 год.



CERTIFICAT DE BAPTÊME

• Пасьведчаньне аб хрышчэньні Рэнэ Шэміса. Францыя. 1932 год.

## Бацькі зь бедных сем’яў

Яўгенія Янаўна прыгадвае, што яе бацька Ян, сын Вінцэнта Шэміса і Эльжбеты Юркойць, паходзіў зь вёскі Бабраўнікі цяпер Варнянскага сельсавету Астравецкага раёну, гэта недалёка ад чыгуначнай станцыі Гудагай. У іхнай сям’і было 9 дзяцей, жылі вельмі бедна.

Ян Шэміс расказваў Зэні, што ягоная маці Эльжбета Юркойць ня мела чым пракарміць дзевяць дзяцей. Купляла на базары адну сялёдчыну і прывязвала за нітку над сталом, і дзеці глядзелі на селядца, а елі адну бульбу. Усяго ў хаце было 12 чалавек, а зямлі было мала, таму дзеці, вырасшы, паразьяжджаліся. Старэйшая сястра Юзэфа зьехала ў Маскву, Анця і Крысьціна ў суседнюю вёску Вялікія Якентаны, Мальвіна — невядома куды. Брат Стась паехаў у недалёкую Вільню, а ба-





• Ганна, Зэня і Ян Шэмісы. Францыя. 1931 год.



• Зэня і Рэнэ з бацькамі і сябар сям’і шахтар Арловіч за сьвяточным сталом. Чацьвёртая шклянка віна не для Рэнэ, а для таго, хто здымаў. Францыя. 1936 год.

цька Яўгеніі Ян у 1926 годзе — на шахты ў Лятарынгію, дэпартамэнт Мэрт-э-Мазэль (Meurthe-et-Moselle), горад Абуэ.

У Францыі бацька папрасіў сяброў-беларусаў дапамагчы знайсьці яму жонку ў родных мясьцінах. Сябрава жонка Юстына і знайшла яму пару — Ганну Міцкевіч (1903–1978), якая нарадзілася ў вёсцы Рагазы каля Маладэчна. Сям’я Ганны таксама была беднай — у сям’і было пяць братоў і сясьцёр, а іхны бацька памёр у 1915 годзе.

Ганьне было ўжо 25 гадоў, на тыя часы яна была ўжо «старая дзеўка», і паехала яна ў Францыю, зусім ня ведаючы патэнцыйнага жаніха, у 1928 годзе. Калі б Ян не спадабаўся Ганьне, то яна магла паехаць назад, Шэміс набыў ёй квіток і на зваротную дарогу. Але маладыя спадабаліся адно аднаму і пажаніліся 21 ліпеня 1928 году, пра што ў мэрыі Абуэ было складзенае пасьведчаньне.

27 траўня 1929 году ў пары нарадзілася дачка Зэня (Zenia, гэта памяншальная форма імя Зэнона), 11 ліпеня 1932 году — сын Рэнэ (René).

## Францускае дзяцінства Зэні і Рэнэ

У Францыі бацька Зэні і Рэнэ працаваў адзін, маці была дома, трымала гаспадарку і гадавала дзяцей, атрымлівала на іх дапамогу ад дзяр-



• *Рэнэ, Ганна, Ян, Зэня Шэмісы зь сябрамі ў Францыі. 1936 год.*

жавы, і гэта была добрая падтрымка.

«Грошай хапала, куплялі бананы і нават ня памятаю што яшчэ, як гэта называлася. Памятаю розныя цукеркі «бонбон», смажаныя каштаны і такія цукерачкі, як маленькія фігуркі нэграў. У нас былі харошыя цацкі, у мяне лялькі, у брата чыгунка і салдацікі, можна было ўвесь час гуляць на вуліцы, там жа цёпла. На Каляды маці ставіла ялінку, якая стаяла да Вялікадня, бо брат Рэнэ не дазваляў яе разьбіраць. Я ката надта любіла, яго звалі Мімі, я нават спала зь ім. Як ад'яжджалі, прыйшлося пакінуць яго ў Францыі», — прыгадвае Яўгенія сваё францускае дзяцінства праз 80 гадоў.

Найлепшай сяброўкай Зэні была аднаклясьніца Палет Жаке, францужанка, якая жыла ў суседнім доме. Сябравала Зэня таксама з Марыяй Бязак. Сем'і беларусаў часта хадзілі адны да адных у госьці; бывала, у Шэмісаў заставалася начаваць Ванда Кучынская, а яе бацькі ішлі на танцы.

У сындыкату, якому належалі жалезарудныя шахты, была такая завядзёнка — як толькі нехта зь дзяцей рабочых ідзе да першай камуніі ў касьцёле, сям'я атрымлівае большую кватэру. Апошнім часам перад ад'ездам сям'я Шэмісаў займала вялікую кватэру на вуліцы шахтарскіх дамоў — чатыры пакоі і кухня, у кожнага зь дзяцей было сваё памяшканьне.

Каля дому Шэмісаў быў іхны надзел, на ім саджалі моркву, бульбу, фасолю, агуркі, трымалі трусоў, авечак і курэй. Ложкі, шафы, буфэты ў сям'і былі свае, з кватэры на кватэру перавозілі таксама з сабой і мэталічную печку, каб гатаваць і грэць ваду. У хаце бацькі размаўлялі па-беларуску і па-польску, а дзеці — па-француску. Бацька добра працаваў на шахце — кіраўніцтва ўзнагародзіла яго мэдалём.

«Мы лічылі сябе беларусамі», — кажа Яўгенія пра сваю сям'ю. У Францыі Шэмісы сябравалі зь іншымі беларусамі-шахтарамі, а ў палякаў былі свае сябры. Яўгенія прыгадвае сем'і беларусаў Саковічаў, Арловічаў, Кучынскіх, Безакоў, Мікульскіх. У дакумэнтах беларусаў было



напісана, што яны палякі, бо прыехалі з Польшчы. Паводле Яўгеніі, з 10 тысяч чалавек, якія працавалі ў Абуэ на шахтах, дзясятую частку складалі палякі і беларусы. Яўгенія ня памятае ніякага нацыянальнага ўціску ў Францыі:

«Нас ніхто не чапаў, не выганяў за тое, што мы польскія грамадзяне. У школе да ўсіх дзяцей ставіліся аднолькава добра».

Яўгенія згадвае, што ў школе яна любіла гісторыю, геаграфію, ахвотна вучылася працы: у школе дзяўчат вучылі шыць, вязаць, гатаваць ежу. Яўгенія згадвае, як яна па нядзелях хадзіла ў касьцёл і толькі пасьля гэтага бацька даваў ёй грошы на кіно.

## Як дапамагалі партызанам

Падчас вайны бацька па-ранейшаму працаваў на шахце. Сям'я не галадала. Зэня памятае, што пакуль была вайна, штодня настаўніца клала на парту кожнаму вучню па два-тры печывы. Звонку сям'я Шэмісаў выглядала апалітычнай, але насамрэч бацькі дапамагалі партызанам. Некалькі тыдняў хавалі на гарышчы свайго дому трох партызанаў, адзін зь іх быў знаёмы паляк Анры Козел (Henry Koziol), другі італьянец, прозьвішча Фрома, як звалі трэцяга, Яўгенія ня памятае. Усе яны да вайны былі шахтарамі.

Шэмісы хавалі і кармілі гэтых хлопцаў, тыя начамі хадзілі на заданьні — падрывалі масты, рабілі іншыя дывэрсіі, а ўдзень адсыпаліся. Але пажылі ў доме Шэмісаў нядоўга — да хлопцаў праз гарод пачалі пралазіць дзяўчаты, і гэта маглі заўважыць нямецкія акупанты, таму бацька папрасіў хлопцаў сысьці.

У жніўні 1942 году немцы злавілі Анры Козела і расстралялі. Яму было 20 гадоў. У Яўгеніі Янаўны захавалася ўлётка з партрэтамі ахвяраў нацыстаў, у тым ліку Анры, і надпісам: «Слава нашым пакутнікам, яны памерлі, каб жыла Францыя». Вядома, што бацька Анры працаваў у той




• *Улётка з партрэтамі загінулых за Францыю, у ніжнім правым куце фота Анры Козела, сябра сям'і Шэмісаў, якія хавалі яго ад нацыстаў. Расстраляны ў Нансі ў 1942 годзе.*




• *Даваенная сувэнірная паштоўка з Францыі з партрэтам Зэні Шэміс.*

жа шахце, што і Ян Шэміс; акрамя Анры, у сям'і яшчэ былі двое сыноў.

Яўгенія згадвае, што вызваленьне ад нацыстаў прыйшло незаўважна — недзе лёталі і гудзелі самалёты, адзін нават скінуў бомбу, бомба, як казалі, трапіла ў жылы дом у суседнім гарадку, там загінулі людзі.

## Убачыць Шарля дэ Голя

Адразу пасьля сканчэньня вайны ў Абуэ пайшла пагалоска, што ў Нансі прыедзе кіраўнік пераходнага ўраду Францыі генэрал Шарль дэ Голь. Нансі за 80 кілямэтраў ад іхнага гарадка. І Зэня зь сяброўкай Крыстыян вырашылі паехаць туды, каб пабачыць і паслухаць новага лідэра Францыі. Ехалі цягніком, спыніліся ў мамінай стрыечнай сястры, якая жыла ў Нансі.

«Там быў такі вялікі натоўп, што жах проста. Цэнтральны пляц Нансі ня надта вялікі, людзі ледзьве зьмясьціліся. Шарль дэ Голь мне вельмі спадабаўся, прыгожы быў, такі высокі і худы. Што ён тады казаў, я ўжо дакладна і ня памятаю. Тады якраз завяршылася вайна, то ён напэўна пра гэта гаварыў, пра будучыню Францыі», — згадвае тую падзею Яўгенія Янаўна.

«Мая сяброўка Палет Жаке казала, што найлепшы з прэзыдэнтаў быў дэ Голь. Найлепшы. Пампіду, Мітэран, Сарказі былі зусім не такія», — кажа Яўгенія Янаўна. Хто быў прэзыдэнтам Францыі ў 2018 годзе, калі мы размаўлялі (Эманюэль Макрон), Яўгенія Янаўна ўжо ня ведала. А пра першага і адзінага беларускага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнку не сказала нічога.

## Як у Францыі хвалілі Расею

У 1946 годзе Надзея, жонка Серафіма Саковіча, аднаго зь беларусаў, які працаваў на шахце, пачала ўгаворваць Шэмісаў ехаць зь імі ў Савецкі Саюз.

«Бацькі не ўваходзілі ні ў якія камітэты, не належалі да камуністычнай партыі. А вось Саковічыха некуды хадзіла, прыносіла цэлыя стосы





• *Зэня Шэміс пасьля першай камуніі з бацькамі, братам і сябрамі сям'і Арловічамі, якія засталіся ў Францыі (справа), Саковічы, якія зьехалі ў СССР (зьлева), зьверху над Зэняй муж яе хроснай мамы Марыі Ніканавай і яе хросны бацька Антон Блашкевіч, таксама шахтар з Заходняй Беларусі. Францыя. 1940 год.*

ўлётак і агітавала бацькоў. Бацька рашыўся ехаць, а мама не хацела, плакала. Нас, дзяцей, ніхто не пытаў, мы маглі толькі падслухаць размовы бацькоў», — успамінае Яўгенія.

Падчас вайны на шахце працавалі савецкія палоненыя салдаты, і адзін зь іх у размове з бацькам «надта хваліў СССР».

«Казаў, што ў Расеі вельмі добра, ня трэба торбу насіць, усе ходзяць у гальштуках», — запомніла тыя словы Яўгенія. Іншы шахтар-расеец, не палонны, таксама хваліў СССР у размовах зь Янам Шэмісам, казаў, што туды трэба ехаць, але сам вырашыў не вяртацца на сваю радзіму.

«Надзея Саковіч зьвязалася з гэтымі расейцамі, езьдзіла ў амбасаду СССР, прывозіла нейкія матэрыялы. Яна і іншых нашых знаёмых агітавала, мы ж усе сябравалі. Саковічы самі зарабілі грошай і зьбіраліся на радзіме купіць зямлю і хату… Мая мама плакала, не хацела ехаць. Яны то сварыліся з бацькам, то мірыліся і пачыналі рыхтавацца да ад'езду разам», — расказвае Яўгенія пра рашэньне бацькоў, якое перакуліла іхнае жыцьцё.

«Гэты Саковіч быў такі ж просты, як і мы», — кажа Яўгенія. Цяпер яна не трымае зла на Саковічаў, якія падбілі паехаць у СССР іхную сям'ю. Па прыезьдзе ў Савецкі Саюз Серафім Саковіч неўзабаве загінуў — згарэў жыўцом у роднай вёсцы Куранец Вялейскага раёну: зайшоў у закінуты габрэйскі падвал, дзе захоўваўся бэнзін, запалкай хацеў асьвятліць памяшканьне.

## Сталін не сустрэў

Яўгенія ня памятае, што абяцалі яе бацькам у СССР, толькі ведае, што савецкія дыпляматы прапанавалі бясплатны праезд з Марсэлю да Адэсы, і тут яны не схлусілі. Увесь просты люд бясплатна разьмясьцілі ў сподзе цеплаходу «Россия» і 26 лістапада 1946 году рушылі ў Адэсу, плылі 6 дзён.

«Спалі мы як сялёдкі, у вокны біла вада. Калі ехалі, вакол было такое сонца, такая прыгажосьць. Людзі танцавалі на палубе і ня думалі, што будзе гора нам», — успамінае Яўгенія. Людзей на цеплаходзе было шмат, 2 тысячы чалавек, есьці ў сталоўні сядалі па чарзе. На цеплаходзе Яўгенія пасябравала зь дзяўчынкай Люсі, дачкой былога белагвардзейца з Парыжу, яны ехалі першай клясай.

«Агулам расейцы, былыя белагвардзейцы, кантактаваць з шахтарамі асабліва не хацелі, іх і кармілі ў першую чаргу, і лепей, чым нас. Мы ж дапамагалі талеркі мыць, прыбіраць, бульбу чысьціць», — узгадвае Яўгенія Янаўна сваё падарожжа Міжземным і Чорным морамі.

Усе чакалі, што ў Адэсе цеплаход асабіста сустрэне таварыш Сталін — так абяцалі агітатары. Але Сталін, вядома, не сустрэў. Адразу па прыезьдзе зьнікла Люсі разам зь сям'ёю — «ворагаў народу» зь цеплаходу вывезьлі ўначы. А сям'я Шэмісаў, аддаўшы французскія дакумэнты, села ў «цялячы вагон», каб ехаць у горад Днепрадзяржынск на мэталюргічны завод.

Туды прыехалі яшчэ некалькі беларускіх сем'яў рэпатрыянтаў з Францыі, усяго каля 10. Кожная сям'я атрымала пакой у бараку:

«Нам далі пакой, стол, 4 зэдлі і 4 ложкі, а пасьцелі былі нашыя».

Бацька адразу ўладкаваўся абрубнікам на мэталюргічны завод, але што ён «рубіў», Яўгенія ня памятае. Сям'я Шэмісаў, як і іншыя беларусы, адразу зразумела, што з Украіны трэба ўцякаць.

Неяк у Днепрадзяржынску да Шэмісаў прыйшлі савецкія агітатары і заклікалі маці Ганну Мартынаўну існьці галасаваць на нейкія выбары.

Яна не зразумела, чаго ад яе хочуць, і адказала:



«Я і так як устаю — галашу і як кладуся спаць — галашу». І не пайшла на фальшывыя савецкія выбары.

«Там не было чаго есьці. Бацьку давалі на працы вядро капусты, вядро зялёных памідораў, 30 кіляграмаў бульбы на месяц — і ўсё. А на дзяцей нічога не давалі, толькі карткі на хлеб. Мама адрэжа тату хлеба і нам па кавалачку дае. Да нажа прыліпнуць крышкі, дык мы іх сашкрабалі… Страшна галадалі. Ачысткі ад бульбы не выкідвалі, мылі іх ад гразі, малолі на французскім млынку для кавы і заварвалі кіпнем — атрымліваўся нейкі суп… А яшчэ ў тых краях было шмат крадзяжоў і забойстваў. Аднойчы маме на рынку парэзалі паліто. І нельга было клікаць на дапамогу, парэзалі — і ідзі ціхенька, а то атрымаеш лязом па вачах», — успамінае Яўгенія паваенныя жахі ў Днепрадзяржынску. Цяпер гэтаму гораду ў Січаслаўскай вобласьці Украіны вярнулі ранейшую назву Каменскае.

У СССР Зэню назвалі Яўгеніяй, а Рэнэ — Рэнюсем. Рэнюсь Янавіч памёр у 1978 годзе. У яго засталіся двое дзяцей, народжаных у СССР: сын Эдмонд Рэнюсавіч 1958 году нараджэньня і дачка Ларыса Рэнюсаўна з 1964 году. Эдмонд і Ларыса вучыліся ў спэцыялізаванай «французскай» школе ў Маладэчне, бацька стараўся ім прышчапіць любоў да Францыі. Цяпер Эдмонд Шэміс узначальвае парфумэрную фабрыку «Дыліс Касметык» у Маладэчне, гэта супольнае беларуска-французскае прадпрыемства.

## Паездка ў французскую амбасаду

У 1947 годзе дзьве беларускія сям'і рэпатрыянтаў яшчэ ва Украіне вырашылі папрасіцца, каб дазволілі вярнуцца назад у Францыю. Ініцыятаркай была тая ж Надзея Саковіч, якая агітавала беларусаў за пераезд у СССР. Але самой ёй у СССР моцна не спадабалася. Яна разам зь Яўгеніяй паехала ў Маскву, у амбасаду Францыі.

«У амбасадзе нас прыняла сівая пажылая жанчына і сказала, што з Расеі яны не даюць ніякіх дакумэнтаў на выезд», — расказала Яўгенія.

У Маскве Яўгенія з Надзеяй Саковіч пасяліліся ў кватэры цёткі Юзэфы Кардзіс. Тая добра сустрэла, пачаставала, падарыла пляменьніцы кофту. А потым у лісьце яна напісала:

«Толькі гора Зэня мне нарабіла. Дачку Ядзю звольнілі з працы, за намі сачылі, ледзь не забілі. Не прыяжджайце да нас болей».

Звольненая Ядзя была журналісткай у нейкай савецкай газэце. З таго моманту Шэмісы больш не пісалі лістоў цётцы Юзэфе.

Яўгенія намагалася шукаць іншых шляхоў вяртаньня ў Францыю:

«Я папрасіла тады ў лісьце маю французскую сяброўку Палет Жаке даслаць мне выклік, але аказалася, што ў Францыю выклікаць чалавека з Савецкага Саюзу немагчыма. Вось калі б я была ў Польшчы, то такі выклік яна магла б прыслаць. Французскі пашпарт у мяне адабралі яшчэ на цеплаходзе, узамен выдалі толькі два аркушыкі, на якіх запісалі новае імя і нацыянальнасьць — беларуска», — успамінае Яўгенія марныя спробы вярнуцца на радзіму.

У 1949 годзе Шэмісы пераехалі з Днепрадзяржынску ў Беларусь, паехалі жыць да сваякоў у вёску Рагазы ля Маладэчна. Разам зь імі ў Беларусь выехалі шэсьць беларускіх сем'яў рэпатрыянтаў з Францыі, якія моцна бедавалі па прыезьдзе.

«У сям'і Савічаў было малое дзіця, а ў маці з грудзей замест малака ішла кроў, і маці карміла дзіця сваёй крывёю, вось які быў голад», — успамінае Яўгенія Янаўна.

У матчынай вёсцы Рагазы Шэмісам не было дзе жыць. Хадзілі начаваць па людзях, галадалі і хварэлі.



• *Рэнэ і Зэня Шэмісы. Першы здымак у Беларусі. На іх яшчэ французскае адзеньне. Пачатак 1950-х.*

«Маці і брат спалі на куфрах у дзядзькі, я начавала ў чужых людзей, а тата спаў як сабачка, на падлозе», — з сумам згадвае Яўгенія першы год жыцьця французаў у Беларусі. Урэшце ў 1950 годзе бацька ўладкаваўся ў будаўнічы трэст і атрымаў на ўсю сям'ю пакой у бараку.

Ян Шэміс пажыў на радзіме меней за 10 гадоў. Памёр у 1958 годзе, лекары назвалі прычынай сьмерці рак. На хваробы ён ня скардзіўся, успамінае Яўгенія, але было відаць, як ён схуднеў, ён моцна нэрваваўся. Маці сварылася на яго, навошта ён прывёз сям'ю на пакуты, дзеці плакалі, плакаў і сам тата. «Можа, таму і пажыў мала», — кажа Яўгенія Янаўна.



## Супрацоўнік МГБ спрабуе вэрбаваць

У пачатку 1950-х сям'я Шэмісаў у страху чакала вывазу ў Сібір: іншых ужо вывозілі, такія чуткі хадзілі і пра іх. Аднаго разу Жэні нават сказалі, што яе бацькоў ужо павезьлі. Яна што духу пабегла дадому. Але гэта была памылка: бацькі былі на месцы, вывезьлі іншых. У сям'і мяркуюць, што толькі сьмерць Сталіна вызваліла іх ад пагрозы вывазу ў Сібір.

Яўгенія прыехала ў СССР ужо дарослай, славянскіх моваў ня ведала, доўга не магла ўладкавацца на працу. Неяк яе паабяцалі ўзяць праваднiцай у пасажырскія цягнікі, сказалі нават пісаць аўтабіяграфію, але толькі яна пасьпела сказаць, што нарадзілася ў Францыі, як ёй адмовілі.

«Можа, думалі, што я дывэрсантка», — сумна жартуе Яўгенія.

Прапанова працы зьявілася зь нечаканага боку.

«Прывязаўся да мяне такі эмгэбэшнік Мікалай Піскуноў, — распавядае Яўгенія, — прапаноўваў супрацоўніцтва. А менавіта каб я за грошы езьдзіла па людзях і кепска гаварыла зь імі пра Савецкі Саюз, а іх потым за гэта арыштуюць ці заб'юць. Значыцца, хацеў зрабіць мяне іхным агентам. Але я агентам ні разу не працавала, ні за што не пагадзілася. Піскуноў хадзіў за мной два ці тры гады, не даваў ні зь якім хлопцам пазнаёміцца, — прыгадвае Яўгенія пачатак свайго савецкага жыцьця.— У мяне брат Рэнэ быў вельмі разумны, ён мне казаў: «Зэня, ні ў кога нічога не бяры і ні за што не расьпісвайся». Я ні капейкі ў іх не ўзяла і нікога не прадала, мая душа чыстая».

Урэшце ёй удалося ўладкавацца ў Маладэчне на хлебазавод. Часы былі галодныя, то яна, як і іншыя работнікі, часам выносіла ў кішэні з заводу то булачку, то кавалачак масла ці цукру.



• *Унізе: Надзея, Ганна, Эдмонд, Рэнюсь Шэмісы, уверсе: Ганна Карабко і Зэня Шэміс. Маладэчна. 1961 год.*

«Аднойчы мяне злавілі і ледзьве не пасадзілі. Затрымалі, а была ў мяне з сабой сайка і бутэлечка алею. Я тады прасілася і плакала, а яны сказалі: «У турму будзем садзіць»… Але нічога, абышлося. Дырэктар даў вымову і ўсё», — апавядае Яўгенія.

У 1961 годзе Яўгенія Шэміс выйшла замуж за грузчыка

Івана Адамавіча Чантарыцкага, нарадзіла дваіх дзяцей — Жанну (1962) і Віктара (1964–1988). Адпрацаваўшы 5 гадоў на хлебазаводзе, Яўгенія памяняла месца працы: 15 гадоў была швачкай на швальнай фабрыцы «Камсамолка», хоць сама камсамолкай не была. Яшчэ 15 гадоў — прадавачкай у краме «Космас», побач з домам, каб лепей глядзець за дзецьмі. Разам зь дзецьмі, калі тыя пайшлі ў школу, Яўгенія вучылася чытаць і пісаць па-расейску і па-беларуску. Яе дачка Жанна скончыла пэдагагічную вучэльню ў Менску, стала выхавальніцай дзіцячага садка, а сын Віктар — мараходную вучэльню ў Ліепаі ў Латвіі. У замежныя паходы Віктара не ўзялі, бо ягоная маці нарадзілася ў Францыі. У 23 гады Віктар памёр ад раку крыві, які выявілі пасьля таго, як на яго караблі перавозілі нейкае небясьпечнае рэчыва.

## Лёс Рэнюся ў Беларусі



• *Рэнюсь Шэміс. Маладэчна. 1970 год.*

Як склаўся ў СССР лёс малодшага брата Зэні Рэнэ Шэміса, які ў савецкай Беларусі стаў Рэнюсем, мне апавёў ягоны сын Эдмонд Рэнюсавіч Шэміс, дырэктар ЗАТ «Дыліс Касметык» (гандлёвая марка «Dilis Parfum») з Маладэчна. Бацька назваў яго ў гонар свайго найлепшага францускага сябра, зь якім пасьля пераезду сям'і Шэмісаў з Францыі ў Савецкі Саюз ён больш ня меў кантактаў.

Рэнэ Шэміс трапіў у СССР ва ўзросьце 14 гадоў. У Францыі ён пасьпеў закончыць 6 клясаў, у Маладэчне хадзіў у вечаровую школу. Паколькі беларускай і расейскай моваў ня ведаў, то першым часам яму было складана.

«Нават спачатку ня мог дакладна патлумачыць у краме, што хоча купіць малака і хлеба, калі яго бабуля пасылала», — згадвае Эдмонд Рэнюсавіч.

У Маладэчне неўзабаве Рэнюсь пачынаў вучнем краўца, потым сам стаў краўцом. Працаваў добра, з часам яго падвысілі да закройчага. Ён быў вядомым у Маладэчне майстрам, шыў гарнітуры, паліто, пад ягоным началам была цэлая брыгада краўцоў у швальным атэлье «Бярозка». Там жа Рэнюсь знайшоў сабе жонку — швачку Надзею Аляксандраўну Карабко (1933–2017).

У 1952 годзе, незадоўга да сьмерці Сталіна, 20-гадовы Рэнюсь ледзьве ня трапіў пад махавік рэпрэсіяў.



«На бацьку ў НКВД нехта напісаў данос, быццам ён прапагандуе капіталістычны лад жыцьця. І самога яго цягалі на допыты, і выпытвалі людзей на працы, але ніхто не пацьвердзіў, што ён нешта такое казаў. Толькі дзякуючы гэтаму ён застаўся на волі. Гэта мне сам бацька расказваў», — апавядае Эдмонд Рэнюсавіч.



• *Рэнюсь, Эдмонд, Ларыса і Надзея Шэмісы. Маладэчна. 1968 год.*

Ці білі бацьку падчас допытаў, ён дакладна ня ведае, бацька не казаў пра гэта.

У Рэнюся і Надзеі Шэмісаў нарадзіліся двое дзяцей: у 1958 годзе — сын Эдмонд, у 1964-м — дачка Ларыса.

«Калі бацькі пажаніліся і я нарадзіўся, тата пайшоў да ўладаў, кіраўніка ці то гаркаму партыі, ці то гарвыканкаму ў Маладэчне, і патлумачыў, што ён пераехаў з Францыі, а ня мае дзе жыць. І тады нам далі два пакоі ў трохпакаёвай кватэры, а ў трэцім пакоі там яшчэ жылі дзьве жанчыны», — распавядае Эдмонд.

Ён зь цяплом згадвае, як у дзяцінстве бацька ставіў ім зь сястрой ялінку на Каляды і Новы год, сам яе ўпрыгожваў, клаў падарункі ў валёнкі, а казаў, што гэта зрабіў Дзед Мароз.

Эдмонда і Ларысу дзеці ў школе і ў двары звалі французамі, як і жыхары Маладэчна іхнага бацьку.

Рэнюсь на сямейныя сьвяты любіў засьпяваць зь сястрой Зэняй і сябрам Рыгорам, таксама рэпатрыянтам, францускі гімн «Марсэльезу». Эдмонд, які вучыўся ў Маладачанскай спэцшколе з францускай мовай, ім падпяваў.

«Я вучыў францускую мову, але думаў: ну калі я выеду за мяжу? Мы былі невыязнымі. Бацькоў адзін раз не пусьцілі ў Польшчу да сваякоў, а другі раз, у 1972 годзе, усё ж дазволілі, прафкам атэлье тады хадайнічаў. Відаць, улады тады падумалі, што закладнікамі тут дзеці застаюцца, хочуць бацькі ці не, але вернуцца», — згадвае Эдмонд.

Рэнюсь любіў чытаць францускую камуністычную газэту «Юманітэ», якую ў савецкі час можна было купіць у «Саюздруку» — іншай францускай прэсы ў СССР не было. Некалькі разоў падчас экскурсіяў у вялікія гарады СССР Рэнюсь сустракаў франкамоўных замежных



• *Рэнюсь, Ларыса, Эдмонд і Надзея Шэмісы. Маладэчна. 1975 год.*



• *Эдмонд Шэміс з жонкай Ірынай. Маладэчна. 1995 год.*

турыстаў, быў рады зь імі пагутарыць, гэта было сапраўднай падзеяй для яго. Эдмонд прызнае, што бацьку хацелася зьезьдзіць на радзіму, пабачыць мясьціны, дзе нарадзіўся і рос, але магчымасьці не было.

Аднойчы была спроба аднавіць ліставаньне з радзімай. Рэнюся Янавіча запрасілі ў школу да Эдмонда, дзе быў арганізаваны «клюб інтэрнацыянальнай дружбы». У такіх клюбах у савецкіх школах дзяцей вучылі інтэрнацыяналізму, дзеці ліставаліся з аднагодкамі зь іншых краін, пераважна савецкага блёку. Настаўніца параіла тады Рэнюсю напісаць ліст у Францыю, у школу, дзе ён вучыўся. Ліст паслалі, але адказу не было.

Рэнюсь Шэміс памёр у 1978 годзе, калі Эдмонд быў у войску.

Эдмонд закончыў машынабудаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытуту. Адразу працаваў майстрам і начальнікам цэху на заводзе Таварыства інвалідаў зроку. У 1995 годзе перайшоў у прыватную парфумэрную фабрыку «Дыліс Касметык», зрабіў там кар'еру ад начальніка вытворчасьці да дырэктара, якім і працуе 15 гадоў. Фірма выпрабляе 150 відаў прадукцыі, займае важнае месца на беларускім рынку парфумэрыі, пастаўляе свае тавары ў Расею, Украіну, Літву, Латвію, іншыя краіны. У 2010 годзе ў склад акцыянэраў фірмы ўвайшла француская кампанія S.A.S. Floressence.

Француская мова, якую бацька настойліва рэкамэндаваў яму вучыць, Эдмонду Шэмісу спатрэбілася, і калі ён езьдзіў у службовую выправу ў Парыж, і калі да яго на фабрыку прыяжджалі акцыянэры з Францыі, а таксама калі фірму наведвалі францускія амбасадары ў Беларусі. Кампанія «Дыліс Касметык» спрыяе францускім сацыяльна-культурным акцыям у Беларусі, у прыватнасьці, яна была сярод фундатараў Месяца франкафоніі ў Менску.





• *Сын Эдмонда Шэміса Вадзім. Прага. 2011 год.*

«Сувязь з Францыяй для мне вельмі важная, практычна ўся парфумэрыя ў нас выпрабляецца з францускіх кампазыцыяў, мы супрацоўнічаем з чатырма францускімі фірмамі. Вядома, што француская касмэтыка і парфумэрыя — сярод усясьветных лідэраў. Але гэтая сувязь мне важная яшчэ і таму, што мой бацька паходзіў з Францыі», — кажа Эдмонд Шэміс.

Сястра Эдмонда Ларыса Рэнюсаўна пасьля той жа спэцыялізаванай францускай школы закончыла Інстытут народнай гаспадаркі ў Менску (цяпер Эканамічны ўнівэрсытэт), 23 гады адпрацавала ў банку, да сьмерці даглядала маці. У 2017 годзе пайшла ў фірму, якую ўзначальвае брат.

Сын Эдмонда Вадзім 1990 году нараджэньня — начальнік архітэктурнага аддзелу маладачанскай кампаніі «Будпраект». Паездка на радзіму бацькі і дзеда Рэнюся Шэміса ў горад Абуэ — пакуль у плянах Эдмонда і Вадзіма.

## Найлепшая сяброўка

Найбліжэйшай сяброўкай часоў дзяцінства і юнацтва Зэні Шэміс у Францыі была аднаклясьніца Палет Жаке (Polette Jaquet). Яна жыла ў Абуэ ў суседнім з Шэмісамі доме, паходзіла зь вялікай францускай сям'і — у іх было 12 дзяцей, яе бацька таксама працаваў на шахце.

Пасьля ад'езду з Францыі Зэня ліставалася з Палет, але пісаць можна было толькі пра сямейныя справы, дакладна апісваць, што зь імі адбывалася ў СССР, Зэня не магла праз савецкую цэнзуру ўсяе перапіскі з замежжам.

Лісты з Францыі прыходзілі рэгулярна, Палет пісала пра сваё жыцьцё, Зэня — пра сваё. Ця-



• *Сяброўка Зэні Шэміс Палет Жаке (Polette Jaquet). 1960 год.*



• *Зэня Шэміс, Жанна Чантарыцкая, Палет Жаке. Францыя. 1990 год.*

гам 20 гадоў не было перапіскі: пайшлі дзеці, стала меней часу.

У 1960-х сувязь абарвалася, Палет Жаке была замужам за францускім вайскоўцам, мела ўжо новае прозьвішча Капітэн, і лісты да яе перасталі даходзіць. У канцы 1980-х, калі СССР пачаў адкрывацца сьвету, Яўгенія напісала на ўсе вядомыя ёй адрасы Палет і зьвярнулася ў Чырвоны Крыж.

З Францыі прыйшоў адказ, сувязь аднавілася, і Палет запрасіла сяброўку Зэню ў Францыю разам з дачкой Жаннай.

Зноў на радзіму Яўгенія трапіла праз 43 гады пасьля ад'езду, але францускую мову не забылася. Ехалі праз Нямеччыну і Бэльгію. Сяброўка жыла ў прадмесьці Мэцу, з сынам Філіпам сустрэла іх на вакзале, адразу пазнала. Пры сустрэчы плакалі і Палет, і Зэня, і Жанна.

Яўгенія Янаўна на паўтара месяцы зноў стала Зэняй, як яе называла Палет.

Зэня прывезла зь Беларусі ў падарунак два самавары, крышталёвую вазу, пасьцельную бялізну, чорны хлеб і гарэлку. Беларускі чорны хлеб і моцная гарэлка надта ўразілі французаў. Разам з Палет Зэня сустрэлася зь іншымі сяброўкамі свайго дзяцінства, на вячэру ў рэстарацыі прыйшлі 20 чалавек.

«Як быццам бы я ўсё жыцьцё там жыла і ніколі не выяжджала», — кажа пра тую паездку Яўгенія Янаўна. Палет ёй неяк сказала: «Навошта ты, Зэня, тады пакінула Францыю, засталася б лепей у нашай сям'і, знайшлі б табе месца».

Шахта, дзе калісь працаваў яе тата, была ўжо закрытай, у касьцёл, куды ў дзяцінстве хадзіла Зэня, трапіць не змаглі, ён стаяў зачынены, бо памёр сьвятар. Іхны дом у Абуэ захаваўся, але там жылі іншыя людзі і патрывожыць іх, зайсьці ў гэты дом Зэня і Жанна не рашыліся.



Палет жыла ў прыгарадзе Абуэ пад назвай Парадыз (Paradis) адна, муж яе памёр. Зэня і Жанна пабылі ў яе паўтара месяца, хоць плянавалі адзін месяц, нават парушылі тэрмін дзеньня францускіх візаў, бо своечасова не зарэгістравалі зваротныя білеты. Але пры выезьдзе з Францыі нічога ім за гэта не было.

Потым перапіска сяброўак працягвалася, былі і званкі прынамсі раз на месяц. У Яўгеніі Янаўны захавалася шмат лістоў сяброўкі, і яна дазволіла пачытаць і зьмясьціць у кнізе адзін зь іх, датаваны 1992 годам, напісаны ўжо пасьля іхнай паездкі ў Францыю, неўзабаве пасьля таго як яе дачка Жанна выйшла замуж за Ёсіфа Лётку.

*«Дарагая Зэня,*

*Гэтай паштоўкай хачу павіншаваць цябе з днём нараджэньня. Я атрымала фатаздымкі. Дзякую! Яны выдатныя, у Жанны прыгожая сукенка. Жанна хацела б пераехаць у Францыю, але, як я табе пісала, ужо позна, каб аформіць дакумэнты і іншае.*

*Зэня, я гляджу тэлевізар і сачу за інфармацыяй, і ведаю, што ў вас таксама трэба шмат грошай, а ты прадала свае радыёпрымачы?*

*Ужо 2 гады прайшло з твайго прыезду. А Жанна, ці ўспамінае яна Францыю? Ці працягвае гаварыць па-француску? Як яна маецца наагул, яна выйшла замуж па каханьні? Я думаю, што так.*

*А як маесься ты, Зэня? Твой муж? Калі ты захочаш прыехаць з Жанам у Францыю, цяпер гэта лягчэй, хоць працэдура афармленьня доўгая.*

*На гэтым і ў чаканьні навінаў ад цябе я цябе горача цалую, і таксама Жана, Жанэт і яе мужа. Да хуткага!*

*Палет».*

Палет згадвала ў лісьце, што Зэніна дачка Жанна хацела пераехаць у Францыю. Палет раней казала, што магла б яе ўзяць да сябе на нейкі час, але трэба вывучыць францускую мову. Але пераезд Жанны зь Беларусі ў Францыю стаў нерэальным пасьля таго,



• *Ліст Палет Жаке да Зэні Шэміс. 1992 год.*

як яна выйшла замуж, і сапраўды — па каханьні. А вось францускую мову Жанна так і ня вывучыла.

Палет у лісьце таксама згадвае дзьве дзьвюхкасэтныя магнітолы (радыёпрымач і магнітафон у адным корпусе), якія Зэня з дачкой купілі ў Францыі — адну сабе, а другую на продаж.

Зэня і Палет сапраўды плянавалі яшчэ сустрэцца, але француская сяброўка спачатку перанесла інсульт, ад яе пайшлі лісты, напісаныя вельмі неразборлівым почыркам, а ў 1996 годзе яна загінула ў аўтакатастрофе, калі сама кіравала машынай.

Больш Зэня і Жанна ў Францыі не былі. Муж Жанны Ёсіф Лётка працаваў у Маладэчне на заводзе парашковай мэталюргіі, памёр у 1996 годзе вельмі маладым, калі выпіў зь іншымі рабочымі няякаснага сьпірту, які тады запаланіў рынак постсавецкіх краін.

Сярод францускіх школьных кніжак, прывезеных Зэняй з Францыі, ёсьць некалькі непрывычных для беларускага школьніка дапаможнікаў: «Практычнае жыццё. Ручныя працы» і «Школа шчасьця». У першым розныя гаспадарчыя парады: як адрамантаваць прас, як карыстацца інструмэнтамі. Другі апісвае ролю жанчыны ў сям'і, гадаваньне дзяцей, гігіену, навучае хатняй эканоміцы, гатаваньню страваў, догляду за домам, — усяму таму, з чаго складаецца сямейнае шчасьце. Яўгенія Янаўна ў канцы свайго 90-гадовага жыцьця кажа, што ў Савецкім Саюзе яна шчасьця ня мела.




• *Кнігі Зэні Шэміс з Францыі.*



## ГІСТОРЫЯ НІКАЛЯ ЛІСОЎСКАГА, ЯКІ ВЫКОНВАЎ ЗАДАНЬНЕ СССР У АЛЬЖЫРЫ

У дагледжанай менскай кватэры Інэсы Байрашавай разам з гаспадыняй і яе сястрой Нэляй Старцавай, якая адмыслова прыехала зь вёскі Пліса Глыбоцкага раёну, па каліву аднаўляем гісторыю жыцьця іхнага бацькі Мікалая Яўхімавіча Лісоўскага.

Яго і ягоных бацькоў-рэпатрыянтаў у Беларусі звалі французамі. А яшчэ Мікалая Яўхімавіча сябры і калегі ўсё жыцьцё звалі Нікаля, бо ён вырас у Францыі, а ў СССР пераехаў ужо дарослым. Калі ён вучыўся ў Менскім інстытуце замежных моваў, то аднакурсьнікі звалі яго Джоні, чамусьці на амэрыканскі, а не на францускі манэр. Прычым не адзін ён меў такую амэрыканскую мянушку: іншага героя гэтай кнігі Сьцяпана Батуру аднакурсьнікі клікалі Стыў. Ніхто цяпер ня можа дакладна патлумачыць, чаму так было; мо таму, што амэрыканцы вызвалілі Францыю ад нямецкай акупацыі, за што французы былі ўдзячныя.



• *Нікаля Лісоўскі. Францыя. 1933 год.*



• *Дочкі Нікаля Лісоўскага Нэля Старцава і Інэса Байрашава. Менск. 2018 год.*

Нікаля Лісоўскі памёр даўно, у 1973 годзе, у веку 50 гадоў, пахаваны ў вёсцы Падсьвільле Глыбоцкага раёну Віцебскай вобласьці, дзе да апошняга дня выкладаў у школе францускую і нямецкую мовы. Пасьля сьмерці не засталося амаль ніякіх дакумэнтаў — ні яго, ні ягоных бацькоў, толькі дзясятак аматарскіх фатаздымкаў з Францыі і Беларусі. Гісторыя жыцьця Нікаля Лісоўскага абапіраецца толькі на гэтыя фота і на ўспаміны дачок.

Два ягоныя здымкі зь сямейнага альбому датаваныя 1973 годам. На першым урачыстае адзначэньне 50-х угодкаў Нікаля Лісоўскага ў Падсьвільскай сярэдняй школе: момант, калі малады калега — настаўнік хіміі Мікалай Жаўняровіч уручае Нікаля падарунак у кардоннай скрыны, а зьверху да скрынкі прыкладзеная кніга пра Францыю. На стале засталася недагулянай партыя ў шашкі, а на дошцы аб'яваў — насьцен-



• *Нікаля Лісоўскі. 1950-я гады. Фота зь сямейнага альбома.*



• *Настаўнік хіміі Мікалай Жаўняровіч уручае падарунак Нікаля Лісоўскаму на 50-гадовы юбілей. Падсьвільская школа. 1973 год.*



ная газэта пра юбілей шаноўнага настаўніка з надпісам: «Нарадзіўся ў 1923 — дажыў да 1973 — і дажыве… да 2023». Гэта было пажаданьне дажыць да 100 гадоў. Тут жа сяброўскі шарж на юбіляра, зычэньні ад калег зь іхнымі фатаздымкамі.

Аднак на лічбе 1973 жыцьцё юбіляра спынілася. Роўна праз паўгода быў зроблены здымак Нікаля Лісоўскага ў труне, вакол якой сабраліся самыя родныя людзі. Старэнькая маці сядзіць, трымае руку на труне, пакутлівы позірк накіраваны на твар сына-нябожчыка. Аўдавелая жонка Аляксандра стаіць побач, роспачна склаўшы далоні. Дзьве дачкі Нэля і Інэса ў чорным адзеньні ў вялікім горы схіліліся і ўглядаюцца ў застылы бацькаў твар. Ля галавы нябожчыка стаіць ягоны швагер Кірыл Срыўкоў, які прыехаў з Курску.

У Беларусі ў другой палове XX стагодзьдзя, калі фотаапараты сталі даступнымі, у многіх сем'ях рабілі фатаздымкі з пахаваньняў, часам цэлыя фотарэпартажы. І цяпер такія фота застаюцца ў многіх сямейных архівах. Нашчадкам часам ужо цяжка згадаць, хто там выяўлены. Боль вялікай страты з гадамі астыў, сямейная рана загаілася, застаўся ціхі



• *Пахаваньне Нікаля Лісоўскага. Падсьвільле. 1973 год.*

сум. У выпадку зь Нікаля Лісоўскім сум выклікае і ягоная заўчасная сьмерць, і несправядліва цяжкае жыцьцё.

## Як купілі і страцілі зямлю



• *Яўхім і Ганна Лісоўскія з нованароджаным сынам Канстанцінам. Францыя. 1934 год.*

Нікаля Лісоўскі нарадзіўся 23 студзеня 1923 году ў вёсцы Сялюты Глыбоцкага раёну. Ягоны бацька Яўхім Іванавіч Лісоўскі (1894–1964) паходзіў зь Сялютаў, а маці Ганна Сьцяпанаўна Рагіла (1902–1983) была з суседняй вёскі Дабрэзіна. Абедзьве вёскі цяпер уваходзяць у Падсьвільскі сельсавет.

У Заходняй Беларусі пад польскай уладай бацькі Нікаля жылі бедна, зямлі мелі мала, і яны з малым сынам у 1929 годзе выехалі ў Францыю, у горад Сэнт-Амур (Saint Amour) недалёка ад Грэноблю. Там бацька ўладкаваўся на вугальную шахту, каб зарабіць грошай і купіць на радзіме зямлі. І мару гэтую яны зьдзейсьнілі, зямлю, пакуль яны яшчэ жылі ў Францыі, за іхныя грошы ў Сялютах набыў для іх брат жонкі Сьцяпан Сьцяпанавіч Рагіла. Але па вайне, пераехаўшы на радзіму, Лісоўскія высьветлілі, што зямля ім ужо не належыць, савецкія ўлады яе забралі ў калгас. Яўхім і Ганна ўсё жыцьцё баяліся размаўляць на гэтую тэму. Нават дзеці і ўнукі ня ведаюць, колькі было той зямлі і дзе яна знаходзілася.

А ў Францыі Лісоўскія жылі добра. Бабуля ўспамінала, што грошай — заробку мужа і дзяржаўнай дапамогі на дваіх дзяцей — было дастаткова, каб штодня тройчы хадзіць есьці ў кавярню.

У Францыі ў Лісоўскіх нарадзіўся другі сын Канстанцін (1934–1990).

Высокі і дужы Нікаля Лісоўскі зь дзяцінства паказваў добрыя здольнасьці ў вучобе і спорце. Пасьля заканчэньня школы ён гуляў за прафэсійную каманду рэгбі, аб'езьдзіў зь ёю ўсю Францыю, некалькі разоў наведваў Парыж. Там ён ахвотна набываў квіткі на канцэрты Эдыт





• *Хрышчэньне Канстанціна. Унізе — бацькі Яўхім і Ганна Лісоўскія, Нікаля, зьверху — хросныя Канстанціна. Францыя. 1934 год.*



• *Нікаля Лісоўскі з сваёй францускай нявестай Жармэль, зь якой ён назаўсёды разлучыўся, пераехаўшы ў СССР. Францыя. 1946 год.*

Піяф, а аднойчы пасьля канцэрту сярод натоўпу прыхільнікаў яму нават удалося патрымаць яе на руках. Зьявілася ў Нікаля і каханая дзяўчына Жармэль — дачка заможных вінаградараў.

Нікаля ўжо быў самастойным маладым мужчынам, калі ў 1947 годзе сям'я раптам вырашыла вяртацца на радзіму бацькоў. Бабуля Ганна неяк расказвала ўнучкам: «Прыехаў нейкі агітатар і давай нас зваць назад дамоў». Агітатары запэўнівалі, што ў СССР ужо пабудаваны камунізм. Бацькі Нікаля былі непісьменнымі і разьлічвалі, што прыедуць і будуць спакойна жыць на сваёй зямлі; у іх, як ува ўсіх эміґрантаў, была настальгія.



• *Каманда рэгбі «Romans». Нікаля — шосты ў верхнім шэрагу. Францыя. 1946 год.*

## Напаілі і завялі ў вагон

Нікаля ехаць у СССР не хацеў, на ўгаворы агітатараў і бацькоў не паддаваўся. Але яго напаілі і ўжо п’яным пасадзілі ў вагон. Нікаля Лісоўскі ніколі не казаў, хто яго тады падпаіў, але вельмі злаваўся за гэта на сваіх бацькоў.

«Панесла нячыстая, трэба было некаму паказаць новыя капялюшыкі», — так ён казаў аб прычыне мамінага рашэньня.

Быццам бы сям’я спакусілася на расказы пра тое, што ў Савецкім Саюзе па вайне было ўдосталь хлеба. Але хлеба ў 1947 годзе хапала і ў Францыі, а вось у СССР быў пік паваеннага голаду. То бок прычыны, чаму сям’я Лісоўскіх вырашыла рэзка памяняць сваё жыцьцё, унучкам засталіся не да канца зразумелымі.

Да Беларусі сям’я ехала цягнікамі: спачатку «добрым», пасажырскім, потым «скоцкім», таварным. Па прыезьдзе ў іх адразу забралі французскія дакумэнты, падсунулі на подпіс фармуляры з просьбай аб савецкім грамадзянстве. Непісьменныя бацькі з усім пагадзіліся. Спачатку Лісоўскія пабылі ў разьмеркавальніку ў Менску, потым паехалі да сваякоў у вёску Дабрэзіна. Была прапанова паехаць працаваць на кар’еры



каля Навагрудку, але ўжо тады бацька Яўхім цяжка хварэў на сылікоз, прафэсійную хваробу шахтароў, таму адмовіўся.

Лісоўскія хутка зразумелі, куды трапілі, але было ўжо позна, плянаў вярнуцца назад ня мелі і зьмірыліся са сваім лёсам. Аднак савецкую ўладу не палюбілі. Бабуля Ганна Сьцяпанаўна казала, што была шчасьлівая, калі памёр дыктатар Сталін.

## Елі лебяду з крапівой

У вёсцы Дабрэзіна сям’я Лісоўскіх трапіла ў страшную галечу. Елі лебяду, зьмяшаную з крапівой, варылі з гэтай травы суп. Нікаля хадзіў зімой у драўляных туфлях «сабо», прывезеных з Францыі. Ён прывык у Францыі да зусім іншага жыцьця, а тут не было чаго абуць. Ад галечы і безвыходнасьці, у якіх ён апынуўся, Мікалай спрабаваў кінуцца пад цягнік на станцыі Падсьвільле, але людзі стрымалі яго.

Ад галоднай сьмерці французаў выратавала жменька залатых і срэбных манэт, якія падчас пераезду сям’я схавала ў сьпінцы французскага жалезнага ложка.

Пазьней бацькі набылі ў Сялютах хатку. Яўхім Іванавіч у калгас не пайшоў, займаўся прысядзібным участкам і пчоламі, памёр у 1970 годзе. Бабуля таксама ў калгас не пайшла, памерла ў 1982 годзе, моцна перажывала сьмерць сына.

## Курскі пэрыяд

Асабістае жыцьцё Нікаля пачало наладжвацца пасьля таго, як стрыечны брат Васіль запрасіў яго ў госьці ў Калінінград, а там у гэты ж час у сваёй сястры гасьцявала студэнтка з Курску Аляксандра Срыўкова. Маладыя людзі пазнаёміліся і спадабаліся адно аднаму. Аляксандра вучылася ў Курскім пэдагагічным інстытуце на выкладчыцу расейскай мовы. Нікаля прыехаў да яе ў Курск і яны пажаніліся. Аляксандра дапамагла маладому мужу таксама паступіць у той жа інстытут — падцягнула яго ў расейскай мове і літаратуры, нават пісала за яго кантрольныя тэксты.

Але Нікаля не пачуваўся ў бясьпецы ў тым Курску. Яго правакавалі на вуліцы — раптам незнаёмыя людзі маглі пачаць бойку зь ім, ударыць па твары. Нікаля апавядаў дзецям, як аднойчы такі правакатар на вуліцы выбіў піражок зь ягоных рук. Некалькі разоў ягоную жонку Аляксандру ў Курску выклікалі ў КГБ і пыталіся, навошта яна выйшла замуж за іншаземца. Яна адказвала, што ён не замежнік, а беларус. Таму



• *Нікаля і Аляксандра Лісоўскія пасьля вясельля. 1952 год.*

ў 1953 годзе, як толькі нарадзілася дачка Інэса, Мікалай Лісоўскі перавёўся ў Менскі інстытут замежных моваў, а жонку Аляксадру адвёз у Сялюты да сваіх бацькоў.

Тады ж у менскім «іньязе» вучыліся іншыя «дзеці Францыі» — Сьцяпан Батура і Віктар Качан. Сябры Нікаля называлі яго Джоні. Ён выступаў у інстытуце ў самадзейных спэктаклях і спартовых спаборніцтвах, гуляў у футбол. Аднойчы ў інстытут прыехала французская дэлегацыя, і выкладчыкі папрасілі Нікаля, каб ён не казаў ім, што вырас у Францыі. Дэлегацыя была ў захапленьні, як добра ў Менску вучаць французскай мове — яшчэ і з французскімі дыялектызмамі!

Другая дачка Нікаля і Аляксандры Нэля нарадзілася ў 1958 годзе, калі Нікаля закончыў інстытут, у вёсцы Сялюты.

## Школьны настаўнік

Пасьля заканчэньня інстытуту замежных моваў былі прапановы застацца ў Менску, але Нікаля не захацеў. Паехалі да бацькоў. Побач зь Сялютамі стаіць мястэчка Падсьвільле зь сярэдняй школай, куды і ўладкаваліся Нікаля і Аляксандра. Жонка ня надта хацела жыць у вёсцы, але пагадзілася; яна выкладала ў школе расейскую мову, а Нікаля — спачатку нямецкую, а потым і французскую. Гэта ён прасіў, каб у іхнай школе ўвялі французскую мову: мясцовыя ўлады спачатку не хацелі нешта мяняць, але ўрэшце бацька дамогся свайго і пачаў вучыць дзяцей французскай мове, якую вельмі любіў.

Нікаля Лісоўскі быў добрым настаўнікам, ягоныя выпускнікі паступалі ў Менскі інстытут замежных моваў, некаторыя зь іх яшчэ і цяпер працуюць у беларускім МЗС, распавядае ягоная дачка Інэса. Нікаля і Аляксандра працавалі шмат, бралі па паўтары настаўніцкія стаўкі, у выніку на вясковую мерку зараблялі няблага, пабудавалі ў Падсьвільлі ўласны драўляны дом — тры пакоі і кухня. На той час Падсьвільле



было буйным мястэчкам зь некалькімі прадпрыемствамі, у тым ліку льнозаводам, вінзаводам, хлебазаводам, там жылі больш за 4 тысячы чалавек. Нікаля і Аляксандру паважалі як добрых спэцыялістаў, Аляксандру запрашалі прымаць уступныя экзамэны з расейскае мовы ў Віцебскі мэдычны інстытут.



• *Інэса, Нэля, Аляксандра Лісоўскія. Падсьвільле. 1961 год.*

Нікаля ў сваёй вёсцы часта слухаў Радыё Францыі, «Голас Амэрыкі», іншыя замежныя станцыі, па-ранейшаму любіў Эдыт Піяф, якую называў «верабейкам», падпяваў ёй і іншым французскім сьпевакам, сам любіў засьпяваць французскі гімн «Марсэльезу».

«Калі бацька чуў у радыё французскую песьню, то часам плакаў. Я бачыла сама ягоныя сьлёзы, ён моцна сумаваў па Францыі», — кажа ягоная дачка Інэса.

У канцы жыцьця Нікаля засьпеў творчы ўзьлет сьпевака Джо Дасэна і таксама вельмі яго палюбіў.

## Пад каўпаком спэцслужбаў

Але, як згадваюць дочкі, увесь час адчувалася, што сям’я знаходзілася «пад каўпаком» КГБ. Неяк перад Новым годам у іхны дом зайшлі двое ў доўгіх скураных плашчах, моўчкі абышлі ўсе пакоі. Аляксандра спалохалася, прыціснула да сябе дзяцей. Мужа не было дома, і незнаёмцы гэтак жа моўчкі выйшлі.

У 1964 годзе ў хату Лісоўскіх зноў прыехалі нейкія людзі і, нічога не сказаўшы жонцы, забралі Нікаля. Каля месяца ён адсутнічаў і не падаваў пра сябе ніякіх вестак. Сям’я ўжо не спадзявалася пабачыць яго жывым, але бацька вярнуўся. Тыя ж суровыя людзі прывезьлі яго ўначы на савецкім джыпе ГАЗ-69, вядомым пад мянушкай «козьлік».



• *Ганна, Нікаля, Аляксандра, Інэса Лісоўскія. Падсьвільле. 1971 год.*

Высьветлілася, што Нікаля закінулі на месяц працаваць перакладнікам з французскае мовы ў Альжыр, які тады выходзіў са статусу французскай калёніі. У 1964 годзе, пасьля крывавай вайны і рэфэрэндуму аб незалежнасьці Альжыру, Францыя ўжо выводзіла з гэтай арабскай краіны свае войскі. Альжыр будаваў сваю дзяржаву, а ягоныя лідэры выказалі жаданьне рухацца ў кірунку сацыялізму і аднапартыйнай сыстэмы — гэта рабілася пад уплывам СССР, які паслаў туды нямала грошай, зброі і сваіх спэцыялістаў. Але сацыялізм там так і не пабудавалі, экспэрымэнт закончыўся эканамічным каляпсам і грамадзянскай вайной.

Нікаля нічога не расказваў жонцы і дзецям пра сваю сакрэтную місію ў Альжыры — пэўна, ён даваў падпіску аб неразгалошваньні, сказаў толькі, што аднойчы ў Альжыры яго скінулі з парашутам.

«Ці хацеў ён ехаць у Альжыр і змагацца супраць сваёй роднай Францыі? А хто ж у яго пытаўся? Яго ўвесь час «пасьвілі» людзі ў чорных плашчах. Хадзілі і падслухоўвалі пад вокнамі», — успамінаюць дочкі.

## Заўчасная сьмерць

Потым была яшчэ адна прапанова ехаць на доўгі тэрмін у Альжыр разам зь сям'ёй, але Нікаля адмовіўся. Ён яшчэ пасьля першай паездкі доўга трымаўся за сэрца, у Альжыры яму было занадта горача. Можа, праз гэта і памёр рана, у 50 гадоў, ня вытрымала сэрца.

Дочкі згадваюць, што людзі ў вёсцы Нікаля вельмі любілі, звалі французам, ягоную жонку — французіхай, а дочак — француженкамі. Бацьку любілі ў тым ліку за французскі акцэнт і французскі шарм. Ён умеў добра апранацца, быў ветлівым, душой кампаніі, любіў сьпяваць. На ягонае пахаваньне ў 1973 годзе прыйшлі сотні людзей — вучні, настаўнікі, суседзі, прыехалі сябры зь Менску і з розных раёнаў Віцебскай вобласьці. Суседка, якую Нікаля на французскі манэр называў Антуанэтай, галасіла на ягоным пахаваньні: «Чаму ж ты, Коля, а ня мой Мішка?» Яе муж Мішка быў п'яніцам і моцна біў жонку.



Унучка Нікаля Вольга Старцава, якая далучылася да нашай размовы, выказала думку:

«Дзед быў глыбока няшчасным чалавекам. Не хацеў тут жыць, пакутаваў, а выехаць ня мог. Цяжка, калі ты разумееш, што ты тут у кайданах, а існуе іншае жыцьцё».

Нэля і Інэса ня згодныя з Вольгай — яны ўпэўненыя, што бацька быў шчасьлівым са сваёю сям'ёю і даражыў гэтым.

Нават пасьля бацькавай сьмерці Нэля і Інэса былі пад падазрэньнем у савецкіх уладаў. Спачатку Інэсу не пусьцілі папрацаваць важатай у галоўны савецкі піянэрскі лягер «Артэк» у Крыме, потым — забаранілі ехаць турысткай у Баўгарыю, накіраваньне куды ёй выдалі на працы, на Менскім гадзіньнікавым заводзе.

Малодшая дачка Нікаля і Аляксандры Нэля закончыла ў Менску Інстытут народнай гаспадаркі і паехала з мужам Германам працаваць у Сургут, на поўнач Расеі. Там ёй удалося купіць турыстычную пуцёўку ў Францыю, дзе вырас бацька, пабываць у Парыжы.

«Зьбірайцеся, едзем туды. Хоць паўзком, хоць як. Я выкапаю падземны ход і ўсіх вас выведу. Трэба жыць у Парыжы», — заявіла Нэля родным, калі вярнулася ў Сургут. Жменю парыскае зямлі яна прывезла на бацькаву магілу ў Падсьвільлі. «Для нас Парыж — родны горад. Там паветра іншае. Мы б езьдзілі туды столькі, колькі можна», — захоплена кажа Нэля. Яна мае двое дзяцей: Вольгу і Аляксандра.

Старэйшая дачка Нікаля Інэса закончыла культурна-асьветную вучэльню ў Горадні, працавала дырэктаркай дому культуры ў Падсьвільлі, потым майстрам на гадзіньнікавым заводзе ў Менску. Была замужам за татарынам Арыфам Байрашавым, мае дачку Тацяну. У Францыі пакуль не пабывала.

Народжаны ў Францыі малодшы брат Нікаля Канстанцін у Савецкім Саюзе ні ў які інстытут не паступаў, па-беларуску гаварыў ужо без французскага акцэнту, усё жыцьцё працаваў кінамэханікам у доме культуры ў Падсьвільлі, меў жонку Франю, дачку Тамару. Памёр у 64 гады: як і брат, меў слабое сэрца.

# ГІСТОРЫЯ АЛЕСЯ САЛАГУБА, ЯКІ ПЕРАПІСВАЎСЯ З ПРЭЗЫДЭНТАМ ФРАНЦЫІ



• *Зіна, Аляксандар, Вера і Алесь Салагубы. Францыя. 1943 год.*







• *Бацькі Алеся Салагуба Аляксандар і Вера і ён сам у аднагадовым узросьце ў Францыі. 1936 год.*



• *Алесь Салагуб. Маладэчна. 2018 год.*

Алесь Салагуб з Маладэчна ў размове з француcкімі дыпляматамі ў Менску першым назваў сябе «дзіцём Францыі». Ён у 1999-м напісаў ліст прэзыдэнту Францыі Жаку Шыраку (Jacques Chirac, 1932–2019), дачакаўся ад таго адказу, атрымаў запрашэньне наведаць родны горад Алес (Alès) у Правансе.

Алесь Салагуб ужо 11 разоў пабываў у Францыі, праз 53 гады пасьля ад’езду з Францыі да яго «вярнулася» француская мова. Урэшце ён уладкаваў у Францыі сям’ю свайго сына Аляксандра, які атрымаў, у тым ліку з дапамогай бацькавых дакумэнтаў і сяброў дзяцінства, францускі пашпарт.

## Алесь з Алесу, які жыве ў Маладэчне

Алесь Салагуб нарадзіўся 26 кастрычніка 1935 году ў шахтарскім гарадку Алес на поўдні Францыі. У 2018 годзе, калі мы пазнаёміліся, яму было 83 гады, але ён жартам казаў, што 38. Ён жвавы, рухавы, мае добрую памяць, ягоная аднапакаёвая кватэра ў доме на Вялікім Гасьцінцы ў Маладэчне выглядае як музэй сям'і: паўсюль фота, артэфакты жыцьця Салагубаў, заможнага ў Францыі і цяжкага — у СССР. Алесь Салагуб захаваў у кватэры будзільнік, куплены бацькам у 1932 годзе ў Францыі, каб пасьпяваць на шахтарскую зьмену ў забой, а таксама свой ровар Харкаўскага заводу 1960 году вырабу — з крывым стырном, амаль спартовы, на ім ён часам выяжджае. Роварны спорт у Францыі — нацыянальны, падлеткам на радзіме Алесь Салагуб меў свой французскі ровар, прыгожы, нікеляваны, з ручнымі тармазамі, але на савецкім Данбасе яго давялося прадаць, каб купіць ежы. Спадар Алесь памятае гэтую страту і праз 70 гадоў.

У Францыі ў бацькоў Алеся Салагуба Аляксандра і Веры нарадзіліся яшчэ дачка Зіна, якую там звалі Жынэта (1937) і малодшы сын Мікалай (1946).

## Бацька хацеў зарабіць на маёнтак

Галава сям'і Аляксандар Якубавіч Салагуб (1904–1969) да вайны ніколі ня жыў у СССР, толькі ў Расейскай імпэрыі, Польшчы і Францыі.

У 1930 годзе бацька паехаў на заробкі ў Францыю, у першы ж адпачынак прыехаў у родную вёску і зладзіў вясельле, узяўшы за жонку суседку Веру Фёдараўну Захарыч (1908–1983). Бацькі паходзілі зь вёскі Кавалі (Kouvale ў французскіх дакумэнтах), гэта 10 км за Вялейкай. Былі яны сялянамі, зямлі мелі мала, а тут прыехалі вэрбавальнікі з Францыі, шукалі ахвотных працаваць на шахтах — бацька і падпісаў кантракт.

Усяго ў міжваенны пэрыяд у Францыі на шахтах і ў сельскай гаспадарцы працавалі каля мільёна грамадзянаў Польшчы, сярод іх дзясяткі тысячаў выхадцаў з Заходняй Беларусі.

«У асноўным паехалі на шахты палякі і многія нашы землякі. Там у Францыі сярод нашых знаёмых былі людзі з Браслава, Даўгінава, Слоніма, Баранавічаў, Наваельні. Адны былі праваслаўныя, а другія каталікі. Але мы сябравалі», — згадвае Алесь Салагуб.

«У Алесе ў нас была 2-пакаёвая кватэра ад шахты з агародам, у хлеўчуку гадавалі курэй і трусоў — у квартале для шахтароў і рабочых мэталюргічнага заводу. Дом быў барачнага тыпу на 4 пад'езды, без выгодаў. Цяпер ён не захаваўся, разбурылі цэлы квартал і пабудавалі спартовы комплекс», — згадвае спадар Салагуб жыльлёвыя ўмовы ў Францыі.



На шахце Аляксандар Якубавіч зарабіў даволі, каб вярнуцца на радзіму, купіць сядзібу і жыць у ёй багатым чалавекам — такую ён меў мару. Маці не працавала, але часам езьдзіла разам з татам зьбіраць вінаград і трускаўкі, прала людзям бялізну, капейку мела, таксама старалася для дабрабыту сям'і.

## Французскае дзяцінства

Алесь і Зіна вучыліся ў французскай школе, гулялі зь сябрамі, хадзілі ў касьцёл. Алесь 2 гады быў скаўтам, аднойчы з бацькам адпачываў на моры: захаваўся сямейны здымак на пляжы.

«Размаўлялі мы там па-французску, як усе навокал, беларускай мовы ня ведалі, тата і мама размаўлялі між сабою на сумесі беларускай і польскай моваў», — кажа Алесь.

На пытаньне пра самы прыемны ўспамін з Францыі Алесь Салагуб адказаў:



• *Алесь (другі справа ў другім шэрагу) сярод аднаклясьнікаў у пачатковай школе. Алес, Францыя. 1942 год.*



• *Алесь (другі справа ў першым шэрагу) з аднакласнікамі. Настаўнік мсьё Рэптка (Reptka). Алес, Францыя. 1946 год.*

«У Францыі ў дзяцінстве я меў усё дзіцячае, а ў СССР я нічога дзіцячага ня меў. Хоць савецкія людзі і казалі, што ў іх усе ёсьць, але насамрэч ня мелі нічога. А ў Францыі я меў цацкі, марозіва, бананы, апэльсіны, мандарыны, дыні, цукеркі — гэтага ў СССР ня ведалі. У Францыі я нават бачыў, як робяцца цукеркі. А ў СССР мы з мамай займалі ў 5 гадзін раніцы чаргу па хлеб. Мы праклінáлі гэтыя чэргі. А суседзі нам гаварылі, што каб гэтак пра тутэйшыя парадкі сказаў звычайны савецкі чалавек, то яго б ужо не было тут».

Вайну ў Францыі сям'я перажыла бяз стратаў, хоць часам галадалі. Спадар Алесь згадвае, як хадзілі з мамай на сьметнік, куды нямецкі гарнізон выкідваў харчовыя адыходы, маці выразала кавалкі з сапсаванай бульбы і рабіла дранікі. Таксама падбірала дзіравыя шкарпэткі, цыравала і насіла. Купіць новыя было немагчыма. Бацька быў шахтаром, а іх на вайну ня бралі. І немцы яго не чапалі.

## Як рашыліся ехаць у СССР

У часе вайны бацька часам сустракаў савецкіх ваеннапалонных, тыя апавядалі пра калгасы і пра тое, што зямлю ў СССР не прадаюць.



«Ваеннапалонныя казалі бацьку: ніколі, ніколі ня едзьце ў Савецкі Саюз. Я тады не разумеў, што яны кажуць; гэта потым, як мы прыехалі, я пачаў размаўляць па-савецку», — кажа Алесь Салагуб.

Пасьля вайны ў гарадок Алес пачалі прыяжджаць дыпляматы з савецкай амбасады ў Парыжы, агітавалі ехаць у СССР, казалі, што там будзе добра, ня будзеце на капіталіста працаваць, а толькі на сябе.

«Яны арганізоўвалі балі ад імя такой арганізацыі — Саюз савецкіх патрыётаў Францыі. Кіроўца савецкіх дыпляматаў пасьля развозіў людзей па дамах і нават мяне пакатаў», — згадвае спадар Алесь.

Ягоны бацька быў сябрам Францускай камуністычнай партыі, удзельнічаў у Супраціве (падпольлі) падчас вайны, быў сябрам Саюзу савецкіх патрыётаў. На адной з сустрэчаў гэтай арганізацыі ягоным дзецям Алесю і Зіне нават даручылі трымаць у руках вялікі партрэт Сталіна. Што гаварылі дарослыя на той «маёўцы», Алесь Салагуб цяпер ня памятае, ён ня ведаў мовы, на якой вялася гаворка.

Саюз савецкіх патрыётаў меў філіі па ўсёй Францыі, на гэтым здымку бачны сьцяг адной зь іх, на ім вышыты надпіс па-беларуску «Філія Та… 1946». Гэты сьцяг падчас рэпатрыяцыі таксама забралі ў СССР, на Данбас, спаролі зь яго літары, і ён стаяў ва ўправе шахты, дзе працаваў Алесь Салагуб.



• *Сустрэча Саюзу савецкіх патрыётаў. Зіна і Алесь Салагубы трымаюць партрэт Сталіна. Алес, Францыя. 1947 год.*

У 1946 годзе Алесеў бацька прыняў рашэньне паехаць у СССР, але спачатку папрасіў знаёмых з Даўгінава, якія паехалі раней, каб напісалі, як ім там. Яны не напісалі. Але гэта не спыніла бацьку. Як і тое, што ў іхнай сям'і ў верасьні 1946 году нарадзіўся яшчэ адзін хлопчык — Мікалай. У гарадку былі некалькі сотняў шахтароў — выхадцаў з Польшчы, з Заходняй Беларусі, але выехалі ў СССР і ПНР толькі адзінкі, большасьць засталася ў Францыі.

## Рэпатрыяцыя ў таварным цягніку

У 1947 годзе бацька канчаткова пагадзіўся на ўгаворы савецкіх дыпляматаў, 31 жніўня ён звольніўся з шахты, сям'я спакавала рэчы і рушыла на ўсход. Спачатку ехалі камфортным пасажырскім цягнікам. Рэпатрыянтаў у СССР зьбіралі ў Эльзасе, на нямецкай мяжы. Тыдзень там чакалі, а потым паехалі да Ляйпцыгу, прыехалі ў савецкую зону акупацыі Нямеччыны, жылі ў нейкім гарнізоне. Пасьля мяжы савецкай зоны ехалі ўжо таварным цягнікам. Дарогаю бачылі, як моцна былі разьбітыя вайной Нямеччына і Польшча.

Бацькам найцяжэй было з маленькім Колем, якому ў дарозе споўніўся годзік.

На першую савецкую станцыю Ковель (Заходняя Ўкраіна), дзе быў найбуйнейшы фільтрацыйны лягер МГБ для рэпатрыянтаў з Эўропы, прыехалі раніцай. Рэпатрыянтаў адразу не выпускалі на вуліцу, яны і далей сядзелі ў сваіх вагонах, елі кансэрвы і выкідалі бляшанкі за дзьверы, а савецкія дзеці ў ватоўках бегалі па гэтыя бляшанкі і аблізвалі іх.

«У бацькоў валасы сталі дубка. Яны такога ня бачылі ніколі. А каля чыгункі на савецкім баку мяжы ляжалі чалавечыя шкілеты, нават апранутыя…

Калі я параўнаў тую вайну, якую помню ў Францыі, і тое, што пабачыў у Савецкім Саюзе, я зразумеў, што тут была катастрофа. Там, вядома, таксама бамбілі, але такой разрухі не было, тут усё было да зямлі зьнішчана», — згадвае Алесь.

У Ковелі нейкі час жылі ў казарме — перарobленай царкве, для спаньня быў двухпавярховы палок.

«Тое, чым нас кармілі, здавалася, было немагчыма есьці. Малому брацiку раніцай і вечарам давалі па 3 чайныя лыжачкі згушчанага малака. Праз голад, які быў у СССР, мама карміла яго грудзьмі да 2 гадоў», — згадвае Алесь Салагуб.

У Ковелі сем'і рэпатрыянтаў з Францыі пагрузілі ў 4 вагоны і праз Кіеў павезьлі на Данбас. На станцыю Ясінаватая прыбылі праз 4 дні.



Сямейных разьмеркавалі на шахту 10-біс — аднаўляць яе і здабываць вугаль. Пасялілі на ўскраіне, у трохпавярховым доме без выгодаў, адна кухня на дзьве сям'і. Самі пазьней зрабілі печкі, бо спачатку іх не было. Салагубам на 5 чалавек дастаўся пакой у 20 квадратных мэтраў.

Кухня была агульная зь сям'ёй беларусаў Крамкоўскіх, якія былі сябрамі і кумамі Салагубаў з часоў жыцьця ў Францыі і падзялілі іхны лёс на Данбасе. Горад, у які яны трапілі, называўся Сталіна, цяпер гэта Данецк.

Бацька спачатку працаваў на аднаўленьні самой шахты, узарванай саветамі пры адступленьні, а потым ужо як шахтар. Пасьля школы на шахту пайшоў і Алесь. Паваенныя гады на Данбасе былі вельмі цяжкія, напісаў мне Алесь у адным зь лістоў. Ён памятае, якія разбурэньні засталіся там па вайне, якая была галеча і пакуты. Не параўнаць з Францыяй, дзе вайна не пакінула такіх жорсткіх сьлядоў.

Алесь Салагуб добра гаворыць і піша па-беларуску, хоць ніколі ў беларускай школе не вучыўся. Толькі часам трапляюцца ў ягоных лістах расейскія ды францускія словы, а таксама ўкраінская літара «ї»: «Їм траїм далі 12 квадратных мэтраў», — напісаў Алесь Салагуб пра сям'ю рэпатрыянтаў з Францыі Крамкоўскіх, што былі іхнымі суседзямі.

Бацькі пражылі ў тым Сталіне 18 гадоў, Алесь затрымаўся даўжэй, а сястра Зіна засталася на Данбасе назаўжды.



• *Трохпавярховы дом, дзе пасялілі Салагубаў у Сталіне (цяпер Данецк). 1952 год.*

## Плакалі ўсе

У СССР перасяленцы з Францыі адразу адчулі голад і страх.

«Мы зразумелі, што нас ашукалі, як толькі прыехалі. Моцна плакалі. Ня толькі мы, усе плакалі. Мы не прасіліся назад у Францыю. Але прасіліся іншыя. А ім паказалі фігу, французскія дакумэнты ў нас усіх забралі», — згадвае Алесь.

Сям'я Салагубаў, каб пражыць у СССР, прадала амаль усе свае французскія рэчы — у тым ліку прыгожы Алесеў ровар, маміны лякавыя туфлі.

«Мой ровар тата купіў за 11 тысяч франкаў, гэта быў заробак шахтара за паўмесяца, такія ровары толькі цяпер зьявіліся ў былым Савецкім Саюзе. А ў Францыі такіх была безьліч. Шкада мне было гэтага ровара, а прадалі яго аднаму хлопцу, бацька якога быў галоўным інжынэрам. Мусілі прадаць, бо нам не было чаго есьці».

Алесь Салагуб пасьля пяці клясаў савецкай школы пайшоў працаваць на шахту, потым яго ўзялі служыць ў вайскова-марскі флёт на тры гады. Пасьля службы вярнуўся ў забой, заставаўся на Данбасе. Працаваў у шахце, спадзеючыся зарабіць датэрміновую пэнсію. Сястра Зінаіда скончыла 6 клясаў школы, а малодшы брат Мікалай — восем.



• *Алесь у забоі на Данбасе. Данецк. 1983 год.*



• *Алесь Салагуб з сынам Сашам на шахце. Данецк. 1983 год.*



## Пераезд з Данбасу ў Беларусь

У 1954 годзе бацька пайшоў на пэнсію, атрымліваў 125 рублёў на месяц. Ён не хацеў жыць на Данбасе, бо там вялікая загазаванасьць, тэрыконы, хімічныя заводы. «Атрута і ўсё», — казаў ён. У 1960 годзе бацькі паехалі ў Беларусь, купілі ў Маладэчне хату за 40 тысяч рублёў — сваіх грошай не хапіла, то пазычылі 15 тысяч у знаёмага шахтара. У гэтым доме на вуліцы Ціхай цяпер жыве малодшы брат Салагуба Мікалай.



• *Дом Салагубаў у Маладэчне. 1960 год.*

У 1964 годзе Алесь таксама пераехаў у Беларусь. Быў хворы, цэлы год лячыўся ад радыкуліту, бо праца на шахце была сапраўды катаржная. У Маладэчне Алесь Салагуб працаваў сьлесарам, потым шліфавальнікам на станказаводзе.

Бацька Аляксандар Якубавіч Салагуб памёр у 1969 годзе, маючы 65 гадоў: меў выліў крыві ў лёгкія і сылікоз, прафэсійную хваробу шахтароў. Маці Вера Фёдараўна памерла ў 1983 годзе.

Сястра Зінаіда засталася на Данбасе, працавала ў Данецку бэтоншчыцай, выйшла замуж у 1955 годзе за шахтара Івана Кутавога, мела сыноў Валодзю і Рамана. Зінаіда Аляксандраўна перад пэнсіяй працавала на хімічным заводзе, памерла ў 1989 годзе на Данбасе ад астмы.



• *Алесь Салагуб на магіле бацькі. Маладэчна. 1969 год.*



• *Сястра Алеся Салагуба Зіна з мужам Іванам Кутавым. Сталіна (Данецк). 1957 год.*





• *Алесь і Кацярына Салагубы. Маладэчна. 2007 год.*

Малодшы брат Мікалай пасьля ўкраінскай васьмігодкі скончыў курсы кіроўцаў, працаваў у Карэліі, на аўтабазе ў Маладэчне, браў удзел у будоўлі шашы Берасьце — Масква да Алімпіяды 1980 году. Да пэнсіі працаваў шліфавальнікам, з жонкай Зінаідай мае дваіх дзяцей: дачку Ларысу і сына Мікалая.

У 1971 годзе Алесь Салагуб ажаніўся з Кацярынай Аляксандраўнай Гарэцкай, сям’я якой паходзіла зь вёскі Груздава, за 10 кілямэтраў ад Маладэчна. У 1940 годзе бальшавікі саслалі яе сям’ю ў Сібір за тое, што яе тата пры Польшчы працаваў лясьнічым, а дзед быў сьвятаром і



меў вялікі дом; у Сібіры Кацярына і нарадзілася. Разам з маці яны вярнуліся праз 28 гадоў і зьвярнуліся па кампэнсацыю за сканфіскаваны ўладамі дом, які выкарыстоўвалі як школу, але будынак ацанілі як тры кіляграмы кілбасы.

У 1971 годзе ў Алеся і Кацярыны нарадзіўся сын Аляксандар.

Жонка Алеся Салагуба Кацярына памерла ў 2014-м.

На Данбасе ў Алеся застаўся адзін пляменьнік Уладзімер Кутавы, жыве ў Данецку, акупаваным расейскімі войскамі.

«Пасьля расейскай акупацыі сувязь зь ім страчаная, і я нічога пра яго ня ведаю. На пошце сказалі: не пішыце, гэта бессэнсоўна. Але я перакананы, што сувязь зь ім адновіцца, што Данбас вернецца, бо гэта Ўкраіна», — кажа Алесь Салагуб.

## Ліст прэзыдэнту Шыраку

Па Францыі, якую Алесь Салагуб лічыць сваёй радзімай, ён заўжды сумаваў, у войску нават з памяці маляваў плян вуліц роднага гораду Алесу.




• *Мапа Алесу, намаляваная з памяці Алесем Салагубам, калі ён служыў у савецкім флёце. 1955 год.*

Нават за часоў СССР Алесю ўдавалася ліставацца са школьнымі сябрамі і знаёмымі, зь сяброўкай сястры і сябрамі бацькоў, якія засталіся ў Францыі. І на лісты яны адказвалі. Але на просьбы даслаць выклік, каб прыехаць у Францыю, чамусьці не адгукаліся. Магчыма, такія просьбы да іх не даходзілі, савецкія ўлады маглі цэнзураваць пошту.

У 1999 годзе Алесь Салагуб адважыўся і напісаў прэзыдэнту Францыі Жаку Шыраку ліст, у якім прасіў дапамагчы пабачыць радзіму. Гэта быў крыху наіўны крок, але Алесь быў аптымістам і спадзяваўся, што гэта дасьць вынік. Жонка Кацярына і сын Аляксандар яго ў гэтым падтрымалі. Ліст прэзыдэнту ён паслаў не наўпрост з Маладэчна ў Парыж, а праз сваякоў у Гданьску: папрасіў, каб яны пераклалі ў іншы канвэрт і ўжо з Польшчы адправілі адрасату. Баяўся, што «цэнзары» ў Беларусі маглі не прапусьціць гэты ліст празь мяжу.

«Я напісаў Шыраку, як умею, што ўпершыню за столькі гадоў хацелася б папасьці хоць адзін дзень на радзіму. Прыблізна год чакаў адказу і напярэдадні Новага году атрымаў адказ ад Жака Шырака — віншавальную паштоўку і дзяржаўны ліст: маўляў, я ня маю права вас запрасіць, але зьбірайце дакумэнты і ідзіце з гэтым лістом у амбасаду», — кажа Алесь Салагуб.

Гэта быў для Алеся найлепшы падарунак на новы 2000 год, сапраўдны цуд на Каляды.

Зь лістом прэзыдэнта Алесь Салагуб і пайшоў у амбасаду Францыі ў Менску, сказаў, што ён «дзіця Францыі», што хоча пабачыць радзіму. У амбасадзе яго прыняў консул. Добра размаўляць па-француску Алесь ужо ня мог, але некалькі словаў згадаў, паказаў фатаздымкі. Праз тыдзень яго зноў паклікалі ў амбасаду, параілі папрасіць у міліцыі, каб паставілі ў ягоны пашпарт штамп з дазволам на выезд «ва ўсе краіны сьвету», які раней патрэбен быў, каб беларускія памежнікі выпусьцілі з краіны.



• *Макс Рустан, мэр Алесу. Францыя. 2001 год.*

Урэшце консул паведаміў, што амбасада Францыі мела перамовы з мэрам гораду Алесу Максам Рустанам (Max Roustan) і што ён афіцыйна запрашае Аляксандра Салагуба ў родны горад.

«Сказалі, што мэр будзе апекавацца мною, што запрашае ажно на 21 дзень! А я разьлічваў на адзін», — радаваўся Алесь Салагуб.



Потым Алесь штогод пісаў лісты Жаку Шыраку, віншаваў яго з днём народзінаў, нават калі той ужо перастаў быць дзейным прэзыдэнтам, і штогод атрымліваў ад яго адказы. Перапіска спынілася толькі ў 2018 годзе, калі ліст Алеся ў Парыж вярнуўся назад.



Jacques Chirac

Je tiens à vous dire combien j'ai été sensible à vos chaleureuses pensées.

Veuillez accepter mes très sincères remerciements ainsi que mes bien cordiales amitiés.



• *Лісты Жака Шырака Алесю Салагубу. 2000-я гады.*

Агулам 17 друкаваных і напісаных ад рукі пасланьняў на афіцыйных блянках ад Жака Шырака прыйшлі ў капэртах з надпісам «Прэзыдэнт Рэспублікі».

У адным з такіх лістоў Жак Шырак напісаў Салагубу:

*«Я хачу вам сказаць, наколькі мяне крануў ваш цёплы зварот. Прыміце маю самую шчырую ўдзячнасьць, а таксама маё сардэчнае сяброўства.*

*Жак Шырак».*

Алесь Салагуб адным зь першых пакінуў запіс з нагоды сьмерці Жака Шырака 26 верасьня 2019 году ў кнізе спачуваньняў у амбасадзе Францыі ў Менску.

Алесь на цэлую старонку па-беларуску апісаў гісторыю свайго завочнага знаёмства і сяброўства з Жакам Шыракам:

«Гэта быў вялікі дзяржаўны дзяяч, які дапамог мне і маёй сям'і аднавіць сувязі з радзімай — Францыяй. Я яго лічыў вялікім сябрам, для мяне было гонарам атрымліваць ад яго лісты. Я пасылаў яму ў Францыю свае віншаваньні з днём народзінаў і Новым годам, сямейныя фота, а ён мне 18 гадоў прысылаў лісты ў адказ — на Каляды. Аднаго разу ён мне прыслаў свой партрэт», — пераказаў свой запіс Алесь Салагуб.

## Спатканьне з радзімай праз 53 гады

6 красавіка 2000 году Алесь Салагуб рушыў на спатканьне з радзімай. Квіткі яму аплаціла амбасада Францыі, гатэль і харчаваньне — мэрыя гораду. Спачатку Алесь аўтобусам ехаў зь Менску праз Лодзь, Кракаў,



• *Панарама Алеса.*

Вену, Вэнэцыю, Вэрону і Ніцу да Марсэлю, далей цягніком да Німу, потым зноў аўтобусам — да роднага гораду. Па дарозе на радзіму Алесь Салагуб проста з вакна фатаграфаваў французскія краявіды.

У горад Алес Салагуб прыехаў у 11 гадзін вечара. З вакзалу адразу прыйшоў у мэрыю, але там нікога ўжо не было.

«Думаю, трэба недзе начаваць. Стукаю — зачыненая мэрыя. Іду на вакзал, думаю, можа, там мяне пусьцяць. Убачыў паліцыю, спыніў. Сказаў, як мог, хто я і чаго прыехаў, спытаў, дзе можна пераначаваць. Яны праверылі ў мяне дакумэнты, пасадзілі ў машыну. Прыехалі да будынку, дзе я ў першую клясу пайшоў. Там ужо ня школа, там людзі жывуць, кватэры. Адна жанчына адчыніла, сказала, што мяне ня ведае. Я сказаў, што я брат Жанэты, 25 гадоў пісаў вам, але яна зачынілася і не захацела размаўляць. Паліцыя зноў пасадзіла мяне ў машыну і прывезла да іншага дому. Аказалася, гэта гатэль, дзе мяне і пасялілі аднаго ў нумары».

Раніцай Алесь зноў прыйшоў у мэрыю, яму сказалі, што чакаюць яго а 3-й гадзіне дня.

«А 15-й гадзіне да мяне выйшаў мэр Макс Рустан. Ён сказаў, што мяне тут уладкуюць, і рэстаран, і гатэль будзе іхным коштам. Мяне лімузінам павезьлі ў гатэль, на ганку сустракалі чалавек 12-15, уся адміністрацыя. Далі ключ ад люксавага нумару, і 21 дзень я там прабыў».

Праз 53 гады горад было цяжка пазнаць. Татаву шахту закрылі, там цяпер музэй, куды можна схадзіць на экскурсію. Квартал, дзе Алесь нарадзіўся, зьнесьлі, пабудавалі вялікі спартовы комплекс, тэрыконы таксама пазносілі, а раку Гардон (Gardon) узялі ў бэтонную набярэжную.

Алесь Салагуб знайшоў некаторых сяброў, аднаклясьнікаў, разам каля 20 старых знаёмых, аднак ня ўсе згадзіліся сустрэцца. З найлепшым сябрам —аднаклясьнікам Жанам Гадэрньё (Jean Goderniaux), зь якім





• *Алесь са знаёмымі і сябрамі ў Францыі. 2000 год.*

перапісваўся 25 гадоў, сустрэцца ня змог, бо той памёр за 8 гадоў да прыезду Алеся.

Затое знайшоў іншага сябра-аднаклясьніка былога шахтара Клёда Броса (Claude Bros), меў зь ім шмат гутарак, успамінаў пра дзіцячыя гады, узгадвалі сваю ранейшую шахтарскую працу: Клёд — у Францыі, а Алесь — на Данбасе.

У 2004 годзе Клёд з жонкай Калет (Colette) наведалі Алеся ў Маладэчне, прыехалі на сваім аўтамабілі «Пэжо-206», пабылі ў Беларусі 16 дзён.



• *Сябры Алеся Клёд і Калет Брос (Claude і Colette Bros) у Маладэчне. 2004 год.*

Яшчэ Алесь Салагуб пагутарыў з журналістамі мясцовай газэты «Midi Libre», пра ягоны прыезд

на радзіму выйшаў артыкул пад назвай: «Аляксандар, або баляда аб адным проста шчасьлівым чалавеку».

«Пасьля многіх гадоў адсутнасьці гэты беларус, народжаны ў Алесе, зноў знайшоў сяброў дзяцінства, — пісала газэта. — Цягам 25 гадоў ён перапісваўся са сваімі сябрамі. Пазьней усё меней і меней… У сваёй краіне, дзе яму было патрэбна было 25 гадоў, каб сабраць грошы на пакупку машыны, ён, жанаты з Кацярынай і бацька аднаго хлопца, марыў толькі аб адным: «Вярнуцца на родную зямлю»…

Неўзабаве ўжо другім разам Аляксандар павінен будзе сказаць «Adieu» («Бывай!») і пакінуць Алес. Магчыма, ня без кранальных эмоцыяў, гэта зразумела. Але пэўна, што ў момант адпраўленьня Аляксандар будзе ўсьміхацца: ён зьедзе зь лёгкім сэрцам, з радасьцю, што нарэшце зноў пабачыў сваю «зямлю», свае карані, як ён кажа. Проста шчасьлівым, што зьдзейсьніў сваю такую жаданую мару дзяцінства», — напісала пра першы прыезд Алеся Салагуба на радзіму журналістка Агат Бадуэн (Agathe Beaudouin)*.



• *Лісты з Францыі ў Маладэчна. 2000-я гады.*

Але тым разам Алесь Салагуб сказаў «adieu» Францыі не назаўжды. Ужо ў верасьні 2001 году ён другі раз паехаў у Францыю — разам з жонкай, яны пабывалі ў Алесе ў іншых знаёмых, якія запрасілі на тры тыдні. Ліставаньне зь сябрамі і мэрам з роднага гораду і сустрэчы працягваюцца.

## Французскі пашпарт для сына і ўнука

Алесь Салагуб пабываў у Францыі ўжо 11 разоў, у тым ліку 6 разоў быў у родным горадзе.

Калі ў 2004 годзе да яго ў Маладэчна прыяжджалі Клёд і Калет, яны прапанавалі сыну Алеся Аляксандру Салагубу-малодшаму паспрабаваць пераехаць жыць у Францыю. Ініцыятыва ішла найперш ад Калет,

* Midi Libre, 25.04.2000.



якая была актыўнай і нават рамантычнай жанчынай, вельмі сымпатызавала Алесю Салагубу і ягонаму сыну.

У 2005 годзе на запрашэньне Клёда і Калет Алесь наведаў Францыю разам з сынам Аляксандрам. Калет арганізавала побыт Салагубамалодшага ў Тулюзе, знайшла яму часовую працу. Аляксандар летам папрацаваў у Францыі, потым вярнуўся ў Беларусь. І так тры гады.

У 2008 годзе Салагуб-малодшы знайшоў сабе ў Тулюзе добрага працадаўцу, перавёз у Францыю сваю сям'ю — жонку Тацяну і сына Сашу.

Клёд і Калет былі апірышчам і найбольшымі прыяцелямі маладой сям'і Салагубаў у Францыі. Дакумэнты бацькі аб нараджэньні ў Францыі і аб працы дзеда на французскай шахце моцна дапамаглі Салагубам атрымаць від на жыхарства, а потым і французскія пашпарты.

«Мае сябры Клёд і Калет апекаваліся маладой сям'ёй, як родныя бацькі. Яны напісалі рэкамэндацыйны ліст да ўладаў, сын пайшоў у прэфэктуру, праз 4 месяцы атрымаў від на жыхарства. Сыну істотна дапамагла і падтрымка маіх сяброў, і тое, што я народжаны ў Францыі ды маю адпаведныя дакумэнты, і тое, што ягоны дзед 18 гадоў там працаваў», — апавядае спадар Алесь.



• *Алесь Салагуб і Клёд Брос. Маладэчна. 2004 год.*



• *Аляксандар Салагуб-малодшы.*

Для ягонага сына спачатку быў праблемаю моўны бар'ер, але праз некалькі месяцаў ён навучыўся жывой французскай гаворцы, ні на якія моўныя курсы не хадзіў. Жонка вучыла мову на курсах, сын — у школе.

Аляксандар Салагуб-малодшы закончыў у Беларусі 8 клясаў школы і ПТВ, паводле спэцыяльнасьці ён сьлесар-станочнік. У Тулюзе працуе ў прыватнай фірме, займаецца фарбаваньнем і канчатковым адстройваньнем памяшканьняў. Ягоная жонка Таццяна ўладкавалася ў архіў, яна на дзяржаўнай службе. Сын Саша вучыцца ў каледжы.

«Мы вярнуліся ў Францыю праз 60 гадоў пасьля ад'езду бацькі, падумаўшы, што пакуль яшчэ маладыя, можна паспрабаваць. У Беларусі мы адчувалі беспэрспэктыўнасьць: за апошнія 25 гадоў краіна страціла шмат шанцаў. Гэта было самае галоўнае ў нашым рашэньні. Калі здалёк глядзіш на тое, што адбываецца ў Беларусі, то разумееш, як гэта сумна. Ня могуць людзі ў XXI стагодзьдзі мець заробак 250 эўраў, як у Беларусі. Годнай працы няма, і гэта прыніжае — працаваць за капейкі. Навошта мне, каб яшчэ мой сын жыў у гэтай сыстэме, калі можна паспрабаваць лепшага жыцьця?» — шчыра кажа Салагуб-малодшы пра матывы свайго пераезду.



• *Тры Аляксандры Салагубы ў Францыі — дзядуля, унук і сын. Тулюза. 2018 год.*

Так Аляксандар Салагуб-малодшы атрымаў французскія дакумэнты, якія ягоныя дзед і бацька страцілі ў 1947-м. Спачатку ён жыў у Тулюзе зь сям'ёй у трохпакаёвай сацыяльнай кватэры, цяпер пабудаваў свой дом у прадмесьці Тулюзы. Аляксандар, ягоная жонка Таццяна ды іхны сын Сашка сталі грамадзянамі Францыі. Бацька цешыцца, што яны маюць працу, добра забясьпечаныя, могуць зьмястоўна адпачыць, наведваюць розныя краіны Эўропы. І што падтрымліваюць кантакты зь ягонымі старымі сябрамі ў Францыі.



## Фільм пра Алеся Салагуба

Алесь Салагуб лічыць сябе беларускім патрыётам, ён прынцыпова беларускамоўны (хоць часам зьбіваецца на трасянку), падчас паездак у Францыю ён усіх пераконвае, што Беларусь — не Расея і ня Польшча, а асобная незалежная краіна са сваёй гісторыяй і мовай. Але радзімай сваёй ён лічыць Францыю і задаволены, што сын там добра ўладкаваўся.

На пытаньне, ці хацеў бы ён далучыцца да сям'і сына і таксама вярнуцца ў Францыю, Алесь Салагуб адказаў:

«На сёньня не было такой размовы, каб і мне пераехаць у Францыю. За мной у Беларусі кватэра і лецішча. Я рады, што дзеці там, але гэта іхнае жыцьцё. А я яшчэ паеду ў Францыю — да сына і ў родны горад Алес».

У верасьні 2018 году Алесь Салагуб наведаў сям'ю сына ў Тулюзе і зноў пабываў у родным горадзе, сустрэўся з мэрам Алесу Максам Рустанам, сябрамі і знаёмымі, якіх стала яшчэ меней. У 2013 годзе раптоўна памёр ягоны аднаклясьнік і сябра Клёд.

Алесь зноў пахадзіў па вуліцах дзяцінства, пастаяў ля закрытай бацькавай шахты. Алеся суправаджалі сын Аляксандар і журналісты Юлія Коцкая і Андрэй Шаўлюга, якія здымалі пра ягоную гісторыю дакумэнтальны фільм. Раней былі здымкі ў Маладэчне і Менску. Ва ўкраінскі Данецк, дзе прайшла значная частка жыцьця Салагубаў, трапіць не ўдалося, бо горад акупаваны расейскімі войскамі пры падтрымцы мясцовых прарасейскіх баевікоў.

На здымках з вышыні птушынага палёту за горадам Алесам відаць сьціплыя вяршыні прыгор'яў Цэнтральнага горнага масіву і адзін вялікі тэрыкон, які застаўся ад вугальных шахтаў. Цяпер Алес спакойны: спынілі здабываць вугаль, і колішняга руху няма. Любімая рэчка з Алесевага дзяцінства — Гардон — у верасьні на дзьве трэці перасохла, як гэта часта бывае летам на поўдні Францыі. А ў дамах, дзе калісьці жылі шахтары, пасяліліся новыя імігранты — з краін Азіі й Афрыкі.

# ГІСТОРЫЯ ПОЛЯ ШЫЛЯНКА, ЯКІ АЖЫЦЦЯВІЎ МАРУ ЎСІХ «ДЗЯЦЕЙ ФРАНЦЫІ» — ВЯРНУЎСЯ НА РАДЗІМУ



• *Поль Шылянок. Францыя. 21 ліпеня 1956 году.*



• *Поль Шылянок. Бабруйск. 14 ліпеня 2019 году.*

Завяршальная гісторыя — пра сям'ю Поля Шылянка (у францускіх дакумэнтах Paul Silonek) — мае некалькі яскравых адметнасьцяў. Па-першае, Поль не паходзіць з працоўнай эміграцыі ў Францыю зь міжваеннай Польшчы, як амаль усе іншыя героі кнігі. Ягоных бацькоў прымусова вывезьлі ў Нямеччыну падчас Другой усясьветнай вайны, па сканчэньні якой яны перабраліся ў Францыю.

Па-другое, ягоныя бацькі не паверылі Сталіну, не «рэпатрываліся», не зьбіраліся сваёй воляй вярнуцца ў СССР. Наадварот, яны паверылі ў «сьмерць Сталіна», меркавалі, што цяпер на радзіме іншыя парадкі і



можна з падарункамі прыехаць туды ў адпачынак, пабачыць родных. І толькі. Але ўжо на мяжы савецкія спэцслужбы цынічна пазбавілі іх францускіх пашпартоў і выслалі ў беларускі калгас.



• *Копія пасьведчаньня аб нараджэньні Поля Шылянка.*

Па-трэцяе, Поль Шылянок пасьля распаду Савецкага Саюзу здолеў рэалізаваць мару ўсіх «дзяцей Францыі», якіх савецкая дзяржава захапіла, як у пастку, і не выпускала на радзіму, — ён аднавіў свой францускі пашпарт і прыехаў у Парыж, каб жыць у Францыі. Гэта было адчайнае рашэньне: паехаць у фактычна невядомую краіну, не валодаючы мовай, ня маючы грошай, запатрабаванай прафэсіі, сяброў і знаёмых. Фактычна другі раз за жыцьцё ён паставіў сябе ва ўмовы выжываньня: спачатку ягонай сям'і трэба было прыстасоўвацца да рэаліяў СССР, а праз 50 гадоў — да ўмоваў забытай ужо краіны, дзе асабліва ніхто не чакаў рэпатрыянта зь Беларусі. Але Францыя дала Полю магчымасьць адаптавацца самому і перавезьці жонку Галіну і ўнучку Яну. Хоць было нямала выпрабаваньняў.

Ну і апошняе адрозьненьне — Поль расказаў сваю гісторыю ў сталіцы Францыі. Я чатыры гадзіны гутарыў зь ім і ягонай жонкай Галінай. І ня змог пабачыць архіў сямейных дакумэнтаў ды фотаальбомы, як у іншых выпадках. Іх я пабачыў пазьней у Бабруйску.

Нашая першая сустрэча адбылася ў Парыжы пасьля некалькіх месяцаў перамоваў з Полем і ягоным сынам Андрэем, які таксама атрымаў францускі пашпарт, але застаўся жыць у Беларусі. Месца сустрэчы мы абралі сымбалічнае — сабор Парыскай Божай Маці, вядомы тым, што ў часы Сярэднявечча ён даваў прытулак усім, хто у небясьпецы. Цяпер гэты велічны гатычны сабор на беразе Сэны — галоўная славутасьць Парыжу, адкуль цягнуцца турыстычныя маршруты па ўсім горадзе.

Быў позьні лістапад, ліў дождж, я быў без парасона, прыйшоў на паўгадзіны раней дамоўленага часу. Пакуль чакаў Поля з Галінай, крыху абсох, седзячы на лаўцы ў старажытным саборы сярод натоўпу турыстаў з усяго сьвету. Без асаблівых складанасьцяў я пазнаў былых су-



• *Поль і Галіна ў Парыжы. 2018 год.*

айчыньнікаў Поля і Галіну ў натоўпе турыстаў, калі яны падышлі да аднаго з уваходаў у храм у прызначаны час.

Гутарыць мы пайшлі ў кавярню непадалёк. Пасьля інтэрвію яшчэ разам пагулялі па ваколіцах Люўру, каралеўскага палацу. У пачатку размовы Поль і Галіна яшчэ мелі нейкія сумневы, ці варта апавядаць пра сваё жыцьцё, ці гэта не нашкодзіць неяк іхнаму побыту ў Францыі, не адаб'ецца на жыцьці сына ў Беларусі. Але насьцярожанасьць пaступова зьнікала, Поль і Галіна ласкава дазволілі мне ўключыць дыктафон і шчыра апавялі сваю неймаверную жыцьцёвую гісторыю. Разьвіталіся мы сябрамі; Поль і Галіна запрасілі наведаць іх у парыскім прадмесьці Антані (Antony), дзе яны маюць сацыяльную кватэру. Але гэта ўжо наступным разам, калі зноў буду ў Парыжы.

## З роду раскулачаных і остарбайтэраў

Бацька Поля Павал Апанасавіч Шылянок (1920–1990) нарадзіўся ў вёсцы Баяры Бабруйскага раёну. Дзед Апанас быў заможным селянінам, у савецкай клясыфікацыі — кулаком, бо меў сваю зямлю, лес, нават рачныя тоні. Ён быў вельмі працавіты чалавек, якога савецкая ўлада «раскулачыла», забрала зямлю і маёмасьць, але самога не рэпрэсавала.

«Дзед меў моцны характар, ён не пайшоў у калгас, сказаў, што на гэтых гультаёў працаваць ня будзе, і яму нават гразілі, што пасадзяць



за дармаедзтва. Ён жыў са сваёй падсобнай гаспадаркі. Потым паддаўся на ўгаворы і пайшоў працаваць майстрам. Памёр пасьля вайны», — апавядае Поль Шылянок пра дзеда Апанаса, якога ніколі ня бачыў.

Бацька Поля Шылянка быў здольным чалавекам, хацеў стаць лётнікам, але дзед забараніў паступаць на вучобу, таму адукацыі Павал Апанасавіч не атрымаў.

Падчас вайны Павал хаваўся і ад немцаў, і ад савецкіх партызанаў, нават выкапаў сабе падземную схованку ля хаты, але немцы яго дапільнавалі і пагналі на работы ў Германію.

## Вязьні нямецкіх лягераў

«Жахаў ён нацярпеўся», — кажа пра бацьку Поль Шылянок, але падрабязнасьцяў ад самога бацькі ён чуў вельмі мала, той больш маўчаў, нічога не казаў пра свае прыгоды. Вядома, што ў Нямеччыне Паўла Апанасавіча трымалі ў нейкім лягеры.



• *Поль з маці. 1956 год.*

Маці Поля Кацярына Якаўлеўна Балдэнка (1924–2008) таксама паходзіла з Бабруйшчыны, зь вёскі Гарохава.

І яе таксама ў часе вайны вывезьлі ў Нямеччыну. Яна была ў канцэнтрацыйным лягеры, можа, не такім страшным, зь печамі крэматорыяў, як апісвалі канцлягеры ў савецкіх кніжках, кажа Поль, але таксама суровым. Ніякіх страшных гісторыяў пра свой побыт у канцлягеры маці Полю не апавядала, але казала, што мела там свой нумар, праўда, выбіты не на скуры, а на адзеньні. Маці між іншага расказвала, як немцы ў гэтым лягеры ўсіх вязьняў заганялі ў падвал з вадою, білі і штурхалі, а адзін немец-лекар яе пашкадаваў і накіраваў у мэдычны пункт, фактычна выратаваўшы. Але праблемы са здароўем ад пераахаладжаньня ў яе былі яшчэ доўга. У канцы вайны гэты канцлягер вызвалілі амэрыканцы. Маці трапіла ў лягер для перамешчаных асобаў.

У Нямеччыне ў такім лягеры землякі-беларусы Павал і Кацярына пазнаёміліся, пабраліся, хоць афіцыйных дакумэнтаў аб шлюбе ня мелі.

Жылі яны ў бараках разам зь іншымі вызваленымі зь нямецкага палону ці з прымусовых працаў. Яшчэ ў тым лягеры Кацярына нарадзіла дваіх дзяцей — Лілію ў 1945 годзе і Валерыя — у 1947-м. Дзеці нарадзіліся здаровымі.

Усяго ў 1947 годзе на тэрыторыі амэрыканскай, брытанскай і францускай зонаў акупацыі Нямеччыны дзейнічала каля тысячы* лягераў для перамешчаных асобаў, заснаваных UNRRA — Адміністрацыяй Аб'яднаных Нацыяў у пытаньнях дапамогі і аднаўленьня (United Nations Relief and Rehabilitation Administration).

Колькасьць жыхароў гэтых лягераў сягала мільёнаў.

У такіх лягерах ахову, прадукты і мэдычную абслугу забясьпечвала хаўрусная адміністрацыя дзяржаваў-пераможцаў, дзейнічалі школы і цэрквы. Пазьней былі створаныя органы самакіраваньня зь ліку саміх перамешчаных асобаў, якія, сярод іншага, мелі права на рэгістрацыю цывільных шлюбаў. У лягерах была абмежаваная палітычная дзейнасьць, але дазволеная грамадзкая праца, выдаваліся газэты і кнігі, адзначаліся рэлігійныя і грамадзянскія сьвяты.

Амэрыканскія акупацыйныя ўлады Нямеччыны фінансавалі ўтрыманьне гэтых лягераў, забясьпечвалі ўсё іх парадак. Сем'і ў іх жылі не заўжды ў асобных пакоях, не заўсёды мелі працу, але гэта і зразумела ва ўмовах паваеннай руіны.

## У паваеннай Францыі

Паўлу і Кацярыне Шылянкам як савецкім грамадзянам пагражала «абавязковая» рэпатрыяцыя зь Нямеччыны ў Савецкі Саюз паводле дамовы, падпісанай у лютым 1945 году на Ялцінскай канфэрэнцыі кіраўнікамі дзяржаваў — пераможцаў у Другой усясьветнай вайне. Але многія вывезеныя з СССР у часе вайны не хацелі вяртацца ў «сталінскі рай», ня меў такога жаданьня і сын раскулачанага беларуса Павал Шылянок.

З працай і заробкам у лягеры для перамешчаных асобаў былі складанасьці, выяжджаць з амэрыканскай зоны акупацыі Нямеччыны забаранялася. Хтосьці параіў Шылянку пашукаць працы ў суседняй Францыі. Там жа можна было схавацца і ад савецкіх службаў, якія вялі рэпатрыяцыю «сваіх» грамадзян.

* Т. А. Котова. Повседневная жизнь в лагерях для перемещенных лиц в Германии. https://cyberleninka.ru/article/v/povsednevnaya-zhizn-v-lageryah-dlya-peremeschennyh-lits-v-germanii-po-lichnym-vospominaniyam-ih-obitateley





• *Шахта, на якой працаваў бацька Поля Павал Шылянок з 1948 па 1953 год. Францыя.*



• *Бацька Поля Шылянка на шахце, унізе крайні справа. Францыя. 1956 год.*

У 1947 годзе Павал Шылянок з групай адчайных сяброў у няшчасьці нелегальна перасек мяжу Францыі, трапіў у рэгіён Па-дэ-Кале, у горад Валянсьен (Valenciennes).

Ягоная жонка засталася ў лягеры і доўга чакала: думала, што муж ужо ня вернецца. Але Павал вярнуўся і такім жа чынам нелегальна перавёз праз нямецка-француcкую мяжу жонку і дваіх дзяцей.

Аселі ў прыгарадзе Валянсьена гарадку Авэлюі (Haveluy), дзе можна было знайсьці беларусаў, палякаў і ўкраінцаў зь перадваеннай эміграцыі.

Бацька адразу знайшоў працу на шахце, пайшоў у забой. Яму дапамог уладкавацца галоўны інжынэр, які быў родам з Заходняй Украіны. Павал нядоўга быў ў забоі, але вугальнага пылу наглытаўся, захварэў на сылікоз лёгкіх. Потым пайшоў вучыцца на электрыка, у 1954 годзе атрымаў дыплём і вярнуўся ў шахту працаваць з новай спэцыяльнасьцю, больш у забой не спускаўся.

Маці ў Францыі не працавала, гадавала дзяцей. Там у сям’і нарадзіліся яшчэ два хлопчыкі: Серж (1949 год) і Поль (1955).

Сям’я атрымала ад шахты двухпавярховы дом з чырвонай цэглы: наверсе дзьве спальні, унізе гасьцёўня і кухня. Мелі свой агарод, трымалі



• *Сям'я Шылянкоў у Францыі. Поля яшчэ няма. 1953 год.*





• *Сям’я Шылянкоў на адпачынку: Ліля, Валеры, Сяргей, Поль, маці і бацька. Францыя. 1957 год.*

курэй і трусоў. Бацька зарабляў 5 тысяч франкаў у месяц, маці атрымлівала дапамогу на дзяцей, вучоба і ахова здароўя былі бясплатнымі.

«Мы езьдзілі адпачываць на Міжземнае мора, у нас захаваліся фота прыгожых гатэляў, дзе мы былі. Бацька купіў матацыкл з каляскай, так што ў цэлым мы жылі няблага. У нас, дзяцей, было шмат сяброў. Бацькі любілі ладзіць пікнікі вялікімі кампаніямі разам зь дзецьмі на прыродзе», — згадвае Поль жыцьцё сям’і ў Францыі.

Бацька быў абсалютна апалітычны, кажа Поль. Ён і маці ня ўдзельнічалі ні ў якіх таварыствах. Сябравалі з палякамі, немцамі, былі ў прыязных адносінах зь мясцовым кюрэ, каталіцкім сьвятаром. Асабліва сябравала зь ім мама, ён вельмі любіў, як яна гатуе.

## Скрадзенае жыцьцё

Павал і Кацярына, бацька і маці Поля Шылянка, 15 гадоў ня бачылі радзімы і марылі яе наведаць, паказаць унукаў сваім бацькам. Асабліва гарэў гэтай ідэяй бацька Павал Апанасавіч, кажа Поль:

«Ён вельмі любіў свайго бацьку. Меў вялікае жаданьне паказаць яму сваіх дзяцей: тады ж не было тэлефонаў, не было нармальнай перапіскі, і ў 1953 годзе, калі Сталін памёр, ён ужо трызьніў гэтай ідэяй».



• *Сям'я Шылянкоў ля дому, дзе была іхная кватэра. Францыя. 1956 год.*



• *Поль. 1957 год.*

З 1954 году бацька пачаў наведвацца ў савецкую амбасаду ў Парыжы, выпытваў і вынюхваў, ці можна паехаць у СССР і ці можна будзе потым вярнуцца ў Францыю. Там пераконвалі, што ўсё будзе добра. Урэшце ён даверыўся савецкім дыпляматам.

У 1958 годзе Павал Шылянок яшчэ раз паехаў у савецкую амбасаду, вёў там перамовы, як можна зьездзіць у адпачынак да родных, і яны яму дазволілі, выдалі візы.

Вясной 1958 году Павал Шылянок аформіў на шахце адпачынак на месяц і сям'я выправілася ў Беларусь — селі на цягнік і прыбылі на першую савецкую станцыю Чоп у Заходняй Украіне.





• *Здымак зь сябрамі ў Францыі. Поль з мамай — крайнія зьлева. 1957 год.*

«Наш адпачынак скончыўся на станцыі Чоп. Зь цягніка нас зьнялі, дакумэнты і рэчы забралі, пасадзілі ў машыну і павезьлі ў Бабруйск. Гэта былі напэўна супрацоўнікі КГБ, без пагонаў. Мы ўсе іх баяліся, хоць у савецкай амбасадзе бацьку пераконвалі, што ўсё будзе добра», — апісвае Поль Шылянок момант, калі савецкія ўлады скралі ў яго, ягоных бацькоў, братоў і сясьцёр французскае жыцьцё.

«Які быў крытэр? Сталін памёр, то там ужо пацяпленьне. Наш дом застаўся ў Францыі, усе мы мелі французскія пашпарты, з сабою бацька ўзяў толькі фотаапарат, падарункі і цёплыя рэчы, бо ведаў, што там будзе холадна. Таму ўзялі футры і курткі», — расказвае Поль.

Потым ягоны бацька будзе ў СССР амаль да сьмерці хадзіць у французскай куртцы і гарнітуры ў палоску — ён зьберог іх як памяць аб Францыі. На маці па прыезьдзе былі футра, чаравічкі, а дзеці былі ў лякавых туфліках. Савецкія людзі глядзелі на гэта і зайздросьцілі. Потым Кацярына і дзеці сталі апранацца як усе савецкія людзі. А Поль даношваў французскае адзеньне сваіх старэйшых братоў, такога ў Беларусі не было.

Пакуль сям'я ехала ў СССР, у вёсцы Баяры пад Бабруйскам пахавалі дзядулю Апанаса Шылянка, які так і не пабачыў сваіх унукаў. Фран-

цузы не пасьпелі і на ягонае пахаваньне. Дзядуля паехаў у Бабруйск, пераходзіў там вуліцу і яго зьбілі п’яныя лётнікі-вайскоўцы на машыне, кажа Поль.

Спачатку Шылянкі жылі ў Баярах, потым у Гарохаве Бабруйскага раёну, на радзіме таты і мамы, потым зьнялі частку дому ў бабруйскім прадмесьці Цітаўцы, палову жыхароў якога складаюць цыганы.

«Ніхто на кватэру ня браў. У свой дом нас наважылася ўзяць толькі старая настаўніца расейскай мовы і літаратуры зь Цітаўкі. Гэта быў звычайны вясковы дом, палову якога — два пакоі — яна вылучыла нам, а таксама дала хляўчук і агарод», — апавядае Поль.

Пра бацьку ён згадвае зь вялікім сумам:

«Бацька скіс страшэнна, казаў, што ён вельмі любіць нас і пакутуе ад гэтага пераезду. Вінаваціў сябе, што так выйшла. Ён быў самотнікам, і гэта яго зламала. У яго разьвілася шмат хваробаў».

Усё зьвязанае з Францыяй у сям’і вельмі берaглі: фотаапарат, радыёпрымач.

У Цітаўцы бацька пайшоў працаваць на дрэваапрацоўчы тарны камбінат, дзе яму плацілі 1000 рублёў.

«З гэтага мы не маглі пракарміцца ніяк, — апавядае Поль пра першы пэрыяд жыцьця французаў у СССР. — Гаспадыня, гэтая цётка Зіна, давала нам чым у печцы прапаліць, бо не было чым абагрэць памяшканьне. Старэйшым братам было аднаму 11, а другому 13 гадоў, і яны ў лес з саначкамі хадзілі па гальлё і там амаль не замерзьлі. Адзін другога ледзьве прыцягнуў… Хадзілі таксама ў лес зьбіраць ягады, грыбы, а мама людзям за грошы зашывала кручком панчохі. Яна такі адмысловы кручок купіла ў дарогу, каб адрамантаваць, калі пятля распусьціцца, а атрымалася, што прыйшлося гэтым зарабляць на жыцьцё».

Калі ў канцы 1950-х сям’я жыла ў Гарохаве, на радзіме маці, п’яны тутэйшы жыхар неяк выбіў ім акно і крычаў «Здраднікі! Вас трэба расстраляць». У Цітаўцы яшчэ адзін такі неадэкват сабраў «групу падтрымкі» і таксама пабіў вокны французаў. Бацька паехаў у Бабруйск, паскардзіўся ў КГБ ці міліцыю, прасіў выпусьціць іх назад у Францыю. Хуліганаў суцішылі, а іх у Францыю не адпусьцілі.

У Бабруйск сям’я пераехала ў 1961 годзе: бацька атрымаў частку драўлянага бараку, два пакоі без выгодаў, зь печкай і хлеўчуком. Мэблі купіць не было за што, карысталіся сталом і дзьвюма лаўкамі, якія засталіся ад ранейшых жыхароў.



Іх дом у Францыі шахта аддала іншым працаўнікам, а мэблю сябры разабралі на захоўваньне; потым яны зразумелі, што Шылянкі ня вернуцца.

Маці ў СССР у 1965 годзе, маючы 42 гады, яшчэ нарадзіла дзяўчынку Алу, а пазьней выйшла на працу ў атэлье вязальніцай і матальніцай нітак, працавала да 75 гадоў. Бацька ўвесь час працаваў электрыкам — у электрасетках, у друкарні, на швальнай фабрыцы — і на пэнсію пайшоў у 70 гадоў.

Сябры ў Францыі не паверылі, што маці Поля, якая шмат хварэла, выйшла на працу, падумалі, што гэта савецкая прапаганда, і спынілі перапіску.



• *Віншавальная паштоўка ад сяброў з Францыі, дасланая Шылянкам у Бабруйск. 1970 год.*

Бацька любіў францускія кнігі і часопісы, недзе іх знаходзіў і таемна чытаў, кажа Поль:

«Калі ён браў кнігу ці часопіс, ён заўсёды іх нюхаў. Неяк здабываў іх у Бабруйску, пазьней я прывёз яму некалькі часопісаў. І была яшчэ даступная французская камуністычная газэта «Юманітэ», яна ў СССР прадавалася».

### Магадан. Куртка для Брэжнева

Поля Шылянка ў Беларусі назвалі Паўлам. Ён закончыў школу, у ВНУ не паступіў, у войска не ўзялі з прычыны зроку, пайшоў працаваць на Бабруйскі шынны камбінат. У 1973 годзе падаў у прафкам заяву на турыстычную пуцёўку за мяжу, у круіз, але камсамольская арганізацыя забараніла — маўляў, ненадзейны. Павал знайшоў працу ў Бабруйскай друкарні імя Непагодзіна, засвоіў там усе спэцыяльнасьці, меў высокія разрады. Пазьней яму прапанавалі працу дырэктара вайсковай друкарні, абяцалі кватэру, афіцэрскае званьне, добры заробак, але ў апошні момант далі адбой — спэцслужбы не зацьвердзілі ягоную кандыдатуру. Яшчэ ў 1987 годзе КДБ забараняў Паўлу выезд у Чэхаславаччыну па турыстычнай пуцёўцы.



• *Вясельле Галіны і Поля Шылянкоў. Бабруйск. 1975 год.*

У 1975 годзе Павал Шылянок ажаніўся з ураджэнкай Бабруйску Галінай Мікалаеўнай Васільевай, яна мадэльер-канструктар з адукацыі. У 1977 годзе ў іх нарадзіўся сын Андрэй.

Паколькі за межы СССР Шылянка не пускалі, то ён вырашыў паехаць зарабіць на крайнюю поўнач Савецкага Саюзу — у Магадан.



• *Поль Шылянок з сынам Андрэем. Магадан. 1980-я.*



• *Галіна Шылянок з сынам Андрэем. Магадан. 1980-я.*



Туды трапіць таксама было нялёгка, бо тэрыторыя лічылася памежнай зонай, але дапамаглі далёкія сваякі, які ўжо жылі там.

Павал і ў Магадане працаваў у друкарні, жыў у інтэрнаце, выклікаў жонку, якая разам зь ім пражыла там 5 гадоў без прапіскі, фактычна нелегальна.

Там заробкі былі нашмат большыя, чым у Беларусі, і за 5 гадоў у Магадане Шылянкі зарабілі 42 тысячы савецкіх рублёў.

«Перш за ўсё дзякуючы Галіне, — прызнае Поль, — яна ў мяне вельмі таленавіты мадэльер».

Неяк першы сакратар Магаданскага абкаму камуністычнай партыі (фактычны галоўны начальнік вобласьці ў часы СССР) зьбіраўся на прыём да савецкага кіраўніка Леаніда Брэжнева і папрасіў Галіну, якая працавала ў атэлье, падрыхтаваць падарунак Брэжневу — куртку. Галіна пашыла тры курткі на футры — на аўчыне, норцы і вавёрцы, сакратар выбраў адну зь іх і павёз.

«Ня ведаю, ці насіў Брэжнеў маю куртку, бо ён памёр неўзабаве, у 1982 годзе, калі мне было 24 гады. А куртка была добрая, карычневага колеру, скураная, падбітая вавёрчыным футрам, яно самае мяккае і лёгкае. Вавёрак шмат пайшло… У іх у Магадане была фабрыка апрацоўкі футра і скуры. Прэмію мне далі за гэтую куртку», — згадвае Галіна Мікалаеўна.

У 1985 годзе Шылянкі вярнуліся ў Беларусь. На заробленыя ў Магадане грошы зрабілі рамонт дому ў Бабруйску, купілі савецкую машыну «Жыгулі». Тады, нават маючы грошы, нельга было пайсьці і купіць машыну, трэба было знайсьці «блат», дамовіцца з начальствам, якое распараджалася продажам дэфіцыт-



• *Галіна і Поль Шылянкі. Бахчысарай. 1980 год.*

ных тавараў. Вырашылі праблему, калі пайшлі ў Бабруйску да вялікага начальніка і пашылі ягонай сям'і паліто і сукенкі.

Потым Галіна шыла скураныя вырабы і для міністраў ураду БССР у Менску, да 1993 году ўзначальвала футраны швальны цэх. А Павал Шылянок да 2000 году працаваў камэрцыйным дырэктарам Бабруйскай друкарні.

З 42 тысяч зробленых у Магадане савецкіх рублёў падчас гіпэрынфляцыі ў канцы СССР у Шылянкоў прапала 27 тысяч, якія заставаліся на рахунку. За гэтыя грошы ў 1980-я можна было купіць дзьве каапэратыўныя кватэры, калі мець доступ да тых каапэратываў. Пасьля дэвальвацыі Шылянкі атрымалі з банку кампэнсацыю за гэтыя грошы — і купілі сьвяцільнік у пакой унучкі Яны.

### Бацькаў запавет

Бацька Поля, Павал Апанасавіч Шылянок, у СССР лекаваўся ад зробленага на шахце ў Францыі сылікозу лёгкіх. Але савецкім лекарам ён не давяраў, казаў, што ў Францыі яго б вылекавалі, а тут залечаць.

У 1990-м годзе стан яго здароўя пагоршыўся, лекары шпіталізавалі Шылянка-старэйшага з вострай інфэкцыяй.

«У яго былі болі страшныя, лекары не адразу зразумелі, што гэта іхная памылка ў дыягназе, у яго быў запушчаны рак. Лекары тады сказалі, што позна рабіць апэрацыю», — апавядае Поль.

Незадоўга да сьмерці бацька паклікаў Поля і ўсю яго сям'ю ў шпіталь.

«Ён нас вельмі любіў, таму і паклікаў асобна. Ён сказаў, што быў супраць нашай паездкі ў Магадан, спробаў выехаць за мяжу, бо не хацеў складанасьцяў. Не хацеў, каб зноў сталася, як зь ім: вось ты ідзеш-ідзеш, а потым раз — і ўсё. Ён сам жыў цяжка, быў з раскулачанай сям'і, пад такім ціскам, і не хацеў, каб гэтак жа было са мною, калі жыцьцё раптоўна абсякаюць. Старэйшым братам было вельмі цяжка, у школе спачатку яны не гаварылі па-расейску, зь іх зьдзекаваліся, называлі здраднікамі. Ён не хацеў, каб так было і са мной…» — так праз 28 гадоў перадае Поль Шылянок зьмест апошняй гутаркі з бацькам.

«І бацька сказаў: «Паўлік, ты француз, я ўвесь час цябе заціскаў, але ты не забывай, што ты француз». Ён яшчэ нагадаў, што я хрышчаны і зарэгістраваны ў касьцёле ў Францыі. Ён ведаў, што я ўвесь час марыў пра Францыю… Фактычна ў сваім апошнім слове ён наказваў нам памятаць пра Францыю. Мы гэта ўспрынялі як дабраславеньне на ад'езд, як апошняе слова на дарогу ад бацькі. І пасьля гэтага пачалі зьбіраць дакумэнты».



Бацьку пахавалі побач зь дзедам і бабуляй у Баярах, а маці, якая перажыла бацьку на 18 гадоў і дачакалася вяртаньня Поля Шылянка ў Францыю, — у Бабруйску.

Паводле аповедаў Поля, лёс іншых дзяцей Паўла і Кацярыны Шылянкоў у СССР склаўся цяжка, ніхто сябе не рэалізаваў так, як хацеў бы, старэйшым было цяжка пасьля Францыі адаптавацца да савецкіх рэаліяў.

Старэйшая дачка Лілія хацела паступіць у інстытут у Маскву, але здала расейскую мову на тройку, не прайшла конкурс; у Бабруйску ў КГБ ёй паабяцалі, што яе прымуць у Інстытут замежных моваў у Менску, але яна мусіць пагадзіцца на супрацоўніцтва. Лілія не пагадзілася і не паехала вучыцца. Выйшла замуж за афіцэра-танкіста.

Сын Валеры абраў рабочую спэцыяльнасьць, працаваў у друкарні і на шынным камбінаце, ажаніўся, але сям'я распалася, жыве на пэнсію па інваліднасьці.



• *Валеры, Поль і Серж Шылянкі. Францыя. 1957 год.*

Сын Сяргей паступіў у Сасаўскае лётнае вучылішча цывільнай авіяцыі, што знаходзіцца ў Расеі. Марыў пра вялікія авіялайнэры, каб ляtаць за мяжу. За мяжу лятаць яго не пусьцілі, лятаў на «кукурузьніку» (Ан-2), апырскваў палі, у 34 гады пайшоў на пэнсію праз шкоднасьць гэтай працы, уладкаваўся таксама электрыкам у пінскім шпіталі.

Найменшая дачка Ала нарадзілася ўжо ў Бабруйску, пасьля заканчэньня школы працуе прадаўцом.

## Вяртаньне францускага пашпарту

«Пра вяртаньне ў Францыю я думаў заўсёды, — кажа Поль Шылянок.— Мне хацелася прыехаць паглядзець, дзе я нарадзіўся, як жыве гэты народ. Неяк, калі ўжо сын Андрэй ажаніўся і ў нас была машына «Audi», я сказаў жонцы: давайце паедзем і я зайду ў францускую амбасаду. Гэта быў 2000 год. Я сказаў, што сасьніў столькі сноў пра Францыю, што хочацца рэальнасьці. І мы паехалі ў амбасаду».

Так пачаўся доўгі і складаны шлях Поля на радзіму, які заняў некалькі гадоў.



• *Поль Шылянок з францускім пашпартам. Бабруйск. 2019 год.*

Амбасада была зачыненая ў выходны дзень, але гэта толькі дадало імпэту Полю. Ён сабраў усе магчымыя дакумэнты і паехаў зноў.

«Там стаяў нейкі мужчына і міліцыянт. Ён патэлефанаваў у канцылярыю, і мяне прынялі. Сустрэў малады чалавек і спытаў: «Вы тры тыдні пачакаеце?» Я адказаў: «Тры тыдні, я чакаў столькі гадоў!» А яму здалося, што гэта для мяне задоўга. Ён сказаў, што тады праз тыдзень».

Але праз тыдзень ніхто не патэлефанаваў. Тады Поль сам пачаў актыўна тэлефанаваць, часам ледзьве ня штодня.

Поль Шылянок сабраў для аднаўленьня свайго францускага грамадзянства ўсё, што змог знайсьці: сваё пасьведчаньне аб нараджэньні ў Францыі, віды на жыхарства ў Францыі бацькоў з фатаздымкамі, выразку з газэты з фатаздымкам, дзе было напісана пра бацьку, які разам зь іншымі выпускнікамі закончыў вучэльню электрыкаў у Паўночнай Францыі. Бацькам Поля неяк удалося захаваць гэтыя дакумэнты ад савецкіх уладаў, і яны дапамаглі.

Потым было запрашэньне да францускага консула. Той сказаў, што Полю варта было б навучыцца лепей гаварыць па-француску. Сустрэча тая закончылася нічым. Тады Шылянок вырашыў пайсьці іншым шляхам — напісаў ліст прэзыдэнту Францыі Жаку Шыраку, тры тыдні пісаў, распытваў у маці дэталі іхнага жыцьця ў Францыі.

Ліст праз сябра быў пасланы ў Францыю зь Літвы.

«У лісьце я расказаў усю сямейную гісторыю і папрасіў вярнуць мне францускае грамадзянства. Ліст пісаў на расейскай мове, потым пераклаў. Напісаў, што калі я наведаю Францыю, буду законапаслухмяным грамадзянінам».



• *Поль і Галіна Шылянкі. Парыж. 2005 год.*

Адказу ад прэзыдэнта не было, але справа зрушылася. Поля Шылянка ў францускай амбасадзе ў Менску прынялі новыя супрацоўнікі, якія паставіліся да яго больш паблажліва. Ужо праз тры месяцы ў адной кішэні ў яго быў францускі пашпарт на імя Paul Silonek, а ў другой беларускі пашпарт на імя Паўла Шылянка з 5-гадовай францускай візай.

Поль прапаноўваў Сяргею ды іншым братам далучыцца да ягонай ініцыятывы вяртаньня францускага грамадзянства, але яны адмовіліся.

## Пераезд у Францыю

8 траўня 2005 году грамадзянін Францыі і Беларусі Поль Шылянок прыехаў у Парыж аўтобусам «Эўралайнс» зь Менску. Ён ня быў на радзіме 47 гадоў. Цяпер яму было 50 год, францускую мову ён амаль ня ведаў, літаральна пару словаў памятаў, сяброў і знаёмых у Францыі ня меў, францускім мабільным тэлефонам не абзавёўся, у мясцовых парадках не разьбіраўся. Грошай таксама меў вобмаль. За білет заплаціў 100 эўраў, яшчэ 400 былі ў кішэні.

Ягоны сябра-камэрсант зь літоўскім пашпартам парэкамэндаваў яму зьвярнуцца ў Парыжы да свайго знаёмага, маўляў, той сустрэне і дапаможа. Поль спадзяваўся, што гэты знаёмы паселіць яго на першы час і дапаможа знайсьці працу. У якасьці сувэніру зь Беларусі Поль вёз яму бутэльку гарэлкі, кавалак сала і знакаміты бабруйскі зэфір.

Францускі знаёмы сябра сапраўды сустрэў Поля на вакзале, але апекавацца ім ня меў намеру. Ён паказаў Полю найтаньнейшы гатэль «Формула-1» і разьвітаўся.

Гэтае сала і зэфір Поль еў два тыдні, ашчаджаючы грошы, якія імкліва разыходзіліся. З гатэлю Поль выселіўся праз 5 дзён, калі патраціў 200 эўраў. Яшчэ чатыры дні пражыў у іншым танным гатэлі, добрыя людзі ўладкавалі. Трэба было купляць білеты на транспарт, штовечар з аўтамату тэлефанаваць жонцы ў Беларусь, бо тая моцна хвалявалася. Праз 9 дзён жыцьця ў гатэлях некалькі дзён давялося начаваць ужо ў тэлефоннай будцы.

Адзін раз Поль моцна заблукаў у Парыжы — гораду ня ведаў, у 2 гадзіны ночы выпадкова сустрэў на вуліцы нейкага расейскамоўнага чалавека, пазьней знайшоў у Парыжы расейскую царкву імя Аляксандра Неўскага, што адносіцца да Канстантынопальскага патрыярхату. І там пазнаёміўся з жанчынай, якая яму дапамагла — перакладніцай-армянкай, што ня мела на той час працы. Яна прыехала да Поля, які чакаў яе ля сабору, напаіла яго кавай, выслухала ягоную гісторыю. Яна



патлумачыла Полю, дзе ў Парыжы можна бясплатна паесьці, пусьціла да сябе дахаты памыцца ў душы і адвяла ў сацыяльную службу, інстытуцыю, створаную францускай дзяржавай для дапамогі людзям, якія трапілі ў складанае становішча.

Установа гэтая знаходзілася на плошчы Бастыліі. Там Полю адразу выпісалі 350 эўраў дапамогі ў месяц. Пазьней гэтая сума вырасла да 500 эўраў. Таксама Полю далі дакумэнт на мэдычнае абслугоўваньне, талёны на двухразовае харчаваньне ў адмысловай рэстарацыі, праязны на гарадзкі транспарт.

## Бяздомны пэрыяд

Кватэрнае пытаньне пакуль засталося нявырашаным, у «сацыяле» рэкамэндавалі стаць у чаргу, ён запісаўся ў такую чаргу ў 12-й мэрыі Парыжу, але чакаць трэба гадоў 10. Армянка пакуль дазволіла пакінуць торбу ў яе. Поль напружана шукаў, дзе жыць, пайшоў у паліцыю — там нічога не параілі. На вакзале ж доўга не пабудзеш, там пасьля 12 гадзін ночы выганяюць, Полю даводзілася спаць стоячы ў тэлефоннай будцы.

Каля царквы Аляксандра Неўскага Поль пазнаёміўся з двума беларусамі. Адзін зь іх, Саша з Горадні, працаваў у арабскай рэстарацыі: мыў посуд, езьдзіў на закупы, зарабляў гэтым 800 эўраў. Яму таксама не было дзе начаваць пасьля працы. І ён знайшоў выйсьце: непадалёк ад рэстарану была сартавальная чыгуначная станцыя, туды прыганялі пасажырскія цягнікі са спальнымі вагонамі, рыхтавалі іх да наступных рэйсаў. І ў гэтыя вагоны можна было таемна ўлезьці, пераначаваць у чыстай бялізьне.

Саша распрацаваў нават маршрут: да 11 гадзін ночы на Ліёнскім вакзале можна бясплатна паесьці, потым у гэтае дэпо — пераначаваць, раніцай бралі з гэтых вагонаў па ручніку і ехалі ў горад, сьнедалі, заходзілі памыцца ў муніцыпальную лазьню. Далей Саша ехаў працаваць, а ў Поля з гадзіны да пяці быў вольны час, потым вячэра і зноў у вагон.

Сабралася кампанія з чатырох такіх бяздомных, і так яны жылі 4 месяцы, пакуль не зьмяніліся ахоўнікі і адзін з сабакам-мастыфам не заўважыў іх і ня выклікаў паліцыю.

Калі паліцыянты пабачылі ў Поля францускі пашпарт, яны зьдзівіліся. Не маглі адразу праверыць пашпарт на сапраўднасьць, затрымалі Поля, а потым нават тэлефанавалі ў францускую амбасаду ў Менск, дзе пацьвердзілі, што пашпарт сапраўдны. Урэшце значным злачынствам несанкцыянаванае пранікненьне ў вагоны не прызналі.

Поль пакрыху абрастаў знаёмствамі, грошы эканоміў, харчаваньне і праязны меў бясплатныя. У яго зьявіўся новы сацыяльны агент Стэфан Леанідо, які абяцаў дапамагчы з кватэрай і французскім пашпартам жонцы Галіне.

«Так сардэчна ён ставіўся да мяне, казаў, што вельмі добра вывучыў маё дасье, і з такім дасье я тут наагул не павінен мець ніякіх праблемаў», — згадвае Поль аднаго з сацыяльных работнікаў, які ім апекаваўся.

## Жыцьцё ў чужым катэджы

Але пакуль усё наладзілася, Полю яшчэ давялося пацярпець. Апрача жыльля, трэба было і працу шукаць. Знаёмы з Заходняй Украіны на імя Грыгор парэкамэндаваў Поля бізнэсоўцу з Баўгарыі. Поль рабіў рамонт у ягоным загарадным доме, быў кіроўцам ягонай жонкі, часам гасьцей сустракаў у аэрапорце.

Пасьля 4 месяцаў жыцьця на вакзале і ў вагонах Поль пасяліўся ў катэджы гэтага бізнэсоўца на ўскрайку лесу, пераапрануўся ў гарнітур з гальштукам і езьдзіў на шыкоўнай машыне. Жонку Галіну, якая прыехала да яго зь Беларусі, на вакзале сустракалі на двух аўтамабілях.

Але чым займаецца гэты бізнэсовец, чым ён зарабляе на шыкоўнае жыцьцё, Поль не разумеў.

«Я пачаў слухаць размовы людзей, якіх сустракаў у аэрапорце, і мне стала страшнавата, — прызнаецца Поль.— Прыяжджалі такія баявыя хлопцы, і я пачаў нешта падазраваць. Можа, мафія, думаў я, але ня быў упэўнены. Я напружыўся».

Галіна пажыла ў гэтым катэджы каля паўгода: яна прыбірала дом і глядзела за дзіцем. У яе таксама ўзьнікалі розныя думкі і падазрэньні наконт гаспадара:

«Ён купляў нам прадукты, мэблю, але я сказала: дай нам тую суму, што мы зарабляем, грашыма, мы прывыклі быць свабоднымі людзьмі. І пасьля гэтага пачаўся скандал: не, вы не атрымаеце грошы, крычыць ён, і ўжо адкрыта пачынае казаць, што мы кшталту ягоныя рабы. Але я чалавек вольны, я шпурнула яму ключы на стол, і мы рассталіся».

А паколькі не было дзе жыць і Поль баяўся за жонку, то Шылянкі зьехалі ў Беларусь. Гэта здарылася ў сакавіку 2006 году, пасьля 6 месяцаў жыцьця ў гэтага бізнэсоўца.



## У пошуку працы

Але Парыж вабіў назад, і празь месяц зь Беларусі Поль вярнуўся ў сталіцу Францыі, зноў бяз жонкі. Украінец Грыгор знайшоў яму працу на будоўлі катэджаў для багатых парыжан на беразе мора ў Нармандыі, праз 8 месяцаў Поль вярнуўся ў Парыж, перакупіў у Грыгора права на арэнду невялікай кватэры і ўжо меў сваё жыльлё, куды мог запрасіць жонку.

А з працай было надалей цяжка праз кепскае веданьне францускае мовы. Часам ахопліваў адчай — узрост ужо каля 55 гадоў. Але бюро працаўладкаваньня старалася дапамагчы.

Праца спачатку знайшлася ў парыскім прадмесьці Антані — трэба было даглядаць дамы: камусьці кусты падрэзаць, камусьці нешта памяняць. Потым Поль працаваў у рэстарацыі, якая дастаўляе абеды ў адміністрацыйныя ўстановы Парыжу, аб’езьдзіў усе міністэрствы і мэрыі, дзе расстаўляў сталы і посуд для прыёмаў. Жонка працавала ў дзіцячым садку. Нейкі час абыходзіліся без сацыяльных дапамогаў.

У 2016 годзе ў Поля была сур’ёзная апэрацыя — выдалілі нырку, на якой разьвілася пухліна. Паколькі ён меў мэдычную страхоўку, то заплаціў толькі 1 тысячу эўраў з 12 тысячаў.

«Я выбраў найлепшую палату ў прыватнай клініцы, а калі б пайшоў у дзяржаўную — не плаціў бы нічога», — кажа Поль.

Пасьля апэрацыі Поль жыве на дапамогу па беспрацоўі (chômage), але плянуе зноў знайсьці працу, сядзець бяз справы яму цяжка. Француская дзяржава дапамагае Шылянкам аплочваць жыльлё, іхная кватэра ў прадмесьці сталіцы на месяц каштуе 600 эўраў, зь іх 400 плаціць дзяржава.

## Пераезд унучкі

Увайсьці ў францускае грамадзтва, знайсьці сяброў сярод карэнных жыхароў Шылянкам пакуль не ўдаецца. Бывалі ў іх у гасьцях некалькі разоў, ня болей. У Поля застаецца вялікі акцэнт у францускім маўленьні, розьніца ў мэнталітэце. Але і зацыкліватца на расейскамоўнай дыяспары ён не зьбіраецца.

У 2018 годзе да Поля і Галіны зь Беларусі прыехала ўнучка Яна. Бабуля зь дзядулем вельмі хочуць, каб яна адаптавалася ў Францыі, атрымала тут адукацыю. І ёсьць магчымасьць мець на гэта падтрымку ад дзяржавы. Сын Андрэй пераяжджаць у Францыю не захацеў, хоць яму



• *Поль і Галіна Шылянкі сьвяткуюць нацыянальнае сьвята Францыі 14 ліпеня — Дзень узяцьця Бастыліі. Бабруйск. 2019 год.*

пэўна было б лягчэй, чым бацьку, але ён пабыў у Францыі, паглядзеў на Парыж і краіну, ды жыць там не захацеў, сказаў: «Не маё гэта».

Поль і Галіна не шкадуюць пра сваё рашэньне пераехаць у Францыю, лічаць яго правільным. Хоць было часам і нялёгка, Поль удзячны французскай дзяржаве:

«Радзіма мяне сустрэла проста шыкоўна, нягледзячы на нашыя цяжкасьці. Сустрэла як магла, а я лічу — шыкоўна», — кажа Поль. І яго цалкам падтрымлівае жонка Галіна.

Але свой беларускі пашпарт Поль не парваў, беражэ ён і свой дамок у Бабруйску.

# Частка другая
# ПА ВОЛЮ І ХЛЕБ. З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ




• *Польскія і заходнебеларускія шахтары ў Францыі з плякатам: «Хай жыве польска-французскае сяброўства». Фота з архіву Алеся Салагуба. Францыя. 1930-я гады.*

## 200 ГАДОЎ ІМІГРАЦЫІ Ў ФРАНЦЫЮ

З 16 кастрычніка 2018 па 20 студзеня 2019 году ў Парыжы, у Нацыянальным музэі гісторыі іміграцыі, праходзіла выстава пад назвай Persona grata. Яна была прысьвечаная 200-годзьдзю масавай іміграцыі ў Францыю з розных краін сьвету. Ва ўмовах вострых спрэчак пра ўцекачоў з Блізкага Ўсходу, якія ідуць ў краінах Эўразьвязу, выстава заклікала памятаць, што гасьцінны прыём чужаземцаў заўсёды быў натуральным для французскай ды іншых эўрапейскіх культураў.




• *Нацыянальны музэй гісторыі іміграцыі Францыі. Парыж. 2018 год.*

Выстава нагадвала, як цягам 200 гадоў у Францыі знаходзілі прытулак і працу мільёны людзей з усяго сьвету, і яны былі патрэбныя Францыі. Яны дасягнулі тут вяршыняў у эканоміцы, навуцы, мастацтве, літаратуры, спорце і ўславілі Францыю. Мігранты і выхадні з калёніяў пралівалі за Францыю кроў у часе усясьветных войнаў, здабывалі для яе вугаль і руду, вырошчвалі збожжа і вінаград, прыбіралі вуліцы. Большая частка францускага грамадзтва салідарная з тымі, хто шукаў цягам гэтых 200 гадоў і шукае цяпер у Францыі абароны ад войнаў, гвалту, рэпрэсіяў, ад голаду і беспрацоўя.

Адлюстроўвала экспазыцыя і нэгатыўныя для чужаземцаў законы і падзеі, дэпартацыі мігрантаў, перасьлед і палітычныя кампаніі супраць іншаземцаў, антыімігранцкія заявы крайне правых партыяў, прыклады ксэнафобіі, якія таксама былі і ёсьць у францускім грамадзтве.

Францыя перажыла складаную гісторыю — ад абсалютызму і каляніялізму да дэмакратыі і мультыкультуралізму. У тым ліку ў сфэры іміграцыі. Нават тое, што сам Нацыянальны музэй гісторыі іміграцыі знаходзіцца ў палацы Porte Dorée, пабудаваным для Каляніяльнай выставы 1931 году, сьведчыць пра складанасьць гэтага шляху.

Менавіта Францыя ратавала беларускіх і польскіх паўстанцаў супраць Расейскай імпэрыі ў XIX стагодзьдзі, уцекачоў ад бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 году, армянаў і асырыйцаў, якія ўцякалі ад генацыду 1915 году ў Асманскай імпэрыі, праціўнікаў нацыстаў і рэжыму Гітлера ў Нямеччыне і антыфашыстаў Італіі, уцекачоў ад рэжыму Франка (1892–1975) у Гішпаніі, былых вязьняў і перамешчаных асобаў часоў



першай і другой усясьветных войнаў. Францыя давала працу італьянцам, бэльгійцам, партугальцам, чэхам, палякам, беларусам і ўкраінцам.

Паводле перапісу 1931 году 3 мільёны жыхароў Францыі былі замежнікамі — гэта 7 працэнтаў насельніцтва. Зь іх 507 тысяч былі грамадзянамі Польшчы, у тым ліку больш за 20 тысяч высяленцаў з Заходняй Беларусі.

## ЭМІГРАЦЫЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЭКАНАМІЧНАЯ

Цягам гэтых 200 гадоў былі сярод імігрантаў у Францыі і шматлікія высяленцы зь беларускіх земляў.

Адзін з тых, хто сам жыў і працаваў на францускай зямлі, уніяцкі сьвятар, рэктар Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі Леў Гарошка пісаў, што ўпершыню «беларуская эміграцыя ў значнай колькасьці зьявілася ў Францыі пасьля вайны 1812 году, разам з адступаючай напалеонаўскай арміяй, у якой ваявалі продкі беларусаў». Першая беларуская грамада жыла ў Ліёне і не пакінула па сабе сьледу, напісаў айцец Леў Гарошка*.

Разгром антырасейскіх паўстаньняў 1830–31 і 1863–64 гадоў выклікаў патокі палітычнай эміграцыі ў Францыю зь земляў былой Рэчы Паспалітай.

Пасьля паразы паўстаньня 1830–31 гадоў Францыя прыняла 4 тысячы ўцекачоў: лічба зафіксаваная ў парыскім музэі іміграцыі. Сярод іх быў, напрыклад, ураджэнец вёскі Варацэвічы Янаўскага раёну Напалеон Орда (1807–1883). Падчас антырасейскага паўстаньня 1830–31 гадоў ён камандаваў партызанскім аддзелам, пасьля разгрому якога быў вымушаны эміграваць у Францыю, дзе выявіў сябе як мастак і кампазытар, быў дырэктарам Італьянскай опэры ў Парыжы, сябраваў з Фрыдэ-



• *Францускі плякат аб здушэньні расейскім урадам польска-беларуска-літоўскага паўстаньня 1830–1831 гадоў, на якім выяўленыя забойствы палякаў пры ўзяцьці Варшавы. 1830-я гады.*

* Запісы БІНіМ. № 37. С. 318.

рыкам Шапэнам. Толькі праз 24 гады на эміграцыі ён быў амніставаны і змог вярнуцца на радзіму, дзе працягваў тварыць. У Францыі жыў і паэт Адам Міцкевіч, які таксама цярпеў ад ганеньняў расейскага ўраду, і шматлікія іншыя ўраджэнцы беларускіх земляў.

Яшчэ адна хваля палітычнай эміграцыі ў Францыю прыйшла пасьля здушэньня расейскімі войскамі паўстаньня 1863–1864 гадоў. У ліку іншых туды выехаў паплечнік Кастуся Каліноўскага Валеры Ўрублеўскі (1836–1908). Урублеўскі стаў генэралам Парыскай камуны (1871), камандаваў рэвалюцыйнай арміяй у Парыжы, пасьля паразы паўстаньня эміграваў і быў завочна засуджаны на сьмерць. Па амністыі камунараў у 1885 годзе вярнуўся ў Францыю, дзе памёр у 1908 годзе і быў пахаваны на могліках Пэр-Ляшэз у Парыжы; разьвітацца зь ім прыйшлі тысячы парыжан*.

Мне давялося ў 1993 годзе ў Слоніме сустрэцца і пагутарыць з праўнучкай Валерыя Ўрублеўскага Яўгеніяй Ягоравай-Урублеўскай (1923–1996). Яе бацька Дзьмітры Антонавіч расказваў ёй, як на пачатку XX стагодзьдзя ў іхны маёнтак Смаляны Садок на ўскрайку Белавескай пушчы прыходзіў загрымаваны да непазнавальнасьці Валеры Ўрублеўскі, каб пабачыць першага ўнука — Дзьмітрыя. Ён прыбыў тады ў Расейскую імпэрыю пад выглядам прадаўца швальных машынак «Зінгер»**.

Гэтыя машынкі потым прывезьлі ў Беларусь з Францыі прадстаўнікі працоўнай эміграцыі XX стагодзьдзя, якія пасьля Другой усясьветнай вайны рэпатрыяваліся на заклік савецкіх уладаў.

На пінскіх каталіцкіх могілках побач дзьве магілы. Адна — Алены Скірмунт, удзельніцы паўстаньня 1863–64 гадоў, сувязной, пакаранай расейскім акупацыйным рэжымам ссылкаю ў Сібір, пасьля якой апошнія гады жыцьця Алена пражыла ў Францыі, дзе і памерла.

Побач магіла Яніны Моніт, якая была ў эміграцыі ў Францыі ў 1930–40-х гадах, у 1947 годзе прыехала ў СССР, чакала зьняволенага савецкай уладай мужа з ГУЛАГу і памёрла, пакінуўшы сіратой маленькую дачку Ліліян. Сям'я Монітаў — сярод герояў гэтай кнігі.

На пінскіх могілках аб'ядналіся дзьве галіны эміграцыі зь беларускіх земляў былой Рэчы Паспалітай у Францыю — эміграцыя палітычная XIX стагодзьдзя, пасьля падзелаў, здушэньня антырасейскіх паўстаньняў, і эканамічная эміграцыя XX стагодзьдзя, да якой належала сям'я Монітаў.

* Віталь Чырвінскі. Генерал Урублеўскі: каліновец, камунар, інтэрнацыяналіст. Наша гісторыя. 2018. № 2.

** Валер Каліноўскі. Бунтарка Яўгенія, праўнучка Ўрублеўскага. «Звязда», 21.09.1993.



У Парыжы на могілках Пэр-Ляшэз, дзе пахаваны Валеры Ўрублеўскі, знаходзіцца і магіла Гіёма Апалінэра (1880–1918), францускага паэта беларускага паходжаньня, нашчадка іншага ўдзельніка паўстаньня 1863 году Міхала-Апалінара Кастравіцкага. Апошні пасьля паразы паўстанцаў эміграваў у Італію, дзе нарадзіўся ягоны ўнук — славуты паэт, які стаў пазьней французам.

На могілках Пэр-Ляшэз пахаваны і прадстаўнік беларускай эміграцыі ў Францыі XX стагодзьдзя Мікола Абрамчык. Ён разам зь Лявонам Рыдлеўскім ў 1930-х гадах стварыў арганізацыю працоўных эмігрантаў з Заходняй Беларусі «Хаўрус беларускіх работнікаў у Францыі», а пазьней стаў Старшынём Рады БНР і кіраўніком беларускага ўраду на выгнаньні.

Так перапляліся сьляды палітычнай і эканамічнай эміграцыі ў Францыю зь беларускіх земляў.

## ЛЫЖКІ ПЕРАЛЁТНЫЯ

Сярод экспанатаў выставы ў парыскім музэі іміграцыі — інсталяцыя Мірчы Кантара (Mircea Cantor, 1977), мастака, які пераехаў у Францыю з Румыніі. На драты нанізаныя драўляныя і мэталічныя лыжкі. Называецца твор «Як птушкі на высакавольтнай лініі» і сымбалізуе эканамічную міграцыю, тых, хто шукае ў іншых краінах працы і кавалка хлеба.



• *Інсталяцыя «Як птушкі на высакавольтнай лініі», аўтар Мірча Кантар (Mircea Cantor). З экспазыцыі Нацыянальнага музэю гісторыі іміграцыі Францыі.*

Мільёны эмігрантаў, якія прыбывалі на караблях у Нью-Ёрк пасьля 1886 году, захапляліся адной з самых вялікіх і манумэнтальных скульптураў сьвету — статуяй Свабоды. Гэта сымбаль іх надзеі, што цяпер усё будзе добра, што яны адолелі свой цяжкі шлях і трапілі ў новую краіну — і па свабоду, і па хлеб. Гэтая скульптура была выраблена ў Францыі на ахвяраваньні гра-



• *Статуя Свабоды ў Парыжы. 2018 год.*

мадзян, каб стаць падарункам да 100-годзьдзя незалежнасьці Злучаным Штатам Амэрыкі, саюзнай Францыі краіне, якая пазбавілася рабства ў выніку Грамадзянскай вайны 1861–1865 гадоў. Статую Свабоды ўрачыста адкрылі ў Нью-Ёрку ў 1886 годзе. А ў 1889-м у Парыжы зьявілася яе ў 4 разы меншая копія: гэта падарунак у адказ народу Францыі ад амэрыканскага народу.

Амэрыка і Францыя былі і застаюцца сымбалямі свабоды і дабрабыту, што як магнітам прыцягваюць многіх людзей, якіх уціскаюць на радзіме, якім пагражае небясьпека і голад, якія шукаюць сабе рэалізацыі, волі і працы.

Вакол цяперашніх хваляў эміграцыі ў Эўропу з краін Блізкага Ўсходу шмат спрэчак і рознагалосьсяў у Эўразьвязе, яны паспрыялі прыходу ў нацыянальныя парлямэнты і ўрады правых сілаў і нават спрычыніліся да выхаду Вялікай Брытаніі з Эўразьвязу.

Але яны ня новыя для гісторыі. Зусім нядаўна, у канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзя была магутная хваля эміграцыі ў ЗША з розных краін Эўропы, у тым ліку беларускіх земляў. Пазьней, у 1920–1930-я, была вялікая плынь эміграцыі ў Францыю, куды паехалі бацькі герояў гэтай кнігі — «дзяцей Францыі». Другая ўсясьветная вайна выклікала на эўрапейскім кантынэнце наступныя шматмільённыя хвалі ўцекачоў, перамешчаных асобаў, эмігрантаў.

У гэтыя пасьляваенныя плыні трапілі героі кнігі, бацькі якіх паддаліся на прапаганду савецкіх дыпляматаў і агітатараў і вырашылі вярнуцца з Францыі туды, адкуль яны раней выехалі, але ў іншых грамадзка-палітычных умовах.

Гэтая старонка эміграцыйнай гісторыі Эўропы — рээміграцыя з Францыі ў СССР — да апошняга часу была мала вывучанай, але пасьля 1991 году адкрыліся архівы, зьявіліся першыя публікацыі на гэтую тэму, зьнятыя фільмы і напісаныя кнігі.



## ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКІЯ КАРАНІ «ДЗЯЦЕЙ ФРАНЦЫІ»

***«Самі ведаеце, дарагія сябры, што наша тут эміграцыя на 99% сялянская маса, хлынуўшая да Францыі за куском хлеба з Зах. Беларусі, дзе, апроч эканамічнай нэндзы, панавала страшэнная цемната і палітычны тэрор».* З прамовы на паседжаньні Генэральнай рады «Хаўрусу беларускіх работнікаў у Францыі» сакратара арганізацыі Міколы Абрамчыка*.**

Дасьледаваўшы гісторыі 14 сем'яў «дзяцей Францыі», цяжка разьлічваць напісаць працу навуковага характару, рэпрэзэнтацыйную для ўсёй гэтай катэгорыі людзей, бо выбарка замалая. Але пералік гарадоў, якія я наведваў для сустрэчаў з героямі кнігі (Горадня, Докшыцы, Маладэчна, Наваградак, Пінск), сьведчыць, што гэта заходнебеларуская



• *Прыбыцьцё працаўнікоў з Польшчы ў Францыю. 1920-я гады. З экспазыцыі Нацыянальнага музэю гісторыі іміграцыі Францыі.*

* Бюлетэнь «Хаўрусу» беларускіх работнікаў у Францыі. № 3. 15 ліпеня 1937 году. С. 2.

зьява, характэрная для земляў, якія ўваходзілі ў міжваенны час у склад Польшчы.

Міжваеннай эміграцыі з Польшчы ў Францыю прысьвечаныя польскія і францускія навуковыя дасьледаваньні, кнігі і дысэртацыі, публікацыі ў друкаваных мэдыя, дакумэнтальныя фільмы. Польская эміграцыя ў Францыю 1918–1939 гадоў была шырокай плыньню, на сотні тысяч чалавек, а ў яе ўліваліся і ручаі з Заходняй Беларусі.

Сьвядомасьць міжваенных эмігрантаў з Заходняй Беларусі была розная: хтосьці лічыў сябе беларусам, хтосьці палякам, хтосьці ўкраінцам ці расейцам, была ў 1920–30 гадах і вялікая эміграцыя ў Францыю габрэяў з тагачаснай Польскай дзяржавы — каля 50 тысяч чалавек.

Адроджаная сто гадоў таму Польшча ў пэрыяд паміж Першай і Другой усясьветнымі войнамі перажывала часы эканамічнай нестабільнасьці, палітычных перамен, аўтарытарных урадаў. У гарадах рабочыя пакутавалі ад беспрацоўя, якое афіцыйна сягала ліку 600 тысяч чалавек, бракавала жыльля, школ, шпіталёў.

Міжваенная Польшча была краінай сялян — іх было 73 працэнты паводле перапісу 1931 году. Ратуючыся ад голаду, толькі цягам 1926–1928 гадоў паўмільёна сялян выехалі за мяжу.

Аграрныя раёны краіны былі перанаселенымі, у Польшчы захоўвалася постфэадальнае ўладкаваньне сельскай гаспадаркі, калі 1 працэнт уласьнікаў валодаў паловаю ворнае зямлі.

Беларускамоўнае выданьне «Хаўрусу беларускіх работнікаў у Францыі» пісала аб падзеле зямельнай уласнасьці ў Заходняй Беларусі:

«Вось-жа 74% усяга лес. багацьця ў руках невялічкай кучкі абшарнікоў, 19% належыць дзяржаве, 3,2 — местам, 2,6% … 3-мільённаму беларускаму сялянству… Уся зямля ў Зах. Беларусі: 51% яе належыць абшарнікам, 6,9% навезеным з Польшчы асаднікам, 5,9% дзяржаўнай і 36,2% сялянскай»*.

Асаднікамі называлі земляўласьнікаў, якія прыбылі ў Заходнюю Беларусь ці Заходнюю Ўкраіну з цэнтральных ваяводстваў Польшчы і атрымалі там ад уладаў значныя зямельныя надзелы, што выклікала абурэньне мясцовых сялян. Часта дзяржава такім чынам адплочвала за службу былым вайскоўцам.

Паводле бюлетэню «Хаўрусу», абшарнікаў (буйных земляўласьнікаў) у Заходняй Беларусі агулам было каля 80 тысяч чалавек, а сялян, якія валодалі 36,2% зямлі, — 3 мільёны. Сяляне ў сярэднім мелі зямлі ў 98 разоў меней, чым абшарнікі.

* Бюлетэнь «Хаўрусу» беларускіх работнікаў у Францыі. № 2. Сакавік 1937. С. 2–3.



Паводле падлікаў аўтара бюлетэню «Хаўрусу» Міколы Лаўзіца, 21,7 працэнта сялянскіх гаспадарак Заходняй Беларусі мелі ад 1 да 2 гектараў зямлі.

«Іх нараховываецца прыблізна каля 125 тысяч. Другі сорт гаспадарак разьмерам ад 2 да 5 гэктараў займае плошчу ў 39,7% і іх нараховываецца каля 235 тысяч. Як першы так і другі сорт гэтых «гаспадарак», зразумела, ня можа прахарчаваць сваіх сем'яў»*.

Пра першы і другі тып сялянскіх гаспадарак у тыя часы казалі: «І хлеба не дае і жабраваць не пускае».

Бацька беларускага эмігранта ў ЗША навукоўца Барыса Кіта (пераехаў у 1948 годзе) Уладзімер Кіта ўрабляў у вёсцы Агароднікі ля Карэлічаў усяго 1 гектар зямлі, ён зь цяжкасьцю мог пракарміць сваю сям'ю.

Кіта быў з малазямельных (што мелі 1–2 гектары ворнай зямлі), такіх у Польшчы былі 7,3 мільёна чалавек. А каля 5 мільёнаў** сялян у Польшчы наагул былі беззямельнымі, яны зараблялі на кавалак хлеба ў багатых земляўласьнікаў, ехалі ў гарады і за мяжу. Прамысловасьць у Заходняй Беларусі разьвівалася марудна і не магла даць працу малазямельным ці безьзямельным сялянам.

Найгорш было на тэрыторыях, якія адышлі да новай Польшчы з «расейскага забору», у тым ліку заходнебеларускіх. Тут людзі жылі бядней, было мала бітых дарог, бракавала зямлі і прыладаў працы, тут былі найвышэйшы ў дзяржаве ўзровень непісьменнасьці ды іншыя сацыяльныя праблемы.

30 працэнтаў жыхароў Польшчы складалі нацыянальныя меншасьці — пераважна ва ўсходніх ваяводствах, сярод іх былі ўкраінцы і беларусы, якім было не асабліва ўтульна ў гэтай дзяржаве, бо ўлады імкнуліся да іх асыміляцыі, абмяжоўвалі адукацыю на іхных родных мовах.

Польскі перапіс 1921 году выявіў больш як 1 мільён беларусаў, 550 тысяч «праваслаўных палякаў» і некалькі соцень тысяч чалавек, якіх запісалі «тутэйшымі», — апошнія пераважна ў Палескім ваяводстве.

* Бюлетэнь «Хаўрусу». № 3. 15 ліпеня 1937 году. С. 6.

**https://www.money.pl/gospodarka/wiadomosci/artykul/dwudziestolecie-miedzywojenne-cop-gdynia,172,0,2387628.html

Паводле перапісу 1931 году колькасьць насельніцтва Заходняй Беларусі склала 4,6 мільёна чалавек, зь іх доля палякаў — 49%, беларусаў — 28%. Больш за 700 тысяч палешукоў былі зноў запісаныя «тутэйшымі».

## ЧАМУ НЕ АМЭРЫКА?

Польшча ў большай ступені, чым яе заходнія суседзі, пацярпела ад усясьветнага эканамічнага крызісу 1930-х гадоў, вырасла беспрацоўе, пачаліся галодныя бунты і страйкі, якія душыла паліцыя. Безьзямельныя сяляне і беспрацоўныя рабочыя ратаваліся эміграцыяй.

І калі ў XIX стагодзьдзі значную частку працоўнай эміграцыі забірала Амэрыка, то ў XX стагодзьдзі ўрад ЗША абмежаваў яе, і альтэрнатывай стала Францыя*.

Амэрыка з 1880 па 1920 год дала магчымасьць іміграваць 25 мільёнам чалавек з розных краінаў сьвету**, у тым ліку зь земляў былой Рэчы Паспалітай — 2,5 мільёна***.

Імігранты ў Злучаных Штатах выконвалі некваліфікаваную працу і задавальняліся малымі заробкамі. Пасьля Першай усясьветнай вайны патрэба ў нізкакваліфікаванай працоўнай сіле ўпала, і ўрад ЗША абмежаваў колькасьць імігрантаў — спачатку з Азіі, а потым і з Эўропы, асабліва паўднёвай і ўсходняй.

У 1924 годзе ў ЗША быў ухвалены Закон аб іміграцыі (The Immigration Act of 1924 (The Johnson–Reed Act), які спыняў прыезд у Амэрыку грамадзян з краін Азіі, для іншых, у тым ліку эўрапейцаў, уводзілася паняцьце гадавой нацыянальнай квоты — толькі 2% ад агульнай колькасьці жыхароў пэўнай нацыянальнасьці паводле перапісу 1890 году****.

Сыстэма квотаў спыніла масавую міграцыю, жыхары Польшчы ўжо не маглі масава ехаць у ЗША. Альтэрнатываю стала бліжэйшая Францыя.

---

* Paweł Sękowski. Les Polonais en France dans l'immédiat après-guerre (1944–1949), 2015. http://lettres.sorbonne-universite.fr/IMG/pdf/SEKOWSKI_Pawel_2015_Position_de_these.pdf

** https://history.state.gov/milestones/1921-1936/immigration-act

*** http://polishaccent.com/Historia_Polonii.htm

**** https://history.state.gov/milestones/1921-1936/immigration-act



## ВЯЛІКАЯ РАНА ФРАНЦЫІ

У сваю чаргу заводам, фэрмам і шахтам Францыі (вугальным, жалезарудным) патрэбная была працоўная сіла. Францускія кампаніі з XIX стагодзьдзя запрашалі на шахты бэльгійцаў, італьянцаў, гішпанцаў, партугальцаў. Але ў пачатку XX стагодзьдзя і іх стала не хапаць. Тады францускія працадаўцы стварылі новую сыстэму набору працоўнай сілы з-за мяжы.

Масавую працоўную эміграцыю з Польшчы ў Францыю падмацавала пагадненьне паміж урадамі дзьвюх краін аб эміграцыі, падпісанае 3 верасьня 1919 году (Konwencja polsko-francuska o emigracji).

14 кастрычніка 1920 году было падпісанае новае міжурадавае пагадненьне аб правах і сацыяльных гарантыях польскіх работнікаў у Францыі. Тады ж у Польшчы былі адкрытыя місіі францускага Міністэрства працы і пайшлі першыя цягнікі з завэрбаванымі працаўнікамі.

З 1924 году замежных работнікаў рэкрутавала кампанія Société générale d'immigration, якая адкрыла ў Польшчы два свае офісы і актыўна вэрбавала замежных працаўнікоў у францускія шахты і сельскую гаспадарку*.

У 1927 годзе ў Францыі выйшаў закон, які спрашчаў атрыманьне грамадзянства: цяпер чакалі 3, а ня 10 гадоў, каб падаць заяву аб натуралізацыі. Да 1940 году такім правам скарысталіся 485 тысяч іншаземцаў. У 1928 годзе замежнікі атрымалі такія ж правы і ўмовы сацыяльнага страхаваньня, як і французы.



• *Індывідуальны кантракт шахтара з Польшчы для працы ў Францыі, падпісаны ў Вільні прадстаўніцтвам кампаніі «Société générale d'immigration». Архіў Яна Шэміса. 1926 год.*

---

* https://www.beskid.com/szelong2.html


LE JOURNAL

LA GRANDE BLESSURE

• *Мапа рэгіёнаў Францыі з найбольшай канцэнтрацыяй замежных рабочых. Парыскае выданьне «Le Journal», 30.09.1928.*


REPUBLIQUE FRANÇAISE

DEPARTEMENT DU NORD

EXTRAIT DU REGISTRE D'IMMATRICULATION

• *Францускі від на жыхарства на імя Леакадзіі Зянкевіч, 1930 год.*

За пэрыяд з 1918 па 1928 год Францыя дала працу для 1,5 мільёна іншаземцаў. Яны былі патрэбныя, каб замяніць 1,5 мільёна забітых і 1,5 мільёна параненых (зь іх 300 тысяч страцілі працаздольнасьць) у Першай усясьветнай вайне. Больш рабочых рук патрабавала аднаўленьне 15 зьнішчаных вайной францускіх дэпартамэнтаў, рост колькасьці працаўнікоў разумовай працы, гандлю і сфэры паслуг. Увядзеньне ў Францыі васьмігадзіннага працоўнага дня таксама павялічыла попыт на працоўных.

Пасьля Першай усясьветнай вайны Францыя атрымала ад Нямеччыны новыя тэрыторыі, дзе востра бракавала працоўнай сілы (у тым ліку ў індустрыяльных раёнах Эльзасу і Лятарынгіі), эмігранты патрабаваліся для адбудовы эканомікі і гэтых рэгіёнаў.

Усё гэта стварыла дэфіцыт у 3,5 мільёна працоўных рук, які парыская газэта «Le Journal» назвала «вялікаю ранаю Францыі»*. Яе гаілі з дапамогай замежных работнікаў, у значнай ступені — з Польшчы.

* La grande blessure. «Le Journal», Paris. 30.09.1928.



У пачатку 1930-х палякі і высяленцы з Польшчы сталі другой пасьля італьянцаў (808 тысяч чалавек) меншасьцю ў Францыі.

Паводле знанай дасьледніцы польскай эміграцыі ў Францыі гісторыка з Сарбоны Жанін Панці, у 1931 годзе польскіх работнікаў у Францыі было 507 тысяч чалавек*, зь іх 220 тысяч — у рэгіёне Нор-Па-дэ-Кале (Nord-Pas-de-Calais), дзе было шмат шахтаў і дзе выхадні з Польшчы складалі ў асобных мясцовасьцях да чвэрці насельніцтва, а гарадок Марль-ле-Мін (Marles-les-Mines) увогуле называлі «Маленькай Польшчай».

Рабочыя з Польшчы складалі тут да 20 працэнтаў у жалезарудных і вугальных шахтах. Найбольш ехалі ў Францыю з паўднёвых ваяводзтваў — з Катавіцаў, Кракава і Львова, але таксама і з заходнебеларускіх земляў.

З паўмільёна высяленцаў зь міжваеннай Польшчы ў Францыі 37 працэнтаў працавалі ў шахтах, 18% — у сельскай гаспадарцы, 17% — у мэталюргіі, яшчэ 28 працэнтаў — у будаўніцтве, тэкстыльнай і хімічнай індустрыі, у іншых галінах**.

Да 1939 году працоўная эміграцыя з Польшчы ў Францыю вырасла да 674 тысяч чалавек. Колькі было сярод іх беларусаў?

Бэрлінская газэта на беларускай мове «Барацьба» ў 1932 годзе пісала, што паводле прыблізных падлікаў колькасьць заходнебеларускай эміграцыі ў Францыі вагалася паміж 30 і 40 тысячамі чалавек. Нумары гэтай газэты за 1932–33 гады знаходзяцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусі ў фондзе Кастуся Езавітава. Іх вывучыла сучасная беларуская дасьледніца Вольга Коваль.

Аўтары бюлетэняў «Хаўрусу беларускіх работнікаў у Францыі» ацэньвалі колькасьць беларускіх працаўнікоў у краіне ў 35–40 тысяч чалавек, а ў адным з нумароў 1939 году — у 60 тысяч. Дакладна падлічыць было цяжка, бо француская статыстыка фіксавала заходнебеларускіх эмігрантаў як грамадзян Польшчы.

Вольга Коваль лічыць, што прадстаўнікі эміграцыі завышалі гэты лік, і падае свой — каля 20 тысяч чалавек, але і ён пацьвярджае масавасьць зьявы***.

* Janine Ponty. Polonais méconnus. Histoire des travailleurs immigrés en France dans l'entre-deux-guerres, Publications de la Sorbonne, 1988. P. 427.

** Szelong, Alain. L'immigration polonaise des années 20 en France.

*** В. Коваль. Дзейнасць беларускай эканамічнай эміграцыі ў Францыі ў міжваенны перыяд // Труды БГТУ. Серия 6, История, философия. 2017. № 2 (203). С. 21.

Вольга Мярчук у працы «Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі ў розныя краіны свету ў 1921–1939 гг.» на падставе міжваеннай польскай статыстыкі падлічыла, што «ўсяго на працягу 1926–1938 гг. з заходнебеларускага рэгіёну выехала ў французскія гарады 21 616 чалавек».

## У ФРАНЦЫЮ БРАЛІ ЛЮДЗЕЙ З МАЗАЛЯМІ

Умовы найму і працы ў Францыі не былі лёгкімі. Пры адборы ў рабочых правяралі зубы і рукі — трэба, каб зубы былі здаровыя, а на руках былі мазалі як знак прывычнасьці да цяжкай фізычнай працы. Мігранты з Польшчы не гаварылі па-французску, часта былі непісьменнымі, і яны надрываліся на працы, імкнучыся болей зарабіць. У міжваенны пэрыяд іншаземцам было забаронена ствараць свае прафсаюзы, удзельнічаць у палітычным жыцьці.



• *Калектыўнае фота шахтароў і іх дзяцей у Францыі. Шмат польскіх прозьвішчаў. 1930-я гады. З экспазыцыі Нацыянальнага музэю гісторыі іміграцыі Францыі.*



Гісторык Жанін Панці фіксуе выпадкі дыскрымінацыі польскіх эмігрантаў французскімі гаспадарамі, ксэнафобіі з боку мясцовага насельніцтва, а з боку ўладаў — сапраўдных рэпрэсіяў, дэпартацыяў на радзіму*.

Вольга Коваль у згаданай працы піша, што для працы ў Францыі агенты ў Заходняй Беларусі вэрбавалі пераважна маладых асобаў, якія маглі вытрымаць складаныя ўмовы.

«Інфармацыя пра рэкрутацыю выезду разьмяшчалася ў выглядзе плякатаў. Для адбору на працу ў Францыю звычайна запрашаліся мужчыны ва ўзросьце ад 21 да 40 гадоў, незамужнія маладыя жанчыны ці сем'і для работы ў сельскай гаспадарцы. Жадаючыя легальна выехаць на заробкі ў Францыю праходзілі жорсткі адбор, бо пры найманьні рабочай сілы ўважліва ставіліся да фізычнага здароўя кандыдатур.

Пры вэрбаваньні эмігрантаў агенты дамаўляліся, што аплата дарогі будзе ўлічвацца ў кошт будучага заробку. Прадстаўнікі эканамічнай эміграцыі пагаджаліся на такія ўмовы, бо першапачаткова ў іх не было грошай нават на чыгуначны білет. Працоўны дзень у сярэднім складаў 10 гадзін, пры гэтым сэзонная праца ў сельскай гаспадарцы магла быць больш працяглай — да 14–16 гадзін. Эмігранты атрымоўвалі ніжэйшы заробак за французаў на аднолькавых работах, таму яны былі вымушаныя працаваць звыш нормы»**.

Вольга Коваль зазначае, што многія беларусы ў Францыі працавалі ў сельскай гаспадарцы, уладкоўваліся на вінаграднікі ці цукровыя заводы, былі асабліва запатрабаваныя падчас палявых работ. У сельскай гаспадарцы эмігранты атрымоўвалі заробкі ў 2–3 разы меншыя, чым прамысловыя рабочыя.

«Частка беларусаў у Францыі працавала ў прамысловасьці краіны і сфэры абслугоўваньня. Нярэдка эмігрантаў бралі на фізычна цяжкую ці малааплачваную працу. Фізычна вынослівыя мужчыны працавалі шахтарамі, чорнарабочымі на мэталюргічных заводах, на прадпрыемствах па здабываньні жалезнай руды. Некаторыя эмігранты ўладкоўваліся на фабрыкі і заводы, працавалі на прадпрыемствах па вырабе штучнага шоўку, іх актыўна наймалі на будоўлі, а таксама на работу па мэліярацыі зямлі ў балоцістай мясцовасьці. Жанчыны атрымоўвалі працу аб-

---

* Janine Ponty. Op. cit. P. 342.

** В. Коваль. Цыт. праца. С. 22.

слуговага пэрсаналу ў прыватных маёнтках ці гатэлях, а таксама месцы рабочых на фабрыках», — зазначае Вольга Коваль*.

Коваль цытуе беларускамоўную эмігранцкую газэту «Барацьба» (Бэрлін), дзе пералічваюцца найбуйнейшыя беларускія калёніі ў Францыі:

«...Галоўныя асяродкі разьмешчаны па галоўным індустрыяльным раёнам Францыі. Найбольшая скупчанасьць прыпадае на раёны паўночнай Францыі: Ліль, Рубэ, Па-дэ-Кале; затым ідзе ўсходняя Францыя: Мазэль, Эльзас, Лятарынгія… Парыж, дэпартамэнт Гард (недалёка ад Марсэлю), Бардо, Гаўр...»**

Сярод польскіх і беларускіх эмігрантаў у Францыі было шмат шахтароў. У дакумэнтальных кадрах францускіх фільмаў пра імігрантаў з Польшчы можна пабачыць на фоне тэрыконаў цэлыя вуліцы аднолькавых адна- ці двухпавярховых дамоў, у якія сялілі шахтароў зь міжваеннай Польшчы.

У такіх дамах і нараджаліся дзеці эмігрантаў, якія нават пры моцнай нацыянальнай сьвядомасьці іхных бацькоў адаптаваліся да жыцьця ў новай краіне, «афранцужваліся», атрымлівалі права на францускае грамадзянства, а наступнае, трэцяе пакаленьне, паводле ацэнак сацыёлягаў, ужо было фактычна асыміляваным.

Праблемы паступова вырашаліся, працоўныя мігранты з Польшчы атрымлівалі ў Францыі працу і заробак — тое, чаго ім бракавала на радзіме, іхныя дзеці хадзілі ў школу і касьцёл ці царкву, дзейнічалі грамадзкія арганізацыі, выходзілі газэты.

## БЕЛАРУСКІ «ХАЎРУС» У ФРАНЦЫІ

Адзінай зарэгістраванай арганізацыяй беларускае эміграцыі ў Францыі ў міжваенны час быў «Хаўрус беларускіх работнікаў у Францыі». Арганізацыя была заснаваная ў 1930 годзе Міколам Абрамчыкам (1903–1970) і Лявонам Рыдлеўскім (1903–1953) у процівагу камуністычнаму і польскаму нацыянальнаму ўплыву на беларусаў, якія прыехалі на заробкі ў Францыю.

Мікола Абрамчык паходзіў зь сям’і паўстанца 1863 году, трынаццаць сыноў ягонага прадзеда Базыля ўзялі ўдзел у паўстаньні, аднаго зь іх царскія ўлады павесілі, а іншых выслалі і пазбавілі грамадзянскіх пра-

* В. Коваль. Цыт. праца. С. 21.

** Тамсама.





• *Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык і паэтка Натальля Арсеньнева.*



UNION BIELORUSSIENNE EN FRANCE

CHAÛRUS

CERTIFICAT

• *Блянк Саюзу беларусаў Францыі «Хаўрус» з пасьведчаньнем аб беларускім паходжаньні. 1940-я гады. Са збору БІНіМ.*

воў, у тым ліку выключылі з духоўнай сэмінарыі ягонага дзеда Яна*.

Мікола Абрамчык у 19 гадоў атрымаў мандат упаўнаважанага БНР у Вялейскім павеце, наладжваў сувязі з антысавецкім падпольлем у БССР, пасьля эміграваў у Чэхаславаччыну.



• *Лявон Рыдлеўскі. Францыя. 1945 год.*

Лявон Рыдлеўскі быў наймаладзейшым удзельнікам Слуцкага паўстаньня супраць бальшавіцкай акупацыі 1920 году, у 1921 годзе ўдзельнічаў у антысавецкім партызанскім руху на Палесьсі, эміграваў у Чэхаславаччыну.

У Празе Абрамчык і Рыдлеўскі далучыліся да Аб’яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў

* Уладзімер Арлоў. Імёны Свабоды. Радыё Свабода, 2007. С. 256.

замежжа і Заходняй Беларусі, там яны сталіся сябрамі і паплечнікамі на ўсё жыцьцё.

Восеньню 1929 году Мікола Абрамчык і Лявон Рыдлеўскі, закончыўшы ў Чэхаславаччыне адпаведна сельскагаспадарчую акадэмію і політэхнічны інстытут, накіроўваюцца ў пешую вандроўку па Эўропе. За год і некалькі месяцаў наведваюць мясьціны ў Чэхіі, Саксоніі, Баварыі, Швайцарыі і Францыі. Мэта вандроўкі навукова-практычная: вывучыць, як працуюць і жывуць сяляне ў розных краінах. Цягам вандроўкі Мікола і Лявон і самі працуюць на фэрмах, каб зарабіць на жыцьцё.

Сябры спыніліся ў Ліёне і вырашылі перапыніць сваю захапляльную вандроўку. Адной з галоўных прычын было тое, што ў Францыі яны знайшлі масавую беларускую працоўную эміграцыю*.

Сябры перабіраюцца ў Парыж і ў 1930 годзе ствараюць «Хаўрус беларускіх работнікаў у Францыі».

У Францыі трэба было «перапрываць цяжкі час безрабоцьця і яшчэ цяжэйшы наступ камуністычнае прапаганды між работнікамі, якая тады мела надта падатны грунт. Каб ёй супрацьставіцца, Рыдлеўскі разам з інж. Абрамчыкам закладаюць першую беларускую арганізацыю ў Францыі „Хаўрус“», — напісаў у 1953 годзе на сьмерць Лявона Рыдлеўскага айцец Леў Гарошка, кіраўнік Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі**.

Каб было за што пражыць і што ахвяраваць на грамадзкую дзейнасьць, Абрамчык і Рыдлеўскі самі працуюць рабочымі і інжынэрамі на французскіх фабрыках, шахтах і ў сельскай гаспадарцы.

«„Хаўрус“ зьяўляецца культурна-асьветнай арганізацыяй беларускіх работнікаў у Францыі, легалізованай французскай уладай. Згодна Статуту, арганізацыя мае права закладаць свае філіі — аддзелы — на ўсей тэрыторыі Францыі», — паведамляў пра арганізацыю першы нумар яе друкаванага бюлетэню***.

«Хаўрус» аб'яднаў сотні чалавек у Парыжы і ў пяці філіях у розных дэпартамэнтах Францыі****.

* Лявон Рыдлеўскі. З жыцьця й дзейнасьці М. Абрамчыка // З гісторыяй на «Вы». Кн. 3. Мн., 1994. С. 127.

** Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 315.

*** Бюлетэнь «Хаўрусу» беларускіх работнікаў у Францыі. № 1, люты 1937 году. С. 2.

**** Юры Грыбоўскі. Беларускі нацыянальны рух у польскіх узброеных сілах (1921–1947).



У Парыжы, у доме 65 на вуліцы Гравіе (Rue de Gravilliers), была адкрытая бібліятэка-чытальня на 40–50 чалавек. У гэтай кватэры, якая належала Міколу Абрамчыку, былі зарэгістраваныя і «Хаўрус», і іншыя беларускія арганізацыі.

Арганізацыя бараніла правы беларускіх працаўнікоў, зьбірала сходы, ладзіла сьвяткаваньні 25 Сакавіка, у яе сядзібе чыталі лекцыі пра беларускую мову, літаратуру і гісторыю, матэматыку, эканоміку, вялі заняткі з французскае мовы.

Аб'яднаньне ладзіла канцэрты, тэатральныя пастаноўкі, у прыватнасьці паводле п'есы «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, утрымлівала бібліятэку-чытальню імя Янкі Купалы, распаўсюджвала беларускія кнігі, мапы і календары, ладзіла экскурсіі ў музэі і паездкі за горад. На беразе Сэны ў Парыжы нават было асобнае месца, дзе летам беларускія актывісты разам адпачывалі.



• *Парыскія беларусы сьвяткуюць угодкі «Хаўрусу». 1955 год.*

## ШТО ПІСАЛІ БЕЛАРУСКІЯ ГАЗЭТЫ Ў ФРАНЦЫІ




• *Беларускія выданьні ў Францыі: «Бюлетэнь», «Рэха», «Беларускія навіны», «За волю».*

У 1937–1940 гадах «Хаўрус» выдаваў свае друкаваныя органы «Бюлетэнь» і «Рэха». Макеты рыхтавалі на друкавальнай машынцы кірыліцай і лацінкай, памнажалі на рызографе. Агулам выйшла больш за дзясятак нумароў.

Беларускія рабочыя маглі на роднай мове прачытаць у «Бюлетэні» і «Рэху», што адбываецца ў Францыі і сьвеце, у тым ліку ў міжваеннай Польшчы і СССР. Шмат матэрыялаў было прысьвечана гісторыі і культуры Беларусі, крытыцы ўладаў Польшчы і СССР.

1 траўня 1937 году ў часе сьвяточнай дэманстрацыі ў Парыжы асобнай групай прайшлі і сябры «Хаўрусу» са сваім сьцягам і транспарантамі па-беларуску і па-француску.

«Нас жа было запраўды мала, але мы паднялі сьцяг ня толькі за тых, хто ў Парыжу, але за ўвесь наш падняволены беларускі народ, які, учуўшы аб нашым выступе, напэўне ўсёй душой будзе з намі», — пісаў пра тую дэманстрацыю «Бюлетэнь»*.

Аўтары бюлетэняў наракаюць на нізкую нацыянальную сьвядомасьць і слабую актыўнасьць беларускіх рабочых у Францыі, на ўплыў мацнейшых польскіх, расейскіх і ўкраінскіх арганізацыяў.

* Бюлетэнь «Хаўрусу» беларускіх работнікаў у Францыі. № 3. 15 ліпеня 1937 году. С. 8.



Выданьні «Хаўрусу» шмат пішуць пра ўціск беларускай нацыянальнай меншасьці ў міжваеннай Польшчы, закрыцьцё там беларускіх гімназіяў, разгром беларускай партыі — Беларускай сялянска-работніцкай грамады, арышты актывістаў, сацыяльна-эканамічную няроўнасьць.

Між іншага «Рэха» згадвае заўчасную сьмерць звольненага польскімі ўладамі дырэктара Наваградзкай беларускай гімназіі Яна Цеханоўскага (1888–1938), які быў вымушаны паехаць на заробкі ў шахты Францыі, дзе падарваў здароўе*.

«Наш рух тут зьяўляецца як бы рэхам тэй вызвольчай і заўзятай барацьбы, якую праводзіць наш шматмільённы народ у краі. Мы тут зьяўляемся толькі маленькай выспачкай тэй вялікай зямлі, патужныя сілы якой зрастаюць з кожным днём, з кожнай гадзінай, і недалёка той час, калі схватка з ворагам стане немінучай! Схватка на жыцьцё ці на сьмерць! Вось чаму наша тут праца, наша падгатоўка ні на міг ня можа спускаць свайго зору з таго, што дзеіцца ў нашым краі, зь якім мы арганічна зьвязаны. Тут-жа наша перабываньне часовае», — сказаў у сваім дакладзе Мікола Абрамчык, сакратар Генэральнай рады «Хаўрусу», на гадавым сходзе арганізацыі 12 сьнежня 1937 году**.

У 1938 годзе Бюлетэнь «Хаўрусу» быў забаронены на тэрыторыі Польшчы, паведаміў іншы орган арганізацыі — «Рэха» — са спасылкай на віленскую беларускую прэсу***.

Пісалі выданьні беларусаў Францыі пра рэпрэсіі ў СССР, прыгнёт у калгасах, у якіх сяляне застаюцца бяспраўнымі, уціск беларускай культуры, русіфікацыю. Пісалі, што сталася зь беларускімі актывістамі, якія вырашылі пераехаць з Заходняй Беларусі ў БССР:

«Тысячы ўцекшых грамадаўскіх кіраўнікоў з Зах. Беларусі ў Менск былі здрадліва павешаны, расстрэляны або высланы ў Сібір»****.

На піку рэпрэсіяў у СССР «Рэха» напісала пра наркома НКВД Генрыха Ягоду:

«„Постаць‟, якая ў гісторыі беларускага вызвольчага руху, пры ўсіх умовах і насьледках, астанецца як штосьь найбольш агідная, найбольш крывава жудкая, у сотню раз больш агіднейшая і жудчэйшая ніж „постаць‟ крывавага Мураўёва, што павесіў нашага слаўнага рэвалюцыянэра Каліноўскага і тысячы беларускіх сялян. Пад нагамі Ягоды ў

* «Рэха». № 2. Верасень 1938 году.

** «Рэха». № 1. 1 сакавіка 1938 году. С. 9.

*** Тамсама. С. 16.

**** «Рэха». № 3. 1939 год. С. 4.

нязьлічаныя разы больш валяецца трупаў лепшых беларускіх сыноў. Нязьмерна большыя вазёры беларускай крыві застылі на нашай няшчаснай зямлі ад яго ліхіх катавых рук»*.

У апошнім 8-м выпуску, які зьявіўся ў траўні 1940 году, ужо пасьля пачатку Другой усясьветнай вайны, бюлетэнь «Рэха» піша пра пакт Молатава — Рыбэнтропа, паход Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь, дапамогу савецкага войска нямецкаму ў разгроме польскай арміі, фармаваньне ў Заходняй Беларусі «сялянска-работніцкай гвардыі» і «тымчасовых камітэтаў», падзелы панскай зямлі, адкрыцьцё беларускіх школаў і газэтаў, фальшывыя выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі ў Беластоку, перадачу Вільні Літве, — пра тое, як у Заходняй Беларусі запанавалі савецкія парадкі.

## КАМУНІСТЫЧНАЯ ПРАПАГАНДА Ў ФРАНЦЫІ

Француская камуністычная партыя ў міжваенны час была даволі папулярнай у грамадзтве: у выніку парлямэнцкіх выбараў 1936 году яна атрымала 72 з 608 мандатаў у Нацыянальнай асамблеі. Партыя адзначылася кампаніямі супраць уціску і высылак з Францыі імігрантаў. КПФ актыўна працавала ў асяродзьдзі імігрантаў-палякаў, украінцаў і беларусаў, мела польскую сэкцыю. Падтрыманыя і фактычна кіраваныя СССР і Камінтэрнам, францускія камуністы агітавалі імігрантаў з Польшчы весьці клясавую барацьбу, страйкі, змаганьне за лепшыя ўмовы. Агітацыя знаходзіла водгук. Шмат газэт польскай дыяспары былі левага ці камуністычнага духу, некаторыя зь іх францускія ўлады нават закрывалі.




• *Плякат Францускай камуністычнай партыі ў падтрымку маладых імігрантаў, якія цярпяць ад уціску ўладаў.*

Ва ўмовах эканамічнага крызісу 1930-х моцным штуршком да актывізацыі камуністычнага руху сярод замежных работнікаў сталі высылкі імігрантаў. Імігранты першымі трапляли пад скарачэньні з мэтаю захаваць працоўныя месцы для французаў. Адпаведныя рашэньні ўхвалілі ў 1932 годзе францускі парлямэнт і міністэрства працы.

* «Рэха». № 1. 1 сакавіка 1938 году. С. 17–18.



Паводле Жанін Панці, за шэсьць гадоў (1931–1936) з Францыі выслалі 140 тысяч польскіх грамадзян*.

На гэтыя высылкі замежныя рабочыя рэагавалі пратэстамі. У 1934 годзе 77 шахтароў у мясцовасьці Лефарэ (Leforest), якія працавалі на вугальную кампанію Compagnie de l'Escarpelle у дэпартамэнце Па-дэ-Кале (Pas-de-Calais), пад зямлёй абвясьцілі страйк. Страйк стаў моцным скандалам, пра яго пісала прэса, умешваліся прафсаюзы і ўлады, а скончыўся ён высылкай польскіх рабочых цягам 2 содняў. Іх пасадзілі ў цягнікі, якія высланцы ўпрыгожылі сьцягамі — ня толькі бела-чырвонымі польскімі, але і чырвонымі камуністычнымі.

Адным з арганізатараў таго страйку быў камуніст Эдвард Герэк (Edward Gierek, 1913–2001), які таксама быў шахтаром у Францыі. У 1931 годзе ён уступіў тут у прафсаюз і польскую сэкцыю КПФ. Герэка дэпартавалі з Францыі разам зь іншымі страйкоўцамі.



• *Страйк шахтароў у Францыі пад чырвоным сьцягам. 1930-я гады. З архіву Аляксандра Качана.*

* Janine Ponty. Op. cit. P. 311.



• *Дэпартацыя з Францыі польскіх працаўнікоў. 1930-я гады. З экспазыцыі Нацыянальнага музэю гісторыі іміграцыі Францыі.*

У 1970–1980 гадах ён стане «польскім Брэжневым», шматгадовым кіраўніком камуністычнага ўраду сацыялістычнай ПНР. Цяпер ягонае імя ў Польшчы амаль забытае, а ў францускім мястэчку Абі (Auby) у ліпені 2018 году ў ягоны гонар была названая вуліца.

Варшаўская дасьледніца Анэта Нісябэнцка (Aneta Nisiobęcka) у працы «Reemigracja Polaków z Francji oraz ich adaptacja w Polsce Ludowej w latach 1945–1950» піша, што камуністычныя погляды мела большая частка польскіх гарнякоў у Францыі*.

Дзеяла сярод эмігрантаў і прасавецкая агітацыя іншага характару. На паседжаньні генэральнай рады «Хаўрусу» ў 1937 годзе Мікола Абрамчык апавядаў, як ён сустракаўся з францускімі рабочымі — ураджэнцамі Заходняй Беларусі. Абрамчык пры гэтым расказаў, як ён атрымаў ліст з прапановай сустрэчы:

«Чуў, што ты адзін з тых, што арганізуеце беларускіх работнікаў, хацеў бы з табой пазнаёміцца».

«Еду. Знаёмімся. Быў то член «Союза русских возвращенцев» (арганізацыі былых белагвардзейцаў, што цяпер хочуць павярнуць у саветы). Ня буду вам пераказваць усей тэй чудовішчнай размовы, яна фактычна была паўтораньнем тэй самай літаніі, яб якой была рэч вышэй. Тое самае: «Кірээлейсон, хрыстээлейсон, Хрысьце, выслухай нас, не разьбівай нас. А замест «амэн» ставілася: «Ідзём з „Возвращенцами" разам»**, — распавядаў Абрамчык.

У міжваенны час Савецкі Саюз арганізаваў у Францыі, ЗША, Баўгарыі, дзе было шмат эмігрантаў, былых белагвардзейцаў, уцекачоў ад савецкай улады, так званыя «Саюзы вяртаньня на радзіму». Пасьля дэкрэтаў 1921 і 1924 гадоў аб амністыі ўдзельнікаў «белага руху» ў СССР пад уплывам савецкай агітацыі прыехала каля 200 тысяч чалавек, лёс якіх быў незайздросны — большасьць зь іх былі расстраляныя або сасланыя ў лягеры*.

Гэтую гісторыю «вяртаньня» ўжо пасьля Другой усясьветнай вайны паўтараць і некаторыя бацькі «дзяцей Францыі».

* Dzieje najnowsze. Rocznik XLVIII — 2016, 3.

** Бюлетэнь «Хаўрусу» беларускіх работнікаў у Францыі. № 3. 15 ліпеня 1937 году. С. 4–5.



## ФРАНЦУСКІЯ БЕЛАРУСЫ Ў ГІШПАНСКАЙ ВАЙНЕ

Зусім побач з Францыяй, у Гішпаніі, у 1936 годзе пачалася грамадзянская вайна паміж рэспубліканцамі і мяцежным войскам генэрала Франка. Гэтая вайна падзяліла сьвет: нацысцкая Нямеччына і фашыстоўская Італія падтрымалі Франка, СССР і на першым этапе Францыя — рэспубліканцаў.

«Хаўрус» беларускіх эмігрантаў у Францыі меў сымпатыі на баку рэспубліканцаў, але заклікаў ня ехаць ваяваць у Гішпанію. Тым ня меней беларусы ехалі туды і разам з палякамі ваявалі ў складзе інтэрнацыянальнай брыгады імя Дамброўскага.

«Беларусаў выехала ў Гішпанію каля тысячы, палавіна зь іх знайшла вечны прытулак у магілках на гішпанскай зямлі. Другая палова вярнулася назад да Францыі. Лёс іх цяпер жудасны, за свой нелегальны выезд з Францыі яны страцілі права на працу, шэфы вэрбавальных бюр дзесь зьніклі зь іх дакумэнтамі, кансулят польскі ніякіх пасьведчаньняў аб іх асобах выдаваць ня хоча. Таму на працу ўладкавацца нельга. Саветы ж не пускаюць нават і тых, якія павярнуліся бяз рук і ног», — пісала беларускае выданьне ў Парыжы**.

Крыху іншыя лічбы падае беларускі гісторык Ігар Мельнікаў, які піша, што ў баявых дзеяньнях у складзе польскіх частак у Гішпаніі ўдзельнічалі да 2 тысяч беларусаў, зь якіх ня менш за 200 чалавек загінулі.

Мельнікаў піша, што агулам на баку левых Гішпаніі змагаліся каля 4–5 тысяч грамадзян міжваеннай Польшчы; у рэспубліканскія часткі ўступалі і польскія грамадзяне, якія працавалі ў Бэльгіі і Францыі. Большасьць эмігрантаў з Заходняй Беларусі ў Францыі «прытрымліва-

* Пушкарева Н. Л. Возникновение и формирование российской диаспоры за рубежом // Отечественная история. 1996. № 1. С. 53–65.

** «Рэха». № 6–7. 1 красавік-травень 1939 году. С. 17–18.

лася левых поглядаў, і калі ў Гішпаніі пачалася Грамадзянская вайна, яны вырашылі падтрымаць Рэспубліку»*.

Супернікамі гэтых людзей маглі быць іншыя беларусы. Дарадцам у штабе генэрала Франка быў камандзер беларускага войска генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч (1883–1940). Гішпанцам дапамаглі яго парады наконт партызанскіх рэйдаў і дывэрсіяў у тыле праціўніка. Гэтаю справаю Балаховіч добра авалодаў падчас польска-бальшавіцкай і Першай усясьветнай войнаў**.

## ВАЙНА. БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦУСКІМ ВОЙСКУ


ARMEE POLONAISE
Certificat de position militaire
Nom: Krupa
Prénoms: Alexandre
Classe: 1912 N° matricule 7018
Affecté spécial à la Mine de :
Paris, le 8.V 1940
Le Commandant du Bureau de Recrutement Polonais

• *Вайсковы білет (сэртыфікат) удзельніка Войска Польскага ў Францыі на імя Аляксандра Крупы. 1940 год.*

Сьвет жыў у чаканьні вялікай вайны. І яна пачалася з нападу на Польшчу Нямеччыны (1 верасьня 1939 году) і СССР (17 верасьня).

Францыя, якая была хаўрусьніцай Польшчы, абвясьціла вайну Нямеччыне ўжо 3 верасьня 1939 году. Але баявыя дзеяньні паміж Францыяй і Нямеччынай пачаліся толькі ў траўні 1940 году. А пакуль у Францыі праводзілі мабілізацыю, фармавалі вайсковыя часткі, навучалі салдатаў.

Сярод польскіх эмігрантаў у Францыі, Бэльгіі, Люксэмбургу таксама пачалася мабілізацыя.

Дамова паміж урадамі Францыі і Польшчы, падпісаная прэм'ерамі Ўладыславам Сікорскім (1881–1943) і Эдуарам Даляндзье (1884–1970), прадугледжвала стварэньне на тэрыторыі Францыі Войска Польскага з уласным кіраўніцтвам, але пад началам на час вайны галоўнага вайскавода Ўзброеных сілаў Францыі.

Зь ліку грамадзян Польшчы ў Францыі ў лістападзе 1939 году была сфармаваная першая грэнадэрская польская дывізія, якая падпарадкоўвалася францускаму камандаваньню. Пазьней з польскіх грамадзянаў

* Ігар Мельнікаў. Іспанія. Вайна ўсіх супраць усіх. Новы час. 17 ліпеня 2017 году.

** Тамсама.



былі набраныя пяхотная дывізія, кавалерыйская брыгада, дзьве брыгады стральцоў. Яшчэ некалькі частак да пачатку баёў былі сфармаваныя не да канца. Усяго ў Войска Польскае сабралі 82 тысячы салдатаў, палову якіх склалі грамадзяне Польшчы, што жылі ў Францыі і суседніх краінах, а палову — інтэрнаваныя ў Румыніі і Вугоршчыне пасьля паразы ад немцаў і бальшавікоў польскія вайскоўцы.

У баях за Францыю прынялі ўдзел 50 тысяч польскіх вайскоўцаў, у выніку яе паразы Войска Польскае панесла каля 66 працэнтаў стратаў — забітымі, параненымі, узятымі ў палон, загінулымі бязь вестак, расьцярушанымі па Эўропе*.

Частка лідэраў і актыву беларускага «Хаўрусу» і рэдакцыйнай калегіі «Рэха» былі змабілізаваныя ў францускае войска.

«Рэха» піша, як у парыскую сядзібу «Хаўрусу» завіталі на пабыўку з войска змабілізаваныя сябры арганізацыі Ю. Буйвіла і Б. Раецкі.

«Абодвы мелі вельмі вясёлы і бадзёры выгляд. У вадказ на іх распавяданьні некаторыя з прысутных с.с., што працуюць на фабрыках, высказалі сваю зайздрасьць. Сяб. Раецкі так распавядаў аб сваей службе: «У моладасьці, — казаў ён, — давялося мне паслужыць у расейскім і польскім войску аж 7 гадоў. Ідучы ў францускае, думаў, што будзе тое самае. Але вось ужо прайшло пару месяцаў, а што я ў войску — не адчуваю. Жадных табе беспатрэбных «муштраў», жадных прыдзірак. Адбыў службу — і ніхто да цябе ня чэпіцца, ніхто цябе ня бачыць»**.

«Хаўрус» вёў з францускімі ўладамі перамовы, каб эмігранты-беларусы вэрбаваліся ня ў польскія вайсковыя адзінкі, а ў францускі Іншаземны легіён.

Старшыня «Хаўрусу» Мікола Абрамчык наведаў Міністэства абароны Францыі і склаў мэмарандум на гэты конт на імя францускага ўраду.

Абрамчык спадзяваўся на стварэньне ў складзе Іншаземнага легіёну асобнага беларускага фармаваньня. Усім ахвотным уступіць у беларускія адзінкі «Хаўрус» выдаваў пасьведчаньні аб іх няпольскім паходжаньні. Зь лютага па красавік 1940 году ў ваколіцах Парыжу існаваў вэрбавальны пункт для добраахвотнікаў у беларускі падразьдзел у складзе францускага Іншаземнага легіёну***.

* Wojsko Polskie we Francji. http://www.sww.w.szu.pl/index.php?id=polska_wojsko_polskie_we_francji

** «Рэха». № 8. Травень 1940 году. С. 7.

*** Юры Грыбоўскі. Цыт. праца.

10 траўня 1940 году Прэзыдыя Хаўрусу зьвярнулася да беларусаў у Францыі з адозвай, якая абвяшчала, што пасьля перамоваў з уладамі пастановай францускага ўраду ім даецца права выбару — ісьці ў Войска Польскае ці ў францускі Іншаземны легіён:

«Мы пераконаны, што вы выканаеце свой доўг перад Францыяй з належнай годнасьцю імя беларуса. Так, як вы будзеце паводзіцца, такая і апінія ў французаў будзе аб нас. Мусіце памятаць, што францускі ўрад зрабіў для вас тое, чаго-б не зрабіў ніякі іны ўрад. Ён даў вам права ВОЛЬНАГА ВЫБАРУ», — напісана ў адозьве, якая мела дазвол францускай цэнзуры*.

Як піша «Рэха», беларусы пачалі масава запісвацца ў Іншаземны легіён францускага войска — усяго каля 1500 чалавек. І ў Войска Польскае пад францускім камандаваньнем запісаліся некалькі тысяч беларусаў.



• *Лявон Рыдлеўскі. Францыя. 1929 год.*

Паводле Лявона Рыдлеўскага, які сам пайшоў служыць у Іншаземны легіён, сярод беларусаў знайшліся яшчэ 1200 такіх ахвотнікаў (ацэнкі колькасьці не супадаюць, бо на розных этапах мабілізацыі магло быць па-рознаму, апрача таго, былі пераходы з францускіх частак у польскія). Ён называе дамову з францускімі ўладамі пра запіс беларусаў у Légion étrangère сапраўдным дыпляматычным посьпехам Абрамчыка**.

Але гэтае рашэньне не спадабавалася польскаму боку, піша беларускі гісторык Юры Грыбоўскі:

«Апэлюючы да таго, што парушаецца француска-польская вайсковая дамова, урад Сікорскага дамогся ў красавіку закрыцьця вэрбавальнага пункту для беларусаў. З красавіка 1940 году «Хаўрус» накіраваў на імя францускага ўраду Мэмарандум, у якім заклікаў зьвярнуць увагу французаў на беларускае пытаньне ў польска-францускіх вайсковых адносінах. Справа скончылася тым, што 2/3 беларусаў-добраахвотнікаў былі перададзены ў склад польскай

* «Рэха». № 8. Травень 1940 году. С. 10.

** Лявон Рыдлеўскі. З жыцьця й дзейнасьці М. Абрамчыка // З гісторыяй на «Вы». Кн. 3. Мн., 1994. С. 128.



арміі, а астатнім, хто ўхіляўся ад уступленьня ў польскія адзінкі, было дазволена ўступаць у францускае войска»*.

Сярод тых, хто ваяваў за Францыю, быў і колішні слуцкі паўстанец, вядомы дзяяч «Хаўрусу» Лявон Рыдлеўскі. Пасьля разгрому францускай арміі, ва ўмовах нямецкай акупацыі Рыдлеўскі пайшоў у рух Супраціву, у партызанскія аддзелы макі.

«Ён быў толькі адным з каля сарака жаўнераў, якія засталіся пасьля сутыкненьня з Вэрмахтам, але правёў усю Другую ўсясьветную вайну ў партызанцы», — казаў пра яго пры адкрыцьці надмагільнага помніка ў Лёндане сябра Рады БНР Мікола Пачкаеў**.

Пасьля вайны ў прадмове да сваёй кнігі «Biélorussie: aperçu sommaire de l'histoire de la nation biélorussienne et du mouvement de libération nationale» (Беларусь: Сьціслы агляд гісторыі беларускага народу і нацыянальна-вызвольнага руху) Лявон Рыдлеўскі пісаў:

«Наш полк пасьля жорсткіх баёў быў вымушаны адступіць у паўднёвую зону Францыі, дзе мяне з многімі таварышамі прынялі ў макі ў дэпартамэнце Ваклюз, каб працягваць партызанскую барацьбу да Вызваленьня.

Францыя зноў стала свабоднай, я таксама. Але мая першая Радзіма, Беларусь, дзе я змагаўся пасьля Першай усясьветнай вайны супраць бальшавіцкай тыраніі, да сёньня жыве ва ўмовах тэрарыстычнага рэжыму»***.

Беларускія тагачасныя эміграцкія крыніцы падаюць, што агулам у Францыі 6 000 беларусаў былі змабілізаваныя ў польскае і францускае войска. Паводле польскіх крыніц, сярод асабовага складу дзьвюх дывізіяў беларусамі ў вайсковых дакументах пазначаныя 4% жаўнераў, тымчасам як гэтыя злучэньні налічвалі па 16 тысяч чалавек кожнае****.

Гісторык Юры Грыбоўскі піша, што падчас баёў у Нарвэгіі і Паўночнай Францыі польскія аддзелы пад францускай камандай страцілі забітымі 1330 вайскоўцаў, у тым ліку 39 беларусаў. Лічэбнасьць стратаў беларусаў у складзе францускага войска невядомая. Пасьля капітуляцыі Францыі ў чэрвені 1940 году большасьць польскіх вайскоўцаў былі дэмабілізаваныя і раззброеныя, 12 тысяч — перапрaвіліся ў Ангельш-

* Юры Грыбоўскі. Цыт. праца.

** Радыё Свабода. 27 лістапада 2010 году. https://www.svaboda.org/a/2232504.html

*** L. Rydlevsky. Biélorussie: aperçu sommaire de l'histoire de la nation biélorussienne et du mouvement de libération nationale. Paris, 1948. P. 3.

**** Юры Грыбоўскі. Цыт. праца.

чыну і працягнулі змаганьне. У тым ліку ваявалі ў Італіі, удзельнічалі ў бітве пры Монтэ-Касына. Сярод гэтых герояў былі і сотні беларусаў.

«Хаўрус» на пэрыяд нямецкай акупацыі спыніў дзейнасьць і выданьне бюлетэню «Рэха». Мікола Абрамчык у 1941–1943 гадах працаваў у Беларускім камітэце самапомачы (Бэрлін), рыхтаваўся паехаць у Беларусь на заклік Беларускай незалежніцкай партыі, але быў затрыманы гестапа і інтэрнаваны ў Парыжы. Да таго ў Празе ён сустрэўся з прэзыдэнтам Рады БНР Васілём Захаркам, які перад сьмерцю перадаў яму свае паўнамоцтвы.

## БЕЛАРУСКІ ПРАФСАЮЗ У ФРАНЦЫІ

Мікола Абрамчык ды Лявон Рыдлеўскі заставаліся лідэрамі беларускага руху ў Парыжы і па вайне, у грамадзка-палітычным пляне яны моцна пашырылі сваю дзейнасьць і свой аўтарытэт сярод беларускай эміграцыі.

У 1945 годзе ў Парыжы быў заснаваны фактычна адзіны ў замежжы беларускі прафсаюз — Аб’яднаньне беларускіх работнікаў пры Хрысьціянскім сындыкаце рабочых Францыі. Узначаліў яго Лявон Рыдлеўскі.

Ён жа быў рэдактарам газэты «Беларускія навіны» (1945–1947), якая па вайне выходзіла ў Парыжы як дадатак да францускай прафсаюзнай газэты «Syndicalisme».

Рыдлеўскі быў і рэдактарам часопіса беларускай вызвольнай думкі «За волю». Ён друкаваўся ў 1951 годзе ў Парыжы, у беларускай грамадзкай друкарні, выкупленай Беларускім выдавецкім фондам за 200 тысяч франкаў, якія сабралі прадстаўнікі беларускай дыяспары. Такую суму брута (без падаткаў) тады ў сярэднім зарабляў францускі рабочы за год*. Сярод асноўных фундатараў часопіс пазначыў прозьвішчы: У. Шыманец, К. Абрамчык, Я. Сурвіла, Л. Гарошка, А. Монід, Ф. Чарняўскі, усяго 25 чалавек. Гэта была першая беларуская друкарня ў эміграцыі.

Часопіс «За волю» друкаваў адозвы прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, віншаваньні з 25 Сакавіка і рэлігійнымі сьвятамі, артыкулы аб жыцьці беларусаў пад савецкай акупацыяй і ў замежжы, апісваў гісторыю беларускага супраціву, навіны міжнароднай палітыкі. Некалькі

* За Волю, 25 сакавіка 1951 году.



нумароў запар часопіс друкаваў сьпісы палеглых пад Монтэ-Касына беларусаў — 264 прозьвішчы.

Беларуская сэкцыя пры адным з найбольшых прафсаюзаў Францыі дапамагала суродзічам у разьвязаньні праўных пытаньняў, у сацыяльным забесьпячэньні, лячэньні, пошуку працы і жыльля, пераезьдзе іхных сваякоў у Францыю, вяла адукацыйную працу сярод беларускіх працаўнікоў. Праводзіліся сходы, курсы францускай мовы і беларусазнаўства, агляды прэсы і падзеяў у сьвеце, а таксама сьпевы і забавы.

«У беларускіх арганізацыях пануе вельмі сардэчная і цёплая братняя атмасфэра. Нягледзячы на крутыя матар’яльныя сродкі арганізацыі, ніводзін новы сябра, прыйшоўшы да нас, не застаўся без кватэры і працы. Напружваюцца ўсе высілкі, каб як можна хутчэй і лепей дапамагчы ўладзіцца сваім новапрыбываючым сябрам. Кіраўніцтва сэкцыі Беларускага сындыкату робіць з усіх бакоў захады, каб сарганізаваць для сваіх сяброў прафэсіянальныя курсы або ўладзіць іх на адпаведныя прафэсіянальныя курсы францускіх школ. Пакуль што сарганізаваны курсы францускай мовы і беларусаведы, якія ўжо рэгулярна працуюць ад 22 верасьня», — пісала беларуская прафсаюзная газэта*.

«Беларускія навіны» 25 студзеня 1946 году назвалі Францыю «адной з найспрыятлівейшых эўрапейскіх краін для эміграцыі». Газэта нагадвала, што да вайны тут было каля 3 мільёнаў чужынцаў, у тым ліку 20 тысяч беларусаў.

Выданьне зьвярнула ўвагу, што прэзыдэнт Францыі Шарль дэ Голь абвясьціў у 1945 годзе плян прыёму 2 мільёнаў іншаземцаў, патрэбных для аднаўленьня разбуранай вайной краіны.

Паводле «Беларускіх навін», гэты плян станоўча ўспрынялі ў францускім грамадзтве.

«Навет у сучасны мамэнт найбольшай гаспадарчай разрухі і недастачы кожны чужынец, які дастаўся да Францыі, знаходзіў сабе прытулак, нават калі ён прабіраўся сюды на сваю руку — нелегальна. Ён ня быў ані выкінуты з Францыі, ані за гэта караны, а заўсёды знаходзіў належнае разуменьне і спачуцьцё, калі, зразумела, такі эмігрант не зьяўляўся якімсь авантурыстычным элемэнтам… Атрымаўшы карту ідэнтычнасьці — з зазначанай прафэсіяй — чужынец мае права свабоднага руху па ўсёй тэрыторыі Францыі… Што да сацыяльна-эканамічных

* «Беларускія навіны». № 6. Парыж, студзень 1947 году. С. 3.

праваў работніка, то яны нічым не адрозьніваліся ад праваў работніка францускага», — пісала газэта*.

18 кастрычніка 1945 году ўрад спрасьціў для іншаземцаў натуралізацыю, атрыманьне францускага грамадзянства, даў дадатковыя прывілеі імігрантам, якія жывуць больш за тры гады, напрыклад, права аспрэчваць рашэньне аб высланьні ў судзе.

Дзякуючы такому стаўленьню і сталай патрэбе ў рабочых руках на шахтах і ў сельскай гаспадарцы «беларуская эміграцыя напэўна зможа будзе знайсьці занятак у Францыі ды атрымаць умовы напэўна найлепшыя, чым у якой-бы то не было іншай эўрапейскай дзяржаве», — пісала газэта**.

У 1946 годзе Францыя запрасіла да сябе некалькі соцень польскіх грамадзян, якія былі ў лягерах уцекачоў на тэрыторыі Нямеччыны. Газэта Le Monde пісала пра магчымасьць запрасіць зь Нямеччыны 250 тысяч перамешчаных асобаў, якія ня могуць вярнуцца на сваю бацькаўшчыну.

Беларуская прафсаюзная газэта пісала, што дапамога беспрацоўным у Францыі ў 1946 годзе складала 40–60 франкаў на галаву сям'і і 25–35 франкаў на сямейнікаў у дзень — залежна ад памеру паселішча, у якім яны жывуць.

Пэнсія для шахтароў складала 36 000 франкаў у год — яе можна было атрымаць ва ўзросьце 50 гадоў пры ўмове шахтарскага стажу 30 гадоў, зь іх прынамсі 20 пад зямлёю***.

Калі была створаная Міжнародная арганізацыя ў справах уцекачоў (IRO), Лявон Рыдлеўскі стаў яе беларускім прадстаўніком у Парыжы. Разам зь Міколам Абрамчыкам ён апекаваўся беларусамі зь ліку перамешчаных асобаў у Францыі, Нямеччыне, Даніі ды іншых краінах.

IRO ацаніла колькасьць расьселеных зь Нямеччыны ў іншыя краіны беларусаў у 25 тысяч. Беларускі нацыянальны камітэт у Рэгенсбургу, які ў 1945 г. апекаваўся рэгістрацыяй і ўладкаваньнем суайчыньнікаў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, казаў пра колькасьць невяртанцаў у 75–100 тысяч чалавек****.

Рыдлеўскі пасьля вайны быў адным з тых, хто спрычыніўся да ўратаваньня каля двухсот беларусаў з Даніі ад выдачы сталінскаму ўраду,

* «Беларускія навіны». № 1. Парыж, 25 студзеня 1946 году. С. 3.

** Тамсама.

*** «Беларускія навіны». № 1. Парыж, 25 студзеня 1946 году.

**** Алег Гардзіенка. Палітычны раскол на беларускай эміграцыі ў 1940-я гг. // Беларускі гістарычны агляд. 2009. Т. 16. Сш. 2.



казала старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, маючы на ўвазе ў тым ліку сваю сям'ю.

«Я памятаю Лявона Рыдлеўскага з Парыжу. Калі мы туды прыехалі, мне было толькі 12 гадоў. Ён нас спаткаў. Ён тады намі апекаваўся. Ён фактычна быў апекуном усіх навапрыежджых беларусаў у Парыжы. Усім памагаў. Жыў вельмі цяжка, але быў сапраўды адданы свайму народу», — казала ў 2010 годзе пра Рыдлеўскага Івонка Сурвіла*.

## ПАРЫЖ — СТАЛІЦА БНР

З 1943 году абавязкі старшыні Рады БНР паводле тастамэнту Васіля Захаркі выконваў Мікола Абрамчык. 28 сьнежня 1947 году на паседжаньні беларускага актыву ў нямецкім Остэргофэне Рада БНР была адноўленая і Абрамчык быў абраны яе кіраўніком. 72 беларускія дзеячы склалі прысягу вернасьці**.



• *Мікола, Альгерд і Ніна Абрамчыкі. Парыж. 1956 год.*

У Дэклярацыі адноўленай Рады БНР пералічваліся асноўныя яе прынцыпы: змаганьне за незалежнасьць, абвешчанае I Усебеларускім Кангрэсам і Актам 25 Сакавіка 1918 году; непрызнаньне БССР формаю беларускай дзяржаўнасьці; непрызнаньне міжнародных дамоваў наконт Беларусі, падпісаных урадамі Польшчы, СССР і БССР. Прэзыдэнт Рады БНР абвяшчаўся праўным і адзіным найвышэйшым прадстаўніком беларускага народу.

Гэтую пасаду Мікола Абрамчык займаў да сваёй сьмерці ў 1970 годзе, будучы фактычна адзіным за мяжой прафэсійным беларускім палітыкам, бо іншай працы ён ня меў.

Такім чынам з 1947 году адным з цэнтраў палітычнай беларускай эміграцыі стаў Парыж, дзе жыў Абрамчык з паплечнікамі, дзе былі бе-

* Радыё Свабода. 27 лістапада 2010 году. https://www.svaboda.org/a/2232504.html

** Алег Гардзіенка. Цыт. праца.

ларускі прафсаюз і друкарня, дзе быў адноўлены «Хаўрус» і зьявіліся новыя арганізацыі беларускай дыяспары.

Мікола Абрамчык актыўна лябіяваў беларускія інтарэсы на Захадзе, ён спрычыніўся да адкрыцьця ў 1954 годзе беларускай службы Радыё «Вызваленьне», пазьней Радыё Свабода, ён напісаў і выдаў у 1950 годзе ў Канадзе брашуру «I accuse Kremlin of Genocide of My Nation» (Я абвінавачваю Крэмль у генацыдзе майго народу), заснаваную на сакрэтных дакумэнтах НКВД.

Абрамчык быў таксама абраны старшынём Лігі за вызваленьне народаў СССР.

«Ня знойдзецца ніводнага беларускага асяродзьдзя ў Эўропе і Амэрыцы, дзе б не пабываў гэты нязломны і нястомны змагар»*, — пісаў пра Абрамчыка ў 1952 годзе для газэты «Бацькаўшчына» ягоны сябар і, бадай, адзіны біёграф Лявон Рыдлеўскі.

У лістападзе–сьнежні 1948 году ў Парыжы прайшоў Першы сусьветны зьезд беларускае эміграцыі, які падтрымаў Раду БНР і яе прэзыдэнта Міколу Абрамчыка. На форуме было створана Сусьветнае аб'яднаньне беларускае эміграцыі, лідэрам абраны Лявон Рыдлеўскі**.

Пазьней у Францыі зьявілася яшчэ шэсьць беларускіх арганізацыяў: Беларускі выдавецкі фонд (старшыня Ўладзімер Шыманец), Аб'яднаньне беларускіх жанчын (старшыня Ніна Абрамчык), Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі (старшыня Янка Філістовіч), Згуртаваньне беларускіх студэнтаў (старшыня Міхась Наўмовіч), Зьвяз беларускіх скаўтаў (старшыня Міхась Наўмовіч). Арганізацыі былі нешматлікія, часам у іх запісваліся адныя і тыя ж, але тым ня меней яны давалі беларусам-эмігрантам шанец яднаньня і рэалізацыі розных сваіх інтарэсаў. У СССР жа грамадзкая актыўнасьць была пад строгім дзяржаўным кантролем.

Грэка-каталіцкі сьвятар Леў Гарошка (1911–1977) быў душпастырам беларусаў Францыі з 1946 па 1958 год. У Парыжы ён выдаваў рэлігійны часопіс «Божым Шляхам» і кнігі на тэмы тэалёгіі і гісторыі Беларусі. Першае месца, дзе ў Парыжы праводзіліся малітвы па-беларуску, — крыпта касьцёлу Сэн-Сюльпіс паміж Люксэмбурскім садам і бульварам Сэн-Жэрмэн***.

---

* Лявон Рыдлеўскі. Цыт. праца. С. 129.

** Ігар Лялькоў. Адвечная песьня. Наша ніва. 26 верасьня 2001 году.

*** Леў Гарошка. Трыццацігодзьдзе беларускага душпастырства ў Францыі. Запісы БІНіМ. № 37. С. 322.





• *Удзельнікі паніхіды памяці Якуба Коласа. Парыж. 1956 год.*

На набажэнствы ў 1950–60-х гадах штонядзелі прыходзілі дзясяткі парыскіх беларусаў, у 1956 годзе тут правялі паніхіду па памерлым Якубу Коласу. У Парыжы бываў і біскуп Часлаў Сіповіч, апостальскі візытатар для беларусаў-каталікоў за мяжой.

## БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛІСТ З САРБОНЫ

Асобную старонку гісторыі беларусаў Францыі склала дзейнасьць Янкі Філістовіча (1926–1953) і Міхася Наўмовіча (1922–2004), якія заснавалі «Беларускую незалежніцкую арганізацыю моладзі ў Францыі» і выдавалі часопіс «Моладзь» (1948–1954).

«Душою й маторам праекту быў Філістовіч», — прызнаваўся Міхась Наўмовіч*.

Паводле Наўмовіча, Філістовіч дамогся ад уладаў Францыі рэгістрацыі іхнай арганізацыі, заснаваў газэту для беларускай моладзі, сам пі-

---

* Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954). Мн., 2004. С. 4.



• *Пасьведчаньне сябра Рады БНР на імя Янкі Філістовіча, падпісанае Міколам Абрамчыкам. 1951 год.*

саў для яе ўступныя артыкулы і гістарычныя нарысы. Фінансавалі яе выхад са складак сяброў арганізацыі і са студэнцкіх стыпэндыяў Наўмовіча і Філістовіча. Янка Філістовіч вывучаў гісторыю ў парыскай Сарбоне і ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі.

Апостальскі візытатар для беларусаў-каталікоў Часлаў Сіповіч назваў часопіс «Моладзь» адным з найбольш «сымпатычных і цэнных» выданьняў беларускай дыяспары*.

«Мы, беларуская моладзь у Францыі, дэкляруем аддаць усе свае сілы, а калі зайдзе патрэба — аддамо і жыцьцё, каб жыла Беларусь… Мы, будучы ў выгнаньні, маем тое, чаго ня мае ні адзін наш брат у паняволенай Бацькаўшчыне, гэта значыць — вольны голас», — пісаў Янка Філістовіч у першым нумары часопіса «Моладзь» у 1948 годзе**.

З 1950 году імя Філістовіча зьнікае са старонак «Моладзі». Як напісаў ягоны сябра і паплечнік у парыскі пэрыяд жыцьця Міхась Наўмовіч, Янка вылецеў на Бацькаўшчыну, дзе «мроіў стварыць партызанскі рух, каб вызваліць Беларусь ад бальшавіцкіх акупантаў»***.

11 сакавіка 1951 году ў Парыжы Янка Філістовіч атрымаў пасьведчаньне, падпісанае старшынём Рады БНР Міколам Абрамчыкам, у тым, што ён ёсьць сябрам Рады БНР і ўпаўнаважаным прадстаўніком Ураду БНР.

З гэтым пасьведчаньнем ён і паляцеў у Беларусь. Філістовіч узяўся наладзіць кантакт беларускіх эміграцыйных колаў з падпольлем на тэрыторыі БССР. Пасьля трохмесячнай падрыхтоўкі на базе Каўфбэрэн пад Мюнхэнам 9 верасьня 1951 году Філістовіч дэсантаваўся з амэрыканскага самалёта ў Вялейскі раён, дзе нарадзіўся і вырас****.

Нейкі час Янка жыў у сваякоў і знаёмых, агітаваў, зьбіраў зьвесткі аб дысьлякацыі савецкіх войскаў. Праз сваяка Філістовічу ўдалося наладзіць сувязь з партызанскай групай Сяргея Мікуліча, якая складалася з 5 чалавек і дзейнічала ў Ільянскім раёне з 1949 году. Філістовіч пераняў камандаваньне групай, наладзіў дысцыпліну, вёў ідэйную і падпольную падрыхтоўку.

* Тамсама. С. 6.
** Тамсама. С. 12.
*** Тамсама. С. 4.
**** https://www.radabnr.org/janka-filistovic/



Роўна год дзейнічаў Янка ў беларускіх вёсках і лясах, некаторым паказваў сваё пасьведчаньне сябра Рады БНР, агітаваў, зьбіраў інфармацыю, пісаў данясеньні ў ЦРУ ЗША, запісаныя тайнапісам паміж радкамі ў звычайных лістах.

«Усе, з кім я гаварыў, пасьля таго як даведваліся пра мэты майго прыезду, ахвотна дапамагалі, давалі прытулак, здабывалі неабходную інфармацыю», — падае Аляксандар Лукашук словы самога Янкі Філістовіча ў кнізе пра яго*.

5 верасьня 1952 году МГБ БССР правяло спэцыяльную апэрацыю супраць групы Філістовіча. Дваіх забілі, астатніх затрымалі. Але самому Янку ўдалося ўцячы. Ён меркаваў перайсьці мяжу з Польшчай, але 9 верасьня ў выніку здрады (школьны сябра падсыпаў яму снатворнае) Янка без аніводнага стрэлу быў захоплены супрацоўнікамі МГБ.

Закрыты судовы працэс над Янкам Філістовічам пачаўся 17 кастрычніка 1953 году ў Менску. Філістовіч быў асуджаны трыбуналам Беларускай вайсковай акругі да сьмяротнай кары, якая была выкананая.

Беларускія актывісты ў Францыі і Бэльгіі адгаворвалі Янку Філістовіча ад рызыкоўнага палёту ў БССР, але ён не пагаджаўся, казаў, што яму душна на эміграцыі:

«Я лічу, што абавязак мой быць там, дзе мой народ цярпіць»**.

* А. Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. Мн., 1997. С. 3.
** Тамсама. С. 67.

# Частка трэцяя
# ПАСТКА. СТАЛІНСКАЯ РЭПАТРЫЯЦЫЯ




• *Сьвяткаваньне ў Францыі 28-х угодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі. 1945 год. З архіву Алены Крупы.*



## ПАВАЕННЫ ПОСЬПЕХ КАМУНІСТАЎ У ФРАНЦЫІ

У Францыі пасьля Другой усясьветнай вайны ўзмацнілася савецкая і камуністычная прапаганда, імідж СССР як краіны-пераможцы ў вачах французаў вырас, як і папулярнасьць камуністычнай партыі, заслужаная ёю ўдзелам у Супраціве нацыстам. Француская камуністычная партыі мела моцную падтрымку СССР і Камінтэрну; зрэшты, яны фактычна кіравалі ёю.

На мясцовых выбарах у красавіку–траўні 1945 году камуністы атрымалі ўладу ў 60 муніцыпалітэтах, стварыўшы «чырвоны пояс» вакол Парыжу. Над краінай навіс прывід камунізму.

На першых пасьляваенных выбарах у парлямэнт у кастрычніку 1945 году Француская камуністычная партыя атрымала першае месца: за яе прагаласавалі 5 мільёнаў французаў — 26 працэнтаў выбарнікаў. Партыя атрымала ў Нацыянальнай асамблеі 159 мандатаў з 579 і ўвайшла ў пераходны ўрад Францыі, сфармаваны генэралам Шарлем дэ Голем. Кіраўнік ФКП Марыс Тарэз стаў міністрам.

Францускі пісьменьнік Нікаля Жалё пра гэты пэрыяд напісаў:

«Партыя Марыса Тарэза, якая атрымлівала беспасярэднія наказы з Крамля, была ва ўрадзе Францыі да траўня 1947 году»*.

Такія палітычныя абставіны давалі СССР магчымасьць актыўна ўмешвацца ва ўнутраныя справы Францыі.

З другога боку, урад Францыі імкнуўся наладзіць добрыя стасункі з СССР, Шарль дэ Голь хацеў зрабіць сваю краіну пасярэднікам паміж Захадам і Саветамі. СССР першым прызнаў Часовы ўрад Францыі, пасьля гэта зрабілі ЗША і Вялікая Брытанія.

У сьнежні 1944 году генэрал Шарль дэ Голь, які быў кіраўніком Часовага ўраду Францыі, пабываў з гістарычным візытам у Маскве, сустрэўся са Сталінам і падпісаў француска-савецкую дамову аб дружбе і ўзаемадапамозе.

Францыя, якая пасьля нямецкай акупацыі імкнулася вярнуцца ў шэраг усясьветных лідэраў, фактычна пайшла на хаўрус з СССР, бо ёй пры раскладзе палітычных сіл у сьвеце пасьля Ялцінскай канфэрэнцыі была патрэбна ягоная падтрымка.

---

* Nicolas Jallot. Piégés par Staline. Paris: Pocket, 2004. P. 29.

## «АБАВЯЗКОВАЯ РЭПАТРЫЯЦЫЯ» ПАВОДЛЕ СТАЛІНА

Савецкі Саюз загадзя рыхтаваўся да вяртаньня мільёнаў сваіх грамадзян з краін Эўропы — ваеннапалонных, остарбайтэраў, перамешчаных асобаў, уцекачоў. Асаблівую ўвагу савецкія ўлады надавалі сваім «клясавым ворагам» — белаэмігрантам, казакам, чальцам арганізацыяў, якія падчас нямецкай акупацыі дзейнічалі на тэрыторыі СССР. Такіх асобаў яны шукалі і патрабавалі ад хаўрусьнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі іх дэпартаваць. Іх чакаў у СССР незайздросны лёс — суды, ГУЛАГ і расстрэлы.

СССР заключыў пагадненьні аб рэпатрыяцыі сваіх грамадзян з краінамі-пераможцамі ў Другой усясьветнай вайне на канфэрэнцыі 10–11 лютага 1945 году ў Ялце. Савецкі дыктатар Ёсіф Сталін асабіста дамовіўся з прэзыдэнтам ЗША Франклінам Рузвэльтам і прэм'ерам Вялікай Брытаніі Ўінстанам Чэрчылем пра выдачу і рэпатрыяцыю савецкіх грамадзян.

У гэтых дамовах быў запісаны прынцып «узаемнай абавязковай рэпатрыяцыі». Але гэтыя дамовы тычыліся толькі тых, хто меў савецкае грамадзянства, а не грамадзян краін Балтыі, ураджэнцаў Заходняй Беларусі і Ўкраіны. Краіны Захаду не прызнавалі тэрытарыяльных зьменаў, якіх дамогся СССР у хаўрусе з нацысцкай Нямеччынай на пачатку Другой усясьветнай вайны, таму жыхары краін Захаду — выхадцы з краін Балтыі і ўсходніх ваяводзтваў даваеннай Польшчы — на момант савецкай акупацыі ў 1939–1940 гадах на Захадзе не лічыліся грамадзянамі СССР.

Аналягічная дамова — аб рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян з Францыі і францускіх з СССР — была заключаная з Францыяй 26 чэрвеня 1945 году («Accord sur la détention et le rapatriement des citoyens soviétiques et français se trouvant respectivement sous le contrôle des autorités françaises»).

Подпісы пад дакумэнтам у Маскве паставілі намесьнік народнага камісара замежных справаў СССР Андрэй Вышынскі (1883–1954), больш вядомы як пракурор СССР і арганізатар палітычных рэпрэсіяў 1930-х гадоў, і амбасадар Францыі ў Маскве П'ер Шарпанцье (Pierre Charpentier)*.

* Pavel M. Polian, Christine Colpart. Le rapatriement des citoyens soviétiques depuis la France et les zones françaises d'occupation en Allemagne et en Autriche // Cahiers du Monde russe. Vol. 41, No. 1 (Jan.–Mars 2000). Pp. 165–189.



Паводле пагадненьня з СССР у Францыю былі рэпатрыяваныя 313 тысяч чалавек, у тым ліку палонныя жыхары Эльзасу і Лятарынгіі, якіх з 1943 году бралі ў нямецкае войска*.

## СССР ЗАКЛІКАЕ ЭМІГРАНТАЎ «ВЯРТАЦЦА»

Прадстаўнікі беларускай, украінскай і расейскай этнічных групаў у Францыі былі аб'ектам прапаганды з боку СССР, агітацыі савецкіх дыпляматаў і актывістаў, якія заклікалі добраахвотна «вяртацца» ў СССР.

Такія заклікі былі яшчэ да Другой усясьветнай вайны, і гэтая прапаганда толькі ўзмацнілася ў канцы вайны і ў першыя пасьляваенныя гады. Тады новыя францускія ўлады пераймалі кіраваньне вызваленай ад гітлераўцаў дзяржавай, і краіна была яшчэ дэзарганізаваная, чым актыўна карысталіся савецкія дыпляматы і спэцслужбы.

Эміграм расказвалі, якія даброты іх чакаюць у СССР у выпадку вяртаньня. Асноўныя тэзісы савецкай прапаганды ў сваіх успамінах падаў адзін з прадстаўнікоў той эміграцыі Алег Івашкевіч:

«У СССР няма беспрацоўя, бо праца для ўсіх абавязковая, а таму няма галечы і няма бяздомных. Жанчыны маюць роўныя правы з мужчынамі. Хлеб бясплатны для ўсіх. Вучоба ў школе абавязковая для ўсіх да 17 гадоў, вышэйшая адукацыя бясплатная. Мэдыцына і лекі бясплатныя. Свабода веравызнаньня поўная. Выхад на пэнсію для мужчын устаноўлены ў 55 гадоў, для жанчын — у 50»**.

Івашкевіч далей піша, што на вуліцах францускіх гарадоў былі плякаты нейкага Камітэту садзеяньня міру і свабодзе, якія заклікалі рабочых-камуністаў спыняць працу ў Францыі і масава эміграваць у СССР. Ім абяцалі, што за 300 рублёў штомесячнага заробку ў СССР яны змогуць купіць 117 кіляграмаў хлеба, 27 кіляграмаў мяса, 158 літраў малака***.

Паводле Івашкевіча, з 700 расейскіх эмігрантаў ў дэпартамэнце Ўазан (Oisans) у СССР паехалі 100 чалавек.

Такая прымітыўная прапаганда дзейнічала, бо неўзабаве пасьля вызваленьня ад нацыстаў эканоміка Францыі наблізілася да катастрофы.

Разбураная бамбаваньнямі, замучаная вайной, пазбаўленая працоўнай сілы, выгнанай у Нямеччыну, Францыя сутыкнулася з дэфіцытам

* Виктор Земсков. Репатриация перемещённых советских граждан // Научно-просветительский журнал «Скепсис». http://scepsis.net/library/id_1234.html

** Oleg Ivachkevitch. Memoirs de Russes en Oisans. Grenoble, 1997.

*** Тамсама.



CARTE DE VÊTEMENTS
ET D'ARTICLES TEXTILES
Nom Szemis
Prénoms Zenia
Profession
Nationalité
Date
Commune
Département
Délivrée le
par la Mairie de
Signature du Maire

MINISTÈRE DES FINANCES
CARTE
DE TABAC
Nom
Carte d'alimentation n°
VINGT francs
CONTRIBUTION AUX DÉPENSES DE L'ENTRAIDE FRANÇAISE
20 Fr.

CARTE DE VÊTEMENTS
ET D'ARTICLES TEXTILES
Nom Szemis
Prénoms Jean
Profession
Nationalité
Date
Commune
Département
Rue et N°
Délivrée le
par la Mairie de
AUBOUÉ
Signature du Maire

CARTE DE VÊTEMENTS
ET D'ARTICLES TEXTILES
Nom Szemis
Prénoms Anna
Profession
Nationalité
Date
Commune
Département
Rue et N°
Délivrée le
par la Mairie de
AUBOUÉ
Signature du Maire

• *Паваенныя карткі на адзеньне і тытунь на імя Яна, Зэні і Ганны Шэмісаў. Францыя. 1945 год.*



харчу і 30-працэнтнай інфляцыяй. У пачатку 1945 году пачаліся перабоі ў забесьпячэньні, Часовы ўрад Францыі ўвёў карткі на хлеб*.

У такіх умовах эмігранты маглі паддацца савецкай прапагандзе пра посьпехі савецкай эканамічнай сыстэмы, пра «райскае жыцьцё» ў краіне Сталіна.

Адразу пасьля вайны СССР накіраваў на Захад і вэрбаваў на месцы сваіх агентаў уплыву, якія мусілі паставіць пад свой кантроль арганізацыі эмігрантаў; была таксама запушчана магутная машына прапаганды.

Расейскія эмігранты ў Францыі, у тым ліку былыя белагвардзейцы, горача перажывалі за сваю радзіму падчас Другой усясьветнай вайны. Некаторыя бралі ўдзел у французскім Супраціве: яны спадзяваліся, што па вайне СССР стане іншым, адчувалі настальгію ды гатовыя былі далучыцца да гэтага руху.

Паводле адной з актывістак расейскай эміграцыі таго часу Ніны Крывашэінай, у Францыі тады жылі каля 65000 расейцаў. І амаль уся гэтая эміграцыя была палітычнай. Пра думкі, якія панавалі ў тым асяродзьдзі, Крывашэіна, якая сама рашылася вяртацца ў СССР, напісала ва ўспамінах:

«Пасьля вайны варожасьць і ўхілы сярод расейцаў моцна абвастрыліся — дый зразумела, што перамогі савецкай арміі паўплывалі на розумы, і шмат хто лічыў, што гэта пачатак новай эры, што вось-вось будуць і ўнутры краіны перамены… Потым выявілася, што ў той час і ў СССР было нямала людзей, якія думаюць, як мы. А выйшла наадварот, і праз кароткі час пачалася «халодная вайна» і страшныя 1948–1950 гады — новая хваля тэрору на ўсю Расею, мабыць, не лягчэйшая, чым 1937 год»**.

Што казаць пра простых рабочых ці непісьменных сялян, якія паходзілі зь земляў былой Расейскай імпэрыі, калі бальшавікам паверылі нават нашчадкі царскіх міністраў і буйных капіталістаў — сям’я Крывашэіных.

«Расейскіх эмігрантаў, якія паверылі, купіліся на сталінскую прапаганду, было вельмі шмат, некалькі тысяч. Першая хваля была яшчэ да вайны, у трыццатыя гады, потым другая хваля вяртанцаў пасьля вайны і трэцяя ў 1956–1957 гадах. Нехта ехаў на покліч крыві, хтосьці пакутаваў ад настальгіі, хтосьці ад эміграцкай неўладкаванасьці, былі

* Nicolas Jallot. Op. cit. P. 39.

** Кривошеина Н. А. Четыре трети нашей жизни. (Всероссийская мемуарная библиотека.) Москва: «Русский путь», 1999.

французскія жонкі, мужы і французскія камуністы… Ехалі сем'ямі, апынуўшыся ў СССР, многія не дабраліся да месца прызначэньня. Пасьля пераходу мяжы іх грузілі ў закратаваныя цялячыя вагоны і наўпрост накіроўвалі ў лягеры, у лепшым выпадку ў ссылку. Усе дакумэнты адразу адбіралі, у адваротны бок, нават калі нехта адразу цяміў, у якую пастку трапіў, ад'езд быў забаронены. Хтосьці выжыў, прыстасаваўся, вывучыў мову, каму цудам удалося застацца незаўважаным НКВД, хтосьці загінуў»*, — так пра рээмігрантаў з Францыі ў СССР напісала Ксенія Крывашэіна, нявестка Ніны Крывашэінай, мастачка і публіцыстка, якая эміґравала зь Ленінграду ў Парыж у 1980 годзе.

Ксенія Крывашэіна выйшла замуж за народжанага ў Парыжы ў 1934 годзе Мікіту Крывашэіна, які паходзіў зь сям'і расейскіх дваран першай хвалі эміграцыі. Ягоны бацька Ігар Крывашэін, удзельнік Супраціву і вязень Бухенвальду, пасьля вайны актыўна выступаў за вяртаньне ў СССР расейскай эміграцыі, за прасавецкую дзейнасьць ён быў высланы французскімі ўладамі ў складзе 24 актывістаў Саюзу савецкіх патрыётаў. Па прыезьдзе ў СССР Ігар Крывашэін быў арыштаваны, адбыў 5 гадоў у Тайшэцкім лягеры. Ягоны сын Мікіта быў таксама быў арыштаваны КГБ у 1957 годзе за артыкул аб савецкім уварваньні ў Вугоршчыну, апублікаваны ў газэце «Le Monde». Адбыўшы пакараньне (тры гады мардоўскіх лягераў), здолеў знайсьці працу перакладніка, а ў 1971 годзе — вярнуцца ў Парыж разам з маці Нінай і бацькам Ігарам.

Ігар Крывашэін і ягоны брат Усевалад у расейскую Грамадзянскую вайну ваявалі супраць бальшавікоў як афіцэры Белай арміі. Бацька Ігара Крывашэіна Аляксандар Васільевіч быў міністрам сельскай гаспадаркі ва ўрадзе Расейскай імпэрыі і прэм'ерам ва ўрадзе Поўдню Расеі генэрала Пятра Ўрангеля. Ніна Аляксееўна паходзіла зь сям'і буйных капіталістаў Мяшчэрскіх; пад уплывам Аляксандра Салжаніцына яна напісала кнігу ўспамінаў пра эміграцыю і вяртаньне ў СССР пад назвай «Чатыры трэці нашага жыцьця»**.

* Ксения Кривошеина. О судьбах вернувшихся в СССР из Франции до и после Второй мировой войны французов и русских эмигрантов. http://lit.lib.ru/k/kriwosheina_ksenija_igorewna/text_0050.shtml

** Кривошеина Н. А. Цыт. праца.



## ДОБРААХВОТНАЯ РЭПАТРЫЯЦЫЯ

Фармальна дамова паміж СССР і Францыяй пра абавязковую рэпатрыяцыю грамадзян ня тычылася эмігрантаў з заходніх абласьцей Беларусі і Ўкраіны, тэрыторыяў, якія анэксаваў СССР у 1939 годзе. Гэтыя людзі ніколі ня мелі савецкага грамадзянства, таму ў адносінах да іх увогуле казаць пра рэпатрыяцыю як вяртаньне ў сваю дзяржаву не выпадае.

Але 14 чэрвеня 1946 году быў падпісаны ўказ прэзыдыюму Вярхоўнага савету СССР «Аб аднаўленьні ў грамадзянстве СССР падданых былой Расейскай імпэрыі, а таксама асобаў, што страцілі савецкае грамадзянства, якія жывуць на тэрыторыі Францыі».

Указ, сярод іншага, прадугледжваў, што асобы, якія на 7 лістапада 1917 году былі падданымі Расейскай імпэрыі, **а таксама іхныя дзеці**, якія жывуць у Францыі, могуць «аднавіць» грамадзянства СССР. Гэты дакумэнт даваў праўныя падставы працы савецкіх агітатараў сярод былых грамадзян Польшчы, беларускіх і ўкраінскіх эмігрантаў у Францыі. Для гэтага ім трэба было «выявіць жаданьне» і зьвярнуцца ў амбасаду СССР да 1 лістапада 1946 году.

Статыстыка НКВД СССР аб паваеннай рэпатрыяцыі доўгі час была засакрэчаная. Толькі ў 1989 годзе расейскі гісторык Віктар Зямскоў (1946–2015) у складзе камісіі для вызначэньня стратаў насельніцтва атрымаў да яе доступ і зрабіў даступнай навукоўцам.

У сваёй працы «Репатриация перемещённых советских граждан» Зямскоў прызнаваў, што лёс дзясяткаў тысяч рэпатрыянтаў скончыўся трагічна, іх арыштавалі і пакаралі, але большасьць з 5 352 963 вернутых грамадзян пазьбегла арыштаў*.

Да чэрвеня 1948 году ў СССР прыехалі з розных краін 106 835 чалавек, якія ня мелі савецкага грамадзянства, а самі ці іхныя продкі ў розны час выехалі з Расейскай імпэрыі, Аўстра-Вугоршчыны ці Польшчы.

Паводле зьвестак Зямскова, да чэрвеня 1948 году з Францыі ў СССР рэпатрыяваўся 6991 чалавек з тых, каго можна аднесьці да такой катэгорыі. У розныя гады яны эміґравалі ў Францыю з Расейскай імпэрыі, Аў-

* Виктор Земсков. Репатриация перемещённых советских граждан // Скепсис. 2007. № 5. http://scepsis.net/library/id_1234.html

стра-Вугоршчыны і Польшчы. Сярод іх былі 1420 расейцаў і 5471 асоба «ўкраінскага або беларускага паходжаньня»*.

Гэта няшмат на фоне 5 мільёнаў перавезеных у СССР ваеннапалонных, остарбайтэраў, перамешчаных асобаў і ўцекачоў. Але і гэтую катэгорыю людзей, якія прыжыліся ў Францыі, там нарадзілі і гадавалі сваіх дзяцей, савецкія органы, што вялі рэпатрыяцыю, не пакінулі ўбаку, хоць іх трэба было пераконваць і ўгаворваць, часам доўга і марна.

«Рэпатрыянтам было абвешчана, што яны захоўваюць усе правы грамадзян СССР, уключаючы выбарчае, на іх распаўсюджваецца працоўнае заканадаўства, сацыяльнае страхаваньне. Аднак па вяртаньні дадому яны часта сутыкаліся з уціскам сваіх правоў», — піша Зямскоў і прызнае, што савецкія ўлады не саромеліся дэманстраваць сваё падазронае, пагардлівае і варожае стаўленьне да рэпатрыянтаў, якія цярпелі ад усялякай дыскрымінацыі. Дакладнай статыстыкі, колькі зь іх трапіла ў ГУЛАГ, аўтар не падае, магчыма, што такой статыстыкі і не вялося.

Паводле беларуска-польскага гісторыка Юрыя Грыбоўскага, ня менш за 150 беларусаў — былых вайскоўцаў Польскай арміі ў Францыі пасьля вайны ў 1946–1947 гадах таксама прыехалі ў СССР**.

## САВЕЦКІ РЭПАТРЫЯЦЫЙНЫ АПАРАТ

У Нямеччыне і іншых яшчэ ахопленых вайной краінах быў створаны вялікі апарат савецкіх чыноўнікаў, адказных за рэпатрыяцыю грамадзян у СССР.

У кастрычніку 1944 году было заснавана ўпраўленьне ўпаўнаважанага Савету народных камісараў СССР у справах рэпатрыяцыі савецкіх грамадзян зь Нямеччыны і акупаваных краін. Ведамства ўзначальваў генэрал-палкоўнік Філіп Голікаў (1900–1980), былы кіраўнік вайсковай выведкі. Агулам гэтае ўпраўленьне арганізавала выважз у СССР з-за мяжы каля 5 мільёнаў чалавек, ня ўлічваючы перавозкі ўнутрана перамешчаных асобаў***.

Савецкую місію па рэпатрыяцыі грамадзян з Францыі яшчэ ў лістападзе 1944 году ачоліў генэрал-маёр Васілій Драгун (1898–1961), у 1945 годзе яго замяніў на пасадзе генэрал-лейтэнант Бярэзін. Цягам

* Виктор Земсков. Репатриация перемещённых советских граждан // Скепсис. 2007. № 5. http://scepsis.net/library/id_1234.html

** Юры Грыбоўскі. Цыт. праца.

*** Виктор Земсков. Цыт. праца.



двух гадоў ён кіраваў рэпатрыяцыяй з Францыі, Бэльгіі, Нідэрляндаў, Швайцарыі, Люксэмбургу.

У 1947 годзе яго замяніў палкоўнік ГРУ Чырвонай арміі Мікалай Філатаў*, а пазьней генэрал-лейтэнант Клачкоў (пра апошняга пакуль не ўдалося знайсьці дакладных зьвестак).

Як піша расейскі гісторык Павел Палян, місія арганізавала ў Францыі 130 месцаў збору і лягераў для рэпатрыянтаў. Праз іх прайшлі больш за сотню тысяч чалавек.

Найбольшы з гэтых лягераў у горадзе Барэгар (Beauregard), недалёка ад Парыжу і Вэрсалю, нейкі час меў нават экстэрытарыяльны статус. Тут ня дзейнічалі францускія законы, афіцэры НКВД працавалі без усякага кантролю мясцовых уладаў, арганізоўвалі напады і выкраданьні людзей, таемна вывозілі іх, бо мелі ў гэтым лягеры свой аэрадром.

## «САЮЗ САВЕЦКІХ ПАТРЫЁТАЎ»




• *Сяброўскі білет Саюзу савецкіх патрыётаў на імя Аляксандра Крупы. 1945 год.*

Немалую ролю ў прапагандзе выезду ў СССР адыграла арганізацыя Саюз савецкіх патрыётаў Францыі, якая дзейнічала з 1943 па 1948 гады. Раней арганізацыя называлася Саюзам рускіх патрыётаў, а пасьля таго як яе актыў амаль цалкам атрымаў савецкія пашпарты ў жніўні 1947 году, арганізацыю пераназвалі ў Саюз савецкіх грамадзян.

Савецкія пашпарты ўзялі каля 10 тысяч расейскіх эмігрантаў у Францыі, піша ва ўспамінах Ніна Крывашэіна.

Кіраваў Саюзам савецкіх патрыётаў прафэсар расейскай гісторыі ў Сарбоне Дзьмітрый Адзінец (Дмитрий Одинец, 1883–1950), былы сябра ўраду Ўкраінскай Народнай Рэспублікі, адказны там за расейскую меншасьць, чалавек зь вялікім жыцьцёвым досьведам, які ва ўмовах

* http://vrazvedka.com/70/3/f14_s.pdf

Другой усясьветнай вайны паддаўся на савецкую агітацыю. Ён жа рэдагаваў газэту аб'яднаньня «Советский патриот».

Аб'яднаньне наўпрост кантралявалася савецкай амбасадай у Парыжы. Яно сабрала ў сваіх шэрагах 11 тысяч чалавек, мела філіі ўва ўсіх раёнах Парыжу і ў многіх гарадах розных дэпартамэнтаў Францыі, ладзіла сходы і вечарыны, урачыста выдавала савецкія пашпарты эмігрантам.

«Усюды праходзілі сходы, лекцыі, даклады на адну і тую ж тэму: СССР і яго дасягненьні. Можна сабе ўявіць, што францускім уладам гэтае новае аблічча расейскай эміграцыі мала падабалася», — пісала ва ўспамінах аб гэтым пэрыядзе Ніна Крывашэіна.

У Парыжы арганізацыя заснавала сярэднюю школу, танную сталоўню, біблятэку і клюб «савецкіх патрыётаў», дзе з помпай прымалі дзеячоў эміграцыі і праваслаўнай царквы.

У Парыжы і правінцыі Саюз савецкіх патрыётаў арганізоўваў для сваіх актывістаў і ўсіх выхадцаў з былой Расейскай імпэрыі балі і маёўкі, дзе вялася агітацыя за вяртаньне ў СССР.

Савецкі амбасадар у Парыжы Аляксандар Багамолаў (1900–1969) 3 ліпеня 1947 году вельмі цырыманіяльна арганізаваў сустрэчу расейскіх эмігранцкіх актывістаў, пісьменьнікаў, журналістаў з наркамам замежных справаў СССР Вячаславам Молатавым. Былі на сустрэчы і прадстаўнікі грузінскай ды армянскай дыяспараў у Парыжы. Былі і беларусы.

Молатаў доўга гутарыў з эмігрантамі, асабіста пераконваў іх ехаць у СССР, а ў канцы размовы сказаў:

«Калі, вярнуўшыся на радзіму, вы пачуце дакоры за сваё эмігранцкае мінулае, то што ж рабіць, няма роду без выроду, у такіх выпадках зьвяртайцеся проста да мяне»*.

На пытаньні, ці можна будзе пасьля пераезду ў СССР прыяжджаць у Францыю да сваякоў і сяброў, Молатаў і амбасадар Багамолаў стараліся наўпрост не адказваць, але Багамолаў неяк прызнаў, што напачатку наўрад ці гэта будзе магчыма**.

Крывашэіна згадвае, як адна з новых савецкіх грамадзянак у Парыжы атрымала паштоўку ад брата, які пераехаў у СССР, у нейкі правінцыйны горад. У паштоўцы было напісана:

* Кривошеина Н. А. Цыт. праца.

** Тамсама.



«Чакаем цябе абавязкова! Як толькі выдасі Машу замуж, прыяжджай да нас», — а Машы яе было два гады.

Сталінская пастка захлопнулася.

## МОЛАТАЎ АБЯЦАЎ: «БУДЗЕ ВАМ ЯК У БОГА ЗА ПЛЯЧЫМА»

На сустрэчы з Молатавым у Парыжы была і беларуска Ганна Рашкевіч (1902–1993). Яны прыехала ў Парыж, у амбасаду СССР, з гарадка Бонвілер-Мон (Bonvillers-Mont), дэпартамэнт Мэрт-э-Мазэль (Meurthe-et-Moselle), гэта паўночны ўсход Францыі. Яе муж Станіслаў Рашкевіч (1898–1984) працаваў на жалезаруднай шахце, абое былі прыхільнікамі францускіх камуністаў і сябрамі Саюзу савецкіх патрыётаў. Абое паходзілі зь вёскі Яцкавічы цяперашняга Мядзельскага раёну, пажаніліся ў 1922 годзе, зямлі ня мелі зусім, у 1930-м паехалі на заробкі ў Францыю.

Мелі 6 дзяцей, па вайне ў Францыі старэйшая іхная дачка Рэгіна выйшла замуж за былога савецкага ваеннапалоннага Канстанціна Ўрбановіча, беларуса з Чырвонага Бору Лагойскага раёну. Урбановіча, як і яшчэ зь дзясятак савецкіх ваеннапалонных, якія ўцяклі зь лягеру, сям'я Рашкевічаў перахоўвала ў сябе, у падвале шахтарскага дому, пакуль яны не перабіраліся да францускіх партызанаў. Пасьля вайны Ўрбановіч уладкаваўся на працу ў савецкую амбасаду ў Парыжы і забраў Рэгіну з сабою, а цешчу пераканаў выконваць спэцыяльнае заданьне амбасады СССР — езьдзіць па розных гарадах Францыі і пераконваць беларусаў, украінцаў і іншых выхадцаў зь земляў, што адышлі да СССР, «вяртацца на Радзіму».

Яе гісторыю мне апавяла дачка Ганны Рашкевіч Алена Дземідовіч, якая нарадзілася ў Францыі ў 1938 годзе. Цяпер Алена Станіславаўна жыве ў Горадні. У 1980 годзе яна атрымала запрашэньне ад сяброўкі пераехаць у Францыю з мужам і трыма дзецьмі, усе дакумэнты былі падрыхтаваныя. Але ў апошні момант адмовілася ад намеру, не рашылася пакінуць бяз догляду старых бацькоў.

За год агітацыйнай працы ў Францыі Ганна Рашкевіч пераканала паехаць у СССР, напэўна, дзясяткі сваіх землякоў, яе дачка дакладнага ліку ня ведае. Яна ня памятае, ці плацілі ейнай маці ў амбасадзе СССР за гэтую працу, падарожныя выдаткі напэўна кампэнсавалі, кажа Алена Станіславаўна. Загітаваныя беларусы потым, ужо ў СССР, сварыліся

на ейную маці, крыўдавалі, казалі, што яна падманула іх, але было ўжо позна.

Ганна Рашкевіч падманула і сябе, і мужа, і шасьцярых дзяцей. У 1947 годзе таварным цягніком усе яны пераехалі ў СССР, у тым ліку сям'я Рэгіны і Канстанціна Ўрбановічаў. Падман адчулі хутка, за іхную працу ў інтарэсах СССР у Францыі па прыезьдзе ніякай падзякі не было. Жылі яны цяжка: пасялілі 9 чалавек у адным пакоі ў інтэрнаце тытунёвай фабрыкі, былі пад каўпаком савецкіх спэцслужбаў, нейкі час чакалі вывазу ў Сібір.



• *Ганна і Алена Рашкевічы ў Францыі, 1946 год.*

Адзіная «падзяка» ад савецкай амбасады — запрашэньне Ганны Рашкевіч на сустрэчу з наркомам замежных справаў СССР Вячаславам Молатавым у амбасадзе Савецкага Саюзу ў Парыжы. Ганна зьбіралася ехаць у СССР. Рашылася, падышла да сталінскага наркома і спытала: «А якім там будзе жыцьцё маёй сям'і?»



• *Алена Дземідовіч. 2019 год.*

«Будзе вам там як у Бога за плячыма», — запэўніў Ганну Рашкевіч Вячаслаў Молатаў. Гэтая фраза запомнілася ў сям'і Рашкевічаў назаўсёды. Алена Станіславаўна не памятае, што яшчэ абяцаў нарком Молатаў яе маці ды іншым патэнцыйным рэпатрыянтам, пэўна ж расхвальваў СССР і ўмовы жыцьця ў ім. І падмануў.

«Аддзячылі тым, што хацелі нас выслаць на Салаўкі. Да нас увесь час прыходзілі з НКВД, правяралі, ці ёсьць у нас радыёперадатчыкі, грошы. Усе рэчы раскідвалі, баяны і швальную машыну разьбіралі, шукалі… Мамін брат пры Польшчы сядзеў у турме разам з камуністычным дзеячом Сяргеем Прытыцкім; дзядзька зьвярнуўся да яго і пасьля гэтага ператрусы спынілася», — распавяла Алена Дземідовіч.



## УЛАДЫ ФРАНЦЫІ НАРЭШЦЕ РЭАГУЮЦЬ

14 лістапада 1947 году адбылася нечаканая праверка французскімі ўладамі лягеру ў Барэгар — з выкарыстаньнем больш за 2000 паліцыянтаў і чатырох танкаў. Апэрацыя прайшла ў выніку заявы грамадзяніна Францыі Дзьмітрыя Сьпячынскага, які эміграваў з Расеі ў 1922 годзе. Ён напісаў французскім уладам пратэст супраць намеру ягонай жонкі рэпатрыявацца ў СССР з трыма дзецьмі.

Жанчыну зь дзецьмі знайшлі ў лягеры, хоць яны і не былі там зарэгістраванымі, выявілі там таксама арсэнал зброі. Пасьля гэтага выпадку групу палкоўніка Філатава выслалі ў СССР. 25 лістапада 1947 году на патрабаваньне французскіх уладаў былі таксама высланыя 24 актывісты Саюзу савецкіх патрыётаў Францыі (большасьць чальцоў управы арганізацыі). Лягер Барэгар быў узяты пад кантроль уладаў Францыі і ў 1951 годзе спыніў існаваньне.

16 студзеня 1948 году на распараджэньне міністра ўнутраных справаў Францыі Саюз савецкіх патрыётаў быў закрыты, а праз тыдзень закрытая і газэта «Советский патриот».

17 сакавіка 1948 году ўсе ўдзельнікі сходу цэнтральнага праўленьня Саюзу савецкіх патрыётаў, які яшчэ нелегальна дзейнічаў, былі арыштаваныя і 20 сакавіка высланыя з Францыі ў савецкую зону акупацыі Нямеччыны. Тады ж выслалі і старшыню Саюзу савецкіх патрыётаў Дзьмітрыя Адзінца.

Дэпартаваных прасавецкіх актывістаў улады Францыі абвінавацілі ва ўмяшаньні ва ўнутраныя справы Францыі, удзеле ў парушэньнях грамадзкага парадку, падрыхтоўцы змоваў супраць французскага ўраду*.

Дэпартацыі выклікалі абурэньне ў Маскве. Былі гнеўныя артыкулы ў газэце «Правда», органе ЦК ВКП(б) і рупары Сталіна, а савецкая амбасада ў Парыжы называла гэтую высылку «нічым не абгрунтаванай і незаконнай»**.

Высланых з Францыі актывістаў Саюзу савецкіх патрыётаў у СССР спачатку прынялі як герояў, а потым многіх зь іх чакаў ГУЛАГ.

Гэтая дэманстрацыя сілы з боку Францыі моцна пагоршыла яе дачыненьні з СССР, і пасьля яе масавыя арганізаваныя рэпатрыяцыі ў СССР былі спыненыя. Пачыналася «халодная вайна».

---

* Nicolas Jallot. Op. cit. P. 49.

** Правда. 8 сьнежня 1947 году.

## ДОЎГАЯ ДАРОГА НА РАДЗІМУ БАЦЬКОЎ

У кадрах савецкай кінахронікі, якія выкарыстаў для фільму «Заваблены Сталінам» (Piégés par Staline) французскі аўтар Нікаля Жалё (Nicolas Jallot), можна пабачыць, як арганізоўваліся ўрачыстыя праводзіны рээмігрантаў з Францыі і сустрэча іх у марскім порце Адэсы.

Пасажырскія вагоны цягніка ўпрыгожаныя галінкамі яліны і бэзу, траспарантамі «Домой на Родину!», «Здравствуй, Родина-Мать!» Асобна ў таварныя вагоны заладоўваюць багаж. Перад пасадкай мітынг, на самаробнай трыбуне выступае савецкі афіцэр. Пагрузка на цягнік праходзіць недзе ў лесе, людзі ідуць да вагонаў праз рэдкі сасоньнік, сядаюць з чамаданамі, пазьней з вокнаў вагонаў махаюць рукамі тым, хто прыйшоў іх правесьці. Усе ўсьміхаюцца.

А вось вялікі белы карабель стаіць у порце Марсэлю. Ля трапу пасажыраў сустракаюць капітан карабля і афіцэр НКВД. Прыежджыя з сабой нясуць на борт партрэты Сталіна, чырвоныя савецкія сьцягі і кветкі. Кран грузіць вялікія скрыні з багажом «вяртанцаў». Наступны кадар — на перапоўненай палубе мужчыны ў гальштуках, жанчыны з прычоскамі і бяззубыя дзеці на іхных руках ужо ў чаканьні сыходу на



• *Цеплаход «Россия». 1970-я гады.*



савецкую зямлю ў порце Адэсы. Людзі выходзяць са сьцягамі і самаробнымі плякатамі, іх сустракае духавы аркестар. Пазьней іх садзяць на грузавікі, падчас руху людзі стаяць на плятформе, нехта з пасажыраў грае на баяне. Дзеці з бартоў грузавіка ўглядаюцца ў новую для іх краіну: усюды бачныя чырвоныя зоркі ды партрэты Сталіна і Леніна.

Рэпатрыянтаў з Францыі ў СССР везьлі морам і чыгункай. Тых, каго везьлі праз мора, з усёй Францыі звозілі ў порты Марсэль і Гаўр. Там іх чакалі савецкія цеплаходы «Россия» і «Вячеслав Молотов». Многія беларускія «дзеці Францыі» запомнілі вялікі белы цеплаход «Россия», у якім яны займалі месцы трэцяй клясы, бліжэй да трумаў ці ў саміх трумах. У першай і другой клясе везьлі былых белагвардзейцаў.

Дызэль-электраход «Россия» да вайны меў назоў «Patria», яго пабудавалі ў 1938 годзе ў Гамбургу, у часе вайны немцы выкарыстоўвалі яго як плывучую казарму. Пасьля сьмерці Гітлера на борце карабля разьмяшчаўся апошні ўрад нацысцкай Нямеччыны на чале з адміралам Карлам Дэніцам, ад імя якога падпісалі капітуляцыю.

У 1946 годзе карабель перадалі ў залік рэпарацыяў Савецкаму Саюзу і прыпісалі да Чарнаморскага марскога параходзтва. Цеплаходам вазілі



• *Цеплаход «Вячеслав Молотов». 1940 год.*

рэпатрыянтаў з Францыі і Лібану. Разам з экіпажам карабель зьмяшчаў каля 1000 чалавек. Часам на палубу бралі яшчэ 500 чалавек дадаткова.

Пазьней цеплаход трапіў у савецкія фільмы, у тым ліку ў стужку «Брыльянтавая рука» (1968): на ім галоўны герой прыбывае з поўдня.

Цеплаход «Вячеслав Молотов» быў пабудаваны ў 1939 годзе ў Нідэрляндах разам зь цеплаходам «Иосиф Сталин». «Молотов» быў прыпісаны да порту ў Ленінградзе, з 1939 году да 1941-га, калі ўжо ішла Другая ўсясьветная вайна, карабель некалькі разоў хадзіў у нямецкія парты: гітлераўская Нямеччына тады была хаўрусьніцай СССР. Цеплаход зьмяшчаў 500 чалавек пасажыраў і 100 чалавек экіпажу. У 1957 годзе перайменаваны ў «Балтику»*.

Вясной 1948 году жонка аднаго з дэпартаваных францускімі ўладамі дзеячоў Саюзу савецкіх патрыётаў Ніна Крывашэіна з 13-гадовым сынам Мікітам плыла ў Савецкі Саюз на караблі «Россия».

На караблі кармілі добра, згадвае яна, у сталоўні былі багатыя стравы, сокі, садавіна, многія з пасажыраў там упершыню за апошні час добра пад'елі, але калі трапілі ў Адэсу, давялося зацягнуць пасы.

Пры гэтым ад савецкіх людзей на караблі — дыпляматаў, памочнікаў капітана, афіцыянтак — ішла «тэлепатычная перадача», піша Крывашэіна:

«Я адчувала, як яны мяне ўспрымалі, тут было і шкадаваньне, і насьмешка, і злобнае адштурхоўваньне, і, галоўным чынам, поўнае несупадзеньне сьветаўспрыманьня»**.

Па прыбыцьці ў порт Адэсы пасьля догляду афіцэрамі МГБ рэпатрыянтаў садзілі на грузавікі і разьбітаю дарогаю везьлі ў рэпатрыяцыйны лягер «Люстдорф» (ад нямецкага «жаданая вёска»), былое пасяленьне нямецкіх каляністаў каля Адэсы. Там тады яшчэ былі і ня-


Справка

Справка

• *Даведкі аб санітарнай апрацоўцы сям'і Атрашкевічаў у савецкім лягеры для перамешчаных асобаў. Нямеччына. 1947 год.*

* http://kruiznik.ru/forum/viewtopic.php?t=1116
** Кривошеина Н. А. Цыт. праца.



мецкія палонныя, лягер быў агароджаны калючым дротам і вартавымі вышкамі. Новапрыбылыя праходзілі «фільтрацыю» і разьмеркаваньне, некаторых адсюль пасылалі ў ГУЛАГ.

Буйны цэнтар прыёму рэпатрыянтаў быў арганізаваны і на беларускай зямлі, траплялі ў яго тыя, хто ехаў у СССР цягнікамі. Савецкія ўлады разьмясьцілі гэты лягер у былым «Шталагу 324», нямецкім лягеры для савецкіх ваеннапалонных у Ласосьне пад Горадняй.

Апошні эшалён з рэпатрыянтамі з Францыі прыбыў у Горадню ўвосень 1947 году; у ім былі каля 2000 чалавек, усіх адвезьлі ў былы канцлягер. Піша расейская пісьменьніца Арыядна Васільева:

«Савецкая ўлада разьмясьціла яго пасажыраў у былым нямецкім канцэнтрацыйным лягеры. Ён ня быў сьцёрты з твару зямлі, гэты лягер, ён нібы чакаў новых гасьцей і дачакаўся. Рээмігрантаў з Францыі часова расьсялілі на яго нарах»*.

Сярод тых, хто чакаў вырашэньня свайго далейшага лёсу ў зямлянцы шталягу пад Горадняй, была і адна з гераіняў гэтай кнігі Алена Крупа**.

## ПОЛЬСКАЯ «РЭЭМІГРАЦЫЯ»

Паралельна з савецкай рэпатрыяцыяй з Францыі, якая ахапіла ў тым ліку эмігрантаў з Заходняй Беларусі і Ўкраіны, было арганізавана вяртаньне на радзіму польскіх рабочых. У Польскую Народную Рэспубліку, дзе па вайне кіраваў камуністычны рэжым. Гэты працэс адбываўся паводле двухбаковых дамоваў Польшчы і Францыі 1946–1948 гадоў і называўся «рээміграцыяй». Адроджанай Польшчы патрэбная была кваліфікаваная рабочая сіла, асабліва ў нанова атрыманых краінай тэрыторыях былой Нямеччыны, так званых «Ziemiach Odzyskanych».

Гэты працэс цяпер дастаткова грунтоўна вывучылі польскія гісторыкі. Апісвае яго, напрыклад, варшаўская аўтарка Анэта Нісябэнцка (Aneta Nisiobęcka)***.

Паводле яе зьвестак, на 1949 год з Францыі ў Польшчу вярнуліся каля 140 тысяч чалавек. Францускі ўрад і буйныя кампаніі разумелі, што гэты ад'езд аслабляе іхнюю індустрыю, і ўжо ў 1949 годзе Фран-

* Ариадна Васильева. Возвращение в эмиграцию. Книга вторая. https://www.libfox.ru/439969-ariadna-vasileva-vozvrashchenie-v-emigratsiyu-kniga-vtoraya.html
** Падрабязьней пра яе досьвед чытайце на с. 138.
*** Nisiobęcka, Aneta. Reemigracja Polaków z Francji oraz ich adaptacja w Polsce Ludowej w latach 1945–1950 // Dzieje Najnowsze, rocznik XLVIII. Warszawa, 2016, Nr 3.

цыя адмовілася падпісваць новую рээміграцыйную дамову з Польшчай, якою кіравалі сталіністы. На гэты момант паміж дзьвюма дзяржавамі пачыналася палітычная варожасьць, зьвязаная з пачаткам «халоднай вайны».

У сацыялістычнай Польшчы вяртанцаў з Францыі чакаў халодны прыём, піша аўтарка:

«Сутыкненьне з польскай рэчаіснасьцю было балючым: польскі ўрад не стрымаў абяцаньняў — аб памеры заробкаў, жыльлёвых умовах, сацыяльных дапамогах і харчаваньні. Жыцьцё ў краіне выявілася нашмат больш складаным, чым у Францыі. Ідэя «лепшай будучыні ў сваёй уласнай краіне» лопнула, як мыльная бурбалка»*.

І ўсё ж у Польшчы рээмігранты пачуваліся лепей, чым у СССР, у тым ліку і таму, што там захавалася права прыватнай уласьнасьці на зямлю.

Паводле іншага гісторыка з Польшчы Паўла Сэнкоўскага, 85% польскіх эмігрантаў засталіся ў Францыі, у тым ліку працягваючы працаваць на шахтах**.

Цяпер у Францыі жывуць каля двух мільёнаў грамадзян польскага паходжаньня, галоўным чынам у рэгіёне Нор-Па-дэ-Кале (Nord-Pas-de-Calais), у ваколіцах Лілю, Лянсу і і Валянсьену (Lille, Lens, Valenciennes). Гэта перадусім нашчадкі грамадзян міжваеннай Польшчы, якія прыехалі сюды працаваць у вугальных шахтах.

Цэлая эпоха скончылася ў 2004 годзе, калі ў французскай Лятарынгіі была закрытая апошняя вугальная шахта, якая належала кампаніі «Carbonnages de France».

## ТАК ХАЦЕЎ СТАЛІН

У часе гутарак з героямі кнігі іх развагі часта ўпіраліся ў адно пытаньне: навошта савецкім уладам было выманьваць іхных бацькоў з Францыі, хлусіць, каб кожную сям'ю ўгаварыць на пераезд. Пераканаць адмовіцца ад уладкаванага жыцьця, каб потым кінуць на пакуты і пад рэпрэсіі, забраць французскія і польскія дакумэнты і забараніць вяртаньне ў Францыю. Які ў гэтым быў сэнс для савецкай улады? Можна зразумець, калі СССР такім чынам імкнуўся выманіць з краін і пакараць сваіх былых ворагаў, тых самых белагвардзейцаў. Але ж гэтая апэрацыя была скіраваная на простых людзей, пераважна рабочых, прыхільных

* Nisiobęcka, Aneta. Op. cit.
** Paweł Sękowski. Op. cit.



да ідэяў сацыяльнай роўнасьці і нават камунізму, якія нічога кепскага для савецкай улады не зрабілі.

Адказаць на гэтае пытаньне цяжка, але магчыма.

Па-першае, «дзеці Францыі» са сваімі бацькамі трапілі ў агульную плынь рэпатрыяцыі, арганізаваную савецкім апаратам. Было заданьне — апарат дзейнічаў.

Па-другое, заходнія беларусы і ўкраінцы, як тыя ж літоўцы і латышы, разглядаліся ўладамі СССР як ужо савецкія людзі, якія не павінны былі жыць ва ўмовах вольнага сьвету і капіталізму і пісаць пра гэта сваім родзічам у СССР.

Па-трэцяе, зьнішчанай вайной краіне патрэбная была дадатковая рабочая сіла, у тым ліку шахтары на разбураны Данбас.

Па-чацьвёртае, людзей, якія з Захаду прыяжджалі жыць у СССР, выкарыстоўвалі для прапаганды савецкага ладу і ачарненьня заходняй дэмакратыі і капіталізму.



• *Шахтары на пасьляваенным Данбасе. Шмат жанчын, бо бракавала мужчынскіх рук. Сярод шахтароў — рэпатрыянты з Францыі Яўстафі Гаралюк і Аляксандар Салагуб. Фота для газэты «Шахтёрская слава». Данецк. 1952 год.*

Па-пятае, многія былыя савецкія грамадзяне, у тым ліку беларусы, па вайне ўцякалі на Захад, і ўлады СССР хацелі гэтую хвалю спыніць.

Сталінскі рэжым, які зьнішчыў мільёны, зусім не хвалявалі людзкія лёсы. Ахвяры, якія панесьлі многія паняволеныя народы падчас грамадзянскай вайны, калектывізацыі, рэпрэсіяў, галадамораў, былі несувымерна, на некалькі парадкаў большымі.

Гэта было асабістае рашэньне Сталіна, перакананы францускі дасьледнік тэмы Нікаля Жалё. Ён называе шэраг прычын такога рашэньня Сталіна — перш за ўсё псыхалягічных і псыхіятрычных:

«Сталін хварэў на сумесь цынізму і сэнтымэнталізму. У яго былі прыпадкі параноі. Ён хацеў нанесьці моцны ўдар па мурашніку расейскіх эмігрантаў у Францыі. Ён баяўся, каб яны не падрыхтавалі закалот супраць яго і ня несьлі небясьпекі адзінству Савецкага Саюзу.

З палітычнага гледзішча Сталіну трэба было захаваць аблічча хаўрусьніка і дэмакрата ў вачах Захаду. Амністыя ўцекачоў, якія былі ў Францыі, дазваляла яму падтрымліваць гэты імідж дэмакрата. Для СССР таксама было важна, што існуюць «добраахвотныя вяртанцы» ў час, калі тысячы савецкіх ваеннапалонных і перамешчаных асобаў адмаўляюцца вяртацца ў краіну, бо гэта ім пагражае перасьледам і накіраваньнем у лягеры і бо яны самі адчулі смак заходняга сьвету і вырашылі застацца.

З эканамічнага гледзішча гэта, магчыма, таксама было патрэбна СССР, які цягам вайны страціў 20 мільёнаў мёртвымі і калекамі і якому бракавала працоўных рук»*.

## БЕЛАРУСКАЯ МІСІЯ ТОДАРА ЦІМАФЕЙЧЫКА

Калі спынілася кампанія «добраахвотнай рэпатрыяцыі» ў СССР, калі савецкія ўлады зноў накіравалі цягнікі і цеплаходы перавозіць пасажыраў, а не перасяленцаў, у беларускія сем'і ў гарадках на поўначы Францыі з бэльгійскага Лювэну прыехаў малады беларускі актывіст.

З 13 па 28 верасьня 1952 году ў паўночнай Францыі з асаблівай місіяй знаходзіўся студэнт лювэнскага Каталіцкага ўнівэрсытэту Тодар Цімафейчык.

Тодар быў актыўным маладым чалавекам. Ва ўнівэрсытэце ў Лювэне ён з 1950 году вучыўся палітычным навукам. Ужо меў за сабою вялікую школу жыцьця — нарадзіўся ў 1924 годзе на Слонімшчыне, у часе вайны вучыўся ў створанай немцамі афіцэрскай школе Беларускай краёвай

* Nicolas Jallot. Op. cit. P. 296–297.



абароны ў Менску, перайшоў на бок саюзьнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі, ваяваў у шэрагах Другога польскага корпусу генэрала Андэрса, зь ім пераехаў у Вялікую Брытанію, а адтуль — у Бэльгію.



• *Беларускі студэнт зь Лювэну Тодар Цімафейчык. 1950-я гады.*

Тодар быў адным зь дзясяткаў беларускіх студэнтаў у Лювэне. Вучыўся разам зь Вітаўтам Кіпелем, Цімохам Вострыкавым, Янкам Філістовічам — усяго там былі каля 60 беларускіх студэнтаў, нават мелі свой студэнцкі дом — інтэрнат. Выпускнікі Лювэнскага ўнівэрсытэту потым склалі касьцяк беларускай дыяспары ў Эўропе і Амэрыцы.

Тодар быў актывістам Беларускага студэнцкага згуртаваньня, а таксама заснавальнікам і старшынём Згуртаваньня беларускіх камбатантаў у Бэльгіі, якое аб'ядноўвала вэтэранаў Другой усясьветнай вайны, у тым ліку герояў Монтэ-Касына. Яно і прыняло рашэньне дапамагчы беларусам паўночнай Францыі арганізавацца.

Рашэньне ўзяўся выконваць сам старшыня. На вакацыях ён прыехаў у дэпартамэнт Нор-Па-дэ-Кале, праводзіў там сустрэчы зь беларусамі, чытаў лекцыі на гістарычныя і актуальныя тэмы.

Тодару ўдалося арганізаваць у горадзе Рубэ (Roubaix) філіі Хаўрусу беларускіх работнікаў у Францыі і Хрысьціянскага сындыкату работнікаў (прафсаюзу)*.

Па заканчэньні навукі ў Лювэне Тодар эміграваў у ЗША. А з той паездкі на поўнач Францыі ён пакінуў цікавы дакумэнт — справаздачу, якая захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

У ёй Тодар піша пра 600 беларусаў, якія жывуць і працуюць у гэтым рэгіёне Францыі, а паходзяць з розных гарадоў і вёсак Заходняй Беларусі. З многімі ён сустракаўся асабіста і склаў сьпіс іхных адрасоў з кароткімі характарыстыкамі: хто, дзе жыве, адкуль паходзіць, якой веры, якую сям'ю мае, наколькі сьвядомы як беларус.

Паводле Тодара Цімафейчыка, многія тамтэйшыя беларусы адносіліся да беларускай справы абыякава, знаходзіліся пад нацыянальным

* Запісы БІНіМ, № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 304.

польскім ці расейскім уплывам, але пасьля гутарак частка зь іх пагадзілася далучыцца да беларускага руху.

У сьпісе Тодара Цімафейчыка больш за 50 прозьвішчаў. Зь іх мяне асабліва зацікавілі два.

**Сыс Міхась**, 169, Сытэ дзю Буа, д’Эпінуа а Лібэркур, Па-дэ-Кале, 19 гадоў. Бацькі ягоныя старыя эмігранты, выехалі цяпер у БССР. Пабеларуску гаворыць слаба. Асьвета пачатковая. Мае двух братоў. Косьця — 21 год, жанаты з полькай, працуе ў капальні, згаласіўся на выезд у БССР у 1946 годзе, заехаў аж за Бэрлін, дзе яго пратрымалі 10 дзён на допросах, пасьля чаго выпусьцілі, і яму больш адхацелася ехаць у БССР і ён уцёк назад. Брат Янка — 16 гадоў — скончыў пачатковую школу. Усе яны нацыянальна сьведамыя*.

**Буйко Язэп**, 91, бульвар Фурма, Рубэ, Норд. Жанаты з полькай. Мае адно дзіця. Стары эмігрант, быў агентам савецкай амбасады, вышукваў і высылаў савецкіх грамадзян у СССР. Браў за галаву па 12000 франкаў. Цяпер скапіў капітал, купіў дом і два аўты**.

* Запісы БІНіМ, № 37. С. 312.
** Тамсама. С. 308.

# НОВЫЯ «ДЗЕЦІ ФРАНЦЫІ»
## *Эпілёг*

Што было б зь беларускімі «дзецьмі Францыі», героямі маёй кнігі, калі б іхныя бацькі не паслухалі савецкіх агітатараў і не паехалі ў СССР? Вядома, гісторыя ня мае ўмоўнага ладу, але на гэтае ў цэлым абгрунтаванае пытаньне можна прыблізна адказаць, распытаўшы пра сямейны лёс кагосьці з тых прадстаўнікоў міжваеннай польска-беларускай эміграцыі ў Францыю, хто там застаўся і пасьля вайны. А такіх сярод той хвалі эміграцыі была большасьць.

29 лістапада 2018 году мне надарылася такая магчымасьць. У Менск прыбыла вялікая дэлегацыя бізнэсмэнаў з поўначы Францыі: прадстаўнікі 26 кампаніяў прыехалі наладжваць кантакты зь беларускімі калегамі ў галінах машынабудаваньня, бытавой хіміі, касмэтыкі, лягістыкі, банкаўскай справы, кансалтынгу, іншых галінах эканомікі. Усе кампаніі паходзяць з рэгіёну О-дэ-Франс (Hauts-de-France), куды ў міжваенны час шмат грамадзян Польшчы выехалі на працу, у тым ліку на вугальныя шахты. І цяпер там з шасьці мільёнаў насельніцтва каля мільёна маюць польскае паходжаньне.

Сярод французскіх бізнэсмэнаў у той дэлегацыі была абаяльная і актыўная маладая жанчына са славянскім прозьвішчам Ляры Гжэшнік (Laurie Grzechnik), выканаўчы дырэктар кампаніі зь Лілю World Trade Center Lille. Ляры апавяла мне гісторыю сваёй сям’і.

Пасьля Першай усясьветнай вайны яе прадзед Стэфан Вайцяхоўскі паехаў з Кракава ў Францыю на заробкі. 20 гадоў ён працаваў на вугальнай шахце Marles-les-Mines у камуне Бруэ-ля-Бюісьер (Bruay-la-Buissière), пражыў больш за 70 гадоў. Ягоны сын таксама працаваў на шахце, а ўнук (бацька Ляры) атрымаў вышэйшую адукацыю і выкладаў у ліцэі і ва ўнівэрсытэце.

Праўнучка Стэфана Ляры атрымала эканамічную адукацыю, занялася бізнэсам, заняла высокае становішча ў міжнароднай карпарацыі. Яна вольна гаворыць на францускай, ангельскай і польскай мовах. Польскай навучыла прабабуля, да якой бацькі яе прывозілі ў дзяцінстве.

Прыблізна так мог скласьціся лёс і тых сем’яў эмігрантаў з Польшчы і Заходняй Беларусі, якія паверылі Сталіну ці сталінісцкім уладам ПНР і выехалі з Францыі пасьля Другой усясьветнай вайны. Калі б яны гэтага не зрабілі.

Мадам Гжэшнік расказала, што шахты на радзіме яе бацькі ўжо закрытыя, шахтарскія вуліцы з аднолькавымі дамкамі ў адзін шэраг рэканструявалі і зрабілі камфортным жыльльём. Шматлікіх польскіх арганізацыяў і школаў, як

гэты было ў міжваенны час, цяпер ужо няма. Нашчадкі палякаў інтэграваліся, афранцузіліся, іхная родная мова цяпер француская. Але людзі, якія паходзяць з Польшчы, памятаюць сваіх продкаў, імкнуцца, каб іхныя дзеці ўсё ж ведалі польскую мову.

…У лістападзе 2018 году я зь некалькімі калегамі стаяў у чарзе на ўваход у парыскі Дом інвалідаў, дзе тады была вялікая выстава да стагодзьдзя завяршэньня Першай усясьветнай вайны. Тут жа ў саборы пахаваны імпэратар Напалеон Банапарт. Да адкрыцьця экспазыцыі заставалася 10 хвілін, перад намі на экскурсію прывялі школьнікаў, цэлую клясу, гадоў па 10. Дзеці, прыгожыя і разьняволеныя, шумна і весела бавілі час у чаканьні, голасна абмяркоўвалі свае справы. Сярод іх былі і белыя, і чарнаскурыя, і арабскага аблічча, адзін хлопчык вылучаўся яркай рыжай кучмой валасоў. Падумалася, што гэта ня толькі школьная кляса, а спэцыфічны зрэз сучаснага францускага грамадзтва, прынамсі парыскага.

Мая сяброўка Ала Лазарава, якая гадуе ў Парыжы дваіх дзяцей, расказала, што такая расавая разнастайнасьць у дзіцячых калектывах тут норма, нікога не абыходзіць колер скуры і этнічнае паходжаньне аднаклясьнікаў і сяброў. У каталіцкай школе ў прыгарадзе Парыжу Сэн-Дэні, дзе раней вучыліся яе сын і дачка, у клясе большасьць складалі арабскія дзеці. Пазьней сям’я Алы пераехала ў іншы раён гораду, дзеці таксама вучыліся ў каталіцкай школе, і там з этнічнага гледзішча таксама ўсё было «перамешана».

«Дзеці не заўважаюць, хто якой расы, яны вырасьлі ў такім інтэрнацыянале. Калісьці мая дачка запрасіла на дзень народзінаў сярод іншых сваю чарнаскурую сяброўку. Тая пайшла зь вечарыны раней за іншых і забыла заколку для валасоў. Я спытала ў дзяцей, чыя гэта заколка. Дзеці доўга падбіралі словы, як яе апісаць, але нават не згадалі, што яна чарнаскурая, хоць яна была адзінай такой на вечарыне», — апавяла Ала.

Паводле яе слоў, людзі са старэйшага пакаленьня французаў часам перадузятыя да імігрантаў, для маладых гэта ўжо неактуальна.

Сама Ала паходзіць з Украіны, яна арганізоўвала ў Парыжы акцыі ў падтрымку Эўрамайдану ў Кіеве 2013–2014 гадоў, пазьней зьбірала пасылкі ўкраінскім байцам на Данбас, падарункі дзецям загінулых у неабвешчанай вайне Расеі супраць Украіны. Ала жыве ў Францыі 22 гады, яна замужам за францускім журналістам Аленам Гіймолем (Alain Guillemoles) з газэты «La Croix».

Ален і Ала — прыгожая ўкраінска-француская пара, іх я ведаю з пачатку 2000-х, мы сустракаліся і ў Парыжы, і ў Менску, калі Ален асьвятляў для сваёй газэты падзеі Плошчы-2006 — масавыя пратэсты супраць сфальшаваных вынікаў выбараў прэзыдэнта Беларусі, якія скончыліся пагромам апазыцыі.

З Аленам і Алай у 2018-м мы гутарылі пра сучаснае стаўленьне да імігрантаў у Францыі.



Мы ўсе тут імігранты, жартуе Ален: брэтонцы, эльзасцы, каталёнцы, многія маюць іншаземцаў сярод продкаў. Сам Ален паходзіць з каталёнскай сям’і.

Ён прызнае, што насьцярожанасьць да чужаземцаў у францускім грамадзтве вырасла за апошнія 15 гадоў праз тэрарыстычныя акты радыкальных ісламскіх групаў, у тым ліку на тэрыторыі Францыі. Цяпер францускае грамадзтва падзеленае ў гэтым пытаньні, многія французы самі маюць карані за мяжой, многія спачуваюць імігрантам, разумеюць, што тыя едуць у Францыю не бяз дай прычыны, што на радзіме для іх ёсьць нейкая небясьпека.

Але, зь іншага боку, на апошніх выбарах прэзыдэнта Францыі 2017 году 34 адсоткі прагаласавалі за Марын Лё Пэн, лідэрку правай партыі «Нацыянальны фронт», вядомай антыіміграцкімі лёзунгамі. Яе выбарнікі ня хочуць дадатковай іміграцыі, бачаць пагрозу ў іншаземцах, баяцца канкурэнцыі зь імі за працоўныя месцы, размываньня імі францускае культуры, хвалююцца, што гэтыя людзі робяць Францыю «нефранцускаю».

За «Нацыянальны фронт» галасуюць пераважна людзі з правінцыі, з малых гарадоў, дзе мацней адчуваецца эканамічны крызіс, дзе меней зарабляюць, дзе ніжэйшы ўзровень адукацыі, кажа Ален. Але ёсьць у Лё Пэн прыхільнікі і сярод францускай эліты, незадаволеныя Эўрапейскім Зьвязам, ёсьць і маладыя людзі, якім падабаецца быць супраць існай у краіне сыстэмы. Ёсьць у гэтай партыі крайне левыя і крайне правыя, аб’яднаныя нелюбоўю да мігрантаў, Эўрапейскага Зьвязу, да багатых і адукаваных, яны ня любяць усё, што ня ёсьць францускім, тлумачыць Ален.

Але «Нацыянальны фронт» застаецца ў меншасьці. На прэзыдэнцкіх выбарах 2017 году перамог Эманюэль Макрон, які мае ўзважаную пазыцыю што да імігрантаў. Макрон вітае імігрантаў, калі тыя просяць палітычнага прытулку, бо Францыя хоча заставацца прыкладам краіны, якая адстойвае правы чалавека, дапамагае ўцекачам, што цярпяць ад рэпрэсіяў праз свае палітычныя ці рэлігійныя перакананьні, сэксуальную арыентацыю.

Францыя даволі хутка інтэгруе імігрантаў, кажа Ален. Гэта ў ЗША мігранты становяцца грамадзянамі, шануюць Амэрыку, але могуць надалей заставацца ірляндцамі, кітайцамі, італьянцамі, жыць у сваіх нацыянальных супольнасьцях у пэўных рэгіёнах. У Францыі імігранты праз пакаленьне ці два робяцца французамі, далучаюцца да сыстэмы агульных рэспубліканскіх каштоўнасьцяў.

Працоўную эміграцыю сучасная Францыя імкнецца абмежаваць з прычыны эканамічнага крызісу. Такой вялікай патрэбы ў замежных работніках, як у 1920-х ці 1950-х гадах, цяпер няма. Але людзі надалей прыяжджаюць у Францыю шукаць працы, уладкоўвацца легальна і нелегальна. Нелегалам нялёгка, у іх шмат праблемаў, ім могуць не заплаціць заробак, не аплаціць лячэньне вытворчай траўмы, могуць выслаць з краіны…

Але гэта ўжо іншая гісторыя іміграцыі ў Францыю.

# КРЫНІЦЫ І ПАДЗЯКІ

Галоўная крыніца кнігі — вусныя аповеды прадстаўнікоў 14 сем'яў рээмігрантаў з Францыі, якія пагадзіліся падзяліцца сваімі гісторыямі, архівамі, удакладнялі і папраўлялі тэксты аўтара.

Таму перш за ўсё шчыра дзякую Яніне Сташко (Грынцэвіч) і яе сыну Чаславу з Горадні; Ліліян Пракаповіч (Моніт) зь Берасьця, яе мужу Міколу і сынам Віталю і Ільлю; Алене Маразевіч (Ждановіч) з Барысава і яе пляменьніцы Ірыне Марковіч зь Менску, якая запісала ўспаміны сваёй мамы Ружы Марковіч (Ждановіч); Алене Гаранінай (Атрашкевіч) з Докшыц і яе сыну Дзьмітрыю; Людміле Казлоўскай зь Менску, якая расказала гісторыю сваёй маці Ганны Ганчарык; Вользе-Палет Алешка (Леў) зь Менску; Ніне Івановай (Яніне Баран) з Наваградку; Сьцяпану і Сьвятлане Батурам зь Менску; Алене Сарокінай (Крупе) з Горадні і яе ўнуку Ігару; Генадзю Качану зь Менску; Яўгеніі Чантарыцкай (Шэміс), яе дачцэ Жаньне Лётцы і пляменьніку Эдмонду Шэмісу з Маладэчна; Інэсе Байрашавай зь Менску і Нэлі Старцавай зь мястэчка Падсьвільля Глыбоцкага раёну, якія апавялі гісторыю свайго бацькі Нікаля Лісоўскага; Алесю Салагубу з Маладэчна і ягонаму сыну Аляксандру з Тулюзы; Алене Рашкевіч з Горадні; Полю і Галіне Шылянкам з Парыжу.

Дзякую таксама тым «дзецям Францыі», якія выслухалі маю просьбу аб інтэрвію і ветліва адмовілі.

Значную частку герояў кнігі мне падказала амбасада Францыі ў Менску, за што мая вялікая падзяка амбасадару Дзідзье Канэсу і супрацоўнікам амбасады Ксавіе Лё Тарывэлеку (Xavier Le Torrivellec), Натальлі Зайцавай, якая таксама дапамагала мне разьбіраць некаторыя рукапісныя дакумэнты і лісты з Францыі. Праект падтрымаў супрацоўнік МЗС Францыі Нікаля дэ ля Кост (Nicolas de la Coste), за што яму ўдзячнасьць.

Дзякуй рэдакцыі беларускай службы Радыё Свабода, на сайце якой у 2018 годзе ўпершыню зьявіліся 5 гісторыяў беларускіх «дзяцей Францыі». Частка зь іх перакладзеная і апублікаваная на сайтах ўкраінскай і ангельскамоўнай рэдакцыяў Радыё Свабода і на расейскамоўным сайце тэлеканалу «Настоящее время».

Дзякуй агенцтву France-Presse, што замовіла мне гісторыю пра беларускіх «дзяцей Францыі», зробленую ў суаўтарстве з фотажурналістам Сяргеем Гапонам, апублікаваную па-француску і па-ангельску на розных навінных сайтах Францыі ды іншых краін. Яна ўвайшла ў часопіс найлепшых гісторыяў АФП за 2018 год.



Сярод важных для кнігі крыніцаў была навуковая і публіцыстычная літаратура на тэмы эміграцыі зь Беларусі і міжваеннай Польшчы ў Францыю і сталінскай рэпатрыяцыі ў СССР, якая за апошнія 30 гадоў выйшла ў Беларусі, Польшчы, Расеі і Францыі.

Натхняльнымі для мяне былі кніга францускага літаратара і кінарэжысэра Нікаля Жалё (Nicolas Jallot) «Заманеныя Сталінам» (Piégés par Staline, Belfond, 2003) і ягоныя фільмы «Заманеныя Сталінам» (Piégés par Staline, 2003) і «Жыцьцё скрадзена, 57 гадоў ня бачыць Францыю» («Une vie volée, 57 ans sans voir la France, 2004). Дзякую Нікаля Жалё за гэтыя творы і за нашу размову ў Парыжы, за адказы на мае пытаньні.

Багатай крыніцай інфармацыі аб сталінскай рэпатрыяцыі з Францыі ў СССР была кніга ўспамінаў Ніны Крывашэінай «Четыре трети нашей жизни», якая сталася асновай для бліскучага мастацкага фільму на гэтую тэму Рэжыса Варньe (Régis Wargnier) «Усход-Захад».

У Беларусі лёсам рээмігрантаў з Францыі былі прысьвечаныя некалькі цікавых тэлевізійных перадач Мікалая Пінігіна з цыклю «Лёс чалавека» і фільм Уладзімера Бокуна «Жанін».

Сярод аўтараў гістарычных дасьледаваньняў хацеў бы назваць прафэсарку Сарбоны Жанін Панці (Janine Ponty) зь яе працай «Polonais méconnus. Histoire des travailleurs immigrés en France dans l'entre-deux-guerres», якая вытрымала тры выданьні; польскіх гісторыкаў Паўла Сэнкоўскага (Paweł Sękowski) з працай «Les Polonais en France dans l'immédiat après-guerre (1944–1949)», Алена Шэленга (Alain Szelong) з працай «L'immigration polonaise des années 20 en France» і Анэту Нісябэнцкую (Aneta Nisiobęcka) з працай «Reemigracja Polaków z Francji oraz ich adaptacja w Polsce Ludowej w latach 1945–1950»; беларускую дасьледніцу Вольгу Коваль з працай «Дзейнасьць беларускай эканамічнай эміграцыі ў Францыі ў міжваенны пэрыяд»; Вольгу Мярчук з працай «Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі ў розныя краіны сьвету ў 1921–1939 гадах»; расейскага гісторыка Віктара Зямскова (Виктор Земсков) з працай «Репатриация перемещённых советских граждан», Паўла Паляна (Павел Полян) і Крыстын Кальпар (Christine Colpart) з працай «Le rapatriement des citoyens soviétiques depuis la France et les zones françaises d'occupation en Allemagne et en Autriche».

Хацеў бы таксама падзякаваць францускаму гісторыку, знанаму саветолягу Нікаля Вэрту (Nicolas Werth), прафэсару і навуковаму дырэктару Інстытуту сучаснай гісторыі пры Нацыянальным цэнтры навуковых дасьледаваньняў (Францыя), за прадмову кнігі і высокую ацэнку маёй працы; гісторыку Андрэю Катлярчуку са Стакгольму за прадмову і заўвагі да тэксту кнігі, Натальлі Гардзіенцы зь Менску, якая выступіла ў ролі рэцэнзэнта, а таксама надала

мне неацэнную дапамогу — копіі падшывак беларускіх выданьняў у Парыжы 1930–1950-х гадоў. Таксама цікавай крыніцай гісторыі беларускай эміграцыі ў Францыі быў № 37 «Запісаў БІНіМ» (2014 год), які выйшаў пад рэдакцыяй Натальлі Гардзіенкі.

Дзякую фотакарэспандэнтам Сяргею Гапону і Андрэю Шаўлюгу, зь якімі я езьдзіў у розныя гарады Беларусі, за зробленыя імі партрэты маіх герояў і пераздымку іх архіваў.

Дзякую таксама рэдактару кнігі Вінцуку Вячорку і яе першаму чытачу — маёй жонцы Тацяне Каліноўскай, журналістцы тыднёвіка «Белорусы и рынок», зь якой я абмяркоўваў усе свае творчыя пляны.

Дзякую за спонсарскую падтрымку беларуска-францускай кампаніі ЗАТ «Dilis Cosmetic» (гандлёвая марка DILIS PARFUM), дырэктар якой — сын аднаго з герояў кнігі Эдмонд Шэміс, і ганароваму консулу Францыі ў Берасьці Леаніду Стаецкаму, якія прыязным стаўленьнем і грашыма дапамаглі публікацыі гэтай кнігі.

Таксама шчыра дзякую Паўлу Маісееву і Антону Юдзіну за неацэнную дапамогу мне ў пэрыяд завяршэньня працы над кнігай.

*Кастрычнік 2019 году. Менск.*

# ПРА АЎТАРА



Валер Каліноўскі нарадзіўся ў 1967 годзе ва Ўкраіне ў раённым цэнтры Казанка Мікалаеўскай вобласьці ў сям’і ўкраінкі і беларуса. Вырас на бацькавай радзіме ў вёсцы Моладава Янаўскага (Іванаўскага) раёну Берасьцейскай вобласьці.

Скончыў факультэт журналістыкі БДУ і асьпірантуру Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру НАН Беларусі. Аўтар публікацыяў на тэмы этнаграфіі і рэлігіязнаўства ў беларускіх і замежных навуковых часопісах і зборніках матэрыялаў навукова-практычных канфэрэнцыяў.

У прафэсійнай журналістыцы з 1987 году. Працаваў у іванаўскай раённай газэце «Чырвоная звязда» (цяпер «Янаўскі край»), абласной «Мінскай праўдзе», моладзевай «Чырвонай змене», у «Звяздзе» першых гадоў незалежнасьці Беларусі. Быў уласным карэспандэнтам у Беларусі газэты «Киевские ведомости», агенцтва France Presse, супрацоўнічаў з украінскімі службамі Радыё Свабода і Бі-Бі-Сі, з 2000 году працуе карэспандэнтам беларускай службы Радыё Свабода.

Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў і Саюзу беларускіх пісьменьнікаў.

Аўтар кніг «Справа Бяляцкага» (Радыё Свабодная Эўропа / Радыё свабода, 2012) і «Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні», Смаленск, Інбелкульт, 2016.

Узнагароджаны ганаровым знакам МЗС Польшчы «Bene merito».

Жыве ў Менску.

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі Сяргея Гапона, Часлава Сташко, Андрэя Шаўлюгі, аўтара, з экспазыцыі Нацыянальнага музэю іміграцыі Францыі, зь Беларускай бібліятэкі і музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане, зь сямейных архіваў герояў кнігі.

# RÉSUMÉ


## ENFANTS DE FRANCE: HISTOIRES DE FAMILLES QUI ONT FAIT CONFIANCE À STALINE

Ce livre contient les histoires de 14 familles dont le destin est lié au Bélarus et à la France. Ses protagonistes sont soit nés en France, soit y ont émigré enfants.

Entre la Première et la Deuxième guerre mondiale, leurs parents avaient trouvé un emploi dans des mines, des usines ou des fermes françaises. Ils se sont installés, adaptés, envoyant leurs enfants dans des écoles françaises.

Mais, après la Seconde guerre mondiale, nombre d'entre eux ont cru aux alouettes de la propagande soviétique et sont rentrés en Union soviétique, où les attendait une vie de misère voire un aller simple au goulag. Leurs enfants ont eu du mal à entrer dans leurs habits de petits Soviétiques. Certains ont néanmoins pu faire des études supérieures et trouver leur place au sein de la société.

Aucun n'a pu réaliser son rêve de revoir la France du temps de l'Union soviétique, étant interdits de voyage à l'étranger de par leur histoire familiale.

Après la chute de l'Union soviétique, dans un Bélarus devenu indépendant, quelques-uns ont réussi à se rendre en France, certains retrouvant même leur passeport français.

L'auteur du livre, Valer Kalinoŭski (Valeri Kalinovski), est un correspondant de longue date de l'Agence France-Presse et de Radio Liberty.


# РЭЗЮМЭ


## ДЗЕЦІ ФРАНЦЫІ. ГІСТОРЫІ СЕМ'ЯЎ, ЯКІЯ ПАВЕРЫЛІ СТАЛІНУ

У гэтай кнізе апісаныя гісторыі 14 сем'яў, лёсы якіх зьвязалі Беларусь і Францыю. Героі кнігі нарадзіліся ў Францыі або прыехалі туды малымі. У міжваенны пэрыяд іхныя бацькі знайшлі сабе працу на францускіх шахтах, заводах ці фэрмах, мелі добры заробак, уладкаванае жыльлё, а дзеці вучыліся ў школах.

Пасьля вайны іх бацькі паддаліся на савецкую прапаганду, паверылі, што ў СССР ім будзе лепей, і добраахвотна выехалі з Францыі ў Савецкі Саюз. Але іх чакала расчараваньне, галеча, некаторых — ГУЛАГ. Найцяжэй было іхным дзецям, якія ня ведалі славянскіх моваў і парадкаў у Савецкім Саюзе. Толькі некаторым зь іх удалося атрымаць вышэйшую адукацыю і рэалізаваць сябе ў СССР і незалежнай Рэспубліцы Беларусі.

Яны марылі вярнуцца ў Францыю, але да канца існаваньня СССР заставаліся «невыязнымі» за мяжу. Па распадзе Савецкага Саюзу толькі некаторыя зь іх аднавілі сувязі з радзімай, наведалі яе, асобныя нават вярнулі францускія пашпарты і пераехалі жыць у Францыю. І гэта таксама было нялёгка, пра што апавядаецца ў кнізе.

У другой і трэцяй частках кнігі — важная для разуменьня асобных сямейных драмаў агульная карціна эміграцыі зь Беларусі ў Францыю ў XX стагодзьдзі, апісаньне дзейнасьці як несавецкіх, так і прасавецкіх беларускіх арганізацыяў у Францыі, а таксама ўмоваў паваеннай сталінскай рэпатрыяцыі.

# SUMMARY


## FRANCE'S CHILDREN: STORIES OF FAMILIES WHO TRUSTED STALIN

This book contains the stories of 14 families whose fates are tied with Belarus and France. Its protagonists were either born in France, or emigrated there as small children. Between the wars, their parents found jobs in French mines, factories and farms. Earning decent salaries, they slowly laid down roots, sending their children to local French schools.

After the war, however, many of these parents succumbed to the lies of Soviet propaganda and voluntarily abandoned their new lives in France for the Soviet Union. Believing their lives could be still better at home, they were sorely disappointed. What awaited many of the returnees was poverty and a life of squalor or, for some, a one-way trip to the Gulag. Hit hardest were the children, who spoke no Slavic languages and were unused to the way of the Soviet Union. Only a handful of them ever obtained a higher education and made a decent life for themselves in the USSR and, later, in the independent Republic of Belarus.

Always dreaming of one day returning to France, they remained ineligible to travel abroad until the final days of the USSR. After the fall of the Soviet Union, only a few of them were able to reestablish ties with their motherland and visit France. Some even had their French passports reinstated and moved back to France.

The second and third parts of this book present an overview of 20th century emigration from Belarus to France, the work of prewartime both pro- and anti-Soviet Belarusian organizations there, and the terms and conditions of Stalin's post-war repatriation campaigns.

The book's author, Valer Kalinoŭski (Valery Kalinovsky), is a long-time correspondent of Agence France Presse and Radio Liberty.


# ПАКАЗЬНІК ІМЁНАЎ



* Тут і далей — каляровая ўклейка.

**Т**



**У**



**Ф**



**Ц**



**Ч**



**Ш**

# ЗМЕСТ

**Частка другая**
**Па волю і хлеб. З гісторыі беларускай эміграцыі**



**Частка трэцяя**
**Пастка. Сталінская рэпатрыяцыя**

**Каліноўскі, В.**

К17 Дзеці Францыі : гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну / Валер Каліноўскі ; прадм. Н. Вэрта, А. Катлярчука. — Мінск : Кнігазбор, 2019. — 320 с. : [24] с. іл.

ISBN 978-985-7227-08-2.

У кнізе сабраныя гісторыі 14 сем'яў беларускіх і французскіх грамадзян — «дзяцей Францыі». Іх бацькі ў міжваенны перыяд выехалі ў Францыю з тэрыторыі сучаснай Беларусі, а на заклік сталінскіх уладаў прынялі рашэнне прыехаць на радзіму. У СССР іх чакалі рэпрэсіі, голад, забарона на вяртанне ў Францыю. Толькі ў XXI стагоддзі некаторыя з іх змаглі наведаць радзіму, а асобныя вярнулі сабе французскія пашпарты і перасяліліся ў Францыю.

У кнізе таксама сабраная інфармацыя пра беларускую дыяспару ў Францыі ў 30–50-х гадах XX стагоддзя, беларускія арганізацыі, прафсаюз і газеты, звесткі аб удзеле беларусаў у французскім Супраціве, а таксама пра тое, як і чаму сталінскі СССР арганізоўваў «рэпатрыяцыю» з Францыі.

**УДК [325.2+94](=161.3)(73)**
**ББК 66.3(4Беи)**

16+

Навукова-папулярнае выданне

**Каліноўскі** Валер

**ДЗЕЦІ ФРАНЦЫІ**
**Гісторыі сем'яў, якія паверылі Сталіну**

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Стыльрэдактар *В. Вячорка*
Дызайн вокладкі *Л. Красікава*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*

Падпісана ў друк 14.03.2019. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 18,67 + 0,63 укл. Ул.-выд. арк. 11,32. Наклад 500 асобн. Заказ.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ПУП «Джы энд Дзі».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/36 ад 13.01.2014.
Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, Мінск.